**Ад аўтара**

# БЕЛАРУСЬ: ТЫСЯЧАГОДДЗЕ ВЕРЫ І ВОЛІ, СТАГОДДЗЕ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ

"Беларуская хрысціянская дэмакратыя: 1917-2017" – не проста кніга пра палітычную партыю ці ідэалогію.

Гэта і жыццяпіс шляху сотняў забытых герояў, якія пайшлі на пакуты і смерць дзеля Бога і Беларусі. Гэта і наўпроставы адказ тым, хто святкуе сёлета стагоддзе самай крывавай у гісторыі чалавецтва рэвалюцыі. Гэта і разважанне пра самую эфектыўную незалежніцкую арганізацыю міжваеннага часу – Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю.

І гэта, упэўнены, расповед пра будучыню Беларусі.

У кнізе ўпершыню пад адной вокладкай сабраныя разам агляд хрысціянскай дэмакратыі як ідэалогіі, гісторыя дачыненняў веры і волі ў тысячагоддзі беларускай гісторыі, і разгледжаныя феномены беларускай хрысціянскай дэмакратыі апошніх 100 гадоў – Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі і БХДЗ, БХД і БНА, БХДП і ХДВ, Малады Фронт і МХСС, КХП БНФ – і аднoўленая БХД.

Тэму хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі за сто гадоў узворвалі святары Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі, Аляксандр Надсан і Сяргей Сурыновіч, гісторыкі Юрый Туронак, Анатоль Грыцкевіч, Эдуард Мазько, Андрэй Вашкевіч, Аляксандр Пашкевіч, Міхась Казлоўскі, Янка Трацяк, Уладзімір Ладысеў, Алесь Смалянчук ды многія-многія іншыя, навукоўцы Ірына Багдановіч і Міхаіл Кадыраў, даследчыкі Леанід Маракоў ды Юрый Гарбінскі, філосафы Уладзімір Конан і Мікалай Крукоўскі, пісьменнікі Анатоль Астапенка ды Алесь Бяляцкі…

Дзясяткі брашураў, сотні біяграфіяў, тысячы артыкулаў.

Але для многіх палітыкаў, палітолагаў, святароў і дзяржаўных службоўцаў дагэтуль адкрыццё: наколькі глыбока хрысціянскім было жыццё нашых продкаў у пару росквіту беларускай дзяржаўнасці ў XII альбо XVI стагоддзях, і наколькі моцна спалучалася вера беларусаў у Бога з імкненнем да свабоды і народаўладдзя ў XX стагоддзі.

Асноўная ідэя гэтай кнігі – расплюшчыць чытачу вочы на хрысціянскую дэмакратыю як палітычны хрыбет беларускай нацыі.

Бо асветнікі эпохі Полацкага княства, дзяржаўныя мужы Залатога веку Вялікага княства Літоўскага і ахвярныя хадэкі-незалежнікі 1917-39 гадоў – тыя, дзякуючы каму сёння жыве Беларусь.

Таму і радкі з Праграмы сённяшняй БХД, прынятай 13 чэрвеня 2015 года ў Менску, рэхам перагукаюцца і са "словамі" Кірылы Тураўскага, і са скарынавымі прадмовамі да надрукаванай 500 гадоў таму беларускай Бібліі, і з артыкуламі сапегаўскага Статута ВКЛ, і з казанямі ксяндзоў-беларусаў на шматлюдных мітынгах:

"*Мы вызнаем, што чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае. Разам з тым грэх, які ўвайшоў у чалавечую прыроду, не дае магчымасці для самавыпраўлення – і, як хрысціянскія дэмакраты, мы бачым адказ на ўсе пытанні чалавечага існавання ў Богачалавеку Ісусе Хрысце.*"

Выказваю вялікую падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай кнігі: Партыі БХД; Максіму Гацаку і Кастусю Шыталю за гістарычную даведку; Дзянісу Садоўскаму і Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва – за прадастаўленыя фотаздымкі; Мікалаю Арцюхову – за тэхнічную дапамогу; і маёй жонцы Волечцы – за крапатлівае вычытванне тэксту і ўсебаковую падтрымку.

Жыве Беларусь – з Богам!

**Павел Севярынец**

**Глава1**

# ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ ЯК ПАЛІТЫЧНАЯ ІДЭАЛОГІЯ

Вытокі хрысціянскай дэмакратыі, як мы бачым з самой яе назвы, бяруць свой пачатак з Асобы Богачалавека Ісуса Хрыста.

Часам можна пачуць меркаванне: Хрыстос і палітыка несумяшчальныя. Гэта не так.

Ісус як Госпад, а значыць, і Валадар, пачынае ажыццяўляць сваю уладу Царства нябёснага над сэрцамі людзей ужо тут, на зямлі.

Ісус падчас свайго зямнога шляху адкрыта усталёўваў палітычныя прынцыпы й дактрыны: ад лідарства як служэння, адказнасці й самакіравання  ажно да ўплаты падаткаў.

Ісус не імкнуўся да палітычнага першынства як самамэты – алеператвараў дзяржавы і грамадствы мацней, чым любы палітык за ўсю гісторыю чалавецтва.

Нарэшце, Ісус быў асуджаны на смерць паводле выключна палітычнага абвінавачання –  "Замах на ўладу кесара".

З хрысціянскага гледзішча, усё наша сённяшняе жыццё – чаканне і падрыхтоўка да ўсталявання Валадарства Уваскрослага Хрыста.

У якасці доказу палітычнага патэнцыялу вучэння Ісуса Хрыста прывядзем прынамсі 10 цытатаў з Евангелля, якія відавочна змянілі тэорыю і практыку цэлых пакаленняў грамадстваў і дзяржаваў на працягу апошніх 2000 гадоў чалавечай гісторыі.

## 10 выслоўяў Ісуса Хрыста, якія зрабілі велізарны ўплыў на сусветную палітыку:

1. "Аддавайце кесару кесарава, а Богу – Божае" (Мацвея 22:21). Юрысдыкцыя дзяржавы, падаткі.

2. "Ад кожнага, каму шмат дадзена, шмат і спатрабуецца, і каму шмат даверана, з таго болей і зышчуць" (Лукі 12:48). Адказнасць.

3. "Ня думайце, што Я прыйшоў парушыць закон, альбо прарокаў: не парушыць прыйшоў Я, а здзейсніць" (Мацвея 5:17). Строгае выкананне закона.

4. "Хто хоча між вамі большым быць, хай будзе вам слугою"(Мацвея 20:26). Кіраванне як служэнне.

5. “Бо вось, Царства Божае ўнутры ў вас ёсць” (Лукі 17:21). Хрысціянская палітыка пачынаецца з сэрца.

6. “І як хочаце, каб з вамі рабілі людзі, так і вы рабіце з імі” (Лукі 6:31). Прынцып агульнага дабра.

7. “Што вы сказалі ў цемры, тое учуецца на святле, і што казалі на вуха ў сярэдзіне дома, тое будзе абвешчана з дахаў” (Лукі 12:3). Свабода слова.

8. “Найболей шукайце Царства Божага, і гэта ўсё дадасца вам” (Лукі 12:31). Хрысціянскія прынцыпы як аснова.

9. “Хто паставіў Мяне судзіць альбо дзяліць вас?” (Лукі 12:14). Самакіраванне, субсідыярнасць.

10. “Калі застанецеся ў слове Маім, дык вы ў ісціне Мае вучні. І спазнаеце праўду, і праўда зробіць вас свабоднымі” (Яна 8:31-32). Свабода – у Хрысце.

Такім чынам, тыя беларусы, якія падымаюць бел-чырвона-белы сцяг, маюць поўнае права лічыць белую палатніну з крывёй укрыжаванага і уваскрослага Хрыста сымбалем як веры, так і дабраславёнага Богам народаўладдзя.

## Айцы Царквы, хрысціянскія мысляры Сярэднявечча і Новага часу

На тэалагічнае і філасофскае абгрунтаванне хрысціянскай дэмакратыі найбольшы уплыў аказалі вядучыя хрысціянскія мысляры нашай эры: айцец Царквы святы Аўрэлій Аўгусцін (354-430 гг), вядучы каталіцкі багаслоў Тамаш Аквінскі (1225-1274 гг) і адзін з заснавальнікаў евангельскага (пратэстанцкага) руху Жан Кальвін (1509-1564). Ідэі Аўгусціна, выказаныя ў фундаментальнай працы “Пра горад Божы”, вучэнне Аквінскага, прынятае як інтэлектуальная платформа Каталіцкім Касцёлам і “пратэстанцкая этыка”, распрацаваная й увасобленая ў жыццё Жанам Кальвінам, сталі падмуркам для ідэолагаў хрысціянскай дэмакратыі Новага часу – такіх як Абрахам Кёйпер (1837-1920), Жак Марытэн (1882-1973), Эмануэль Мунье (1905-1950) і іншых.

Многія еўрапейскія дзяржавы і грамадствы 4-18 стст нясуць у сваёй палітычнай архітэктуры яўныя прыкметы практычнай хрысціянскай дэмакратыі. Дамінаванне хрысціянскіх каштоўнасцяў і шырокі сацыяльны ўплыў цэркваў арганічна дапаўняліся гарадскім самакіраваннем, цэхавымі супольнасцямі, моцнымі сямейнымі тра-

дыцыямі, развіццём таварна-грашовых рынкавых адносін адначасова з сістэмай дабрачыннасці і сацыяльнага абавязку.

Перспектыўнай хрысціянска-дэмакратычнай мадэллю было, да прыкладу, Вялікае княства Літоўскае 15-16 стст. Падставовая дэмакратычнасць (вечавыя традыцыі, падзел галінаў улады, выбары вялікага князя, магдэбурскае права, магутнасць пласта “люду паспалітага”, соймы і соймікі, Паны-рада) гарманічна спалучаліся тут з хрысціянскай этыкай як грамадскай і сацыяльнай нормай. Каталіцкія ордэны, праваслаўныя брацтвы і пратэстанцкія зборы адыгрывалі ролю своеасаблівых палітычных партыяў, у магістратах буйных гарадоў кіраванне адбывалася паводле міжканфесійнай ратацыі, квітнелі, як бы зараз сказалі, плюралізм ды персаналізм, а найважнейшыя пытанні вырашаліся шляхам галасавання. Больш падрабязна хрысціянска-дэмакратычны феномен цывілізацыі ВКЛ мы разгледзім у наступным раздзеле кнігі.

## Фармаванне палітычнай ідэалогіі хрысціянскай дэмакратыі: XIX ст.

У якасці самастойнай сфармуляванай ідэалогіі хрысціянская дэмакратыя узнікла як рэакцыя на Вялікую французскую рэвалюцыю канца 18 ст., сусветнае руйнаванне феадалізму ды імклівы распаўсюд лібералізму й сацыялізму.

Тэрмін “хрысціянская дэмакратыя” ужо ўжываўся падчас бурлівых падзеяў 1789-1794 гг у Францыі – і як альтэрнатыва спрахламу “старому ладу”, і адначасова як супрацьпастаўленне рэвалюцыйнаму хаосу.

Абгрунтаванне хрысціянскай дэмакратыі як шляху развіцця чалавецтва ў эпоху Новага часу – заслуга рэлігійнага філосафа, абата, аднаго з родапачынальнікаў хрысціянскага сацыялізму Фелісьена Рабэра дэ Ламене. У 1830 г. выйшла яго кніга «Будучыня», у якой была прадпрынятая спроба спалучыць у новых гістарычных умовах хрысціянства і дэмакратыю.

Разам са “старым парадкам” рэвалюцыйная стыхія разбурала царкву, сям’ю, грамадскія інстытуты і наагул каштоўнасць чалавечага жыцця. Урэшце, каб адказаць на прамы выклік хрысціянскаму светапарадку, Ватыкан пачаў заахвочваць стварэнне так званых “каталіцкіх групаў дзеяння” у Італіі, Францыі й нямецкамоўных дзяржавах; святары і вернікі арганізоўваліся на дэмакратычных

прынцыпах і сталі адваёўваць палітычныя пазіцыі праз канкурэнтную барацьбу з ліберальнымі, сацыялістычнымі ды камуністычнымі сіламі.

Разгортванне хрысціянскай дэмакратыі у паўнавартасную палітычную ідэалогію звязваюць з эпохай рэвалюцыі 1848 г. Вострыя супярэчнасці гэтага перыяду прымушалі Царкву шукаць саюзу з народам, састыкоўваць дактрыны каталіцызму і дэмакратыі, фармаваць палітыку супрацоўніцтва, а не знішчальнай барацьбы паміж працай і капіталам. Хрысціянска-дэмакратычныя перакананні паўсталі як плён напружанага пошуку грамадскай згоды.

Разам з тым, адносіны паміж новастворанымі хрысціянска-дэмакратычнымі аб'яднаннямі і цэрквамі складваліся няпроста. Царква, досыць кансерватыўная паводле сваёй прыроды, нягледзячы на глыбокія грамадскія змены, працягвала вызнаваць дактрыну перавагі духоўнай улады над свецкай - і змагалася за вяртанне згубленых пазіцый. З пачатку XIX амаль да пачатку XX стагоддзя афіцыйная Царква супрацьпастаўляла буржуазна-дэмакратычным і ліберальным ідэям свой саюз з манархіямі – абсалютнымі і канстытуцыйнымі.

Але ужо ў другой палове XIX ст. шырокае развіццё набыў рабочы рух, свет апанавалі ідэі сацыяльнай роўнасці і класавай барацьбы. На мяжы XIX і XX стагоддзяў сацыял-дэмакратыя і камунізм, адстойваючы сацыяльную справядлівасць праз нянавісць да эксплуататараў, літаральна спустошвалі цэрквы – бо клір у сваёй масе заставаўся абаронцам улады і капіталу. У сувязі з пашырэннем і паглыбленнем небяспечных сацыяльных з'яў у грамадстве ў Касцёле сталі нарастаць плыні, якія выступалі за змену царкоўнай пазіцыі – і фармуляванне “трэцяга шляху”.

## Касцёл падтрымлівае хрысціянскую дэмакратыю

З царкоўных іерархаў першым зразумеў гэтую патрэбу і рашыўся на прынцыповы прарыў Папа Рымскі Леў XIII, які заняў папскі пасад у 1878 годзе – ў энцыкліцы "Rerum novarum"(1891). У 1901 ён жа апублікаваў энцыкліку «Graves de Communi Re», у якой дактрына атрымала назву «хрысціянская дэмакратыя».

Такім чынам, ідэалагічную платформу для новага этапу хрысціянскай дэмакратыі сфармавалі энцыклікі Льва XIII. Царква і свецкі рух за грамадскую справядлівасць на хрысціянскіх асновах зразумелі

ды прынялі адно аднаго – пачаўся бурлівы рост масавых хрысціянска-дэмакратычных партыяў, найперш у каталіцкіх краінах Еўропы.

Сярод хрысціянска-дэмакратычных аб'яднанняў канца XIX-пачатку XX стст найбольшы уплыў займелі нямецкая каталіцкая "Партыя Цэнтру" і італьянская "Народная партыя" Луіджы Стурца.

Якраз гэты перыяд першага ўздыму спарадзіў вядучага тэарэтыка сусветнай хрысціянскай дэмакратыі француза Жака Марытэна (1882-1973).

Марытэн бачыў выйсце з крызісу эпохі Новага часу ў сцвярджэнні "тэацэнтрычнага гуманізму", "пэрсаналістычнай дэмакратыі", хрысціянізацыі усіх сфераў культуры і экуменістычным зближэнні рэлігіяў". У адсутнасці Бога, піша Марытэн, чалавек губляе сваю душу, што вядзе да з'яўлення тэорыяў адчаю і абсурду. Паводле Марытэна, у праекце "інтэгральнага гуманізма", які разглядае чалавека як адзінства Боскага і чалавечага пачаткаў, крыніцай суверэнітэту дзяржавы будзе Бог, і хрысціянскія ідэалы стануць для сацыяльнай палітыкі дзяржавы канонам. У такім грамадстве, на погляд Марытэна, здольнасці асобы змогуць раскрыцца найбольш поўна.

## Сусветны поспех хрысціянскай дэмакратыі

Яшчэ да II сусветнай вайны хрысціянскія дэмакраты сфармавалі масавыя і папулярныя партыі ў Францыі, Аўстрыі, Баварыі, Нідэрландах, Польшчы, Літве, Беларусі і іншых еўрапейскіх краінах.

Пасля паразы нацызму і фашызму ў 1945 годзе менавіта хрысціянская дэмакратыя на хвалі пакаяння і вяртання да маральных каштоўнасцяў прывяла да трыюмфальнага аднаўлення і яднання Еўропы. Менавіта хрысціянскія дэмакраты Рабэр Шуман, Конрад Адэнаўэр, Альчыдэ дэ Гаспэры стаялі ля вытокаў сучаснага Еўрапейскага Звязу.

Хрысціянска-дэмакратычныя партыі Нямеччыны, Італіі, Бельгіі, Нідэрландаў сталі кіруючымі – і на дзесяцігоддзі нароўні з сацыял-дэмакратамі заклалі аснову палітычнай сістэмы ў сваіх краінах.

На 1950-я - 70-я гады прыпаў і росквіт хрысціянскай дэмакратыі ў Лацінскай Амерыцы. У Чылі, Венесуэле, Эквадоры кіруючыя хрысціянскія дэмакраты аказалі вялізны уплыў на фармаванне дзяржаўнасці, эканамічныя поспехі і зрабілі вялікі ўнёсак у тэорыю

хрысціянскай дэмакратыі і хрысціянскага сацыяльнага руху (Рафаэль Кальдэра, Эдуарда Фрэй Мантальва і іншыя).

Пасьля краху камунізму напрыканцы XX стагоддзя адраджэнне хрысціянскай дэмакратыі пачалося на тэрыторыі былога сацыялістычнага лагеру – у Чэхіі, Славаччыне, Вугоршчыне, Польшчы, Літве, Латвіі, Грузіі, Арменіі, Украіне, Расеі, Беларусі.

У 1961 годзе быў створаны Еўрапейскі Саюз Хрысціянскіх Дэмакратаў, у 1979 – Еўрапейская Народная Партыя, зараз – найбуйнейшая палітычная сіла Еўразвязу (на 2017 год – 217 з 751 месца ў Еўрапарламенце).

Такія партыі, як ХДС Гельмута Коля і Ангелы Меркель, Народная Партыя Іспаніі, італьянскія народнікі, Хрысціянска-Дэмакратычны Адказ Нідэрландаў, бельгійскія і аўстрыйскія хадэкі – сярод галоўных архітэктараў сённяшняга еўрапейскага праекту.

На сёння хрысціянская дэмакратыя – своеасаблівая “залатая сярэдзіна” паміж кансерватызмам, лібералізмам і сацыялізмам. Ад кансерватызму яна бярэ патрыятызм, павагу да традыцыяў, цвёрдую пазіцыю ў пытаннях маралі, але адначасова адкідае нацыянальны эгаізм ды застаецца адкрытай да зменаў у грамадстве. З лібералізмам хрысціянскую дэмакратыю лучаць ідэя асабістай свабоды і рынкавыя падыходы ў эканоміцы, але хадэкі не прымаюць ліберальнага стаўлення да чалавечага грэху як нормы. З сацыялізмам у хрысціянскай дэмакратыі аднолькавыя ідэі сацыяльнай адказнасці ды салідарнасці – але супрацьлеглы погляд на ролю дзяржавы й непрыманне ідэі класавай барацьбы.

## 12 ключавых ідэяў хрысціянскай дэмакратыі.

1. **Хрысціянскія каштоўнасці** – падмурак сумленнай палітыкі. Хрысціянства так ці інакш тычыцца ўсіх сфераў чалавечага жыцця, уключна з палітыкай – і менавіта яно ляжыць у падмурку заходняй цывілізацыі. Біблія змяшчае прынцыпы справядлівага кіравання і адказвае на ўсе пытанні, датычныя таго, як трэба будаваць жыццё ў чалавечай супольнасці.

2. **Дэмакратыя**. Існуе моцная сувязь паміж хрысціянскімі каштоўнасцямі і дэмакратыяй. Грамадзяне мусяць мець магчымасць легальным шляхам змяніць уладу і уплываць на прыняццё рашэнняў, якія іх тычацца. Прававая дзяржава азначае падзел уладаў, свабоду слова, сумленныя выбары.

3. **Персаналізм**. Кожны чалавек – унікальны вобраз і падабенства Божае. Асоба, а не безаблічны індывід ці калектыў – кропка прыкладання сілаў у практычнай палітыцы. Паводле Марытэна, не чалавек існуе для дзяржавы – а дзяржава існуе для чалавека.

4. **Субсідыярнасць**. Рашэнні мусяць прымацца на тым узроўні, на якім існуе праблема. Улада мае быць як мага бліжэйшай да грамадзянаў. Структуры вышэйшага ўзроўню павінныя браць на сябе вырашэнне толькі тых задачаў, якія асобны чалавек альбо мясцовая супольнасць не адужае. Моцнае мясцовае самакіраванне, забяспечанае адпаведным бюджэтам – грунт для магутнасці ўсёй дзяржавы.

5. **Папулярызм (народнасць**). Для таго, каб улічыць інтарэсы ўсіх сегментаў і асобных людзей, патрэбны цэласны погляд на грамадства. Хрысціянска-дэмакратычная палітыка мае ахопліваць інтарэсы як мага больш шырокіх колаў людзей.

6. **Інтэгральны гуманізм**. Уся гісторыя чалавецтва сведчыць пра свядомае ці несвядомае імкненне да Боскага ідэалу – і задача хрысціянскага дэмакрата заключаецца ў яднанні гэтага чалавечага памкнення з адкрыццём, увасобленым у Хрысце, тут і цяпер, у рэальнай гісторыі.

7. **Агульнае дабро**. Агульнае дабро ёсць мэтай дзяржаўнай улады – і ўяўляе сабой справядлівае пераразмеркаванне дабротаў дзеля агульнага развіцця. Кожны чалавек адказны перад грамадствам у тым, як ён рэалізоўвае права быць творцам уласнага лёсу.

8. **Салідарызм**. Для зладжанага ўзаемадзеяння і каардынацыі розныя пласты грамадства мусяць быць гатовыя саступаць адно аднаму: гэта вынікае з іхняй узаемазалежнасці і узаемапавагі. Салідарнасць урэшце рэшт працуе на агульнае дабро. На міждзяржаўным узроўні салідарызм азначае, што багатыя краіны мусяць дапамагаць бедным.

9. **Камунітарызм**. Місія чалавека на зямлі – не ў асабістай канкурэнцыі з іншымі людзьмі альбо ў выкананні вызначанай функцыі у механізме дзяржавы, а ў тым, каб найбольш поўна рэалізаваць сябе ў натуральных ячэйках грамадства: сям'і, царкве, прафесіі, супольнасці, краі. Трэба абараняць свабоду, аўтаномію і цэласць гэтых ячэек, у тым ліку і ад дзяржаўнага кантролю.

10. **Сацыяльная рынкавая эканоміка**. Рынак паўсюль, дзе магчыма – рэгуляванне толькі там, дзе неабходна. Эканамічная дзейнасць павінна служыць чалавеку, а не падначальваць яго.

11. **Адзінства чалавецтва**. Хрысціянская дэмакратыя разглядае чалавецтва як унікальную і цэласную супольнасць з узаемнай залежнасцю і адказнасцю. Пераадоленне супярэчнасцяў магчыма праз няспынны дыялог культураў і цывілізацыяў.

12. **Хрысціянская этыка.** Прабачэнне, пакаянне, імкненне да згоды, цярплівасць ёсць не толькі асабістымі або духоўнымі, але таксама і палітычнымі каштоўнасцямі. Палітыка мусіць мець маральны падмурак.Ператварэнням павінна папярэднічаць маральнае ўдасканаленне людзей.

## Асобы



**Ісус Хрыстос** – Госпад і Збаўца чалавецтва.



**Апостал Павел** – 5-10 год н. э. - 64-68 гады н. э. Колішні супрацоўнік хрысціянскай царквы, які навярнуўся праз асабістую сустрэчу з Уваскрослым Хрыстом. Апостал народаў, заснавальнік дзясяткаў цэркваў антычнага свету. Аўтар 14 з 27 кнігаў Новага запавету Бібліі. Даў хрысціянскаму свету разгорнутае тлумачэнне вучэння Ісуса Хрыста. Абезгалоўлены ў Рыме.



**Святы Аўгусцін** – 13.11.354-28.08.430. Адзін з Айцоў Царквы, епіскап горада Гіпон у Афрыцы. Аўтар “Споведзі” і фундаментальнай працы “Пра горад Божы”. Найбуйнейшы хрысціянскі мысляр і пісьменнік эпохі распаду Рымскай імперыі.



**Жан Кальвін** – 10.7.1509-27.5.1564. Тэолаг, пісьменнік, прапаведнік, рэфарматар Царквы. Вучэнне Кальвіна, узятае на ўзбраенне пратэстанцкімі цэрквамі, прывяло да ўзнікнення цывілізацы “пратэстанцкай этыкі” у сусветным маштабе.



**Леў XIII** – 2.3.1810-20.7.1903. Папа Рымскі, аўтар знакамітай энцыклікі “Rerum novarum”, якая адчыніла шлях да стварэння масавай, грунтаванай на падтрымцы Царквы, хрысціянскай дэмакратыі.



**Жак Марытэн** – 18.11.1882-28.4.1973. Французскі пісьменнік, філосаф і тэолаг. Вядучы тэарэтык хрысціянскай дэмакратыі. Заснавальнік тэорыі інтэгральнага гуманізма.



**Конрад Адэнаўэр** – 5.1.1876-19.4.1967. Обербургамістр Кёльна, супрацiўнік гітлераўскага рэжыму, пасля вайны – канцлер ФРГ, стваральнік і першы старшыня ХДС Нямеччыны, адзін з бацькоў-заснавальнікаў Еўрапейскага саюза.

## Крыніцы:


1. Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету.World Wide Printing, Dunkanville, USA 2002.
2. Марк Мур. Политика Иисуса Христа. http://www.scienceandapologetics.org/text/270.htm
3. Алан Сторки. Иисус и политика. Противостояние властей / пер с англ. – Коллоквиум, Черкассы, 2008.
4. Нойхауз Норберт. Ценности христианской демократии / пер. с нем. – М.; Республика, 2005
5. Мезенцев С.Д. Международное христианско-демократическое движение. Теория и практика. – М.; Директмедиа Паблишинг, 2004.
6. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2008.
7. Вікіпедыя: https://ru.wikipedia.org/wiki/%D0%A5%D1%80%D0%B8%D1%81%D1%82%D0%B8%D0%B0%D0%BD%D1%81%D0%BA%D0%B0%D1%8F_%D0%B4%D0%B5%D0%BC%D0%BE%D0%BA%D1%80%D0%B0%D1%82%D0%B8%D1%8F

Глава 2
# 1000 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ: ХРЫСЦІЯНСТВА І ДЭМАКРАТЫЯ

Гісторыя Беларусі пераканаўча даводзіць: за тысячагоддзе існавання беларускай дзяржаўнасці менавіта сплаў хрысціянства і дэмакратыі быў галоўнай платформай для заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў у пару іх росквіту. Такім чынам, ідэя хрысціянскай дэмакратыі для Беларусі не ёсць чымсьці новым альбо пазычаным – гэта наша глыбокая, спадчынная традыцыя.

Дастаткова працытаваць лідараў беларускай гісторыі, каб убачыць, наколькі па-хрысціянску разумелі яны ўладу народу:

“У Бібліі ўсе законы і правы, якімі людзі на зямлі кіравацца маюць, напісаныя... Тут справа ўсякага збору людскога і ўсялякага гораду выкладаецца, каб вераю, яднаннем ласкі й згоды паспалітае памножана была” (Францішак Скарына).

“А калі ёсць рознасць немалая ў веры хрысціянскай, абяцаем сабе за нас, за нашчадкаў нашых, на вечныя часы, пад абавязкам прысягі, пад вераю, годнасцю і сумленнем нашым, каб тыя, хто розныя ў веры, спакой між сабой захавалі” (Са Статуту ВКЛ 1588 г., рэдагаванага Львом Сапегам).

“Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасці справядлівай” (Кастусь Каліноўскі).

“Беларусь павінна вярнуцца да Хрысьціянства. Беларусь у XXI стагодзьдзі мусіць адрадзіцца як Хрысьціянская краіна. Беларуская ідэя, абапертая на традыцыі беларускага Хрысьціянства, – гэта шлях для нас найбольш унівэрсальны і правільны” (Зянон Пазьняк).

## Полацкае княства

Першая беларуская дзяржава, Полацкае княства, выходзіць на арэну сусветнай гісторыі ў X стагоддзі, з прыняццём хрысціянства.

Трэба адзначыць, што навяртанне да хрысціянства на беларускіх землях было мірным і пашыралася як ва ўсходнім (далей – праваслаўным) варыянце, з Візантыі, так і ў заходнім (потым каталіцкім) – праз варажскіх ды нямецкіх місіянераў (Торвальда Вандроўніка, Улава Трыгвасана, біскупа Рэйнбэрна).

І ўжо ў самым пачатку дзяржаўнага будаўніцтва ў ягоны падмурак закладваецца не толькі хрысціянская архітэктоніка, але і народны дэмакратызм: Полацкае веча, сотнікі, "копныя суды" ды інш.

Эліта Полацкага княства (князі, кіраўнікі дружыны, сакратары, дыпламаты) была хрысціянскай. Уладу князя абмяжоўвала народнае веча (ізноў-жа, пераважна хрысціянскае), вольнае настаяць на стратэгічных рашэннях і нават змяніць князя разам з ягоным атачэннем.

Да XII стагоддзя Беларусь зазнае духоўны, культурны, гаспадарчы і палітычны ўздым, адзначаны постацямі Ефрасінні Полацкай, Кліма Смаляціча, Аўрамія Смаленскага ды Кірылы Тураўскага.

Невялікія, але згуртаваныя натуральныя і самакіроўныя супольнасці (сям'я, прыход альбо парафія, дружына, купецкая гільдыя, рамесніцкі цэх) вызначалі лад і развіццё першых беларускіх дзяржаваў – Полацкага, Тураўскага, Смаленскага княстваў – у поўнай адпаведнасці з ідэяй сучаснай хрысціянскай дэмакратыі, хіба толькі з той розніцай, што ўладальнікі маёмасці, радавітыя грамадзяне і вайскоўцы мелі адпачатна больш уплыву ці права голасу за астатніх.

Менавіта гэтую асноватворную мадэль пераняла ад Полацкага княства, Турава ды Смаленску і Вялікае княства Літоўскае.

## Росквіт шляхецкай хрысціянскай дэмакратыі ў ВКЛ

Калі ў сярэдзіне XIII – пачатку XIV стагоддзя ўладная сістэма ВКЛ яшчэ зазнае сужыццё полацкіх хрысціянскіх і дэмакратычных традыцыяў з паганскімі балцкімі (справа хросту Міндоўга ды Гедзіміна), дык ужо з другой паловы XIV, з часоў Альгерда, Вялікае княства пачынае набываць абрысы вялікай еўрапейскай хрысціянскай дзяржавы.

Нават для эпохі рэлігійнага Сярэднявечча ВКЛ была краінай ўнікальна хрысціянскай паводле свайго характару.

Большасць земляў была далучаная да ВКЛ мірам – і гэта ў эпоху, што жыла войнамі;

- У дзяржаве кіраваў Закон, шэдэўр юрыспрудэнцыі таго часу, правобраз еўрапейскіх канстытуцыяў – Статут ВКЛ, грунтаваны на тэзах са Святога пісьма.

- Грамадства адрознівала талеранцыя ў сутоцы канфесіяў. Тым часам як кантынент скаланалі рэлігійныя войны, інквізіцыя й

варфаламееўскія ночы, ВКЛ абавязвала да верацярпімасці нават караля Францыі;

- Поўнае спрыянне аказвалася габрэям, практычна ўраўнаваным у правох са шляхтай – і гэта сярод пандэміі антысемітызму тых стагоддзяў.

ВКЛ згенеравала найбольш паспяховую вунію паміж праваслаўнымі й каталікамі; пазбегла пандэміі акультызму, атэізму, разбэшчанасці.

Палітычны лад ВКЛ набліжаўся да шляхецкай хрысціянскай дэмакратыі – параўнайце з тагачаснымі еўрапейскімі манархіямі ці маскоўскай дэспатыяй!

Сплаў Рэфармацыі і Рэнесансу спарадзіў феервэрк рамантычнага і духоўнага мастацтва, музыкі, літаратуры – культуры Залатога веку;

ВКЛ сталася галоўнай друкарняй Святога Пісьма й эпіцэнтрам евангельскай місіі ва Ўсходняй Еўропе: Скарына пераклаў Біблію на беларускую, Фёдараў і Мсціславец выканалі апостальскую ролю ў Расеі й на Ўкраіне, Радзівіл і Будны друкавалі дзясяткі выданняў на лаціне й польскай для Захаду;

XVI ст. – росквіт хрысціянскага кнігадрукавання і культуры. Дзясяткі выданняў Святога Пісьма, катэхізмаў, тэалагічнай публіцыстыкі і навучальнай літаратуры. Першае ва Ўсходняй Еўропе барока ў Нясвіжскім касцёле Божага Цела ў наступных стагоддзях дасць цэлы выбух шэдэўраў. Мураванка, Сынкавічы, збор у Заслаўі, Фара ў Горадні. Сотні адчыненых школаў – кальвінскія, езуіцкія, брацкія. Віленская Акадэмія...

У эпоху ВКЛ Біблія старонку за старонкай расхінала перад беларускай місіяй усю Ўсходнюю Еўропу. Выданне Францішка Скарыны адкрывала Бога Вялікай Літве, "Апостал" Івана Фёдарава й Пётры Мсціслаўца ды "Псалтыр рыфматворны" Сімяона Полацкагаператваралі Расею, львоўскія й астрожскія выданні беларускіх друкароў – будавалі Украіну, Радзівілаўская Біблія і "Новы Запавет" Сымона Буднага фармавалі Польшчу.

Як у агромністым тыглі, у сярэднявечнай Беларусі пераплаўляліся пераклады і друкі праваслаўнага і каталіцкага канонаў, пратэстанцкай і юдэйскай традыцыі – каб даць свету вялікія асобнікі Бібліі. Скарынаўскую "Біблію Руску" чацвёртую ў сьвеце (пасля нямецкай, італійскай і чэскай) друкаваную на жывой мове народу, з бліскучымі прадмовамі й унікальнымі гравюрамі. “Берасцейскую” або “Радзівілаўскую”, 1563 г., з найвялікшай руплівасцю перакла-

дзеную й шыкоўна аздобленую. “Астрожскую Біблію” 1581 г., першую поўную сярод славянскіх народаў.

Найбольш хрысціянскае ў гісторыі ВКЛ XVI ст. спарадзіла бурнае развіццё рынкавай гаспадаркі: цяпер гэта называецца “эканамічны бум”. За некалькі дзесяцігоддзяў нацыянальны даход ВКЛ павялічваецца ў 4 разы й азалачае казну. Уніфікаваны грашовы абарот. Пратэстантам Астафеем Валовічам праводзіцца аграрная рэформа паводле лепшых еўрастандартаў, "Устава на валокі", пасля якой Беларусь пачала экспартаваць збожжа. Створаная таварная сельская гаспадарка: вёскі ў адну вуліцу й фальваркі робяцца галоўным беларускім ландшафтам на бліжэйшыя 400 гадоў. Напачатку XX стагоддзя Сталыпін возьме гэтую сыстэму за ўзор, каб распачаць сваю знакамітую рэформу па ўсёй Расеі.

## Мясцовае самакіраванне ў ВКЛ

Адной з найбольш яскравых з’яваў спалучэння хрысціянства і дэмакратыі ў ВКЛ ёсць магутная традыцыя мясцовага самакіравання. Тое, што тэарэтыкі хрысціянскай дэмакратыі потым назавуць субсідыярнасцю, працавала на поўную моц у ВКЛ 15-17 стст.

Гэтак, пачынаючы з канца 14 ст., 60 гарадоў і мястэчак краіны атрымалі Магдэбурскае права. Практычна ўсе вялікія беларускія гарады – Берасце, Менск, Віцебск, Гародня, Полацк, Слуцк, Магілёў, Барысаў, Мазыр, Пінск, Наваградак, Рэчыца, Слонім, Ліда, Ворша, Кобрын, Пружаны, Ваўкавыск, Мсціслаў ды іншыя – кіраваліся выбарным магістратам, падзеленым на Раду (разглядала цывільныя ды маёмасныя справы) і Лаву (крымінальныя справы). У практычнае жыццё ўвасабляўся дыстрыбутызм, калі гаспадарчая дзейнасць віравала вакол сем’яў, цэхаў і невялікіх мясцовых супольнасцяў.

Характэрнае сведчанне спелай дэмакратыі і хрысціянскага трыадзінства: у многіх беларускіх гарадах таго часу пасаду бургамістра займалі паводле ратацыі праваслаўныя ды каталікі, а ў асобных гарадох – і пратэстанты. Львіную долю сябраў магістрату складалі духоўныя асобы, кіраўнікі парафіяльных радаў, брацтваў, казаннікі ды дыяканы. Прысутнасць іншых святароў і іерархаў як гарантаў хрысціянскай маральнасці ды сумленнасці на паседжаннях разглядалася як цалкам натуральная, а часам нават і абавязковая. Публічнай прысягай выбранага лаўніка было цалаванне крыжу.

Своеасаблівыя палітычныя партыі на месцах стваралі каталіцкія ордэны (езуіты, францішкане, бернардыны, піяры, кармеліты, бенедыктынцы, дамінікане, капуцыны ды іншыя), грэка-каталікі (базыльяне), праваслаўныя брацтвы, евангельскія зборы (кальвіны, лютаране).

## Статут ВКЛ

“Глядзіце, што павінны рабіць, бо не тварыце суда чалавечага, але суд Божы, і Ён з вамі ў справе суду. Няхай будзе ў вас страх Гасподні заўсёды: здзяйсняйце ўсё чыстасардэчна, бо няма ў Госпада Бога нашага няпраўды, ані ўвагі на асобы, ані пажадання дароў” (Другая кніга Летапісаў, 19:6-7). “Правам судзіце, сыны чалавечыя”. (Псалмы, 57:2). Гэта – цытаты з тытульнага аркуша Статуту Вялікага княства Літоўскага 1588 года.

Знакаміты Статут ВКЛ быў перадавым законам дэмакратыі тых часоў. У адпаведнасці з галоўным дэмакратычным прынцыпам, Статут ВКЛ усталёўваў падзел уладаў на: заканадаўчую – Сойм; выканаўчую – Вялікага князя й яго адміністрацыю; судовую – трыбунал ВКЛ, земскія й падкаморскія суды, выбарныя й незалежныя ад уладаў. Статут ВКЛ вызначаў вядучую ролю самакіравання ў вырашэнні мясцовых праблемаў.

Канстытуцыйная манархія Статуту ВКЛ мела хрысціянска-дэмакратычны характар – ідэальны лад для Беларусі. Статут ВКЛ быў законам талеранцыі. Правы вернікаў усіх канфесіяў ураўноўваліся адмысловым артыкулам. Увесь Статут літаральна дыхаў хрысціянскай узаемапавагай. У часы інквізіцыі на Захадзе і страшных караў для іншаверцаў у Маскве Беларусь, дабраслаўлёная тэрыторыя Статуту, стала прыстанкам для прапаведнікаў з усяе Еўропы.

## Беларускае хрысціянскае трыадзінства

Асаблівай увагі заслугоўвае беларускае хрысціянскае трыадзінства – супраца і ўзаемадапаўненне трох галоўных канфесіяў – у справе самакіравання і дзяржаўнага кіравання ў ВКЛ. У час рэлігійнай нецярпімасці на Захадзе і на Ўсходзе праваслаўныя, каталікі і пратэстанты Вялікага княства разам займалі пасады ў Паны-радзе, урадавых установах, судах, магістратах; міжканфесійная дамова была хутчэй правілам, чым выключэннем; еднасць

веравызнанняў шматкроць пацвярджалася адпаведнымі прывілеямі, пастановамі і Статутамі.

Беларускі менталітэт, працоўная этыка, сямейны лад, правасвядомасць былі сфармаваныя хрысціянскім сумежжам Залатога веку: праваслаўем, каталіцтвам і пратэстанцтвам ва ўзаемным уплыве, канкурэнцыі і кампрамісах. Унікальнасць беларускай сітуацыі, нашая моц і нашая слабасць тлумачацца якраз формуламі геапалітычнага хрысціянскага сінтэзу эпохі ВКЛ ў самым сэрцы еўрапейскага кантынэнту.

«Дзе двое ці трое сабраліся ў Імя маё, там і Я сярод іх» – найвышэйшы сэнс беларускага трыадзінства, сфармуляваны ў Евангеллі. Талеранцыя, унія, унікальны іканапіс, віленскае барока касцёлаў, цэркваў і збораў – плён хрысціянскага трыадзінства пабеларуску. «Беларусь – краіна найперш хрысціянская, а затым ужо праваслаўная, каталіцкая, уніяцкая… Нас аб’ядноўвае крыж», – піша Адам Мальдзіс.

Гістарычна менавіта хрысціянскае трыадзінства было кропкай кіпення і пунктам грамадскага росту ў ВКЛ і Беларусі. Узаемапранікненне, канкурэнцыя і сумоўе трох канфесіяў далі нам абуджэнне Залатога веку – час найвышэйшых дасягненняў. Праваслаўная Расея, каталіцкая Польшча, пратэстанцкія Нямеччына ды Швецыя ў розныя часы расцягвалі Беларусь на кавалачкі. Але для краіны, што тысячу гадоў жыве на геапалітычным крыжы, увесь сэнс цэласці не ў выбары якой-небудзь адной канфесіі, а якраз ва ўсведамленні ўласнага трыадзінства.

Так беларускі геній Скарына, праваслаўнай традыцыі, на каталіцкай працы, паводле перакананняў евангелік, сумясціў у сабе ўсё найлепшае з канфесійнай Тройцы – і стаў постаццю №1 у нацыянальнай гісторыі.

Так трыяда нацыянальных сімвалаў – герб, гімн і сцяг – у Беларусі адпаведная Боскім іпастасям: «Магутны Божа» ад Бога-Айца, белчырвона-белы сцяг Хрыста ад Бога-Сына і імклівая «Пагоня», што перадае палымяную моц Духа Святога.

## Рэч Паспалітая

Пасля аб’яднання ВКЛ з Польскай каронай у Рэч Паспалітую напрыканцы XVI стагоддзя канструкцыя хрысціянскіх асноваў і

шляхецкай дэмакратыі пачала разбурацца – разам з незалежнасцю Беларусі.

З аднаго боку, польская каралеўская ўлада імкнулася да абсалютызму і ўніфікацыі, а найбольш моцная рэлігійная канфесія ў аб’яднанай дзяржаве – Касцёл – да падаўлення і падпарадкавання іншых хрысціянскіх веравызнанняў. Знакам гэтага часу было давядзенне да абсурду прынцыпу “ліберум вета” шляхтай ды магнатамі, што руйнавала увесь дзяржаўны механізм і вяло да анархіі. Пачаўся рост рэлігійнай нецярпімасці – і ўмяшанне суседніх дзяржаваў у канфесійнае змаганне ўнутры Рэчы Паспалітай.

Баланс міжканфесійнага хрысціянскага трыадзінства, з такой цяжкасцю дасягнуты ў ВКЛ 14-16 стст, і выпрацаваная стагоддзямі традыцыя раўнавагі заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў ды мясцовага самакіравання быў моцна парушаны – і гэта спрычынілася да заняпаду ўсёй дзяржавы: Рэч Паспалітая не вытрымала выпрабаванняў сацыяльнымі забурэннямі і войнамі.

Разам з тым, да дасягненняў хрысціянства у спалучэнні з палітычнай думкай эпохі РП належаць і сама ідэя “рэспублікі абодвух народаў”, і выкарыстанне знакамітага Статуту ў якасці асноўнага закону аўтаномнага ВКЛ, і дзейнасць каталіцкіх ордэнаў, праваслаўных брацтваў і пратэстанцкіх школаў – не адно ў сферы рэлігіі, але і ў сацыяльнай, культурнай, гаспадарчай, і ўплыў беларускай хрысціянскай дэмакратычнай традыцыі на Польшчу ды Расею, і дасягненне самай паспяховай за 1000 гадоў расколу рэлігійнай вуніі, і грандыёзная кніжная палеміка 17 стагоддзя вакол ідэі хрысціянскага адзінства і хрысціянскай дзяржавы.

Мікалай Радзівіл Чорны, Мікалай Радзівіл Руды, Леў Сапега, Астафей Валовіч, Жыгімонт Аўгуст, Ян Караль Хадкевіч, Канстанцін Астрожскі – галоўныя палітычныя лідары беларускага Залатога веку імкнуліся спалучыць хрысціянства і дэмакратыю.

## Беларусь у Расейскай імперыі

Акупацыя Беларусі Расейскай імперыяй напрыканцы XVIII стагоддзя прадвызначыла знішчэнне рэшткаў беларускай дзяржаўнасці і агульны ўпадак шматканфесійнага хрысціянства. Вунія была выкараненая, рыма-каталіцтва абмежаванае, пратэстанцтва зведзена да жмені суполак пад адпаведным наглядам, а замест жывога

беларускага праваслаўя з дэмакратычнымі брацкімі традыцыямі насаджаная маскоўская артадоксія з усімі яе характэрнымі рысамі.

Менавіта таму беларуская нацыянальна-вызвольная барацьба XIX стагоддзя – і ў форме паўстанняў, і ў выглядзе культурніцкага адраджэння – вялася з пазіцыяў хрысціянскай веры і народаўладдзя. Постаці Кастуся Каліноўскага, рыма-каталікоў Францішка Багушэвіча й Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, вуніята (а затым і праваслаўнага) прафесара Міхаіла Баброўскага альбо менскага лютараніна доктара Вільгельма Гіндэнбурга – найбольш яскравае сведчанне хрысціянскага і дэмакратычнага характару беларускіх абуджэнняў апошніх 200 гадоў. Выхадцы з Беларусі – Адам Міцкевіч, Юзаф Крашэўскі, Хведар Дастаеўскі, Генрык Сянкевіч і іншыя – імкнуліся змяніць і польскае грамадства, і расейскую дзяржаву праз моцны хрысціянскі зарад і ўвагу да патрэбаў народа.

Адным з яскравых сведчанняў глыбіннай беларускай хрысціянскай дэмакратыі стаў знакаміты Антыалкагольны рух 1846-59 гадоў, пачаты ў беларускіх паветах, па цэрквах і касцёлах. За некалькі год ён ахапіў 32 губерніі Расейскай імперыі і прывёў як да масавага працверазення простага люду, так і да хвалі самакіравання – стварэння таварыстваў, гаспадарчых каапэратываў, школаў.

Напрыканцы 19 ст. імперыя ўжо ўспрымала беларускія землі як неад’емную частку – нездарма нават назва “Беларусь” была забароненая, і замест яе выкарыстоўвалася паняцце “Северо-Западный край”. Але сілы веры і свабоды тлелі ў тоўшчы народа. Наступны, XX век адразу ў некалькіх тэктанічных разломах раптоўна ўскрыў гэтае полымя – і зноў вывеў на гістарычную арэну Беларусь хрысціянскую і дэмакратычную.

Пра гэта – у наступным раздзеле.

## Асобы



**Ефрасіння Полацкая** – 1104-1167. Манахіня, ігумення полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, асветніца, арганізатарка скрыпторыю для перапісу кнігаў і бібліятэкаў у Полацку, духоўная апякунка беларускага народа.



**Кірыла Тураўскі** – 1130-1182. Епіскап Тураўскі, “Златавуст”, аўтар дзясяткаў запісаных казаняў, адзін з

найбуйнейшых хрысціянскіх пісьменнікаў старажытнай Беларусі.



**Францішак Скарына** – 1486-1551. Першадрукар, хрысціянскі гуманіст, доктар медыцыны і вольных мастацтваў, гравёр, асветнік, перакладчык і выдавец Бібліі для Беларусі.



**Мікалай Радзівіл Чорны** – 4.2.1515-28.5.1569. Князь, дыпламат, канцлер Вялікага княства Літоўскага, лідар Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім.



**Канстанцін Астрожскі** – 12.8.1524-23.2.1608. Князь, Вялікі гетман літоўскі, апякун і абаронца праваслаўных у ВКЛ.



**Язэп Руцкі** – 1574-5.2.1637. Царкоўны дзеяч, пісьменнік і багаслоў. Заснавальнік ордэну базыльянаў, лідар вуніі, мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі.



**Францішак Багушэвіч** – 21.3.1840-28.4.1900. Паэт, паўстанец, “мужыцкі адвакат”, абаронца простага люду, заснавальнік і класік беларускай літаратуры XIX ст, пачынальнік найноўшага беларускага Адраджэння.

## Крыніцы:


1. Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Том 1. Мінск, “Белкартаграфія”, 2009; том 2, 2013.
2. Арлоў У, Герасімовіч З, Санько З., Ілюстраваная гісторыя: Краіна Беларусь – Вялікае княства Літоўскае. – Kalligram, 2012
3. Севярынец П. “Люблю Беларусь: 200 фэномэнаў нацыянальнай ідэі” – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008.
4. Статут вялікага княства Літоўскага 1588 – Мінск, “Беларусь”, 2010.
5. Лісейчыкаў Д. В. Святар у беларускім соцыюме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг – Мінск; “Беларусь”
6. http://belreform.org/marzaluk.php
7. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі: збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008.

Глава 3
# ВЫСПЯВАННЕ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ПАРТЫІ

## У катле рэвалюцыі: 1905

Менавіта пачатак XX стагоддзя з яго тэктанічнымі ўзрушэннямі стаў часам выспявання ідэі масавай беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі.

З аднаго боку, нацыянальнае абуджэнне XIX - пачатку XX стагоддзяў насіла выразны хрысціянскі і адначасна народніцкі характар – як вядома, большасць першых адраджэнцаў былі дзецьмі вуніяцкіх святароў. З іншага боку, разгортванне сусветнага сацыялістычнага руху штурхала актыўных вернікаў “злева” – у Беларусі пашыраліся рэвалюцыйныя гурткі (“Гоман”), ствараліся рэвалюцыйныя (БРП, БРГ) і сацыялістычныя групы (РСДРП, эсэры, Бунд). У выніку першай расейскай рэвалюцыі ў кастрычніку 1905 году цар Мікалай II быў вымушаны выдаць Маніфест пра грамадскія і палітычныя свабоды – і па ўсёй імперыі закіпелі палітычныя сілы, разбуджаныя агульным рухам ды магчымасцю заявіць пра сябе.

Па ўсёй тагачаснай Расеі, а найперш на нацыянальных ускраінах, штодня ішлі мітынгі, сходы й ствараліся разнастайныя аб’яднанні. Былі абвешчаныя выбары ў Дзяржаўную Думу. Разам з агульна-расейскімі ўзнікалі нацыянальныя ды класавыя мясцовыя партыі.

На беларускіх землях найбольш арганізаванымі сіламі, акрамя імперскага бюракратычна-вайсковага апарату, былі праваслаўная царква, буйныя землеўладальнікі й каталіцкі Касцёл. Менавіта ў іх асяроддзі ішло абмеркаванне, як выходзіць з крызісу, ад якога пачало ліхаманіць найбуйнейшую дзяржаву тагачаснага свету.

## Кансерватыўна-Каталіцкая Партыя Літвы і Беларусі: 1905-1906

З боку краёвай эліты ініцыятыву ўзяў на сябе біскуп каталіцкага касцёлу, барон Эдвард фон Роп. Паходжаннем з Дзвінску (сённяшні Даўгаўпілс), нашчадак нямецкіх каланістаў Прыбалтыкі, Роп добра ведаў жыццё на былых абшарах ВКЛ, быў аўтарытэтам для

тутэйшых памешчыкаў ды шляхты, а да таго ж як біскуп меў выхад да шырокай масы вернікаў-сялянаў. Дбаннем Ропа ў Вільні ды Гародні ўжо ў 1905 годзе былі створаныя суполкі “Каталіцкага таварыства рабочых “Адзінства” – праваобраз хрысціянскіх прафсаюзаў. Палітычным ідэалам для біскупа Ропа была “Партыя цэнтру” ў германскім парламенце – фактычна, першая еўрапейская хрысціянска-дэмакратычная партыя.

Напрыканцы 1905 года ў Вільні Эдвард фон Роп разам са сваімі паплечнікамі абвясцілі пра стварэнне Канстытуцыйна-Каталіцкай Партыі Літвы і Беларусі (ККПЛБ). 7 лютага 1906 года ў Вільні адбыўся першы з’езд ККПЛБ, у якім удзельнічала каля 1000 сябраў і прыхільнікаў.

Блізкі па поглядах да агульнарасейскай партыі канстытуцыйных дэмакратаў (кадэтаў), біскуп Роп выкарыстаў іх праграму для падрыхтоўкі дакументаў ККПЛБ, дапоўніў іх шэрагам хрысціянскіх прынцыпаў і сфармуляваных інтарэсаў краёвай эліты. Характэрна, што першым пунктам партыйнай праграмы стаяў раздзел аб адукацыі. ККПЛБ патрабавала стварэння бясплатнай народнай школы з навучаннем на роднай мове (польскай, літоўскай, беларускай) і абавязковым вывучэннем рэлігіі.

Праект праграмы рассылаўся для абмеркавання па каталіцкіх парафіях Літвы і Беларусі. З дапамогай мясцовых ксяндзоў ККПЛБ правяла моцную кампанію сярод тых, хто меў права голасу на выбарах – найперш сярод заможнага сялянства і памешчыкаў.

Дзеля забеспячэння шырокай агітацыі ККПЛБ заснавала адразу некалькі польскамоўных хрысціянска-дэмакратычных газетаў: гарадскую штодзённую “Навіны Віленскі” (у лютым-сакавіку выйшла 32 нумары), штотыднёвік “Пшыяцель люду” для сялянаў і рамеснікаў, які пратрываў да 1910 году, і штотыднёвік для рабочых “Таважыш працы”.

Галоўнай апорай партыі сталі сяляне-каталікі з беларускіх і літоўскіх вёсак, частка дробнай каталіцкай шляхты і інтэлігенцыі. Менавіта масавасць і папулярнасць ККПЛБ прывялі да таго, што яе разглядалі як моцнага хаўрусніка супраць самадзяржаўя ды чарнасоценства і кадэты, і краёвыя кансерватары, і польскі рух, і габрэйскія арганізацыі.

## Поспех ККПЛБ на выбарах у Першую Дзяржаўную Думу 1906 года

У выніку ў пачатку 1906 года у Першую Дзяржаўную Думу было выбрана 17 дэпутатаў – чальцоў і прыхільнікаў ККПЛБ. Найбольш

выбітнымі сярод іх былі ідэолаг партыі, аўтар “Нацыянальнага катэхізму”, кароль вузкакалейкі, які займаўся будаўніцтвам чыгункі ў краі, Баляслаў Ялавецкі, “народны ксёндз”, які адстоўваў у Пружанскім павеце інтарэсы сялянаў, Антоній Сангайла, дырэктар Віленскага зямельнага банку Юзаф Монтвіл, старшыня Віцебскага таварыства сельскай гаспадаркі Станіслаў Лапацінскі. Большасць з іх вызнавала сябе палякамі, некаторыя – літоўцамі.

Расейскія ўлады былі агаломшаныя поспехам краёвай каталіцкай партыі – і ўжо ў пачатку сакавіка 1906 года загадам віленскага генерал-губернатара Канстанціна Кршывіцкага (пасля запіскі міністра ўнутраных справаў Расейскай імперыі Дурнаво) сходы ККПЛБ былі забароненыя. Партыя абвясціла пра спыненне сваёй працы – бо не бачыла магчымасці дзейнічаць нелегальна. Самога біскупа Ропа ў 1907 годзе выслалі з Вільні.

Сабраная Першая Дума мела пераважна ліберальны характар, рэй у ёй вяла партыя кадэтаў, і іх сутыкненне з напалоханай самадзяржаўнай машынай скончылася роспускам. Дэпутаты ККПЛБ паспелі ўсяго некалькі разоў выступіць на пленарных паседжаннях (найперш па аграрным пытанні). Але поспех дэмакратычнай партыі, заснаванай на хрысціянскіх прынцыпах, быў відавочны.

Царская рэакцыя, разгон наступнай Думы, карныя меры супраць апазіцыі і рэформы Сталыпіна падарвалі пазіцыі кадэтаў ды левых. Першая спроба стварыць на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага дэмакратычную партыю на рэлігійных асновах засталася адно яркай успышкай.

## 1906-1915: “Вызваленне”, краёўцы, “Наша ніва”, “Беларус”

Варта згадаць яшчэ некалькі краёвых палітычных сілаў таго часу, блізкіх да ідэяў хрысціянскай дэмакратыі. Гэта польская арганізацыя “Вызваленне”, да якой належаў, напрыклад, былы сябра ЦК ККПЛБ Юзаф Змітровіч, а таксама Краёвая партыя Літвы і Беларусі на чале з фундатарам Касцёла святых Сымона і Алены ў Менску Эдвардам Вайніловічам, баронам Казімірам Шафнагелем і буйным землеўладальнікам Раманам Скірмунтам. У праграме “краёўцаў”, напрыклад, дзяржаўнае ўладкаванне Беларусі бачылася як аўтаномія ў складзе расейскай канстытуцыйнай манархіі, на грунце хрысціянскай духоўнасці і падмурку хрысціянскай адукацыі.

Патрэба магутнай хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў краі, як бачым, у 1906 годзе ужо выспела. Але адносна нацыянальнага характару хрысціянскай дэмакратыі пэўнасці не было. Расейская праваслаўная царква была варожай да ідэі дэмакратыі і падтрымлівала самадзяржаўе, для польскага руху (“эндэкі”, “Вызваленне” і іншых) усе каталіцкія ініцыятывы былі адпачатку польскімі, літоўскі рух неўзабаве вылучыў уласныя хрысціянска-дэмакратычныя праграмы – і перад палітычна актыўнымі свядомымі беларусамі-вернікамі паўстала пытанне: ці аддаваць народ пад уплыў суседскіх палітычных праектаў і самім распыляцца ў іх, ці засноўваць, урэшце, свой.

Вялікую ролю ў гэты вызначальны час для беларускай хадэцыі, як і для ўсяго беларускага руху, адыграла газета “Наша Ніва”, што пачала выходзіць у Вільні ў 1906-м. Ва ўмовах спаду рэвалюцыйных настрояў, карных акцыяў менавіта легальная масавая газета сталася цэнтрам гуртавання разнастайных грамадскіх, творчых і палітычных сілаў – ад левых да правых. Многія з падпісчыкаў і аўтараў “Нашай нівы” затым далучацца да БХД.

Ужо ў 1913-ым годзе беларускія хрысціяне дэмакратычных перакананняў здолелі наладзіць выпуск і свайго ўласнага часопісу – “Беларус”. З увагі на тое, што найбольш актыўнай і палітычна свядомай часткай хадэцыі на той момант былі рыма-каталікі, часопіс выходзіў лацінкай і пашыраўся найперш па касцёльных парафіях. Рухавіком “Беларуса” стаў Баляслаў Пачопка, рэдактарамі – Алесь Бычкоўскі, Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш), а фундавала выданне княгіня Магдалена Радзівіл. Ксёндз Адам Станкевіч сведчыць, што за два гады працы, да захопу Вільні немцамі, “Беларус”, акрамя рэгулярнага выхаду раз на тыдзень, здолеў выдаць і шэраг брашураў ды кнігаў асветніцкага ды грамадскага характару ў хрысціянскім і дэмакратычным духу.

Якраз у “Беларусе” пачалі друкавацца Францішак Будзька, Уладзіслаў Талочка, Казімір Сваяк, Аляксандр Астрамовіч, Ільдэфонс Бобіч, Дамінік Аніська і іншыя будучыя лідары БХД.

## “Хрысціянская злучнасць”: 1915

У 1914-м грымнула Першая сусветная вайна. У 1915-ым заходняя частка Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Нямецкае вайсковае камандаванне, якое распараджалася на занятых

тэрыторыях, да любой палітычнай актыўнасці ставілася насцярожана, але беларусы разумелі: гэта – шанец на змены.

У 1915-ым у занятай немцамі Вільні была зроблена чарговая спроба стварыць хрысціянска-дэмакратычную партыю, прычым ужо беларускую паводле характару – “Хрысціянскую злучнасць”. На чале гэтай арганізацыі сталі адзін з лідараў колішняй Краёвай партыі Беларусі і Літвы барон Казімір Шафнагель, князь Вінцэнт Святаполк-Мірскі, ксяндзы Вінцэнт Гадлеўскі ды Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), і адзін з ідэолагаў беларускага нацыянальнага руху Вацлаў Ластоўскі.

“Хрысціянскую Злучнасць” лічаць першай менавіта беларускай правай партыяй.

Кажучы пра выспяванне ідэі хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў беларускім каталіцкім руху, нельга абмінуць і ролю гіерархаў тагачаснага Касцёлу. З аднаго боку, дзеля моцнай польскай свядомасці большасці каталіцкіх ксяндзоў і біскупаў, гэтая ідэя сустракала сталы супраціў. Адначасова напачатку XX стагоддзя вылучаецца шэраг біскупаў, якія ацанілі і прынялі патрэбу масавага беларускамоўнага хрысціянскага руху. Найперш гэта згаданы біскуп Віленскі Эдвард Роп, біскуп-суфраган Магілёўскай дыяцэзіі Стафан Данісэвіч, які ў 1906-1907 выдаў катэхізмы па-беларуску і заахвочваў да беларускасці святароў, ды біскуп Пінскай дыяцэзіі Зыгмунт Лазінскі, які пад уплывам Фабіяна Абрантовіча і Адама Лісоўскага ініцыяваў набажэнствы па-беларуску ды заснаваў беларускую духоўную семінарыю ў Менску.

Для настрояў таго часу характэрна імкненне ясна сцвердзіць беларускі нацыянальны характар новага руху – а дзеля гэтага перадусім парваць і з русіфікацыяй, і з паланізацыяй. Вось як, напрыклад, піша да спольшчанай краёвай інтэлігенцыі ў сваім знакамітым адкрытым лісце, надрукаваным у “Кур’еры Літэўскім” у лістападзе 1917-га барон Казімір Шафнагель:

“Апалячэная беларуская інтэлігенція! Паны “тутэйшыя палякі” – ксяндзы і земяне! Няўжо-ж ваша грамадзянскае сумленьне нічога вам не гаворыць? Няўжо-ж не задрыжыць у спольшчэных сэрцах вашых праўдзівы патрыотызм – не прыбраны ў пазычаныя пёры, але спакон вякоў краёвы, нацыональны і народны беларускі? Чы гэта зямелька родная са сваімі сумнымі абразамі, сваімі вазёрамі, лясамі і гарыстымі палямі да вас не прамовіць, – чы голасу гэтаго збожнага народу, што вас “панкамі даражэнькімі” называе, вуха вашэ не пачуе, – чы яго

праўдзівых патрэб, каторых ён сам ешчэ не разумее, ваша душа не адчуе, а калі адчуе, дык чы не загаворыць у вас грамадзянскае сумленьне і чы не дасьць яго вам цьвёрдаго наказу ўзяць той-час на свае плечы работу дзеля адраджэньня гэтаго люду – нацыі, да катораго так чы сяк самі вы прыналежыце?” (“Спадчына”, №4, 2002).

Такім чынам, спярша, ад 1905 году, ідэя хрысціянскай дэмакратыі на Беларусі разгортвалася ў краёвай (польска-украінска-літоўска-беларускай) традыцыі, з польскай мовай і ў рамках расейскай дзяржаўнасці – але за 10 гадоў найперш у каталіцкіх асяродках Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Меншчыны ды тагачаснай сталіцы імперыі Пецярбургу скрышталізавалася яснае разуменне: Беларусі патрэбная свая, менавіта беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя.

## Асобы



**Браніслаў Эпімах-Шыпіла**. 16.9.1859-6.6.1934. Прафесар, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч. У пачатку XX стагоддзя стаў душой гуртка ксяндзоў-беларусаў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, зь якога і развілася БХД. Патрыярх беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху. Працаваў у Інбелкульце, арыштоўваўся ГПУ ў 1930-м. Памёр у 1934 у Ленінградзе.



**Біскуп Эдвард Роп**. 2.12.1851-25.7.1939. Заснавальнік Канстытуцыйна-Каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (1906). Адзін з лідараў “краёвага руху”. Дэпутат Расейскай Дзяржаўнай Думы. У 1917-м прызначаны арцыбіскупам Магілёўскім. Даў дазвол на стварэнне суполак БХД пры каталіцкіх парафіях. Арыштаваны, высланы ў Польшчу ў 1919-м бальшавікамі. Памёр у 1939-м. Пахаваны ў Беластоку.

**Казімір Шафнагель** – 1854-1922. Барон, адзін з заснавальнікаў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі, партыі “Хрысціянская Злучнасць”. Будзіцель беларускасці сярод буйных землеўладальнікаў, чынавенства, арыстакратыі. Аўтар звароту да краёвай інтэлігенцыі ў 1917 года.



**Вацлаў Ластоўскі** – 8.11.1883-23.1.1938. Навуковец, пісьменнік, палітык. Адзін з заснавальнікаў партыі “Хрысціянская злучнасць” (1918) У 1919-1923 – прэм’ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі.



**Ксёндз Францішак Будзька**. 23.1.1884-2.2.1920. У Пецярбургу вучыўся на ксяндза, стаў адным з самых актыўных удзельнікаў гуртка Эпімах-Шыпілы. Адзін з першых пачаў казані на беларускай мове. Адзін з арганізатараў і удзельнік З’езду беларускага каталіцкага духавенства 24-25 траўня 1917 года, дзе была запачаткаваная Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць.



**Княгіня Магдалена Радзівіл**. 8.7.1861-6.1.1945. Мела 18 фальваркаў і 8 лясніцтваў, дзе справаводства вялося па-беларуску. Падтрымлівала беларускі і хрысціянскі рух, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага. Дзякуючы яе ахвяраванням, быў заснаваны кляштар марыянаў у Друі, працавала друкарня БХД імя Францішка Скарыны ў Вільні. Памерла ў 1945-м у кляштары ў Фрыбуры (Швайцарыя).



**Айцец Баляслаў Пачопка**. 13.10.1884-26.12.1940. Вуніяцкі святар, выбітны дзеяч беларускага хрысціянскага руху, арганізатар першай беларускай школы. Нарадзіўся ў 1884-м на Віленшчыне. Працаваў дырэктарам першай беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. Разам з Цёткай і Антонам Луцкевічам засноўваў беларускія школы ў 1915-1918 гадах.



**Ксёндз Люцыян Хвецька** – 22.11.1889-28.4.1944. Адзін з пачынальнікаў БХДЗ, заснавальнік газеты “Крыніца”, служыў у парафіях на Піншчыне і Стаўпеччыне. Загінуў у час вайны.

## Крыніцы:


1. Максім Гацак. http://bchd.info/10564-hrysciyanskaya-demakratyya-u-suchasnay-belarusi-zabaranic-nelga-zaregistravac.html
2. Алесь Смалянчук. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. СПб – Невский простор, 2004.
3. Алесь Смалянчук. Казімір Шафнагель і ягоны зварот “Да нашай краёвай інтэлігенцыі”. Спадчына, №4, 2002. http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/spadczyna/2002-4/04-07.htm
4. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008.
5. “Наше мнение” http://nmnby.eu/news/analytics/3066.html
6. Камунікат, “Спадчына”, №4, 2002

**Глава 4**

# БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ЗЛУЧНАСЦЬ І ГАЗЕТА "КРЫНІЦА". 1917-1925

Да пачатку рэвалюцыйных падзеяў 1917 года і ў колішняй сталіцы ВКЛ, занятай немцамі Вільні, і ў старажытнай Гародні, і ў Беластоку, і ў губернскім прыфрантавым Менску, і ў Магілёве, дзе знаходзілася Стаўка Мікалая II, тлелі агмяні беларускага хрысціянскага руху – найперш каля касцёлаў і ў асяроддзі свядомай інтэлігенцыі.

"Беларускі нацыянальны каталіцкі рух пачаўся ў дзвюх вучэльнях: у Віленскай каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, дзе вучылася і беларуская моладзь (часцей за ўсё сялянскага паходжання). У гэтых вучэльнях утварыліся беларускія гурткі. У 1911 г. рэктар Віленскай семінарыі афіцыйна прызнаў існаванне беларускага гуртка і дазволіў яму мець беларускую бібліятэчку. У Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу беларускі гурток стварыўся ў 1912 г., а ў 1914 г. ужо налічваў 70 сяброў і меў вялікую бібліятэку, у тым ліку каталіцкія кнігі і часопісы. Дзейнасць гуртка была актыўнай дзякуючы падтрымцы прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы." – піша прафесар Анатоль Грыцкевіч у працы "Пачаткі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі".

Ядро масавай нацыянальнай хрысціянска-дэмакратычнай партыі на момант гістарычных зрушэнняў склалася усё-такі не на рассечанай фронтам, спустошанай і скрываўленай беларускай зямлі, а ў сталіцы імперыі і калысцы рэвалюцыі – Санкт-Пецярбургу, у 1914-ым перайменаваным у Петраград.

Прычынаў было некалькі. Найперш, любая грамадская (а пагатоў беларуская) дзейнасць па абодва бакі ад лініі фронту успрымалася і расейскімі, і нямецкімі вайсковымі й тылавымі структурамі з падазрэннем – і найчасцей жорстка падаўлялася. Па-другое, менавіта Петраград быў сэрцам агромністай дзяржаўнай машыны і пераваланай базай вайны: велізарныя масы жаўнераў і афіцэраў, інжынераў, рабочых, гандляроў, чыноўнікаў, а таксама уцекачоў штодня віравалі на ягоных вакзалах, вуліцах ды установах. Па-трэцяе, паколькі сталіца імперыі ўжо 200 гадоў высмоктвала інтэлектуальныя, творчыя, навуковыя сілы з ускраінаў – менавіта там гуртаваліся самыя здольныя, амбітныя, актыўныя асобы. І нарэшце – без цара, занятага ў Стаўцы, якраз Петраград з 1915 года пера-

твараўся ў эпіцэнтр апазіцыйнага, дэмакратычнага, а затым і рэвалюцыйнага руху.

## Гурток у Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1912-1917)

Сапраўдным “гняздом” БХД стаўся беларускі гурток Пецярбургскай духоўнай акадэміі, дзе ў пачатку XX стагоддзя навучаліся на ксяндзоў найбольш адораныя хлопцы з Беларусі.

Заснаваў гэты гурток у 1912-ым годзе Люцыян Хвецька. Паводле сведчання навучэнца акадэміі ксяндза Адама Станкевіча, менавіта ён пачаў сталыя сустрэчы і заклаў асновы арганізацыі, у якую напачатку увайшлі сямёра: “…Л. Хвецька, А. Цікота, П. Пякарскі, С. Шырокі, Францук, І. Жаўняровіч, В. Гадлеўскі”. У 1913-ым гурток быў зарэгістраваны афіцыйна, кіраўніком стаў П. Пякарскі, сакратаром – В. Гадлеўскі, з 1916 году сакратарства пераняў Адам Станкевіч.

Гэты гурток усталяваў сувязі са студэнтамі-беларусамі Пецярбургскага універсітэту і пачаў ладзіць супольныя сходы на кафедры ксяндза Францішка Будзькі.

Апекуном і душой гэтай беларускай паводле формы і хрысціянскай паводле зместу супольнасці стаў прафэсар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. Ураджэнец Полаччыны, навуковец энцыклапедычнага розуму, даследчык беларускай даўніны, рэдактар першага зборніку вершаў Янкі Купалы, Эпімах-Шыпіла быў адначасна глыбокім вернікам. Вольна размаўляў на лаціне, ведаў і выкладаў старажытнагрэцкую – і лічыў, што Беларусі найперш патрэбныя пасвечаныя і адукаваныя духоўныя правадыры. З ягонай ініцыятывы беларусы Петраграда заснавалі легендарнае выдавецтва “Загляне сонца і ў наша ваконца”, якое пачало выдаваць масавымі накладамі надзённую беларускую літаратуру, і стварылі дабрачыннае Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

Пры гуртку была закладзеная беларуская бібліятэка (фундавала Магдалена Радзівіл), створаны хор, працавалі гістарычная і літаратурная секцыі, выходзіў часопіс “Светач”.

У гэтым гуртку мы ўпершыню знаёмімся з будучымі лідарамі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і агулам усяго беларускага руху міжваеннага часу – айцом Фабіянам Абрантовічам, будучым рэктарам Каталіцкай духоўнай семінарыі, ксяндзамі Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Францішкам Будзькам, Аляксандрам Астрамовічам (Андрэем Зязюлям), заснавальнікам “Крыніцы”

Люцыянам Хвецькам, будучым генералам ордэну марыянаў Андрэем Цікотам, будучым грэка-каталіцкім біскупам, пакутнікам Антонам Неманцэвічам, гераічнымі святарамі Міхалам Пятроўскім, Віктарам Шутовічам і многімі іншымі.

Апошні пункт статуту гуртка сцісла фармуляваў дэвіз будучай беларускай хрысціянскай дэмакратыі: “Буду ісці з воклічам у вуснах: “З Богам для народу!”.

Божы провід своечасова падрыхтаваў “новыя мяхі для новага віна”. Бо неўзабаве грымнула Лютаўская рэвалюцыя, расейскае самадзяржаўе рухнула, і ў віры падзеяў згуртаваная апостальская каманда святароў-беларусаў з Пецярбургскай акадэміі дзейнічала зладжана, арганізавана і ў адным духу.

## З’езд беларускага каталіцкага духавенства 24-25 траўня 1917 у Менску

Ужо цягам некалькіх тыдняў пасля пераходу ўлады да Часовага ураду і ўсталявання ў Расеі дэмакратычнай рэспублікі кіраўнікі пецярбурскай супольнасці стварылі арганізацыйны камітэт З’езду беларускага каталіцкага духавенства, які прадбачліва вырашылі праводзіць у Менску. Менск, на той момант прыфрантавы губернскі горад, укрыжаваны паміж занятай немцамі Вільняй і запруджаным расейскімі войскамі Магілёвам, стаўся ідэальнай пляцоўкай для пачатку беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху.

У арганізацыйны камітэт З’езду ўвайшлі Люцыян Хвецька, Вінцэнт Гадлеўскі, Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), Францішак Будзька і Андрэй Цікота.

На З’езд, які адчыніўся раніцай 24 траўня 1917 году у Менскім катэдральным касцёле, прыбыло каля 30 святароў, пераважна з Усходняй Беларусі і Петраграду.

Парадак першага дня З’езду ўлучаў даклады арганізатараў і стварэнне камісіяў. Ксёндз Адам Станкевіч падае поўную праграму гэтага гістарычнага паседжання:

I. Даклады.

1. Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцёльнага, а такжа да акцыі каталіцкай у Беларусі. Рэферэнт Адам Станкевіч.

2. Акцыя палітычна-народная каталіцкага духавенства на Беларусі ў нашых часах. Стварэнне каталіцкай партыі. Рэферэнт ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі.

3. Акцыя духавенства грамадска-эканамічная. Рэферэнт ксёндз Вінцэнт Гарасімовіч.

4. Акцыя прасветная. Рэферэнт ксёндз Фабіян Абрантовіч.

5. Акцыя выдавецкая. Рэферэнт ксёндз Люцыян Хвецька.

II. Выбар пяці камісіяў: жыцця касцельнага, палітычна-арганізацыйнага, школьнай, грамадска-эканамічнай, выдавецкай.

Як бачым, першы з’езд беларускай хрысціянскай дэмакратыі выявіў і ключавыя кірункі развіцця хадэцыі, і адначасова вызначыў лідараў, якія павядуць за сабой БХД. Галоўнымі рашэннямі З’езду былі:

1. Патрабаванне шырокай аўтаноміі Беларусі ў Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспубліцы.

2. Навучанне ў школах па-беларуску.

3. Увядзенне памалу ў касцёлах казанняў і дадатковых набажэнстваў у беларускай мове.

4. Выдаваць уласную беларускую газету.

## Газета “Крыніца”

Рашэнне аб выданні ўласнай газеты аказалася найважнейшым вынікам з’езду 24-25 траўня. У віхуры падзеяў, калі цягам некалькіх месяцаў дэмакратычная ўлада змянялася бальшавіцкай, калі хвалямі пракочваліся па Беларусі грамадзянская вайна, нямецкая акупацыя, польская акупацыя, зноў савецкая акупацыя, крывавыя межы і падзелы – менавіта рэгулярнае выданне злучала і натхняла рассечаны франтамі паўсюдны беларускі рух да Хрыста і свабоды. Рэдакцыя і падпісчыкі “Крыніцы” 1917-1925 гадоў склалі аснову масавай хадэцыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

На з’ездзе прапанавалі назваць газету “Бацькаўшчына”. Але 8 кастрычніка ў Петраградзе, які застаўся базай БХДЗ, выйшаў першы нумар “Крыніцы”. Арганізацыйна рыхтаваў гэта яшчэ з 1916 году Фабіян Абрантовіч, рэдактарам стаўся ксёндз Люцыян Хвецька. Да канца 1917 году выйшла 6 нумароў “Крыніцы”, прычым №3 быў надрукаваны ў Менску – але паколькі Менск апынуўся ў самым жарале вайны, рэдакцыйная праца вялася па-ранейшаму ў Петраградзе. Наклад першых нумароў складаў 300 асобнікаў, затым павялічыўся да 500 і 700-800, і далей дасягаў 4-5, а падчас выбараў і 10 тысячаў асобнікаў.

Напачатку, паколькі асноўная частка газеты пашыралася праз каталіцкія парафіі, “Крыніца” выходзіла лацінкай.

Менавіта ў “Крыніцы” былі скшталтаваныя ідэйныя асновы БХД. У адным з першых нумароў чытаем: “ Найлепшая тая арганізацыя, каторая можа даваць сваім сябрам прасьвету, а зь ёю культуру, каторая дбае аб дабро сяброў эканамічнае, ды тож не выкідае з сваёй мэты жыцьця рэлігійнага. Гэткай арганізацыяй ёсьць Хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць. Яна будуецца на вялікіх хрысьціянскіх законах, выказаных праз папежа Лявона XIII, у яго акружных пісьмах. Хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць мае на мэце злучыць усіх хрысьціян, найбольш каталікоў, у адну моцную арганізацыю, каторая памагала б у барацьбе з труднасьцямі жыцьця і супакойвала б патрэбы душы. Хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць мае на мэце не рэлігійныя патрэбы, а эканамічныя і грамадзянскія, пранікнутыя духам Хрыстовым – безь ненавісьці, безь несправядлівай барацьбы.”

## ХДЗ у Петраградзе: 1917-1918. II з’езд БХДЗ

Пасля гістарычнага з’езду 24-25 траўня 1917 года вызначыліся два галоўныя агмяні БХДЗ – Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць у Петраградзе і Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць Беларусаў у Менску.

Галоўнымі працаўнікамі заснаванай ХДЗ у Петраградзе былі айцец Фабіян Абрантовіч і ксёндз Люцыян Хвецька. На іх кватэрах штонядзелі адбываліся сустрэчы й нарады. У касцёле святога Станіслава хрысціянскія дэмакраты збіраліся слухаць беларускія казані, спевы, ладзілі прадстаўленні. Да Злучнасці найперш гарнуліся беларусы-уцекачы ды супрацоўнікі сталічных грамадскіх установаў-каталікі. Па-ранейшаму вялікую ролю адыгрываў тут Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Ужо ў другой палове 1917 года спісавы склад ХДЗ у Петраградзе дасягнуў 300 чалавек, сотні удзельнічалі ў мерапрыемствах. Ксёндз Станкевіч апісвае сцяг ХДЗ: на адным баку “Пагоня” на васільковым тле, на іншым – абраз Маці Божай Вастрабрамскай на белым.

Сталіца імперыі перажывала страшныя часы рэвалюцыйнай разрухі, гвалту, голаду, тэрору – але і напрыканцы 1917-га, і ўвесь 1918 год гняздо хрысціянскай дэмакратыі прыцягвала, выхоўвала,

адагравала адарваных ад Радзімы беларусаў і рыхтавала актыў для працы на сваёй зруйнаванай зямлі.

23 студзеня 1918 года бальшавікі абвясцілі пра аддзяленне Царквы ад дзяржавы – што азначала пераслед як святароў і вернікаў, так і ўсякай хрысціянскай дзейнасці.

Тым не менш, 14-16 лютага 1918 года менавіта ў Петраградзе прайшоў II з’езд беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Сярод іншага, ён прыняў рашэнне аб імкненні да незалежнасці Беларусі:

“У адносінах да малых народаў як Літва, Латвія, Беларусь, Украіна трэба стаяць на грунце поўнага іх самаазначэньня”.

Нагадаем, да прыняцця III статутнай граматы БНР заставалася яшчэ больш месяца.

## ХДЗБ у Менску. Размежаванне з польскай хадэцыяй

Вайна заканчвалася; большасць беларусаў вярталася дахаты. 25 лютага 1918 года Менск занялі немцы.

Напачатку ў Менску хрысціянская дэмакратыя мела польска-беларускі характар, і, нягледзячы на тое, што палякі складалі ў ёй меншасць, называлі яе Польскай хадэцыяй.

5 верасня 1918 года на ініцыятыву ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, які служыў вікарыем у Катэдры, менскія хадэкі пастанавілі арганізаваць самастойную ХДЗ. Магчыма, гэта было адной з прычынаў, дзеля якіх касцёльная улада ўжо 8 верасня перавяла Гадлеўскага ў Нясвіж – але праз некалькі тыдняў у Менск прыбыў Фабіян Абрантовіч, прызначаны рэктарам Менскай каталіцкай духоўнай семінарыі, і пераняў кіраўніцтва хадэцыяй.

На той момант у Менску існавала тры вялікія суполкі ХДЗБ : Катэдральная, якая аб’ядноўвала 500 чалавек, і яшчэ дзве (праўдападобна, Чырвонага касцёла і Траецкая), у кожнай з якіх налічвалася да 80 актывістаў. (“Крыніца” 1918, №3)

## Пашырэнне Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці па Беларусі, 1917-19

Улетку 1917 года, падчас аб’езду той часткі Віленскай дыяцэзіі, якая заставалася ў складзе Расеі, на ўсход ад лініі фронту, біскуп Эдвард Роп дазволіў казаць у касцёлах беларускія казанні – і заахвоціў стварэнне хрысціянска-дэмакратычных гурткоў пры

парафіях. Відавочна, БХДЗ у вачох біскупа было працягам ягонай справы ў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі. Беларускія ж ксяндзы, якія і дамагаліся дазволу, неадкладна пачалі працу.

Першай суполкай БХДЗ у глыбінцы быў гурток у Дзісне, закладзены ўлетку 1917 года ксяндзом Вінцэнтам Ташкуном. Тады ж ксёндз Адам Станкевіч заснаваў гурток у Друі: сустрэчы адбываліся штонядзелі і штосвята ў кляштарных мурах. Неўзабаве ў выніку працы Станкевіча ўзніклі гурткі ў Іказні (сучасны Браслаўскі раён) і Барадзенічах (Мёрскі раён), якія вёў ксёндз Віктар Шутовіч. Нарэшце, вялікі асяродак БХД склаўся ў Шаркаўшчыне пад кіраўніцтвам ксяндза Міхаіла Пятроўскага.

6-7 жніўня 1918 года ў Германавічах тагачаснага Дзісненскага павету (сёння Шаркаўшчынскі раён) прайшоў з'езд дэканальнага касцёльнага кліру, дзе была прынятая пастанова спрыяць дзейнасці Хрысціянскай дэмакратыі і развіваць у краі беларускае школьніцтва.

Такім чынам, усходняя Віленшчына, з воссю дарогі з Вільні на Полацк, сталася сапраўдным хрыбтом хрысціянскай дэмакратыі, прычым у народнай тоўшчы, на вёсцы. Якраз адсюль БХДЗ пачала пашырацца на ўсход, захад і поўдзень.

У 1919 годзе БХДЗ пашырыла свой уплыў на Ашмяншчыну, дзе пачаў плённа працаваць пробашч у Барунах Міхаіл Пятроўскі. На Гарадзеншчыне ў 1919-20 гадах разгарнуў хадэцкі рух Язэп Германовіч (Ваўкавыскі павет). На Берасцейшчыне (Шарашова і Вялікае сяло Пружанскага павету) ідэі БХД распаўсюджваў ксёндз Францішак Рамэйка. У ваколіцах Вільні плённа працавалі Ян Пазьняк (Лаварышкі) і Казімір Фалькевіч (Тургелі), на Полаччыне і Віцебшчыне (Ушачы, Ула, Бешанковічы) – ксёндз Язэп Барадзюля.

## Статут ХДЗБ: 1920

Статут і першая Праграма ХДЗБ былі прынятыя і зацверджаныя ў Менску ў 1920-м, прычым на друкаваным выданні гэтай кніжкі (якая адначасова выконвала ролю сяброўскага пасведчання) было пазначана: "З дазволу біскупа Зыгмунта Лазінскага".

Эпіграфам да Статуту і Праграмы былі словы з Евангелля паводле Мацвея:

*"Дык вось, не турбуйцеся і не кажыце: "што нам есці?" альбо "што піць?" альбо "у што апранучца?". Бо ўсяго гэтага шукаюць язычнікі; ведае*

*бо Айцец ваш Нябёсны, што вы маеце патрэбу ва ўсім гэтым. Шукайце ж найперш Царства Божага і праведнасці ягонай, і гэта ўсё дадасца вам." (Мацвея 6:31-33)*

і таксама:

*"Дык вось, кожны, хто слухае гэтыя словы Мае і выконвае іх, прыпадобніцца да мужа разумнага, які збудаваў свой дом на камені; і паліўся дождж, і разьліліся рэкі, і падзьмулі вятры, і рынуліся на той дом; і ён не ўпаў, бо пастаўлены быў на камені. А кожны, хто слухае гэтыя словы Мае і не выконвае іх, прыпадобніцца да мужа неразважлівага, які паставіў свой дом на пяску; і паліўся дождж, і разьліліся рэкі, і падзьмулі вятры, і налеглі на дом той; і ён упаў, і было падзеньне яго вялікае" (Мацвея 7:24-27).*

"Устава", альбо Статут, змяшчала некалькі адметных пунктаў:

1. Называецца злучнасьць: "Хрысьціянская Дэмократычная Злучнасьць Беларусаў".

2. Мэтаю Хрысьціянскай Дэмократычнай Злучнасьці Беларусаў ёсьць: зарганізаваньне усіх тых, што хочуць жыць апіраючыся на сацыальнай справядлівасьці і хрысьціянскай міласьці, паводле асноў хрысьціянскага сьветагляду.

3. Сядзібай Хрысьціянскай Дэмократычнай Злучнасьці Бела-русаў ёсьць Менск, полям працы увесь край Беларускі.

4. Для зрэалізаваньня мэт, у п.2 азначаных, Хрысьціянская Дэмократычная Злучнасьць:

А. Шырыць асьвету: праз сабраньні, гурткі, расправы; праз закладаньне курсаў, асьветных гурткоў, бібліотэк, чытаньняў і т. п.

В. Шырыць працу рэлігійна-маральную: паглыбляючы і ажыўляючы жыцьцё этычнае і рэлігійнае праз набажэнствы, казаньні, сходы, кружкі

С. Вядзе працу грамадзянскую: праз выязды на абгляд чужых краяў і цікавых месцаў у сваім краю, праз хоры і тэатры.

Д. Працу эканамічную: закладаючы новыя або ўмацоўваючы старыя суполкі, як напр. коапэратывы (хаўрусныя крамы), прачкарні, варштаты і т. п.; закладаючы касы ўзаемнай помачы, касы пажы-чковыя, касы зборнасьці, пахаронныя; закладаючы бюра працы, бюра адвакацкай і доктарскай помачы, закладаючы ахронкі, прытулкі і т. п."

Сябрам ХДЗ мог быць кожны хрысціянін, які прызнаваў Статут і "стараўся гэтую ўставу ўвясці ў жыцьцё".

## Праграма ХДЗБ: 1920

Праграма ХДЗБ складалася з шасці раздзелаў:

1. Агульныя прынцыпы. 2. Хрысціянская дэмакратыя і рэлігія. 3. Сям’я і школа. 4. Уласнасць. 5. Праца. 6. Народ і гаспадарства.

Працытуем найважнейшыя пункты Праграмы ХДЗБ:

- Хрысьціянская Дэмократыя ёсьць грамадзянская сувязь, што хоча завесьці лад на сьвеце на аснове хрысьціянскай дэмократычнай справядлівасьці, роўнасьці, міласьці і свабоды.

- Каб культ рэлігійны можна было спраўляць свабодна.

- Каб права не гвалціло перакананьняў рэлігійных і абычаяў сям’і каталіцкай.

- Увясьці паўсюднае пачатковае навучаньне ў роднай мове, не ўстанаўляючы абавязку вучыцца ў школах урадавых.

- Зраўняць школы прыватные хрысьціянскіе са школамі урадовымі ў правах і дапамогах грашавых.

- Хрысьціянская Дэмакратыя прызнае, што прыватная уласнасьць ёсьць падставай цывілізацыйнага поступу грамадзянства… Уласнасьць прыватная, даючы не толькі правы, але і накладаючы абавязкі грамадзянскія, памагае да выпрабленьня ў людзях ініцыятывы і самадзельнасьці.

- Каб была падзелена казённая зямля паміж безьзямельнымі і малазямельнымі з мэтай стварэньня малой уласнасьці.

- Каб работнік меў запамогу тады. Калі ня мае працы, або ня можа працаваць па хваробе і старасьці.

- Каб праведзено вольнасьць слова, друку і сувязей, але з тым, каб кожны адказваў перад судом за шкадлівую для грамадзянства ці каго-небудзь работу, агітацыю – а такжа прэсу.

- Каб усе, каторыя знаходзяцца на службе публічнай, адказвалі перад судом.

- Увядзеньне самаўраду гміннага і правінцыяльнага.

- Што датычыць Айчыны сваёй – Беларусі – ХДЗ жадае, каб яна была цэлай, непадзельнай і вольнай.

## Першыя выбары ў польскі Сейм. 1922

У сакавіку 1921 года ў Рызе быў падпісаны мір паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Беларусаў на перамовы не запрасілі – і ў выніку Беларусь аказалася падзеленай напалам. Усходняя частка краіны

засталася пад уладай бальшавікоў – і любая грамадзянская, рэлігійная праца пачала там згортвацца пад страхам рэпрэсіяў, а заходняя (на захад ад Бягомля, Слуцку, Лельчыцаў) апынулася ў складзе Польскай дзяржавы, і тут беларусам давялося зазнаць нацыянальны ўціск.

У выніку далейшая дзейнасць БХД амаль цалкам працякала ў Заходняй Беларусі – і мела сваёй задачаю як супрацьстаянне бальшавіцкай прапагандзе з Усходу, так і трыванне ціску з боку польскага дзяржаўнага ды касцёльнага апарату.

Першыя рэпрэсіі супраць сябраў БХД адзначаюцца ўжо ў чэрвені 1921 году: польскія ўлады беспадстаўна арыштавалі і змясцілі ў Лукішскі астрог найактыўнейшага ксяндза-беларуса, які працаваў на Віленшчыне – Міхала Пятроўскага, пробашча парафіі ў Барунах, як быццам за спробу дзяржаўнага перавароту. Заступніцтва беларускіх арганізацыяў і віленскіх дзеячаў прымусіла жандараў перавесці ксяндза Міхала на хатні арышт – але працаваць яму так і не дазволілі. Гэтаксама пад хатні арышт быў змешчаны Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк). Напрыканцы 1921-га і на пачатку 1922-га улады спрабавалі задушыць "Крыніцу" – пад ціскам рэдактар Уладзіслаў Грыневіч адмовіўся ад выдання, і толькі ахвярнасць і настойлівасць хадэкаў дазволіла газэце, якую зачынялі і канфіскоўвалі па некалькі разоў на год, уваскрасаць зноў і зноў.

Віленшчына, занятая польскімі легіёнамі генерала Жалігоўскага, нібыта павінная была вызначыць свой лёс і прыналежнасць сама, на адпаведным Сейме – але, паколькі польская ўлада не стварыла роўных умоваў меншым нацыям і вяла справу да прызнання Віленшчыны польскай – беларусы гэты Сейм напачатку 1922-га году байкатавалі.

Разам з тым, БХД вырашыла ўдзельнічаць у выбарах у Польскі Сейм увосені 1922 году.

Беларусы ішлі на гэтыя выбары супольным фронтам – сацыялісты, хадэкі, беспартыйныя дамовіліся на прынцыпах агульнай згоды. Каардынаваў сумесную працу Беларускі цэнтральны выбарны камітэт у Вільні. Пра ролю і ўплыў БХД кажа той факт, што з 38 чальцоў камітэта 12 былі хрысціянскімі дэмакратамі.

Агулам беларусы атрымалі 11 пасольскіх мандатаў і 3 сенатарскіх. З хрысціянскіх дэмакратаў падчас гэтых выбараў дэпутатам Сейму быў абраны ксёндз Адам Станкевіч, які прайшоў па акрузе Дзісна, Паставы, Браслаў, Свянцяны. Сярод выбраных сенатараў апынуліся

будучыя прыхільнікі БХД праваслаўныя Вячаслаў Багдановіч і Аляксей Назарэўскі.

## Каталікі і праваслаўныя

Такім чынам, асноўную працу ў стварэнні беларускай хрысціянскай дэмакратыі правялі рыма-каталікі, прычым ядро БХД склалі непасрэдна ксяндзы.

Прычына тут у тым, што праваслаўная плынь хадэцыі аказалася пад бальшавіцкай акупацыяй – і многія беларускія праваслаўныя святары – носьбіты агульнахрысціянскай адкрытасці й дэмакратызму – былі проста фізічна вынішчаныя Саветамі.

Так, яшчэ ў чэрвені 1917 года ў Маскве адбыўся з’езд беларускага праваслаўнага духавенства, у якім брала ўдзел каля 700 (!) святароў. Пры гэтым з’езд прыняў рашэнне дамагацца аўтаноміі Беларусі ў федэратыўнай дэмакратычнай расейскай рэспубліцы і навучання ў школах па-беларуску.

Калі мы супаставім гэты з’езд з гістарычным паседжаннем беларускага каталіцкага духавенства ў Менску 24-25 траўня 1917-га – дык убачым, што і каталікі, і праваслаўныя рушылі адной дарогай: патрабаванні супадалі амаль даслоўна. Пры гэтым праваслаўных святароў было на парадак больш, чым іх братоў-каталікоў. Але трагедыя праваслаўя была ў тым, што яно пасля Рыжскай дамовы апынулася ў крывавых жорнах савецкага атэізму.

Рэхам чэрвеньскага з’езду 1917 года была і спроба стварыць ува Ўсходняй Беларусі 1920-х Беларускую аўтакефальную царкву на чале з мітрапалітам Мельхісэдэкам – але пасля масавых арыштаў, судоў і расстрэлаў гэтая мара беларускага праваслаўя была пахаваная.

Але чым глыбей хрысціянская дэмакратыя пранікала ў масу беларускага народу ў Заходняй Беларусі (збольшага праваслаўнага), тым большую ролю ў БХД пачалі адыгрываць і грэка-каталікі, і свецкія вернікі, і, нарэшце, уласна праваслаўныя.

## Асобы



**Айцец Фабіян Абрантовіч**. 14.9.1884-2.1.1946. Стваральнік Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці ў Петраградзе, святар, родам з Наваградчыны, моцны арганізатар. Архімандрыт. Ідэолаг ХДЗ. Падрыхтаваў гістарычны з’езд 1917 года ў Менску. Разам з біскупам

Зыгмунтам Лазінскім стварыў духоўную семінарыю ў Менску, якая пасля Рыжскага міру перабралася ў Пінск і дзейнічае дасёння. Адзін з першых пачаў казані па-беларуску ў Менску (Чырвоны касцёл, 1917). Захоплены камуністамі ў 1939-ым, зазнаў катаванні і быў замучаны ў турме ў Маскве.



**Вінцэнт Гадлеўскі**. 16.11.1888-24.12.1942. Адзін з нязломных лідараў БХД. У парафіі Жодзішкі загітаваў некалькі тысячаў беларусаў выступіць супраць паланізацыі, за што быў арыштаваны і зняволены ў турме Лукішкі. Працаваў у Менску, Вільні, Нясвіжы. Удзельнік Рады БНР, сябра ЦК БХД, стваральнік "Беларускага Народнага Фронту". За немцамі беларусізаваў школы, ствараў антынацыстоўскае падполле і трымаў сувязь з заходнімі альянтамі. Быў выкрыты гестапаўцамі, арыштаваны ў ноч на Раство 1942 года і расстраляны ў Трасцянцы пад Менскам.



**Адам Станкевіч** – 6.1.1892-4.12.1949. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнік БХД, лідар беларускага руху у Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Святар, пісьменнік, аўтар 19 кнігаў і брашураў, кіраўнік ТБШ, Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. Знішчаны камуністамі ў ГУЛАГу.



**Уладзіслаў Талочка** – 18.2.1887-13.11.1942. "Міністр замежных справаў" БХД. Адзін з заснавальнікаў БХДЗ, доктар тэалогіі, валодаў некалькімі мовамі, перапісваўся з іерархамі, дыпламатамі, палітыкамі еўрапейскіх краінаў у беларускіх справах. Арганізатар прытулку "Золак" у Вільні.



**Вячаслаў Багдановіч** – 1878 - пасля 30.9.1939. Лідар праваслаўнага крыла БХД. Разам з Лукой Голадам, рэдактарам часопісу "Праваслаўная Беларусь", і святаром Аляксандрам Каўшом абаранялі незалежнасць беларускай царквы ад уладаў. Сенатар Польскага сейму. У чэрвені 1939 году быў змешчаны ў Картуз-Бярозаўскі канцлагер. Расстраляны НКВД у Вілейцы ў 1939-м.



**Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк**) – 19.2.1890-16.5.1926. Паэт і святар, заснавальнік сямі беларускіх школаў на Астравеччыне, аўтар шматлікіх хрысціянскіх вершаў і артыкулаў. Памёр ад сухотаў у траўні 1926 года, пахаваны ў Вільні на Росах.



**Язэп Германовіч (Вінцук Адважны)** – 4.3.1890-26.12.1978. Грэка-каталіцкі святар, адзін з заснавальнікаў БХД, паэт, публіцыст, сталы аўтар хадэцкіх медыяў. У 1932-гім быў накіраваны з місіяй у Харбін, выданы Саветам і адпраўлены ў ГУЛАГ. Вызвалены ў 1956-ым, выехаў у Польшчу і Лондан.

## Крыніцы:


1. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі: збор твораў. – Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008.
2. Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага запавету кананічныя ў беларускім перакладзе. World Wide Printing, Duncanville, USA, 2002.
3. Kryniсa. 1917. № 1
4. Kryniсa. 1917. № 5
5. Kryniсa. 1918. № 3
6. Kryniсa. 1922. № 1
7. http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-kataliki/svyatyni-belarusi-4astka-1.html
8. Bielaruski Kalendar na 1918 h. Bac. 28

## Глава 5
# РОСКВІТ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ 1926 – 1935

## Прычыны поспеху БХД

У сярэдзіне 1920-х гадоў хрысціянска-дэмакратычны рух у Беларусі быў ужо выразна афармлены, меў арганізацыйнае ядро і ўласную прэсу. Разам з тым, раздзяленне Беларусі паміж Савецкім саюзам і Польшчай, бальшавіцкі тэрор ва Ўсходняй Беларусі і нацыянальны ды ўнутрыканфесійны ціск у Заходняй, пагрозы камунізму ды фашызму і раздрабненне беларускага незалежніцкага лагеру на мноства партыяў і групаў ставілі пытанне пра выжыванне БХД рубам. Беларускія хрысціянскія дэмакраты адказалі на выклікі і пагрозы годна ды вынікова: да 1930-х гадоў БХД сталася адзінай беларускай нацыянальнай партыяй, што пашырыла свае шэрагі – і пранесла бел-чырвона-белы сцяг Хрыста праз вялікія выпрабаванні паміж дзвюма сусветнымі войнамі.

Першай і галоўнай прычынай росквіту БХД, канечне, была яе вернасць хрысціянскім каштоўнасцям. І сама назва, і праграмы, і характар дзеянняў, і склад ставілі ў цэнтр палітыкі БХД Божыя пастановы і абарону чалавека ў евангельскім ключы. Шырокія колы беларускіх вернікаў-каталікоў, а затым і праваслаўных убачылі ў хадэцыі духоўнае, грамадскае, сацыяльнае і палітычнае апірышча.

Па-другое, БХД цвёрда трымалася ідэалаў БНР. Ідэю незалежнасці Беларусі хрысціянскія дэмакраты не прамянялі ані на ўгодніцтва з польскім урадам, што праводзіў паланізацыю “крэсаў”, ані на прапаганду “уз’яднання” з Савецкай Беларуссю, дзе часова ішла беларусізацыя, але душылі гаспадара і верніка. У выніку менавіта БХД ў міжваенны час узяла на сябе і задачу адстойвання ідэі беларускай незалежнасці, і арганізацыю штогадовых святкаванняў 25 сакавіка.

Па-трэцяе, БХД прадстаўлялі яркія асобы. Найперш гэта, безумоўна, святары – Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Уладзіслаў Талочка, Фабіян Абрантовіч, Язэп Германовіч і іншыя выбітныя пастыры, літаратары, арганізатары ды проста абаяльныя, моцныя людзі, кожны з якіх – легенда беларускага руху. Акрамя таго, хадэцыі

ўдалося заангажаваць цэлы пласт вядомых прафесіяналаў – музыку Паўла Карузу, доктара медыцыны Баляслава Грабінскага, псіханеўролага Станіслава Грынкевіча, юрыста Віктара Ярмалковіча, агранома Адольфа Клімовіча ды шэраг іншых. Такім чынам, БХД стала жывой ілюстрацыяй да вядомага хадэцкага прынцыпу персаналізму.

Па-чацвёртае, міжканфесійны характар. БХД не замкнулася ва ўтульнай каталіцкай клерыкальнай нішы, а рашуча пайшла да супрацы з праваслаўнымі. Уключэнне ў склад кіраўніцтва праваслаўных, стратэгічны хаўрус з Праваслаўным Беларускім Дэмакратычным Аб'яднаннем, пашырэнне праграмных тэзаў і нават вызначэнняў ("Касцёл/Царква"), супольныя праекты з ТБШ, дзе актыўна дзейнічалі метадысты, а таксама адсутнасць канфесійнай нецярпімасці зрабілі БХД пляцоўкай для супрацы ўсіх хрысціянаў Заходняй Беларусі.

Нарэшце, выразным складнікам агульнага поспеху БХД стала народніцтва, альбо, як сфармулявалі яго ў Заходняй Еўропе, папулярызм – імкненне бачыць грамадства ў яго цэласці і адпавядаць інтарэсам як мага больш шырокіх колаў народу. Адсюль і вызначэнне партыі як пераважна сялянскай, і масавая праца ў гаспадарчым, культурніцкім, дабрачынным кірунках.

Калі б не "санацыя", бальшавіцкая акупацыя ды вайна – БХД мела ўсе шанцы ператварыцца ў аналаг нямецкай ХДС-ХСС – масавую папулярную партыю, здольную узяць уладу ў краіне.

## Эвалюцыя праграмы БХД

Першая праграма Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці, зацверджаная яшчэ ў 1920 годзе, уяўляла сабой хутчэй накід, дэкларацыю, выкладзеную на некалькіх старонках. Але ўжо ў 1926-ым, у выніку шматмесяцовага абмеркавання ў "Крыніцы", партыйнае кіраўніцтва рыхтуе абноўленую, грунтоўную праграму, якая разгортвае перад намі панараму развіцця ўсяго беларускага хадэцкага руху і дае адказы на большасць вострых пытанняў часу.

"У самым першым пункце абвяшчалася імкненне БХД да незалежнасці беларускага народу, аб'яднанага ў незалежную дэмакратычную рэспубліку. Гаварылася, што партыя ідзе да сваіх мэтаў эвалюцыйным шляхам, найперш праз развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Далей фактычна ішоў пералік пераўтва-

рэнняў, неабходных для стварэння незалежнай дэмакратычнай краіны: пашырэнне паўнамоцтваў самакіраванняў, дэмакратызацыя суду, незалежная нацыянальная сістэма адукацыі, сацыяльнае заканадаўства і г.д", піша часопіс "Спадчына".

Ключавым, аднак, на той момант, было зямельнае пытанне: беларускія сяляне стагналі, маючы мала зямлі, а памешчыцкія альбо асадніцкія землі, што займалі агромністыя абшары, часцяком не ўрабляліся. Лідары БХД, найперш ксёндз Адам Станкевіч, настаялі на рашучым патрабаванні перадаць малазямельным альбо беззямельным сялянам зямлю бяз выкупу. Крытыкі (напрыклад, айцец Фабіян Абрантовіч) лічылі гэта ламаннем права прыватнай уласнасці і нават патураннем сацыялізму – але большасць дэлегатаў З'езду 1926 года падтрымала Станкевіча. Справа ў тым, што вясковыя ксяндзы альбо сяляне, якія складалі ядро актыву БХД, разумелі: без зямлі сяляне-беларусы асуджаныя на рабскую працу ў польскага пана ці расейскага камуніста, і толькі стварэнне масавага прыватнага ўласніка дасць падмурак для эканамічнага уздыму і незалежнасці Беларусі.

Праграма БХД 1926 года прадугледжвала:

- Вядучую ролю мясцовага самакіравання – ва ўласнасць самаўрадаў прапаноўвалася перадаваць нават лясы, воды і нетры, самаўрад жа вызначаў і правілы зямельнай рэформы.
- Незалежнасць судоў, найперш праз суды прысяжных і міравых суддзяў
- Абавязковае і бясплатнае навучанне на роднай мове
- Свабоду веры; поўную беларусізацыю Касцёла/Царквы
- Забарону смяротнай кары
- Вырашэнне справаў сям'і на аснове хрысціянскай маральнасці
- Хутарскія гаспадаркі і крэдыты дзеля іх закладання
- Скасаванне асадніцтва
- 8-гадзінны працоўны дзень
- Адзіны прагрэсіўны падатак
- Шырокую кааперацыю
- Правы рабочых, нямоглых і пацярпелых ад вайны

З невялікімі зменамі на наступных з'ездах, менавіта гэтая праграма БХД сталася падмуркам для разгортвання і развіцця хрысціянска-дэмакратычнага руху на дзесяцігоддзе – ў пару ягонага росквіту.

## Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры

У чэрвені 1926 года кіраўніцтва БХД і Беларускага Студэнцкага Саюза (які фактычна быў маладзёвым крылом БХД) прынялі рашэнне заснаваць Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (БІГіК). Інстытут разглядаўся як база для эканамічнай, дабрачыннай і культурніцкай дзейнасці найперш у гушчыні беларускага народа. Штаб-кватэра БІГіК размясцілася ў Вільні, непадалёк ад Вострай брамы. У кіраўніцтва увайшлі Адам Більдзюкевіч (старшыня), Фабіян Ярэміч, Альбін Стэповіч, Баляслаў Грабінскі, Аляксей Назарэўскі, Адам Станкевіч, Ян Пазьняк ды іншыя.

Ужо за першы месяц працы БІГіК адчыніў 22 беларускія бібліятэкі па ўсёй Заходняй Беларусі і атрымаў канцэсіі на адкрыццё 6 беларускіх школаў (праўда, удалося адчыніць толькі адну – у вёсцы Шаўляны Браслаўскага павету, стварэнне астатніх польскія ўлады з розных нагодаў забаранілі). У 1927-ым пачаліся бухгалтарска-каапаратыўныя курсы, якія скончылі 29 асобаў. Таксама ўвесну 1927-га беларусы ЗША ахвяравалі БІГіК сродкі на стыпендыі беларускай моладзі, якая хацела б навучацца ў Амерыцы. Інстытут пачаў выдавецкую працу (усяго да 1935 г было выдадзена 15 кнігаў) і наладзіў шырокую сетку распаўсюду літаратуры.

БІГіК заснаваў у Вільні Беларускі прамыслова-аграрны каапаратыўны банк, пабудаваў ў Мядзведзічах Ляхавіцкага раёну Беларускі дом (планавалася цэлая сетка такіх дамоў па ўсёй Беларусі), намагаўся арганізаваць беларускі тэатр – і, калі ўлады забаранілі яго адчыняць, зладзіў дзясяткі тэатральных пастановак на месцах.

У 1930 годзе ў БІГіК налічвалася 56 гуртkoў і каля 700 сяброў, у 1934 – больш 80 гурткоў з 1200 сябрамі (пераважна вернікамі-каталікамі).

Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі і прасавецкая Грамада, раздражнёныя уплывовасцю БІГіК, ладзілі правакацыі супраць Інстытуту: інфільтравалі ў гурткі сваіх агентаў, перадавалі праз структуры і памяшканні БІГіК падрыўную літаратуру – і польскія ўлады хутка зачынялі філію.

Урэшце, у 1936 годзе санацыйны рэжым наогул забараніў БІГіК – з фармулёўкай : “за сеянне неспакою і ўзбуджэнне грамадскага незадавальнення”.

## З’езды і кіраўніцтва БХД

У самы плённы перыяд дзейнасці Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя правяла фактычна чатыры з’езды: у 1926, 1927, 1928 і 1931 гадах.

У лістападзе 1926 года большасць лідараў Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці – 45 чалавек – сабраліся ў Вільні на святкаванне 10-годдзя партыйнай газеты – “Беларускай Крыніцы”. Былі прадстаўнікі ад Віленскага, Браслаўскага, Дзісенскага, Вялейскага, Ашмянскага, Лідскага, Баранавіцкага, Наваградскага, Ваўкавыскага, Косаўскага, Беластоцкага, Сакольскага паветаў. Гэты сход меў усе прыкметы з’езда, бо разглядаў пытанні партыйнай дзейнасці, зацвярджаў новае кіраўніцтва БХД і замацоўваў назву “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”. Менавіта на гэтай сустрэчы было вырашана сабраць праз год новы, 4-ты партыйны з’езд (адпаведна, пасля менскага 1917 г., піцерскага 1918 г. і віленскага 1926 г.).

У выніку з’езду 1926 года, такім чынам, у склад Цэнтральнага камітэту ўвайшлі дзевяць чалавек: кампазітар Павал Каруза (старшыня), ксёндз Адам Станкевіч (намеснік старшыні), выдавец і эканаміст Альбін Стэповіч (сакратар), медык Язэп Жук (намеснік сакратара), доктар медыцыны Баляслаў Грабінскі, студэнт Station Станіслаў Станкевіч (скарбнік), выдавец Якім Красоўскі, культурны дзеяч Янка Пазьняк і ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі (Biełaruskaja Krynica, № 38, 29 кастрычніка 1926 года). У склад кіраўніцтва БХД таксама ўпершыню быў уключаны адзін праваслаўны – Якім Красоўскі.

6 лістапада 1927 года у Вільні сабралася 129 дэлегатаў і каля 50 гасцей – найвялікшы сход за ўсю гісторыю міжваеннай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. З’езд прыняў абноўленую праграму БХД (яе выдалі пазней асобнай брашурай), зацвердзіў склад ЦК БХД – 9 асобаў і двох заступнікаў.

У склад ЦК ўвайшлі Павел Каруза, Янка Пазьняк, Альбін Стэповіч, публіцыст Янка Шутовіч, Я.Ушакевіч, ксёндз-дэпутат польскага Сойму Адам Станкевіч, Я.Яковіч, літаратар Мікола Дварэцкі, Баляслаў Грабінскі, Якім Красоўскі і Язэп Жук. Таксама была абраная і рэвізійная камісія партыі ў складзе Станіслава Станкевіча, В.Малея, М.Аўрыцэвіча, А.Лукашэвіча. Трое з вышэй пералічаных асобаў былі праваслаўнага веравызнання (Biełaruskaja Krynica, № 47, 18 лістапада 1927 года).

Менавіта гэты з'езд знакаваў пераход БХД ад канфесійнай каталіцкай да міжканфесійнай агульнахрысціянскай партыі. 6 лістапада можна лічыць днём нараджэння той канцэпцыі беларускай хадэцыі, якая працуе і ў сучаснай БХД.

25 лістапада 1928 года там жа, у Вільні, прайшоў 5-ты з'езд БХД. З увагі на цяжкі матар'яльны стан людзей, лік дэлегатаў быў скарочаны – прысутнічала 72 дэлегаты з амаль усіх паветаў Заходняй Беларусі і 31 прыхільнік. Папраўленая, асабліва ў частцы зямельнай палітыкі, праграма была зноў перавыдана ў 1929-ым. Старшынём Прэзідыюму ЦК БХД быў абраны медык Ігнат Гагалінскі, яго наместнікам – Якім Красоўскі. Сакратаром стаў Янка Пазьняк, скарбнікам – Янка Шутовіч, а заступнікам сакратара – Мікалай Дварэцкі. "Таксама ў склад ЦК увайшлі ў якасці сяброў кс.Адам Станкевіч, паслы Павел Каруза і Альбін Стэповіч, Язэп Жук, кандыдатаў – кс. П.Татарыновіч і Галец. Дэпутаты Сойму Каруза і Стэповіч, якія раней уваходзілі ў склад прэзідыюму, ад уваходу ў новы прэзідыюм адмовіліся, "матывуючы гэта перашкодамі, зьвязанымі з выпаўненьнем пасольскіх абавязкаў". У Рэвізійную камісію былі абраныя Баляслаў Грабінскі (старшыня), кс.Вінцэнт Гадлеўскі і А.Вашковіч, кандыдатам — студэнт Я.Ушакевіч". (Biełaruskaja Krynica, № 54, 30 лістапада 1928 года).

Нарэшце, 13 снежня 1931 года адбыўся 6-ты з'езд БХД, на які прыбыў 101 дэлегат, прычым як ад каталікоў, так і ад праваслаўных, і 24 госці. З'езд пашырыў праграму, дапоўніў статут і выбраў новы ЦК партыі – інжынер Адольф Клімовіч (старшыня), Якім Красоўскі (першы віцэ-старшыня), Мікалай Дварэцкі (другі віцэ-старшыня), доктар Станіслаў Грынкевіч, Я.Чарнэцкі, В.Ярмалковіч, Я.Шутовіч (скарбнік), В.Таўкінь, Б.Бабарыка, рэдактар Я.Пазьняк (сакратар) і А.Сянкевіч. У Рэвізійную камісію былі абраныя выдавец Язэп Найдзюк, актор Аляксандр Яцына, рэдактар В.Васілеўскі і студэнт Язэп Малецкі. Адзначым, што абодва наместнікі старшыні прэзідыюму ЦК БХД былі праваслаўнымі (Беларуская Крыніца, № 41, 17 снежня 1931 года).

## БХД і Праваслаўнае Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднанне

Адной з ключавых прычынаў шырокага разгортвання хадэцыі і плёну ў працы БХД было тое, што партыя не стала засяроджвацца

на вузкаканфесійнай платформе, а пайшла насустрач агульнахрысціянскаму адзінству.

Гэтаму спрыяла стварэнне ў 1927 годзе Праваслаўнага Беларускага Дэмакратычнага Аб’яднання – партыі, якая спрабавала паўтарыць поспех “каталіцкай” БХДЗ, але хутка сутыкнулася з рэакцыяй польскіх ды расейскіх шавіністычных колаў.

Ядро ПБДА гуртавалася вакол сенатара Вячаслава Багдановіча, пасла Сейма Аляксея Назарэўскага, выдаўца газеты “Праваслаўная Беларусь” Лукаша Голада ды віленскага святара Аляксандра Каўша. ПБДА выступала за беларускую мову ў казаннях і школах, супрацьстаяла і паланізацыі, і бальшавіцкаму “абнаўленству”, і расейскім манархічным колам, то бок свядома адстойвала шматсотгадовую ефрасіннеўскую традыцыю адкрытага, народнага, цярпімага і творчага беларускага праваслаўя.

Лідары ПБДА, атакаваныя з усіх бакоў, хутка зразумелі, што адзіным і натуральным хаўруснікам дэмакратычна настроеных праваслаўных святароў і вернікаў ёсць БХД. ПБДА фактычна стала праваслаўным крылом БХД, а Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя займела шырокі выхад да сялянаў і мяшчанаў, што спавядалі праваслаўе.

## Выдавецкая дзейнасць БХД і партыйная прэса

Канец 1920-х – пачатак 1930-х гадоў быў і часам росквіту хадэцкай прэсы. БХД набыла сучаснае абсталяванне для друку, заснавала друкарню імя Францішка Скарыны – і разгарнула цэлую медыястратэгію.

Галоўным выданнем БХД заставалася штотыднёвая “Беларуская крыніца”. За 1923-34 гг выйшла 512 нумароў, накладамі ад 1000 да 10 тыс. асобнікаў – з улікам вялізнай колькасці нумароў, сканфіскаваных польскімі ўладамі.

“Хрысціянская думка”, пачатая з 6 студзеня 1928 г., выходзіла то два разы на месяц, то штомесяцова, і друкавала больш грунтоўныя матар’ялы, аналітыку, духоўныя ды культурніцкія развагі. Тут публікаваліся Язэп Германовіч, Дамінік Аніська, Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Галляш Леўчык, Мар’ян Пецюкевіч ды іншыя. Менавіта ў “Хрысціянскай думцы” лацінкай была надрукаваная і знакамітая кніга ксяндза Станкевіча “Родная мова ў святынях”.

“Шлях моладзі” – фактычна, маладзёвы часопіс БХД, быў адным з найпапулярнейшых маладзёвых выданняў у Заходняй Беларусі. Пачаў выдавацца штомесяц ў 1929 – і выходзіў да 1939-га. Рэдактарамі яго былі Мар’ян Пецюкевіч, Язэп Найдзюк, Янка Шутовіч. Друкаваў гістарычныя працы Адама Станкевіча, Найдзюка, вершы Вінцука Адважнага, інфармацыю пра дзейнасць БІГіК, беларускія пілігрымкі.

Акрамя гэтага, хадэкі рэдагавалі знакамітую віленскую “Студэнцкую думку”, выданне Беларускага Студэнцкага Саюзу – гэта рабілі Янка Шутовіч і Ігнат Гагалінскі.

Аграном Адольф Клімовіч, старшыня ЦК БХД у 1931-35 гадах, выдаваў сельскагаспадарчы часопіс “Самапомач”, чытачамі якога былі найперш сяляне-гаспадары.

Таксама беларускія хрысціянскія дэмакраты (Янка Пазьняк) рэдагавалі і “Wiadomosci Bialoruskie”. – выданне Беларускага Нацыянальнага Камітэту, дзе рэй вяла БХД, і фармавалі беларускую частку часопіса “Natio”, які выходзіў у 1927 годзе на ангельскай, французскай, нямецкай і польскай мовах для інфармавання міжнароднай супольнасці аб стане нацыянальных меншасцяў у Польшчы.

У хадэцкай друкарні імя Францішка Скарыны за час яе існавання было надрукавана прынамсі 146 (!) найменняў хрысціянскіх і беларускіх кнігаў.

## БХД у беларускім руху

У другой палове 1920-ых - 1930-ых гадах менавіта Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя сталася асновай беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. “Левыя”, сацыялістычныя арганізацыі, якія вялі рэй у беларускім палітычным працэсе напачатку – альбо падпалі пад савецкі ўплыў, альбо былі расцярушаныя польскай рэакцыяй, альбо страцілі народную падтрымку. “Правыя” (паланафілы, потым нацыянал-сацыялісты) – ці пайшлі на ўгоду з “правым” польскім урадам, ці выбралі арыентырам фашыстоўскую Нямеччыну. У выніку БХД апынулася адзінай палітычнай сілай, якая не ішла на альянс ані з “санацыяй”, ані з камуністамі, ані з нацыстамі, і абапіралася выключна на беларускі народ.

Партыю крытыкавалі і злева, і справа, пераследвалі штрафамі ды канфіскацыямі, арыштамі, забаронамі ўлады, у тым ліку касцёльныя – але БХД упарта трымалася свайго, і ў пачатку 1930-х гадоў гэта пачало даваць плён. Беларуская інтэлігенцыя, шырокае сялянства, фабрычныя работнікі, студэнцтва пачалі ўлівацца ў БХД. Галоўныя каардынацыйныя структуры беларускага руху прынялі вядучую ролю хадэцыі, а ўчорашнія ворагі – сацыялісты, камуністы, прапольскія "угадоўцы" – пачалі спярша шукаць альянсу з БХД, а потым атакаваць хадэкаў як найпершых супраціўнікаў.

Найвялікшай пагрозай для беларускага руху была пракамуністычная лявіца – Грамада і КПЗБ. Пакідаючы ўбаку беларускія нацыянальныя інтарэсы і дбаючы найперш пра сацыяльную рэвалюцыю ў духу марксізма, "левыя" прапагандавалі БССР як мадэль сапраўднай беларускай дзяржавы і вялі барацьбу з палякамі шырокім фронтам: ад прапаганды да тэрору.

У 1925 годзе Браніслаў Тарашкевіч з групай паслоў заклаў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, якая, атрымаўшы савецкія фінансы (на "сусветную рэвалюцыю", вядома) разгарнула масавую агітацыю сялянства за бальшавіцкую мадэль. Да Грамады далучаліся дзясяткі тысячаў беларусаў, і пагроза камуністычнага паўстання прымусіла перапалоханыя польскія ўлады Грамаду разграміць: сотні актывістаў ды агітатараў былі арыштаваныя ды кінутыя за краты.

Тагачасныя польскія улады, у сваю чаргу, імкнуліся кантраляваць беларускі рух праз "угадоўцаў"(ад слова "угода", дамова). Беларусы-"угадоўцы", ня маючы трывалай ідэйнай платформы, перад кожнымі выбарамі ў польскі Сейм стваралі "агульна-беларускія"структуры, выбарчыя спісы, выдавалі беларускамоўныя газеты. Пазіцыя БХД у дачыненні да такіх падтрыманых тагачасным урадам праектаў была прынцыповай: інтарэсы народу не здаваць, антыбеларускай палітыкі не падтрымліваць. Урэшце, у сярэдзіне 1930-ых "угадоўскі" лагер разваліўся.

БХД дала беларускаму руху 1920-30-ых гадоў трывалую апору сярод варожых сілаў, пераемнасць традыцыяў БНР, беларусізацыю Касцёла ды часткі праваслаўнай царквы, плынь беларускамоўнай прэсы, паўтары сотні выдадзеных кнігаў, падручнікаў ды брашураў па-беларуску, арганізаваныя бібліятэкі, школы і гаспадарчыя гурткі, а таксама цэлае сузор'е яркіх асобаў.

Феномен БХД 1920-30-х – эфектыўная мадэль развіцця і пашырэння нацыянальнага руху ў цяжкіх гістарычных варунках, надзённая і сёння.

## Міжнародная дзейнасць БХД у 1926-35 гг.

Замежная актыўнасць БХД часоў росквіту характарызуецца выразнай асаблівасцю: хадэкі не столькі прасоўвалі дыпламатычнымі высілкамі партыйныя інтарэсы, колькі адстойвалі інтарэсы уціскананага і падзеленага беларускага народа. Гэтага вымагала адказнасць галоўнай незалежніцкай партыі ў 1920-30-х.

Пачынаючы ад заснавання, своеасаблівым міжнародным сакратаром БХД быў ксёндз Уладзіслаў Талочка. Ён складаў мемарандумы, лісты, выязджаў на канферэнцыі, вёў перапіску.

Паколькі БХД пачыналі ксяндзы, спярша ключавым адрасатам лістоў БХД быў Ватыкан: так удавалася забяспечваць месца беларускай мовы ў Касцёле, абараняць пераследваных і ўплываць на палітыку урадаў каталіцкіх суседзяў-дзяржаваў – найперш Польшчы і Літвы - у дачыненні да беларусаў.

Затым, праз часопіс "Natio" і дзейнасць у далейшых краінах хадэкі спрабавалі ставіць беларускае пытанне на парадак дня еўрапейскай і сусветнай палітыкі. Гэтак у Празе дзейнічаў Адольф Клімовіч, У ЗША – прафэсар Ян Тарасевіч, Янка Чарапук, у Літве Вацлаў Ластоўскі, які меў дакуманты ад Адама Станкевіча. Дыпламаты Францыі, Нямеччыны, Ангельшчыны атрымоўвалі рэгулярную інфармацыю пра стан беларускіх справаў ў вялікай ступені дзякуючы БХД і Беларускаму Нацыянальнаму камітэту.

## Асобы



**Мікалай Дварэцкі** – 6.9.1903-15.8.1988. Віцэ-старшыня БХД, адзін з кіраўнікоў БІГіК, настаўнік, праваслаўны.



**Станіслаў Грынкевіч** – 2.12.1902-25.7.1945. Доктар-псіханеўролаг, у 1931-1936 віцэ-старшыня ЦК БХД. Аўтар навукова-папулярных працаў па медыцыне і гігіене, з лекцыямі ездзіў па заходнебеларускіх мястэчках і вёсках.

Браў удзел у нацыянальным падполлі. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў лістападзе 1944г. Вывезены спачатку ў Мінск, потым у Магілёў, дзе і расстраляны.



**Адольф Клімовіч** – 20.4.1900-24.10.1970. Інжынер, аграном, старшыня ЦК БХД у 1931-36 гадах. Выдаваў часопіс для сялянаў-гаспадароў "Самапомач". Адзін з кіраўнікоў БІГіК. Вязень ГУЛАГа. Паставіў сімвалічны помнік Адаму Станкевічу на могілках у Арлянятах.



**Віктар Шутовіч** – 27.10.1890-1.3.1960. Заснавальнік беларускай школы ў Барадзенічах, пробашч касцёлаў там жа, Чырвонага ў Менску, пасля ГУЛАГу – падпольнай парафіі ў Барысаве. Пахаваны ў Барысаве.



**Янка Шутовіч** – 24.1.1904-9.12.1973. Пляменнік кс. Віктара Шутовіча. Літаратуразнаўца, выдавец, перакладчык, рэдактар, публіцыст. Сябра ЦК БХД, скарбнік партыі.



**Павел Каруза** – 25.2.1906-20.2.1988. Кампазітар, збіральнік беларускага фальклору. У 1926-28 гадах – старшыня ЦК БХД, пасол польскага Сейму. Быў падманам вывезены ў БССР, дзе арыштаваны і адпраўлены ў лагер. Двойчы прайшоў ГУЛАГ. Пахаваны ў Вільні.

## Крыніцы:


1. Эвалюцыя Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў святле яе палітычных праграм // С*надчына*. - №1. – 2006.
2. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008.
3. Эдуард Мазько. Дзейнасць Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў 1926-1935 гадах. – Гродна, ГрДУ, 2001.
4. Biełaruskaja Krynica, № 38, 29 кастрычніка 1926 года
5. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры – Вікіпедыя
6. http://bchd.info/9083-iranicta-hryciyanih-demarata-belarui-mizhaenny-peryyad.html
7. Biełaruskaja Krynica, № 47, 18 лістапада 1927 года
8. А.Ф. Вашкевіч: http://www.mestechki.info/conference/3va6.htm
9. Biełaruskaja Krynica, № 54, 30 лістапада 1928 года
10. http://www.slounik.org/146850.html

Глава 6

# БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ АБ'ЯДНАННЕ І БЕЛАРУСКІ ФРОНТ. КРЫЖ БХД.

## Крыжовы шлях БХД

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя міжваеннага часу дзейнічала ва ўмовах незвычайнага ціску і гвалту. Хрысціянскіх дэмакратаў імкнуліся знішчыць і санацыйныя ўлады, і камуністы, і нацысты. Эпоха змагання, росквіту і народнай падтрымкі БХД скончылася арыштамі, катаваннямі і расстрэламі хадэкаў. Следам за Ісусам Хрыстом, Які добраахвотна пайшоў на крыж дзеля збавення чалавецтва – хрысціянская дэмакратыя 1920-х - 1930-х гадоў ахвяравала сабой дзеля беларускага народу.

Ужо з пачатку 1920-ых нароўні з практыкай паланізацыі, нацыянальнага ціску і асадніцтва тагачасныя польскія ўлады праводзілі арышты беларускіх ксяндзоў перад выбарамі, канфіскацыі "Крыніцы", пазбаўлялі рэгістрацыі ды ліцэнзіяў беларускія хадэцкія установы. Міхал Пятроўскі, Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Канстанцін Стэповіч, Янка Пазьняк, Ян Шутовіч, Мікалай Дварэцкі і многія іншыя сябры БХД падвяргаліся цкаванню ды крымінальнаму пераследу, некаторым давялося адбываць турэмныя тэрміны паводле абвінавачання ў "супрацьдзяржаўнай дзейнасці".

Пасля таго, як у 1926 годзе Віленскі біскупскі пасад заняў шавіністычна настроены арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, узмацніўся і ціск праз касцёльныя структуры. Ксяндзы і клерыкі, якія лічылі ўсіх каталікоў Беларусі палякамі і не прызнавалі за беларусамі нацыянальных правоў, вялі няспынныя атакі на БХД. 10 снежня 1928 года Ялбжыкоўскі выдаў адмысловы загад, які забараняў ксяндзам належаць да БХД, а ўсім каталікам – чытаць "Беларускую Крыніцу". Ксяндзы-беларусы былі вымушаныя сысці з партыйных пасадаў, але працягвалі падтрымліваць БХД і пад псеўданімамі пісалі ў хадэцкую прэсу.

У 1934 годзе у Картуз-Бярозе быў створаны канцэнтрацыйны лагер для палітычных супраціўнікаў санацыйнага рэжыму. Прынамсі чацвёра сябраў БХД – Вячаслаў Багдановіч, Язэп Найдзюк, Віктар Ярмалковіч і Янка Шутовіч – трапілі сюды ў 1939-ым і зазналі здзекі ды катаванні.

У 1936 годзе польскія ўлады зачынілі БІГіК, затым, у 1937 годзе – і “Крыніцу”. У 1938 годзе быў забаронены Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Адначасова правакацыі, і часам крывавыя, ладзілі бальшавікі – сябры КПЗБ ды закінутыя на тэрыторыю Польшчы савецкія дыверсанты (Арлоўскі, Ваўпшасаў ды іншыя). Звычайнай практыкай для камуністычных актывістаў было далучацца да суполак БІГіК, пакідаць у хадэцкіх памяшканнях улёткі альбо партыйную прэсу ці ўчыняць скандалы – каб улады зачынялі гаспадарчыя ці культурніцкія ўстановы БХД.

Некаторых сяброў БХД, як, напрыклад, колішняга старшыню ЦК кампазітара Паўла Карузу, выманьвалі ў БССР, а затым, апрацаваўшы ў НКВД, прымушалі пісаць паклёпы.

На Захадзе набіраў сілу Гітлер. На Усходзе Сталін разгарнуў небывалы тэрор супраць уласнага народу. Падзел Чэхаславакіі, аншлюсы ды акупацыі памежных тэрыторыяў сведчылі: набліжаецца новая страшная вайна. І Беларусь ляжала паміж наймацнейшых драпежнікаў. Але і ў гэтых варунках беларускія хрысціянскія дэмакраты заставаліся адданымі Богу і свайму народу.

## Беларускае Народнае Аб’яднанне. 1936-1939

З канца 1934 году і праз увесь 1935 год на старонках галоўнай хадэцкай газеты – “Беларускай крыніцы” – вялася дыскусія: як рэагаваць на узрослыя пагрозы, як быць больш эфектыўнымі, як абнаўляцца. Спрэчкі разгарэліся вакол “меры палітыкі” і “меры культуры” у дзейнасці БХД, вакол “хрысціянскасці”, і, адпаведна, вакол назвы. Частка сяброў (як, напрыклад, ксёндз Уладзіслаў Талочка) настойвала на захаванні асноватворнага хрысціянскага характару партыі, частка выступала за чыста свецкую арганізацыю.

Урэшце, у студзені 1936 года БХД была ператвораная ў Беларускае Народнае Аб’яднанне, якое мыслілася шырокай пляцоўкай для з’яднання ўсіх нацыянальных сіл. Узначаліў БНА Цэнтральны камітэт, у які ўвайшлі Язэп Найдзюк, Адольф Клімовіч, Язэп Малецкі, Баляслаў Бабарыка-Гапановіч, Ян Чарнецкі, Мікола Казаровіч, Віктар Ярмалковіч, Янка Шутовіч, Янка Пазьняк (старшыня), Станіслаў Грынкевіч (першы віцэ-старшыня), Мікалай Дварэцкі (другі віцэ-старшыня). У праграме падкрэсліваўся свецкі характар партыі, з ранейшых ідэйных асноваў застаўся хіба параграф

16: “БНА за свабоду існавання рэлігіі і дзейнасці рэлігійных установ і за свабоду вызнавання рэлігіі”.

Аднак, замест узмацнення, з’яднання і пашырэння вынік абнаўлення ды “новага свецкага характару” быў адваротны. Частка хадэкаў, пераважна “старая гвардыя”, адышла ад актыўнай працы. Страціўшы забароненую “Крыніцу”, БНА не змагло наладзіць трывалы кантакт з гушчай народу – нерэгулярныя “камунікаты” не замянілі масавую газету.

Кансерватыўна настроеная частка хадэкаў на чале з Вінцэнтам Гадлеўскім, не пагадзіўшыся на рэарганізацыю ў БНА, адкалолася і стварыла сваю арганізацыю пад назвай “Беларускі Фронт”.

Адыграла сваю негатыўную ролю і прапанова камуністаў стварыць у Заходняй Беларусі агульны “Антыфашыстоўскі (чытай – антыпольскі) фронт” з мэтай супрацьву санацыі. БНА гэтую прапанову адхіліла, але ксёндз Адам Станкевіч пайшоў на дамову БІГіК з пракамуністычнай ТБШ – у выніку, гэта прывяло як да забароны Інстытуту, так і да адыходу з БНА непрымірымых антыкамуністаў.

На сённяшні час выглядае, што ініцыятары першапачатковай дыскусіі 1934-35 гг шукалі ад добрага яшчэ лепшага – але страцілі і адзінства, і моц першапачатковай хрысціянскай дэмакратыі.

## Як нацысты катавалі і знішчалі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў

З пачаткам вайны нацысты хутка акупавалі Беларусь і ўсталявалі свае парадкі. Адным з наступстваў акупацыі было адкрыццё цэркваў і касцёлаў, якія зачынялі камуністы. Але для беларускіх хадэкаў было відавочна: насамрэч адну бязбожную дыктатуру змяніла іншая, і ніякага “вызвалення” нацызм Беларусі не нясе. Сябры БХД-БНА працягвалі служыць свайму народу на сваіх месцах – хто святаром, хто доктарам, хто аграномам – але кожны з іх разумеў: цяпер служэнне, дапамога блізкаму і краіне будзе смяротна небяспечным, бо для Гітлера сама хрысціянская дэмакратыя як ідэя – выклік.

15 снежня 1941 хрысціянскі дэмакрат ксёндз Станіслаў Глякоўскі, які працаваў у Чырвоным касцёле Менску, быў арыштаваны паліцыяй на канферэнцыі беларускіх школьных інспектараў – за тое, што не выкінуў руку ў нацыстоўскім прывітанні ў адказ на “Хайль Гітлер!” Быў расстраляны разам з некалькімі клерыкамі.

У 1942 годзе адзін з заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці, ксёндз Ільдэфонс Бобіч (Пётра Просты) быў арыштаваны акупантамі ў Іўі, дзе ён працаваў пробашчам касцёла. Два гады Бобіч утрымліваўся ў турме, падарваў там здароўе, і неўзабаве пасля вызвалення ў 1944-ым (28 красавіка) памёр.

Тады ж, у 1942-ім у Докшыцах у выніку даносу быў забіты немцамі сябра ЦК БХД Альбін Сянкевіч.

4 ліпеня 1942 года ў сваёй рэзідэнцыі ў Альбярціне пад Слонімам быў арыштаваны адзін з духоўных лідараў хрысціянскіх дэмакратаў – Беларускі экзарх грэка-каталіцкай царквы айцец Антоній Неманцэвіч. СД дапытвала і катавала святара да тых пор, пакуль ён не памёр ад сардэчна-сасудзістай недастатковасці 6 студзеня 1943 года ў турме ў Менску.

24 снежня 1942 года, у ноч на Раство, гестапаўцы арыштавалі каля менскага Чырвонага касцёла аднаго з заснавальнікаў БХД ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, якога падазравалі ў сувязях з заходнімі саюзнікамі. Яго адвезлі ў Трасцянец і расстралялі.

18 лютага 1943 года падчас карнай аперацыі ў Росіцы нацысты і іх памагатыя знішчылі 1528 жыхароў, сярод іх і прыхільніка БХД ксяндза-марыяніна Юрыя Кашыру, які дабраахвотна застаўся ў вёсцы і пайшоў у вагонь са сваімі парафіянамі.

31 кастрычніка 1943 года проста на вуліцы Паставаў эсэсаўцамі быў застрэлены сябра БХД, старшыня Пастаўскага павету Адам Дасюкевіч, які абараняў жыхароў горада ад пабораў.

У 1943 годзе у Плешчаніцах быў закатаваны айцец Аляксандр Коўш, адзін з лідараў Праваслаўнага Беларускага Дэмакратычнага аб'яднання – за тое, што таемна хрысціў, вянчаў і хаваў ад гестапа тутэйшых габрэяў.

## Як камуністы катавалі і знішчалі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў

Першай ахвярай бальшавіцкага тэрору з ліку заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі быў ксёндз Міхаіл Буклярэвіч, пробашч касцёла ў Іказні Браслаўскага павету. 14 чэрвеня 1919 года на парафіяльным фэсце Цела й Крыві Хрыста ён узначаліў паўстанне супраць камуністычнай улады, якая наладзіла тэрор супраць жыхароў краю. Паўстанцам удалося вызваліць Іказнь, Слабодку, Мілашова, Мёры, Чэрасы, Ёды, Шаркаўшчыну,

Германавічы, але сілы былі няроўныя. Пасля разгрому паўстання 27 чэрвеня 1919 года ксёндз Буклярэвіч быў асуджаны на смерць і расстраляны.

29 снежня 1926 года ОГПУ арыштавала сябра БХДЗ ксяндза Язэпа Барадзюлю, пробашча парафіі ў Бешанковічах, Ушачах і Камені-Губінскім. 25 гадоў ксяндза Язэпа кідалі па савецкіх лагерах: 3 гады на Салаўках, 3 гады Архангельск, Сыктыўкар, вызваленне, адмова супрацоўнічаць з органамі – зноў Архангельск, Нарыльск, Каларгон, Канск, Тугач Краснаярскага края, вызваленне, зноў арышт, на гэты раз пажыццёвая ссылка ў Сібіры…

У 1927 годзе ОГПУ быў арыштаваны ксёндз Ян Вярсоцкі, удзельнік гістарычнага з'езду 1917 года, з 1919 года – адміністратар парафіі Забэлы на Віцебшчыне. З 1928 года на Салаўках, зноў арыштаваны ў 1931 годзе, адпраўлены ў лагер у Алма-Ату, па сканчэнні тэрміну прысуджаны да расстрэлу і знішчаны ў турме НКВД 11 снежня 1937 года.

16 чэрвеня 1931 года ў Вільні, зацкаваны, звар'яцеў і застрэліўся сябра БХД, пробашч касцёла ў Кемелішках ксёндз Францішак Рамэйка.

У 1934 годзе савецкая выведка выманіла ў БССР былога старшыню ЦК БХД кампазітара Паўла Карузу, і пад катаваннямі вымусіла яго ілжэсведчыць супраць хрысціянскіх дэмакратаў. Арыштаваны ў тым жа 1934-ым, Каруза прайшоў Салаўкі (1934-1947), потым Нарыльскі лагер (1949-55) і памёр у Вільні ў 1988-ым.

Увосені 1939-га, пасля захопу Саветамі Заходняй Беларусі, НКВД арыштавала большасць кіраўнікоў хадэцыі, якія яшчэ заставаліся ў краіне.

Былы сенатар Рэчы Паспалітай, лідар праваслаўнага крыла БХД Вячаслаў Багдановіч, вызвалены з польскага канцлагеру ў Картуз-Бярозе, быў закатаваны ў турме ў Вілейцы ў канцы 1939-ага.

Старшыня ЦК БНА Ян Пазьняк быў вывезены з Вільні ў Старую Вілейку і забіты каля 1940 года.

Архімандрыт Францішак Абрантовіч, стваральнік БХДЗ, быў захоплены немцамі ў 1939-ым, перададзены НКВД, катаваны – і памёр пакутнікам у маскоўскай Бутырцы ў 1946.

Баляслаў Бабарыка-Гапановіч, кіраўнік будслаўскага гуртка БХД, арыштаваны ўвосені 1939-га, прайшоў ГУЛАГ і ў 1942 годзе як былы польскі грамадзянін трапіў у Армію Андэрса. Ваяваў. Тымчасам

ягоная сям'я і старыя бацькі былі адпраўленыя ў ссылку ў Казахстан як сваякі "ворага народа".

У 1944 і 49-ым гадах НКВД арыштоўвала лідара БХД ксяндза Адама Станкевіча. У 1949 годзе з прысудам 25 гадоў пазбаўлення волі ён быў вывезены ў Іркуцкі лагер, дзе і сканаў. Лагерная ахова здзекавалася нават над ягоным трупам.

У 1944 годзе НКВД быў арыштаваны літаратуразнаўца, сябра ЦК БНА і рэдактар часопіса "Калосьсе" Янка Шутовіч. Атрымаўшы 10 гадоў лагероў, ён быў вызвалены ў 1954, але яшчэ 2 гады правёў у высылцы ў Карагандзе.

У 1945 годзе быў арыштаваны і зняволены дзядзька Яна, сябра БХД ксёндз Віктар Шутовіч (прысуд – 10 гадоў турмы). Вызвалены з ГУЛАГу ў 1956-ым, ксёндз Віктар да смерці кіраваў падпольнай парафіяй у Барысаве ў 1960-ым.

Псіханеўролаг Станіслаў Грынкевіч, сябра ЦК БХД і БНА, быў арыштаваны саветамі ды закатаваны ў Магілёве ў 1945-ым.

Стваральнікі БХДЗ, генерал ордэну марыянаў айцец Андрэй Цікота і айцец Язэп Германовіч, накіраваныя касцельнымі ўладамі з місіяй у Харбін, у 1948 годзе былі выданыя кітайскімі камуністамі саветам, атрымалі па 25 гадоў прысудаў і прайшлі сібірскія лагеры. Цікота загінуў у 1952-ім пад Брацкам, Германовіч дажыў да смерці Сталіна і па вызваленні выбраўся на Захад.

Адзін з праваслаўных лідараў БХД, арыштаваны пасля вайны, выдавец Якім Красоўскі, быў асуджаны на 25 гадоў лагероў, і выйшаў толькі пасля смерці Сталіна.

Старшыня ЦК БХД у 1931-36 гадах, віцэ-старшыня БІГіК Адольф Клімовіч быў арыштаваны МГБ у 1952 годзе ў Лідзе, прысуджаны да расстрэлу, але пасля смерці Сталіна вышэйшая мера была замененая на 25 гадоў лагероў. Вызвалены ў 1956-ым.

*З лідараў БХД ад абодвух таталітарных рэжымаў уратаваліся адзінкі – толькі тыя, хто здолеў выбрацца за мяжу. Так, вайсковец і публіцыст Дамінік Аніська пасля савецкага лагеру трапіў у Армію Андэрса і апынуўся ў Лондане; сябра ЦК БХД доктар Язэп Малецкі эміграваў у Аўстралію; сябра ЦК БХД пісьменнік Язэп Найдзюк пад чужым прозвішчам да канца жыцця хаваўся ў Польшчы.*

## Асобы



**Янка Пазьняк –** 19.2.1887-1940? Адзін з кіраўнікоў БХД, старшыня Беларускага Народнага Аб’яднання, дзед Зянона Пазьняка. Рэдактар “Беларускай крыніцы”. У 1939 годзе арыштаваны ў Вільні, прайшоў турму ў Ігумене, верагодна, забіты ў Курапатах.



**Адам Дасюкевіч** – 5.7.1911-31.10.1943. Аграном, сябра БХД, рэдактар газеты БХД “Беларуская крыніца”, бургамістр Паставаў у 1941-43 гадах. Абараняў беларусаў ад уціску акупацыйнай нямецкай адміністрацыі. Уратаваў ад смерці найвядомейшага навукоўца Барыса Кіта. Быў расстраляны СС за адмову адбіраць у сялянаў збожжа для вывазу ў Германію. Пахаванне Адама Дасюкевіча ператварылася ў беларускую маніфестацыю.



**Язэп Барадзюля –** 4.9.1893-27.9.1983. Ксёндз, служыў ва Ўшачах і Бешанковічах, быў арыштаваны ОГПУ і правёў 25 гадоў у сталінскіх лагерах.



**Станіслаў Глякоўскі** – 2.3.1896-1941. Ксёндз, доктар тэалогіі, сябра БХД, увосені 1941 года ў Менску быў арыштаваны немцамі за тое, што не падняў руку ў нацыстоўскім прывітанні, і расстраляны.



**Антон Неманцэвіч** – 8.2.1893-1.4.1943. Грэка-каталіцкі святар, экзарх, належаў да Пецярбургскага гуртка святароў-беларусаў, служыў у Альбярціне пад Слонімам, закатаваны нацыстамі.



**Юрый Кашыра** – 4.11.1904-18.2.1943. Ксёндз-марыянін, прыхільнік БХД, служыў у касцёле ў Росіцы, асуджанай на спаленне нацыстоўскімі акупантамі. Маючы дазвол выехаць з Росіцы, застаўся са сваімі парафіянамі і быў спалены жыўцом разам з сотнямі людзей 18 лютага 1943 года.

## Крыніцы:

1. Максім Гацак. Эвалюцыя Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. http://bchd.info/109-yevalyucyya-belaruskaj-xrysciyanskaj-dyemakratyi.html

2. Ладысеў У. Ф. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыям – Беларускае Народнае Аб’яднанне / Палітычныя партыі Беларусі. –

Мінск: “Згода”, 1994.- С. 78-86; Коўкель І. І. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя і яе роля ў беларускім грамадска-палітычным руху / Этносоциальные конфессиональные процессы в трансформирующемся обществе. – Гродно, 2001. – Ч.2. – С.36–44; Мазько Э. Ідэалагічныя падставы дзейнасці БХД // Гістарычны альманах. – 2000. – №3. – С. 25-31

3. Вашкевіч А. Супрацоўніцтва паміж КПЗБ і БХД (восень 1935 - восень 1936 гг.) / А. Вашкевіч // Беларускі гістарычны часопіс. – 2006. – № 10.

4. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008.

5. Вашкевіч А. БХД і КПЗБ: ад супрацьстаяння да супрацоўніцтва (1935-1938 гг. ) / Берасцейскі Хранограф. Зборнік навуковых прац. Выпуск 4. – Брэст, 2004. – С. 110-117.

6. Выкрутасы беларускай хадэцыі // Чырвоны сьцяг. –1931. – №8(95).

7. Мазько Эдуард. Хрысьціянска-дэмакратычная канцэпцыя беларускай дзяржаўнасьці (у кантэксьце дзейнасьці заходнебеларускіх партый 20-30-х ХХст.) – Камунікаты, Białoruskie Zeszyty Historyczne.

**Глава 7**

# СПРОБЫ АДНАЎЛЕННЯ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ Ў БЕЛАРУСІ 1989-2003

## Рассеянае зерне хрысціянскай дэмакратыі

Другая палова XX стагоддзя – ад вайны да савецкай Перабудовы – засталася ў гісторыі беларускай хрысціянскай дэмакратыі як *эпоха рэха*. Дзясяткі лідараў і сотні сябраў партыі былі знішчаныя, арыштаваныя, раскіданыя па свеце. 1950-я - 1980-я гады сталіся часам збірання інфармацыі, успамінаў, слядоў легендарнай БХД – прычым пераважна на эміграцыі: у СССР гісторыя “буржуазнай, клерыкальнай, нацыяналістычнай партыі” была проста пад забаронай.

З сябраў кіраўніцтва БХД ацалелі хіба Віктар Шутовіч (пасля ГУЛАГу служыў у падпольнай парафіі ў Барысаве, памёр у 1960 годзе), Дамінік Аніська (праз удзел у Арміі Андэрса трапіў у Велікабрытанію, памёр у Лондане ў 1971 годзе), Янка Шутовіч (пасля ГУЛАГу – у Вільні, адышоў у 1973 годзе), Язэп Германовіч (пасля вызвалення – у Лондане, памёр у 1978 годзе), ксёндз Пётра Татарыновіч (на эміграцыі ў Рыме, адышоў у 1978 годзе), Язэп Малецкі (з 1944 году на эміграцыі, стаў лідарам беларускай дыяспары ў Аўстраліі, памёр там у 1982 годзе), Язэп Барадзюля (пасля ГУЛАГу – у касцёле ў Рызе, памёр у 1983 годзе), Язэп Найдзюк (пасля вайны жыў у Польшчы пад імем Юзафа Александровіча, памёр у 1984 годзе), Віктар Ярмалковіч (пасля ГУЛАГу працаваў дантыстам у Польшчы, памёр у 1987 годзе), Павел Каруза (пасля ГУЛАГу ў Вільні, адышоў у 1988 годзе) і нямногія іншыя.

Успаміны і матар’ялы, датычныя БХД, захаваліся ў архівах дзякуючы падшыўкам “Крыніцы” і “Хрысціянскай думкі”, а таксама ў кнізе Язэпа Малецкага “Пад знакам “Пагоні”, часопісе “Божым шляхам”, які выдавалі айцы Леў Гарошка, Язэп Германовіч і Аляксандр Надсан. Біяграфіі дзеячаў БХД сабраў увадно Юрась Гарбінскі, звесткі пра рэпрэсаваных святароў – Леанід Маракоў.

Але ідэя хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі, пасеяная ў крыві і попеле, толькі чакала свайго часу, каб прарасці.

# Хрысціянска-дэмакратычная ідэя ў Беларускім Народным Фронце

Напрыканцы XX стагоддзя, на 70-ым годзе свайго існавання (відавочныя паралелі з біблейскай гісторыяй і вавілонскім палонам) Савецкі Саюз заканамерна пагрузіўся ў крызіс. Перабудова 1985-89 гадоў узламала закасцянелую савецкую дыктатуру знутры. Дэмакратызацыя і галоснасць разам з эканамічным крызісам адчынілі брамы для некамуністычных сілаў – і прывялі да стварэння адзінага фронту антысавецкіх ліберальных, кансерватыўных, сацыял-дэмакратычных і хрысціянска-дэмакратычных рухаў.

Заснавальнік і лідар БНФ, Зянон Пазьняк быў унукам аднаго з кіраўнікоў БХД і старшыні БНА – Яна Пазьняка, знішчанага камуністамі ў 1940-ым годзе. У гэтым – глыбокі сімвалізм і пераемнасць пакаленняў беларускага руху. Менавіта Зянон Пазьняк як вернік сфармуляваў галоўны імператыў нацыянальнага Адраджэння на развалінах савецкай сістэмы, у галодныя 1990-я: “Не кілбасы мусім шукаць, а Бога”. Аўтар глыбокіх аналітычных артыкулаў, вершаў і фотаальбомаў з выразным хрысціянскім кодам, Зянон Пазьняк з поўным правам можа лічыцца адной з ключавых асобаў у справе аднаўлення хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі.

Сярод сябраў тадышняга шырокага БНФ мы заўважаем і іншых будучых дзеячаў хрысціянскай дэмакратыі – Міхася Арэшкава, Эрнста Сабілу, Мікалая Крукоўскага, Генадзя Грушавога, Юрыя Хадыку ды іншых.

“Усё тады круцілася вакол БНФ” – узгадвае адзін з аднаўляльнікаў БХДЗ праваслаўны актывіст Міхась Арэшкаў, – “І пазнаёміліся мы з будучымі хрысціянскімі дэмакратамі якраз на фронтаўскіх сходах”.

Цесна звязанай з Народным фронтам была і Беларуская Каталіцкая Грамада – грамадская арганізацыя, створаная вернікамі дзеля “вяртання беларускага Касцёлу да нацыянальных вытокаў”. Установчы сход БКГ прайшоў 16 чэрвеня 1990 года – і ў яе працы бралі ўдзел Сяржук Абламейка, Данута Бічэль, Мікола Купава, Яўген Шунейка, Фелікс Янушкевіч, Алесь Бяляцкі ды іншыя вядомыя дзеячы інтэлігенцыі. Грамада перавыдала кнігу ксяндза Адама Станкевіча “Родная мова ў святынях”, зборнік вершаў Андрэя Зязюлі (ксяндза Аляксандра Астрамовіча), а таксама дамагалася беларусізацыі касцельнага жыцця.

Сэрцам БКГ была супольнасць менскага касцёла святога Роха ("касцёл на Залатой горцы"): паводле Алеся Бяляцкага, увесь Касцёл глядзеў на яскравы маладзёвы, творчы рух і чакаў, што з гэтага атрымаецца. Людзі масава пайшлі ў супольнасць – і быў адчынены шлях да беларусізацыі іншых парафіяў.

У 1992 годзе, паводле сведчанняў старэйшых фронтаўцаў, БНФ мог ператварыцца ў хрысціянска-дэмакратычную партыю: тады і Зянон Пазьняк, і ягоны антаганіст прафесар Юрый Хадыка разам заклікалі выбраць хадэцыю як галоўнае рэчышча ідэалогіі Фронту. Але на праграмным З'ездзе 30 траўня 1993 года група прагматыкаў заблакавала гэты праект.

Але праз дзесяцігоддзе менавіта з нетраў БНФ ды ягонага маладзёвага крыла – Маладога Фронту – выйшлі тыя, хто напачатку XXI стагоддзя аднавіў саму Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю.

## Аднаўленне Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ) у 1991

Увесну 1991 года сярод сябраў БНФ склалася ініцыятыўная група аднаўлення Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці. Збіраліся ў Доме Бембеля – сядзібе скульптара Андрэя Бембеля і ягонага сына Алега ў цэнтры Менску, дзе цяпер месціцца Саюз Мастакоў Беларусі. Ідэя была стратэгічная: адрадзіць легендарную хрысціянска-дэмакратычную партыю, усталяваць стасункі з міжнародным хадэцкім рухам, у хаўрусе з БНФ ды БСДГ ахапіць большую частку беларускага палітычнага поля, узяць уладу і ператвараць посткамуністычную Беларусь паводле запаветаў Хрыста.

1 чэрвеня 1991 года у Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці. Удзельнічалі 102 чалавекі, у асноўным прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі – менавіта яны сталі ядром новай партыі. Паводле Статута, сябрам БХДЗ мог быць любы грамадзянін Беларусі, які падзяляе маральна-этычныя запаветы Хрыста.

Сустаршынямі БХДЗ сталі грамадскі актывіст Міхась Арэшкаў (ад праваслаўных), пастар Беларускай Евангельскай Царквы Эрнст Сабіла (ад пратэстантаў), паэтка й выкладчыца Ірына Багдановіч (ад рыма-каталікоў), мастак і скульптар Фелікс Янушкевіч (ад грэка-каталікоў) і Пятро Сілка (сустаршыня-каардынатар). 16 снежня 1991 года БХДЗ была зарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі.

БХДЗ аднавіла выданне знакамітай "Крыніцы", якую рэдагаваў Алесь Траяноўскі. На той момант толькі БНФ і БХДЗ мелі свае масавыя партыйныя выданні.

Найбольш моцныя рэгіянальныя аддзяленні БХДЗ былі створаныя ў Гомелі, Гародні, Берасці, Магілёве, Полацку.

Кіраўніцтва БХДЗ наладзіла сувязь з Хрысціянска-Дэмакратычным Інтэрнацыяналам і падрыхтавала дакументы для ўступлення ў сусветную хадэцкую сям'ю.

Разам з тым, галоўнай праблемай БХДЗ 1991-94 гадоў была слабая сувязь з цэрквамі і асяроддзямі вернікаў, а таксама несістэмнасць працы з рабочым, маладзёвым, прадпрымальніцкім рухам. БХДЗ засталася нешматлюднай партыяй веруючай інтэлігенцыі – і хутчэй спробай, чым рэальным адраджэннем БХД.

## Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Партыя, Хрысціянска-Дэмакратычны Выбар і Маладзёжны Хрысціянска-Сацыяльны Саюз

У 1993 годзе БХДЗ напаткаў крызіс. Кіраўніцтва партыі падтрымала палітычны праект старшыні БСДГ Міхася Ткачова "Новая Беларусь" – спробу з'яднаць дэмакратычныя сілы (сацыял-дэмакратаў, лібералаў, нацыянал-дэмакратаў, хадэкаў) па-за БНФ. Але значная частка БХДЗ, якая заставалася сябрамі шырокага Народнага фронту, выступіла супраць. Адбыўся раскол, у выніку якога ўтварыліся дзьве невялікія партыі – БХДЗ з усечаным кіраўніцтвам і Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Партыя пад уплывам БНФ. Значная частка сябраў БХДЗ, у тым ліку і некаторыя сустаршыні, проста сышла з палітычнай дзейнасці.

БХДЗ узначаліў Міхась Арэшкаў, ягоным намеснікам стаў Пятро Сілка, затым ён змяніў Міхася Арэшкава на пасадзе кіраўніка.

Канферэнцыя БХДП прайшла ў Менску ў 1994 годзе. Старшынём партыі быў выбраны гісторык, філосаф Мікалай Крукоўскі, ягонымі намеснікамі сталі заступнік старшыні БНФ Юрый Хадыка і актывістка жаночага руху Людміла Пеціна. З дапамогай Фронту БХДП стварыла рэгіянальныя аддзяленні ў большасці вялікіх litарадоў Беларусі, шэраг сябраў БХДП былі выбраныя дэпутатамі мясцовых саветаў (напрыклад, Хрыстафор Жэляпаў і Міхась Шлык у Віцебску).

У 1995 годзе, якраз “пад выбары” ў Вярхоўны Савет 13-га скліканння, паўстаў яшчэ адзін беларускі хрысціянска-дэмакратычны праект – “Хрысціянска-Дэмакратычны Выбар”. Валер Сарока, адзін са следчых па нашумелай “віцебскай справе”, адсядзеў у турме, стаў бізнэсоўцам, напісаў некалькі дэтэктываў – і вырашыў укласціся ў палітычную партыю. Паводле праграмных дакумантаў, ХДВ ставіла сабе за мэту абарону прадпрымальніцтва, стварэнне багатага сярэдняга класу і ператварэнне грамадства на аснове хрысціянскіх каштоўнасцяў. ХДВ правяла устаноўчы сход 31 студзеня 1995 года, была зарэгістраваная 21 красавіка 1995 года і пасля няўдалых выбараў практычна спыніла дзейнасць.

У другой палове 1990-х хрысціянска-дэмакратычную партыю паспрабаваў стварыць кіраўнік фонду “Дзецям Чарнобыля” Генадзь Грушавы. Маючы моцныя сувязі з хрысціянска-дэмакратычнымі партыямі Еўропы (найперш нямецкімі ХДС-ХСС і італьянскімі хадэкамі, якія падтрымлівалі гуманітарныя праекты), а таксама разгалінаваную сетку прадстаўніцтваў у рэгіёнах (да 500 тысячаў беларускіх дзяцей дзякуючы працы фонда Грушавога, выязджалі на аздараўленне ў еўрапейскія краіны і Канаду), ён разлічваў арганізаваць глыбока ўкарэненую “народную хадэцыю”.

Для пачатку у 1997 годзе Генадзь Грушавы ініцыяваў заснаванне маладзёвай арганізацыі Маладзёжны Хрысціянска-Сацыяльны Саюз (зарэгістраваны як грамадская арганізацыя ў тым жа годзе). Узначаліў МХСС Кірыл Ігнацік, сябрамі МХСС былі заўважныя асобы: палітолаг, рэдактар часопіса “Палітычная сфера” Андрэй Казакевіч, Алесь Шумкевіч, Віталь Рымашэўскі.

Але ў 1998-99 гадах рэжым праз сфабрыкаваныя крымінальныя справы і ціск разбурыў структуры фонду Грушавога. Спроба зноў засталася спробай.

Ніводная з хрысціянска-дэмакратычных партыяў 1990-х у 1999 годзе не прайшла перарэгістрацыю; ўсе структуры ўжо спынілі дзейнасць.

Такім чынам, спробы аднавіць у Беларусі масавую хрысціянска-дэмакратычную партыю ў 1990-ых так і засталіся спробамі: стратэгія “заняцця палітычнай нішы” не спрацоўвала.

Але ідэя па-ранейшаму лунала ў паветры.

## Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ

У выніку ўнутранага крызісу і працы спецслужбаў у другой палове 1999 года адбыўся раскол Беларускага Народнага Фронту. Пасля агульнага з'езду 31 ліпеня - 1 жніўня, дзе пытанне аб выбарах старшыні падзяліла Фронт практычна напалову, 26 верасня 1999 года частка сябраў БНФ "Адраджэнне" – прыхільнікаў шматгадовага лідара народафронтаўцаў Зянона Пазьняка – правяла ў Менску асобны з'езд і абвясціла пра стварэнне Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ. 28 лютага 2000 года Міністэрства юстыцыі зарэгістравала КХП БНФ, а 24 красавіка таго ж года Партыю БНФ, чым замацавала раскол.

Сярод лідараў КХП БНФ, акрамя Зянона Пазьняка – выконваючы абавязкі старшыні ў Беларусі Юрась Беленькі, намеснік старшыні Сяргей Папкоў, кіраўнік Управы Алесь Чахольскі.

У пункце 2.6 Праграмы КХП-БНФ сцвярджаецца: "Беларусь – краіна хрысціянскай веры і хрысціянскай культуры. Хрысціянскія каштоўнасці сталі часткай нашага нацыянальнага светапогляду і нацыянальнага характару, уплывалі на традыцыі беларускай культуры. Цяпер мы ёсць шматканфесійны хрысціянскі народ. Але дзяржаватворчай асновай на Беларусі з'яўляецца нацыя, а не канфесія. Таму беларуская гісторыя, зямля, культура і мова ёсць грунт нашага беларускага адзінства, а канфесійная талерантнасць ёсць неабходнасць, якая з гэтага нашага нацыянальнага адзінства вынікае."

Ідэалогію КХП БНФ можна акрэсліць хутчэй як кансерватызм ці нацыяналізм з дамешкам хрысціянскай дэмакратыі. Партыя мае сталыя сувязі з вернікамі грэка-каталіцкай царквы, шэраг сябраў з ліку рыма-каталікоў і пратэстантаў.

КХП БНФ дагэтуль прынцыпова байкатуе ўсе выбары, абвешчаныя рэжымам Лукашэнкі, ладзіць мемарыяльныя мерапрыемствы (найперш – праводзіць талокі і ставіць крыжы ды памятныя камяні ў народным мемарыяле Курапаты) і арганізоўвае штогадовыя шэсці на Дзяды.

## Хрысціянска-дэмакратычная ідэя ў Маладым Фронце

З сярэдзіны 1998 года яшчэ адным агмянём хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі стаў Малады Фронт. Створаны на хвалі масавых вулічных дэманстрацыяў 1996-97 гадоў як маладзёвае крыло

БНФ, Малады Фронт хутка набраў папулярнасць і стаў масавым рухам з дзесяткамі рэгіянальных радаў, больш як сотняй мясцовых суполак і некалькімі тысячамі удзельнікаў; ужо напрыканцы 1997-га ён стаў аўтаномным, а пасля расколу 1999 года – і фактычна самастойным.

Ужо ў чэрвені-верасні 1998 года шэраг лідараў МФ (Яўген Скочка, Аляксей Шэін, Сяржук Паўленка і аўтар гэтых радкоў) пачалі акрэсліваць ідэалогію руху як хрысціянска-дэмакратычную. Вялікую ролю ў гэтым адыграла хваля асабістых пакаянняў і навяртанняў, а таксама дзейнасць хрысціянскай супольнасці “Ян Прадвеснік”, якая выйшла з рыма-каталіцкай парафіі Святой Тройцы (на Залатой горцы) і была зарэгістраваная як поўнаевангельская царква.

У лютым 1999 года на 2-ім Сойме Маладога Фронту ў прысутнасці больш як 450 дэлегатаў словы пра хрысціянскія каштоўнасці руху і цытаты з Біблii гучалі на поўны голас.

На з’ездзе БНФ 31 ліпеня - 1 жніўня 1999 года фракцыя Маладога Фронту (больш як 30 дэлегатаў) раздала народафронтаўцам праграмны дакумант пад назвай “Другое дыханьне Фронту”, дзе прапанавала ператварыць БНФ у хрысціянска-дэмакратычную партыю. Праект быў адхілены.

З верасня маладафронтаўцы-хрысціяне заснавалі ў Менску клуб “Хрысціянская ініцыятыва” і пачалі арганізоўваць для моладзі сустрэчы са святарамі і вернікамі розных канфесій.

Ужо ўвосені 1999-увесну 2000 года хрысціянскае абуджэнне ў Маладым Фронце выклікала бурлівую ўнутраную дыскусію, якая выплеснулася на старонкі незалежнай прэсы. На 3-цім Сойме Маладога Фронту 1 ліпеня 2000 года ў Менску спаборнічалі хрысціянска-дэмакратычная (Севярынец, Шэін, Скочка) і кансерватыўная (Шыдлоўскі, Янукевіч, Лабковіч) плыні. З вялікай перавагай (92 дэлегаты супраць 35) была прынятая хрысціянская праграма “Малады Фронт пераменаў”.

Больш падрабязна пра гэта можна прачытаць у кнізе “Пакаленне Маладога Фронту”.

Маладафронтаўская эвалюцыя 1997-2000 гадоў – ад пратэстнага руху да хрысціянскай дэмакратыі – сталася ключавой у справе адраджэння хадэцыі ў Беларусі. Менавіта з МФ выйшлі тыя, хто праз некалькі гадоў аднавіў БХД.

## Асобы



**Зянон Пазьняк** – Нар. 27.4.1944. Унук аднаго з лідараў БХД міжваеннага часу, Яна Пазьняка. Навуковец, археолаг, мастацтвазнаўца. Заснавальнік і кіраўнік Беларускага Народнага Фронту ў 1988 годзе. Лідар беларускага Адраджэння 1980-ых - 1990-ых. З 1999 года – старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ.



**Эрнст Сабіла** – Нар. 18.3.1932. Вязень ГУЛАГу, адбыў 13 гадоў у сталінскіх лагерах за "нацыяналізм і рэлігійнасць". Заснавальнік і пастар Беларускай Евангельскай Царквы. Сустаршыня Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці (1991 – 1995). Сябра БХД з 2007 года.



**Алег Бембель** – Нар. 16.12.1939. Паэт, адзін з ініцыятараў аднаўлення Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці ў 1991 годзе. З 1996 г – манах Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра, рэдактар альманаха "Жыровіцкая абіцель" пад імем айцец Іаан.



**Мікалай Крукоўскі** – 16.11.1923 - 30.9.2013. Ветэран Другой сусветнай вайны, партызан, доктар філасофіі, прафесар, аўтар фундаментальнай працы "Логіка прыгажосці". У 1994-1999 гадах ўзначальваў Беларускую Хрысціянска-Дэмакратычную Партыю.



**Анатоль Астапенка** – Нар. 7.8.1947. Фізік, праграміст, выкладчык, пісьменнік. Кіраўнік Нацыянальна-Дэмакратычнай Партыі Беларусі. У 2005-2006 – сустаршыня БХД. Сябра Нацыянальнай Рады БХД.

## Крыніцы:

1. http://vytoki.net/?docs=00003744
2. Астапенка А. Што такое хрысціянская дэмакратыя: http://www.nv-online.info/by/171/printed/30581/
3. Праграма КХП БНФ: http://www.narodnaja-partyja.org/03--Pragramy--fr--pg
4. Севярынец П. Пакаленне Маладога Фронту. - http://mfront.net/bibliyateka-maladafrontauca
5. Вікіпедыя: "Хрысціянска-дэмакратычны выбар"

Глава 8
# АДРАДЖЭННЕ БХД 2004-2009

## Хрысціяне-маладафронтаўцы і евангельскія дэмакраты

У 2004 годзе ў Маладым Фронце адбылася змена пакаленняў: новымі кіраўнікамі МФ сталі Зміцер Дашкевіч і Сяржук Бахун; у сваю чаргу, мы з Аляксеем Шэіным змаглі заняцца тым, пра што марылі яшчэ ў Беларускім Народным Фронце – стварэннем хрысціянска-дэмакратычнай партыі.

Першай ініцыятыўнай групай хадэцыі былі хрысціяне-маладафронтаўцы старэйшага ўзросту, а таксама нашы палітыкі-аднагодкі каталік Мікола Арцюхоў, лідар супольнасці “Хаўрус сяброў”, і вернік евангельскай царквы Зміцер Марчук. Паколькі партыя задумвалася як шматканфесійная, сустаршынямі аргкамітэту сталі каталік Мікалай Арцюхоў, пратэстант Аляксей Шэін і праваслаўны Павел Севярынец.

Увосені 2004 года на ініцыятыву Аляксея Шэіна прайшла наша сустрэча з пастарамі-пратэстантамі, якія удзельнічалі ў выбарчых кампаніях 2001-2004 гадоў: пастарам лепельскай евангельскай царквы Георгіем Салаўёвым, пастарам Дзяржынскай царквы ХВЕ Мікалаем Козелам, кобрынскім пратэстантам-прадпрымальнікам Георгіем Змітруком. Высветлілася, што многія пратэстанцкія святары і вернікі таксама абмяркоўваюць ідэю “хрысціянскай партыі”.

18 снежня 2004 года ў Менску ў гатэлі “Планета” адбылося першае паседжанне аб’яднанага аргкамітэту хрысціян-маладафронтаўцаў і групы “евангельскіх дэмакратаў”. На ім было прынята рашэнне: стварыць хрысціянска-дэмакратычную партыю і назваць яе ў гонар легендарнай папярэдніцы – “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”.

## Аргкамітэт у 2005-2006 гадах

Паводле пагаднення паміж маладафронтаўцамі і “евангельскімі дэмакратамі”, колькасць сустаршыняў аргкамітэту ў пачатку 2005 года пашырылася да шасці: імі сталі Мікола Арцюхоў, Аляксей

Шэін, Павел Севярынец, Георгій Салаўёў, Георгій Змітрук і Анатоль Астапенка. Акрамя таго, да працэсу аднаўлення БХД на розных этапах далучаліся адзін з лідараў беларускага вулічнага руху Вячаслаў Сіўчык, філосаф і метадолаг Уладзімір Мацкевіч, пісьменнік Алесь Белы, а таксама колішні маладафронтавец, арганізатар праваслаўнага брацтва Кастуся Астрожскага, Віталь Рымашэўскі.

Першыя буклеты аргкамітэту, праекты сімволікі, базы звестак былі распрацаваныя ўвесну 2005 года.

Да сярэдзіны 2005 году аргкамітэт БХД распрацаваў уласны праект праграмы. У ягонай аснове ляжала маладафронтаўская прапанова для БНФ, дапоўненая праўкамі новых сябраў. У праекце падкрэслівалася пераемнасць сучаснай хадэцыі як ад уладароў-хрысціянаў Полацка ды ВКЛ, так і ад дзеячаў міжваеннай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, сцвярджаўся новы кшталт палітыкі, заснаванай на біблейскіх прынцыпах, і давалася разгорнутая, на 14 старонак, праграма палітычных, эканамічных і сацыяльных ператварэнняў для Беларусі.

"*Сёння, на пачатку III тысячагоддзя ад нараджэння Хрыста, Беларусь востра патрабуе палітычнай сілы, дзейнасць якой заснаваная на падмурку хрысціянскіх каштоўнасцяў, дэмакратычных прынцыпаў і беларускага патрыятызму. Такой новай сілай павінная стаць партыя Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. (…) Партыя БХД ажыццяўляе дактрыну сучаснай хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі. Яна адстойвае правы і свабоды чалавека, стаіць на пазіцыі адраджэння нацыянальнай свядомасці, змагаецца за незалежнасць беларускай дзяржавы. Хрысціянская дэмакратыя для нас – гэта прыўнясенне хрысціянскіх маральных каштоўнасцяў у палітыку на ўсіх яе ўзроўнях. (…) БХД імкнецца з'яднаць беларускі народ вакол свабоды і дэмакратыі, дзяржаўнасці і суверэнітэту, рынкавай эканомікі і правоў чалавека і нацыі на цвёрдым грунце сутнасна хрысціянскіх каштоўнасцяў і нацыянальных традыцыяў*" – такі кшталт хадэцыі фармулявала першая праграма Аргкамітэту БХД.

У траўні 2005 года мяне асудзілі за арганізацыю мірнай акцыі пратэсту супраць змены канстытуцыі (паводле якой Лукашэнка атрымаў магчымасць захоўваць за сабой пасаду прэзідэнта бясконца), і на 2 гады накіравалі на лесанарыхтоўкі ў вёску Малое Сітна на мяжы з Расеяй. Адной з прычынаў такога прысуду, відавочна, было жаданне ўладаў разбурыць дзейнасць аргкамітэту – але схема сустаршынства дазволіла без перашкодаў працягваць партыйнае будаўніцтва. Аляксей Шэін навязваў міжнародныя

кантакты, займаўся інфармацыйнай сферай і дбаў пра матэрыяльнае забеспячэнне працы, Мікалай Арцюхоў вёў працу сярод каталіцкіх актывістаў, Георгій Салаўёў і Георгій Змітрук навязвалі стасункі з пратэстанцкімі цэрквамі, Анатоль Астапенка – з праваслаўнымі. Значную ролю пачалі адыгрываць таксама выдатны арганізатар Віталь Рымашэўскі (урэшце ён замяніў на пасадзе сустаршыні Анатоля Астапенку) і моцны менеджар Дзяніс Садоўскі з царквы "Ян Прадвеснік".

## Разгортванне БХД у 2006-2008 гадах

Прэзідэнцкая кампанія 2006 года, дзе быў вылучаны адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў Алесь Мілінкевіч (яго аргкамітэт БХД падтрымліваў адпачатку), дазволіла хадэкам істотна пашырыць свае шэрагі і ўзмацніць уплыў. Аляксей Шэін працаваў кіраўніком прэс-службы, а потым спічрайтэрам Мілінкевіча, Віталь Рымашэўскі адказваў за правядзенне кампаніі адзінага па найвялікшым раёне Менску – Фрунзенскім, я стаў даверанай асобай кандыдата. Падчас кампаніі нашай задачай было далучэнне да БХД новых людзей – і ў выніку ўлетку 2006 года лік сябраў аргкамітэту ўжо перавышаў 150 чалавек.

Вялікую ролю ў разгортванні БХД адыграла кампанія "За свабоду веравызнання", ініцыяваная Віталём Рымашэўскім і Аляксеем Шэіным: у красавіку 2007 года супольна з пратэстанцкімі цэрквамі, з удзелам каталіцкіх і праваслаўных актывістаў аргкамітэт БХД распачаў збор подпісаў за ўнясенне зменаў у дзеючы закон "Аб свабодзе сумлення" (рэпрэсіўны ў дачыненні да неправаслаўных вернікаў). Летам 2007 года дзясяткі цэркваў і сотні актывістаў БХД па ўсёй краіне выйшлі на вуліцы з падпіснымі аркушамі. Збор вёўся ў больш як 70 населеных пунктах, у дамах малітвы, парках, спальных раёнах, цэлы аўтобус зборшчыкаў прыехаў на каталіцкі фэст у Будславе (18 чалавек было затрымана) – і ўжо ў лютым 2008 года 50 000 подпісаў былі перададзеныя ва ўладныя ўстановы.

Змены ў закон прынятыя не былі, але пасля масавай кампаніі ўлады спынілі практыку паўсюднага праследу незарэгістраваных грамадаў, хростаў, набажэнстваў, высылкі місіянераў. Вынік кампаніі істотна падвысіў вядомасць і аўтарытэт БХД сярод вернікаў.

Па вызваленні з Малога Сітна мэтанакіраваныя аб’езды беларускіх рэгіёнаў пачаў і я сам – і за паўтара гады правёў сустрэчы ў больш як 120 гарадах, вёсках і мястэчках.

Першыя рэгіянальныя суполкі БХД былі створаныя ў вялікіх гарадах праз хрысціянскіх актывістаў, маладафронтаўцаў і ўдзельнікаў кампаніі “За свабоду веравызнання”. Рэгіянальнымі лідарамі БХД сталі пратэстанты Павел Наздра (электрык, Мазыр), Юрась Ступакоў (вайсковец, Баранавічы), Андрусь Любянчук (прадпрымальнік, Берасце), Георгій Змітрук (прадпрымальнік, Кобрын), Георгій Салаўёў (пастар, Лепель), Віктар Мезінцаў (прадпрымальнік, Наваполацк), Таццяна Шамбалава (студэнтка, Магілёў), Віктар Двурэчынскі (дыякан, Слуцк), праваслаўныя Таццяна Севярынец (настаўніца, Віцебск), Мікалай Баўсюк (фермер, Гародня), Іван Бедка (доктар, Слонім), Таісія Кабанчук (настаўніца, Бабруйск), Юрый Нагорны (пенсіянер, Ворша), Зміцер Кухлей (навуковец, Масты), Кастусь Жукоўскі (прадпрымальнік, Гомель), Аляксей Змушко (прыватны ахоўнік, Рэчыца), каталікі Вадзім Бароўскі (прадпрымальнік, Ліда), Зміцер Лупач (журналіст, Глыбокае), Аляксей Цюлькоў (ветэрынар, Асіповічы), Генрык Рынкевіч (настаўнік, Полацк), Дзяніс Лаеўскі (студэнт, Маладэчна), Юрась Жылко (рабочы, Жодзіна) і многія іншыя.

На восень 2008 года суполкі БХД былі створаныя прыблізна ў паўсотні гарадах Беларусі, і спіс сябраў аргкамітэту уключаў каля 500 чалавек.

У Менску, дзе за працу адказваў Віталь Рымашэўскі, гарадскую арганізацыю разбудоўвалі студэнты Дзяніс Кобрусеў і Зміцер Трафімчук, праваабаронца Ірына Логвін, пісьменніца Галіна Каржанеўская.

Ва Управе БХД ў 2007-2008 гадах склалася моцная каманда менеджараў: пад кіраўніцтвам Дзяніса Садоўскага працавалі сакратар Наталля Васілевіч, арганізатарка экскурсіяў Валерыя Чарнаморцава, медык Валянціна Шычко, студэнткі Любоў Каменева і Ірына Губская.

## Першыя кампаніі БХД:“За свабоду веры”, “Пакаянне”, “Супраць магіі і акультызму”, “Стоп казіно”, “Моцная сям’я”,“Люблю Беларусь”

Вялікую ролю ў разбудове БХД як масавай партыі адыграў шэраг кампаніяў, распачатых хрысціянскімі дэмакратамі ў 2007-2009 гадах.

Найперш, ужо згаданы збор 50 000 подпісаў за змену закона **“Аб свабодзе веравызнання”** даў нам выхад на дзясяткі цэркваў, парафіяў і хрысціянскіх супольнасцяў, а таксама стаў добрым прыкладам супрацы партыйнага актыву, святароў і вернікаў у палітычнай кампаніі. Пра БХД загаварылі ня толькі ў КГБ і Адміністрацыі прэзідэнта, але і на ўзроўні кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы, Касцёла ў Беларусі, аб’яднанняў пратэстанцкіх цэркваў. Асабліва трывалыя сувязі падчас кампаніі завязаліся ў хадэкаў з хрысціянамі веры евангельскай, поўнаевангелістамі, ксяндзамі Віцебскай, Мінска-Магілёўскай і Пінскай дыяцэзіяў, некаторымі праваслаўнымі святарамі.

Натхнёныя паспяховай кампаніяй, напрыканцы 2007 года мы пачалі збор подпісаў **супраць рэкламы магіі і акультызму** ў прэсе і на тэлебачанні. Каардынаваў кампанію Дзяніс Садоўскі. Літаральна за паўгады гэтую ініцыятыву падхапілі ўсе пратэстанцкія аб’яднанні, а затым далучылася і Беларуская праваслаўная царква. Заканадаўчыя прапановы былі перададзеныя ў Адміністрацыю і Палату прадстаўнікоў. У выніку хвалі публікацыяў, збору подпісаў у цэрквах і на вуліцах, а таксама актыўнага ціску іерархаў 17 чэрвеня 2008 года былі прынятыя змены ў “Закон аб рэкламе” – і прапаганда магіі ды акультызму праз СМІ была забароненая.

У 2007 годзе на прапанову Віталя Рымашэўскага стартавала кампанія, накіраваная на аднаўленне гістарычнай праўды пра ахвяраў і рэпрэсіі камуністычнага рэжыму – **“Пакаянне”.** Маторам кампаніі стала экскурсавод Валерыя Чарнаморцава: яна арганізоўвала талокі ў Курапатах, сустрэчы з вязнямі ГУЛАГу, запісвала іх успаміны, падпісвала на незалежную прэсу, збірала дапамогу. Цэлы тур па Беларусі з выступамі ў цэрквах і грамадскіх цэнтрах зладзілі для легендарнага пастара Беларускай евангельскай царквы, вязня бальшавіцкіх лагераў Эрнста Сабілы.

Кампанію **“Моцная сям’я – моцная Беларусь”** у 2008 годзе БХД запланавала як стратэгічную і шматпланавую: сярод тэмаў былі абарона жыцця, змаганне з алкагалізмам і наркаманіяй, змяншэнне колькасці разводаў. Тэматычныя сустрэчы Аляксея Шэіна і Ірыны Логвін у зацікаўленых супольнасцях вывелі хадэкаў на аграмаднае поле дзейнасці, і ў далейшым “Моцная сям’я – моцная Беларусь” спарадзіла цэлы букет новых партыйных ініцыятываў. Што характэрна, пасля пачатку кампаніі на вуліцах

беларускіх гарадоў з’явіліся дзяржаўныя бігборды “Крепкая семья – сильная Беларусь”: улада імкнулася перахапіць хадэцкую ініцыятыву.

У сярэдзіне 2009 года з ініцыятывы Георгія Змітрука БХД пачало **наступ на казіно**: забароненыя ў 2009 годзе ў Расеі і Украіне, гэтыя асяроддзі гульнямaніі ды арганізаванай злачыннасці раслі ў Беларусі як грыбы. Першым наступствам разасланых зваротаў да ўлады і публікацыяў у прэсе сталі мэтанакіраваныя правакацыі супраць БХД і Змітрука: адразу стала зразумела, што гульнявы бізэс мае сур’ёзны “дах” у верхавіне рэжыму і што нашы стрэлы трапілі ў цэль. Тым ня менш, пад ціскам грамадскасці і цэркваў ужо напрыканцы улады былі вымушаныя ўвесці пэўныя заканадаўчыя абмежаванні на дзейнасць казіно.

Нарэшце, у 2007-2009 гадах мы з Валянцінай Шычко і Наталляй Васілевіч распрацавалі шырокую кампанію **“Люблю Беларусь**” – акцыі падтрымкі беларускай хрысціянскай культуры, найперш для цэркваў: выданне кнігаў, музычных альбомаў, асветніцкія курсы. У выніку 200-гадовай русіфікацыі абсалютная большасць праваслаўных і пратэстанцкіх супольнасцяў сталі рускамоўнымі, многія святары і вернікі сустракалі ідэю пра праслаўленне Бога на роднай мове недаўмёным : “А зачем?..”

У 2008-09 годзе пры падтрымцы БХД былі выдадзеныя вялікім накладам і распаўсюджаныя па цэрквах, касцёлах ды дамах малітвы чатыры альбомы “Беларускі хрысціянскі хіт” з запісамі найлепшых беларускамоўных хрысціянскіх спеваў усіх канфесіяў – “Хрысціянскія гімны”, “Спевы праслаўлення”, “Хрыстос нарадзіўся!”, “Хрыстос уваскрос!”. Была створаная хрысціянская літаратурная супольнасць “Дабравест” (Галіна Каржанеўская, Зміцер Трафімчук), што праводзіла чытанні і выдавала ўласны альманах. Аднавіліся асветніцкія “Курсы дыджэяў Адраджэння” (распачатыя яшчэ ў 1999 годзе Маладым Фронтам), дзе рыхтаваліся арганізатары беларускіх і хрысціянскіх культурніцкіх і грамадскіх імпрэзаў. Выйшла ілюстраваная кніга “Люблю Беларусь: 200 феноменаў нацыянальнай ідэі”.

## Міжнароднае прызнанне БХД

Міжнародныя сувязі адноўленай БХД з самага пачатку сталі больш шырокімі й трывалымі, чым у БХД міжваеннай. Спярша хадэкі навялі кантакты з еўрапейскай супольнасцю выразна

хрысціянскіх партыяў – ЕСРМ, а затым выйшлі на ўзровень агульнаеўрапейскага саюзу найбуйнейшых хрысціянска-дэмакратычных і кансерватыўных партыяў ЕРР. Ужо ў 2009 годзе ў Варшаве на саміце, дзе прысутнічалі Ангела Меркель, Нікаля Сарказі, Сільвіё Берлусконі, Дональд Туск і іншыя правацэнтрысты – кіраўнікі краінаў, БХД падала заяўку на ўступленне ў ЕРР.

Лідары БХД у складзе дэлегацыяў дэмакратычных сілаў Беларусі і асабіста сустракаліся з вядучымі сусветнымі палітыкамі свайго часу: у снежні 2007 года – з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам-малодшым, у 2008-2009 гадах – кіраўнікамі Еўрапейскага парламенту Хансам-Гертам Пётэрынгам ды Ежы Бузэкам, прэзідэнтамі Еўрапейскай Народнай партыі Вільфрэдам Мартэнсам і Жазэ Долем, сенатарам і кандыдатам у прэзідэнты ЗША Джонам Макейнам, прэм'ер-міністрам Літвы Андрусам Кубілюсам, міністрамі замежных спраў Швецыі Карлам Більтам, Польшчы – Радаславам Сікорскім, Чэхіі Карэлам Шварцэнбергам ды многімі іншымі. Тэмамі сустрэчаў былі адстойванне незалежнасці Беларусі, падтрымка свабоды і развіццё хрысціянскай дэмакратыі.

## Устаноўчы З'езд БХД 28 лютага 2009 года

Восенню 2008 года Аргкамітэт БХД прыняў рашэнне – правесці ў пачатку 2009 года паўнавартасны з'езд і падаць дакументы на рэгістрацыю партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" у Міністэрства юстыцыі.

Трэба сказаць, што ва ўмовах рэжыму Лукашэнкі сабраць больш як 1000 чалавек, гатовых адкрыта падтрымаць стварэнне незалежнай дэмакратычнай партыі, было сапраўдным выклікам. Ніводная палітычная партыя за гэты час не была зарэгістраваная. Нават легальныя, дазволеныя апазіцыйныя партыі налічвалі па некалькі соцень чалавек актыву. Правядзенне сустрэчаў на месцах часта заканчвалася арыштамі.

Тым не менш, у студзені-лютым 2009 года ў больш чым 50-ці гарадах і мястэчках Беларусі прайшлі партыйныя сустрэчы і сходы заснавальнікаў БХД. У выніку кампаніі рэгістрацыі колькасць сяброў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі дасягнула 1100 чалавек. Былі падрыхтаваныя ўсе неабходныя дакументы, і 28 лютага 2009 года ў Палацы культуры Менскага трактарнага завода адчыніўся ўстаноўчы з'езд аднаўленай БХД.

Трэба адзначыць, што памяшканне ўлады далі літаральна за некалькі дзён да з'езду пад ціскам грамадскасці і міжнароднай супольнасці – інакш хадэкі гатовы былі правесці устаноўчы сход на Кастрычніцкай плошчы ў цэнтры Менску. Раніцай 28 лютага многіх дэлегатаў з рэгіёнаў затрымлівалі ў дарозе, каб сарваць кворум.

Але ўрэшце да 11-й гадзіны 204 дэлегаты і больш як 400 сябраў ды прыхільнікаў БХД, а таксама запрошаных гасцей запоўнілі вялікую залю, аздобленую бел-чырвона-белымі сцягамі Хрыста і бэтлеемскімі зоркамі (сімвалам партыі). Як сведчылі назіральнікі, такая колькасць людзей не збіралася на партыйныя з'езды з часоў росвіту Беларускага Народнага Фронту ў 1990-ых. Панаваў дух натхнення. Было вельмі шмат моладзі, вернікаў розных цэркваў. Прысутнічалі святары розных канфесій, амбасадары ЗША, Польшчы, Велікабрытаніі ды іншых краінаў.

Распачалі з'езд малітва "Ойча наш" і спеўны гімн "Магутны Божа". Сярод ганаровых гасцей выступілі былыя старшыні Вярхоўнага савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб, кандыдаты ў прэзідэнты 2006 года Аляксандр Мілінкевіч і Аляксандр Казулін, кіраўнік БНФ Лявон Баршчэўскі, лідар БСДП НГ Мікалай Статкевіч, старшыня АГП Анатоль Лябедзька, кіраўнік Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч, пісьменнік Уладзімір Някляеў, акадэмік Радзім Гарэцкі ды іншыя.

На з'ездзе былі зацверджаныя Праграма і Статут БХД, партыйная сімволіка (бэтлеемская зорка на бел-чырвона-белым сцягу) – і выбраны чатыры сустаршыні (Георгій Змітрук, Віталь Рымашэўскі, Павел Севярынец і Аляксей Шэін), а таксама 71 сябра Нацыянальнай Рады.

Газета "Наша Ніва" выйшла пасля з'езду з уражвальным фотаздымкам шматлюднай залі і перадавіцай пад лозунгам : "Ёсць такая партыя!"

Такім чынам, першы этап аднаўлення БХД ў XXI стагоддзі завершыўся.

## Асобы



**Георгій Змітрук** – Нар. 16.4.1968. Прадпрымальнік, шматдзетны бацька, з 2005 года – сустаршыня БХД, адказны за эканамічны блок, стасункі з пратэстанцкімі цэрквамі і "Супольнасць хрысціянскіх дэмакратаў Усходняй Еўропы".



**Аляксей Шэін** – Нар. 13.6.1976. Філолаг, пісьменнік, рэжысёр, арганізатар грамадскіх курсаў беларускай мовы "Моваведа", кампаніяў "За свабоду сумлення" і "Моцная сям'я – моцная Беларусь". У 2005-2011 гадах – сустаршыня БХД.



**Георгій Салаўёў** – Нар. 10.12.1963. Пастар евангельскай царквы Лепеля, выкладчык багаслоўя, у 2005 – 2007 гг. сустаршыня БХД.



**Віталь Рымашэўскі** – Нар. 3.3.1975. Палітык, публіцыст, арганізатар кампаніяў "За свабоду сумлення", "Народны кантроль" і іншых. З 2006 г – сустаршыня БХД. Падчас кампаніі 2010 года вылучаны кандыдатам у прэзідэнты ад БХД. Адказны за Менск, моладзь, адукацыю, міжнародныя стасункі.



**Дзяніс Садоўскі** – Нар. 11.7.1983. Топ-менеджар БХД, адказны сакратар партыі, каардынатар кампаніі "Супраць магіі і акультызму", кіраўнік міжпартыйнай кампаніі "Права выбару".



**Мікалай Арцюхоў** – Нар. 22.5.1979. Кіраўнік супольнасці маладых каталікоў "Хаўрус сяброў" (2002-2010), вылучаўся кандыдатам на выбарах 2003 і 2004 года як хрысціянскі дэмакрат. У 2005-2007 гг. – сустаршыня аргкамітэту БХД.



**Павел Севярынец** – Нар. 30.12.1976. Пісьменнік, палітык, публіцыст. Заснавальнік і кіраўнік Маладога Фронту (1997-2004), у 1999-2003 – намеснік старшыні Партыі БНФ, з 2005 – сустаршыня БХД, арганізатар кампаніяў "Люблю Беларусь", "Хваля Салідарнасці", "Урад для народа". У партыі адказны за ідэалогію, рэгіёны, інфармацыю, культуру.

## Крыніцы:


1. Сайт БХД: www.bchd.info
2. http://bchd.info/187-zezd-bxd-29-lyutaga-2009.html
3. Праграма аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" – Менск, 2009.

**Глава 9**

# РАЗВІЦЦЁ І ПЕРСПЕКТЫВЫ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ 2009-2017

## Новы з’езд і спробы рэгістрацыі БХД

Эфект ад першага з’езду адноўленай БХД быў агаломшвальны. Тое, што ва ўмовах рэжыму ўдалося стварыць адкрытую і масавую па беларускіх мерках партыю, сведчыла пра запатрабаванасць ідэі хрысціянскай дэмакратыі ў лукашэнкаўскай Беларусі. У царкоўных асяродках – праваслаўных, каталіцкіх, пратэстанцкіх – усцяж пачаліся размовы пра хрысціянства і палітыку. Рэжым не ведаў, што рабіць з БХД – і многія апазіцыйныя сілы ды лідары адчулі ў аднаўленні хадэцыі сур’ёзную пагрозу.

Паказальна, што адразу ж на наступны дзень пасля з’езду у беларускіх СМІ выбухнула шырокая дыскусія пра аборты, а затым – пра удзел вернікаў у палітыцы: ураджанне было такое, быццам хадэкі ўзялі ўладу і апаненты ад камуністаў да лібералаў ствараюць фронт барацьбы з новым Сярэднявеччам. І афіцыёз, і многія партыйныя лідары сцвярджалі: БХД не зарэгістраваная, таму яе нельга лічыць палітычным суб’ектам.

Дакуманты, накіраваныя хадэкамі на рэгістрацыю, пераслалі ў КДБ, МУС і мясцовыя органы ўлады. Пачаўся масавы ціск на заснавальнікаў, каб тыя адмаўляліся ад подпісаў. Урэшце, у красавіку 2009 года Мін’юст БХД не зарэгістраваў.

Зрэшты, розгалас і пераможныя вынікі грамадскіх кампаніяў давалі плён. У БХД ішлі людзі. Ужо ўлетку Нацыянальная рада пастанавіла правесці яшчэ адзін з’езд увосені гэтага ж года і зноў дамагацца рэгістрацыі партыі.

31 кастрычніка 2009 года ў Менску, у тым жа Палацы культуры Мінскага трактарнага завода прайшоў новы з’езд БХД з удзелам 311 дэлегатаў і больш як 200 гасцей. Былі паўторна прынятыя Статут і Праграма, абноўлены склад Нацыянальнай рады.

Пасля з’езда ў афіцыйных СМІ пракацілася хваля прапагандысцкіх публікацыяў, накіраваных супраць самой ідэі хадэцыі і яе лідараў. Але на спецыяльны рэпартаж БТ адмысловай заявай

адрэагавала Прэс-служба Беларускай праваслаўнай царквы: *“Тэты заказны палітычны матэрыял выклікаў у епіскапата БПЦ скрайне негатыўную рэакцыю. Царква ні ў якім выпадку не выступае супраць хрысціянска-палітычных партыяў і рухаў, а наадварот, вітае іх дзейнасць”*. Заява, агучаная прэс-сакратаром БПЦ архімандрытам Аляксеем Шынкевічам , сведчыла пра тэктанічныя зрухі ў свядомасці грамады вернікаў: дагэтуль пазіцыя праваслаўнай царквы скрайне рэдка разыходзілася з афіцыйнай.

Больш таго, на ўлады пачалі ціснуць і еўрапейскія палітыкі: рэгістрацыя БХД стала тэмай палітычных перамоваў. У выніку Міністэрства юстыцыі, парушаючы ўласнае заканадаўства, зацягнула прыняццё рашэння адносна БХД на некалькі месяцаў, да вясны 2010 года.

14 лістапада 2009 года БХД супольна з хаўруснікамі па правацэнтрысцкім лагеры – Рухам “За свабоду”, БНФ, Маладым Фронтам і іншымі правялі ў Менску прадстаўнічы Еўрапейскі форум, у якім удзельнічалі больш за 1000 дэлегатаў і гасцей. Форум пачаўся гімнам “Магутны Божа”, падчас галасавання на прапанову БХД ў дакуманты большасцю галасоў былі ўнесеныя праўкі, датычныя хрысціянскіх каштоўнасцяў – і назіральнікі ды журналісты зафіксавалі: ў беларускай палітыцы хадэцыя набірае сілу ды робіцца ідэалагічным рухавіком.

## Мясцовая кампанія 2010 года і Рада народных дэпутатаў

У лютым 2010 Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя распачала новую маштабную палітычную кампанію. Падчас “**мясцовых выбараў**” хадэкі вылучылі шляхам збору подпісаў больш за 200 кандыдатаў у абласныя, раённыя, гарадскія і сельскія саветы. Спіс БХД быў большы, чым у любой іншай дэмакратычнай партыі. Амаль у кожным вялікім горадзе вылучаліся па некалькі чалавек – цэлая каманда.

Найбольш паспяхова праца пайшла ў Менску, Віцебску, Гародні, Гомелі, Магілёве, Бабруйску, Воршы, Кобрыне, Баранавічах, Мастах, Мёрах, Глыбокім, Рэчыцы, Жодзіне, Паставах, Нава-полацку. Улады не рэгістравалі моцных кандыдатаў, перашкаджалі збору подпісаў ды агітацыі, фальсіфікавалі дадзеныя галасавання –

але хадэцкая хваля “ад дзвераў да дзвераў” пракацілася па раёнах, цэрквах, вёсках, да якіх не дайшоў розгалас праз СМІ.

У выніку БХД удалося нават правесці ў саветы скрозь сіта фальсіфікацыяў трох дэпутатаў (больш было толькі ў камуністаў) – ветэрынара Аляксея Цюлькова (Асіповіцкі райсавет), Жану Шчарбініну (Аўсянкаўскі сельсавет Горацкага раёна) і Віктара Бардзюга (Хідрынскі сельсавет Кобрынскага раёна).

А паколькі ў дзясяткаў іншых хадэкаў перамога была скрадзеная, сябры БХД абвясцілі пра стварэнне **Рады народных дэпутатаў.** У больш як 130 акругах сябры хрысціянскай дэмакратыі добраахвотна ўзялі на сябе абавязкі прызначаных дэпутатаў, якія не дбалі пра людзей: дамагаліся рамонту дарогаў, мастоў і дамоў, пабудовы дзіцячых пляцовак, станцыяў ачысткі вады, абаранялі паркі і аказвалі праўную ды юрыдычную дапамогу жыхарам.

## Прэзідэнцкая кампанія 2010 года

Два масавыя з’езды і моцная мясцовая кампанія стварылі ўмовы для таго, каб БХД брала на сябе ініцыятыву агулам сярод дэмакратычнай апазіцыі. Увесну 2010 года менавіта хрысціянскія дэмакраты заняліся арганізацыяй Чарнобыльскага шляху, затым выступілі з ініцыятывай вылучэння адзінага лідара ад апазіцыі ў прэзідэнцкай кампаніі 2010 года, а потым (17 чэрвеня) сабралі большасць лідараў апазіцыі і экспертнай супольнасці – ад Мечыслава Грыба і Уладзіміра Някляева да Міхаіла Пастухова і Аляксандра Казуліна – на вялікі круглы стол, прысвечаны фармаванню дэмакратычнага Альтэрнатыўнага ўрада.

Маючы кааліцыйныя дамовы з сябрамі Беларускага Незалежніцкага Блоку аб вылучэнні супольнага кандыдата на прэзідэнцкую кампанію, БХД вяла перамовы з Рухам “За свабоду” і Беларускім Народным Фронтам. У ліпені 2010 года гэтыя перамовы скончыліся беспаспяхова. БНБ быў паралізаваны, Аляксандр Мілінкевіч заявіў спярша пра сваё самастойнае вылучэнне, потым пра зняццё. Тады на сваім трэцім пасля аднаўлення з’ездзе 12 верасня пры ўдзеле 135 дэлегатаў беларускія хрысціянскія дэмакраты заявілі пра вылучэнне ў кампаніі 2010 года Віталя Рымашэўскага.

Занятыя перамовамі сярод астатніх лідараў апазіцыі, мы страцілі час для падрыхтоўкі ўласнай кампаніі. Пасля двухгадовай напружанай працы і бясконцых кампаніяў каманда партыйных

арганізатараў была на мяжы знемажэння. Фінансавых рэсурсаў партыя практычна ня мела. Адзінае, што было – гэта вельмі шмат ідэйных, натхнёных людзей. У ініцыятыўную групу Віталя Рымашэўскага ўвайшло 1704 чалавекі. Найперш гэта быў касцяк Аргкамітэту 2007-2009 гадоў, моладзь і вернікі – праваслаўныя, пратэстанты, каталікі.

Збор подпісаў за вылучэнне ішоў цяжка – адыгралі ролю страх, някер'е ў "выбары", вялікая колькасць дэмакратычных прэтэндэнтаў. Два месяцы частка сябраў штабу жыла на офісе (здымнай кватэры ў раёне менскага вакзала), начавалі на падлозе ў спальніках. Каб забяспечыць кампанію, грошы зычылі ў сваякоў, прасілі ў вернікаў-бізнэсоўцаў, прадалі некалькі офісных кампутараў і партыйны аўтамабіль, падараваны дыяспарай. Дзякуючы ахвярнай працы актывістаў, шараговых хадэкаў, удалося сабраць крыху больш за патрэбны мінімум – каля 105 тысячаў подпісаў.

Зрэшты, рэжым, які вёў двайную гульню з Расеяй і Захадам, зарэгістраваў усіх прэтэндэнтаў. Агітацыя БХД ішла пад лозунгам: "Хрысціянскія прынцыпы – беларускі патрыятызм". Найбольш шматлюднымі былі сустрэчы ў Менску, Гомелі, Віцебску, Берасці, Гародні, Бабруйску, Магілёве, Воршы, Наваградку, Слоніме, Кобрыне, Баранавічах, Полацку, Пінску, Ашмянах, Ваўкавыску, Мазыры, Наваполацку, Лідзе, Мёрах, Рэчыцы. Пасля паўгадзіннага выступу Віталя Рымашэўскага у жывым эфіры БТ на партыйныя тэлефоны за суткі паступілі сотні званкоў са словамі падтрымкі і пытаннем, як далучыцца да БХД.

## Плошча-2010. Хрысціянскія дэмакраты за кратамі

Становішча перад днём "выбараў" і прызначанай на вечар 19 снежня Плошчай было напружаным. Еўропа наладжвала дыялог з рэжымам і абяцала крэдыты ў выпадку правядзення свабодных выбараў, Расея адкрыта называла Лукашэнку здраднікам. Але за два тыдні да галасавання Лукашэнка дамовіўся з Крамлём – і стала ясна, што ўсё пройдзе, як заўжды, з масавай фальсіфікацыяй. Большасць кандыдатаў, у тым ліку і кандыдат БХД, заклікалі людзей абараніць свой выбар на Плошчы.

Вечарам 19 снежня, калі БТ ужо аб'явіла пра "разгромную перамогу" Лукашэнкі, сотні актывістаў БХД сабраліся перад менскім вакзалам, да іх далучыліся актывісты апазіцыі, што прыехалі з

рэгіёнаў – і шэсце з некалькіх тысячаў чалавек выйшла на Кастрычніцкую плошчу, запоўненую людзьмі. Пасля кароткага мітынгу дэманстранты занялі праспект. Грандыёзнае шэсце з дзясяткаў тысячаў чалавек запоўніла цэнтр Менску. У будынку Дома Урада, дзе месціўся Цэнтрвыбаркам, былі разбітыя шкляныя дзверы. Людзі патрабавалі перамоваў з прадстаўнікамі ураду, але замест гэтага дэманстрантаў атакавалі спецпадраздзяленні. За гадзіну шматтысячная акцыя была разагнаная з ужываннем гвалту і дубінак; арыштавалі каля 700 удзельнікаў. Віталю Рымашэўскаму разбілі галаву; некалькі дзясяткаў хадэкаў, у тым ліку і я сам, апынуліся ў турмах.

Адразу пасля разгону Плошчы быў узяты штурмам офіс БХД,ператрусы і допыты пракаціліся па ўсёй краіне. Больш за 40 удзельнікаў акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў былі асуджаныя. Віталь Рымашэўскі атрымаў два гады пазбаўлення волі ўмоўна, мне давялося правесці 5 месяцаў у турме КДБ і больш за 2 гады ў спецкамендатуры ў вёсцы Куплін на Пружаншчыне.

Пакуль вязні Плошчы адбывалі тэрміны, БХД патрабавала іх вызвалення і праводзіла кампаніі ў іх падтрымку. Самай буйной была “Хваля салідарнасці” у лютым-сакавіку 2013 года: тады 33 дні запар хадэкі праводзілі марафон акцыяў салідарнасці ў больш як 30-ці гарадах Беларусі. Дарэчы, “парламенцкія выбары” 2012 года БХД байкатавала – у першую чаргу патрабуючы вызвалення палітычных зняволеных.

## Кампаніі БХД 2012-2016 гадоў

Першай агульнанацыянальнай кампаніяй, якую хрысціянскія дэмакраты разгарнулі пасля крызісу 2011-га года, выкліканага разгромам Плошчы і дэмакратычнага руху і акцыяў салідарнасці, была **Кампанія ў абарону жыцця**. Дзякуючы высілкам Вольгі Кавальковай, якая далучылася да БХД пасля кампаніі 2010 года, у Менску прайшоў шэраг круглых сталоў, дзе арганізацыі пралайф-руху скаардынавалі працу ў галіне змены заканадаўства. Было сабрана больш 25 тысячаў подпісаў за змены ў Закон аб ахове здароўя. У снежні 2014 года Палата прадстаўнікоў прыняла змены, якія скарацілі колькасць сацыяльных паказнікаў да аборту ад 9 да 2 і далі права дактарам адмаўляцца ад правядзення аборта.

Натхнёныя поспехам, хрысціянскія дэмакраты ўзяліся за кампанію **“Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю”.** У 2013-16 гадах у дзясятках гарадоў былі сабраныя подпісы за абмежаванне часу продажу алкаголю, узросту рэалізацыі, адасабленне спіртнога ад прадуктаў харчавання, забарону парасонавых брэндаў. На мясцовым узроўні хадэцкія антыалкагольныя захады далі рэальны плён.

У канцы 2014 года БХД з ініцыятывы Віталя Рымашэўскага пачала шырокамаштабовую кампанію **“Народны кантроль”**, мэтай якой было дамагчыся паляпшэння умоваў жыцця для насельнікаў асобных гарадоў – у галінах медыцыны, экалогіі, прадпрымальніцтва, адпачынку. Так, у Віцебску хадэкі дамагліся будаўніцтва паліклінікі й рамонту інфекцыйнага шпіталя, а таксама роварных дарожак, у Гародні – адкрыцця медпункта на кірмашы, у Гомелі – ачысткі гарадскога вадаёма. Агулам сябры БХД за год, да лета 2015 года сабралі звыш 80.000 подпісаў па значных грамадскіх праблемах.

Важную і выніковую кампанію ў 2014-15 гадах правялі Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты: **“Беларусь – у Балонскі працэс”.** Маладыя хадэкі пад кіраўніцтвам Марыны Хоміч сабралі больш 6 тысячаў подпісаў за далучэнне Беларусі да Балонскага працэсу – і ў сярэдзіне 2015 года ЕС адчыніў дзверы для беларускай сістэмы адукацыі.

Працягвалася кампанія **“Люблю Беларусь”**, у рамках якой выйшлі яшчэ 3 музычныя зборнікі “Беларускі хрысціянскі хіт” – “Бардаўскі хрысціянскі хіт”, “Пілігрымскі хіт” і “Люблю Беларусь”, прайшлі яшчэ два выпускі “Дыджэяў Адраджэння”, шэраг канцэртаў і вечарынаў.

## “Выбарчыя кампаніі” 2012-2016

У “выбарчых” кампаніях за 2012-2016 гады БХД пераспрабавала ўвесь спектр тактыкі – ад байкоту і папярэдняга зняцця да ўдзелу і назірання з мэтай ускрыць фальсіфікацыі. Падчас “парламенцкай” кампаніі 2012 года хрысціянскія дэмакраты абвесцілі, што не будуць удзельнічаць у “выбарчым” спектаклі, пакуль рэжым не вызваліць палітычных вязняў. Адначасова БХД сканцэнтравалася на назіранні – і вылучыла ва ўчастковыя камісіі сотні назіральнікаў.

Падчас мясцовай кампаніі 2014 года мы вылучылі каля 180 прамоўцаў, з іх падалі дакументы на рэгістрацыю 131, а

зарэгістраваны быў ўсяго 41 – рэжым зрабіў высновы з папярэдняй хадэцкай кампаніі. Падчас нашай акцыі супраць "свіной чумы", калі ў прыватнікаў з нагоды нібыта хваробы знішчалі пагалоўе свіней, да БХД далучылася некалькі дзясяткаў вясковых гаспадароў і фермераў, і ў выніку хадэк , гаспадар Валер Білібуха (адзіны на ўсю апазіцыю) стаў дэпутатам сельскага савету ў Бярозаўскім раёне.

Перад кампаніяй 2015 году БХД прапанавала дэмсілам вылучыць на "прэзідэнцкія выбары" адзінага кандыдата, і, каб стварыць зручную перамоўную пляцоўку, адмовілася вылучаць уласнага прэтэндэнта. Але нават гэты палітычны альтруізм не спрацаваў: паўтара гады перамоваў патанулі ў асабістых амбіцыях лідараў іншых сілаў, і ў выніку БХД, як і большасць дэмакратаў, "выбары" байкатавала ды арганізоўвала моцнае незалежнае назіранне (звыш 340 назіральнікаў).

У "парламенцкай" кампаніі 2016 году вылучылася 32 хрысціянскія дэмакраты, з якіх 24 былі зарэгістраваныя і выкарысталі збор подпісаў і пікеты дзеля шырокай працы з людзьмі – прычым гэтым разам хадэкі ішлі ў адзіным спісе правацэнтрысцкай кааліцыі , разам з Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй і Рухам "За свабоду".

Трэба зазначыць, што на "выбарах" усіх узроўняў БХД аказалася найбольш моцным складнікам незалежнага грамадскага назірання "**Права выбара**" (хрысціянскія дэмакраты ў 2015 і 2016 гадах вылучалі найбольш назіральнікаў сярод усіх дэмакратычных партыяў і арганізацыяў – 346 і 352 адпаведна, рыхтавалі найболей скаргаў, ускрывалі самыя яркія факты фальсіфікацыяў) – і ў выніку ў 2014-2016 кааліцыйную кампанію ачольваў топ-менеджар БХД Дзяніс Садоўскі.

## З'езд БХД 2015 года. Абноўленая і пашыраная Праграма БХД

13 чэрвеня 2015 года ў прысутнасці 205 дэлегатаў і каля 100 гасцей у Менску прайшоў чарговы з'езд БХД. З'езд пераабраў сустаршынямі Георгія Змітрука, Віталя Рымашэўскага і Паўла Севярынца, сфармаваў новую Нацыянальную раду і падрыхтаваў чарговую партыйную рэгістрацыю. Галоўным жа ягоным вынікам стала прыняццё абноўленай і пашыранай **Праграмы БХД "Народная партыя з хрысціянскім сэрцам**"– дакуманта на больш як 90 старонак з 12-ці раздзелаў, які рыхтаваўся з канца 2010-га года.

Канцэптуальнай асновай для Праграмы засталася палітычная платформа, выпрацаваная яшчэ ў 2005 годзе і зацверджаная на першым з’ездзе адноўленай БХД у 2009-ым. Разам з тым, на працягу 2010-2013 гадоў падчас шэрагу круглых сталоў і канферэнцыяў з удзелам экспертаў хрысціянскімі дэмакратамі былі распрацаваныя цэлыя новыя праграмныя блокі – прынцыпы ўзаемадзеяння асобы і супольнасці, арганізацыя новай структуры дзяржаўнага кіравання, сістэма мясцовага самакіравання і адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа, узаемадзеянне з цэрквамі, сістэма правасуддзя, бяспекі і праваахоўы, палітыка ў галіне падтрымкі сям’і, адукацыі, прадпрымальніцтва, маладзёвай сферы. Трэба асабліва адзначыць ўнёсак у гэтую працу Змітра Кухлея, Алеся Шамякіна, Віталя Рымашэўскага, Вольгі Кавальковай, Марыны Хоміч, Максіма Гацака.

У абмеркаванні новых тэкстаў, іх дапаўненні і ўдакладненні найбольш актыўна ўдзельнічалі Аляксей Шэін, Юрый Клімовіч, Мікалай Баўсюк, Таццяна Севярынец, Юлія Фралова, Галіна Каржанеўская, Георгій Змітрук. Рэдагаваць Праграму мне давялося ў спецкамендатуры ў Купліне. Нарэшце, пасля канчатковага ўзгаднення сярод кіраўніцтва, 90-старонкавы тэкст быў прыняты на з’ездзе 13 чэрвеня 2015 года.

*“Партыя Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя” з’яўляецца народнай партыяй і ажыццяўляе дактрыну сучаснай хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі. БХД аб’ядноўвае людзей шырокага ідэйнага спектру: хрысціянскіх дэмакратаў, прыхільнікаў цэнтрысцкай хрысціянска-сацыяльнай плыні, а таксама прыхільнікаў каштоўнаснага кансерватызму”* – сцвярджае Праграма БХД-2015. – *“Мы вызнаем, што чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае. Разам з тым грэх, які увайшоў у чалавечую прыроду, не дае магчымасці для самавыпраўлення – і, як хрысціянскія дэмакраты, мы бачым адказ на ўсе пытанні чалавечага існавання ў Богачалавеку Ісусе Хрысце”.*

Праграма БХД 2015 года прадугледжвае сярод іншага дэкамунізацыю грамадскага жыцця, шырокую дзяржаўную падтрымку беларускай мовы і культуры, свабоду сумлення і пашырэнне правоў цэркваў, падзел Беларусі на валасці і паветы дзеля больш эфектыўнага гаспадарання, прыватную ўласнасць на зямлю, інавацыйны і сэрвісна-лагістычны шлях развіцця эканомікі, вынішчэнне карупцыі паводле “Закону Лінкальна”, накапляльныя пенсіі, страхавую медыцыну, комплекс мер дзеля абароны жыцця і падтрымкі сем’яў, стварэнне міжканфесійнага хрысціянскага

універсітэту, актыўную маладзёвую палітыку, грунтаваную на стымуляванні адказнасці.

## “Урад для народа”

Новую якасць Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі як палітычнай сіле надала кампанія “**Урад для народа”.**

На працягу траўня - снежня 2015 года БХД з дапамогай вядучых незалежных экспертаў, хадэцкага Інстытута дэмакратыі і сацыяльнага рынку (дырэктар – Зміцер Кухлей) і Паўлам Пракаповічам у якасці менеджара распрацавала дзесяць законапраектаў і канцэпцыяў у ключавых галінах рэфармавання.

Так, пры ўдзеле кіраўніка Таварыства Беларускай Мовы Алега Трусава быў падрыхтаваны праект “Закона пра культуру”, доктара юрыдычных навук, прафесара, суддзі Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова – “Праект рэформы сістэмы правасуддзя”, былога кіраўніка Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча і экс-прэм’ера Беларусі Міхаіла Чыгіра – “Канцэпцыя эканамічнай мадэрнізацыі Беларусі”, доктара Уладзіміра Дунаева – праект “Закона аб адукацыі”, кіраўніка “Асацыяцыі беларускіх медыкаў” Андрэя Вітушкі – “Канцэпцыя рэформы сістэмы аховы здароўя” , вайсковага эксперта Андрэя Паротнікава – праект “Закона аб абароне”, самога Змітра Кухлея – “Канцэпцыя развіцця ЖКГ” (адпаведны круглы стол з удзелам хадэкаў прайшоў нават на афіцыйным узроўні), кіраўніка Беларускай Асацыяцыі Журналістаў Андрэя Бастунца – “Канцэпцыя рэфармавання медыйнай сферы ў Беларусі”, юрыста Вольгі Кавальковай – “Канцэпцыя пенсійнай рэформы”, энэргетыка Станіслава Гусака – “Канцэпцыя дыверсіфікацыі паставак вуглевадародаў у Беларусь”.

У кожнай тэме былі праведзеныя круглыя сталы і канферэнцыі, праекты рассылаліся ў дзяржаўныя ўстановы і на міжнародную экспертызу.

Са стварэннем заканадаўчай базы для пераменаў БХД займела статус партыі, гатовай браць адказнасць за краіну.

## Перспектывы Беларускай Хрысцянскай Дэмакратыі

У 2014-ым мы разам з прэс-сакратаром БХД Максімам Гацаком і журналістам Анатолем Шырвелем заснавалі першы ў Беларусі міжканфесійны хрысціянскі інфармацыйны партал

“**Крыніца.інфа**” ды Супольнасць хрысціянскіх журналістаў і блогераў. Стогадовая традыцыя беларускіх хрысціянскіх медыяў пад эгідай БХД аднавілася – і нашай марай сталася стварэнне самай чытанай інфармацыйнай платформы ў краіне ды рэгіёне.

У выніку шырокіх кампаніяў **БХД умацавалася ў рэгіёнах і Менску**. Агульная спісавая колькасць сяброў БХД перавысіла 4000 чалавек. Дзейсныя супольнасці хрысціянскіх дэмакратаў узначалілі Алег Аксёнаў у Магілёве, Павел Пракаповіч у Менскай вобласці, Яўген Анішчанка ў Воршы, Сяргей Верамеенка ў Гародні, Віктар Гарбачэўскі на Берасцейшчыне, Алесь Шарыпаў у Гомелі, Андрэй Гайдукоў у Наваполацку, Дзіяна Чэбышава ў Полацку, Багуслаў Мацук у Мёрах, Раман Ганчароў у Маладзечне, Віктар Нахайчук у Іванаве, Алег Кокаш у Наваградку, Таццяна Малашчанка ў Баранавічах, Уладзімір Шыла ў Салігорску, Дзяніс Дашкевіч у Рагачове, Арсень Чыгір у Асіповічах, Зміцер Вінаградаў у Мядзелі, Наталля Бордак у Нясвіжы, Святлана Манько-Раткевіч у Заслаўі, Вольга Кавалькова ў Менску.

У жніўні 2015 года на Данбасе загінуў кіраўнік берасцейскай гарадской арганізацыі БХД, які паехаў дабраахвотнікам (капеланам і медыкам) абараняць незалежнасць Украіны ад расейскай агрэсіі, 32-хгадовы **Алесь Чаркашын**. Праз год на сродкі, сабраныя па ўсёй Беларусі, хрысціянскія дэмакраты паставілі на могілках пад Берасцем помнік Алесю. Пасля украінскай “Рэвалюцыі годнасці” і вайны на Данбасе менавіта БХД выступіла ініцыятарам стварэння “Камітэту салідарнасці з Украінай” у 2014 годзе і “Камітэту бацькоў беларускіх дабраахвотнікаў ва Ўкраіне” у 2016-ым.

Увосені 2015 года БХД на прапанову Віталя Рымашэўскага разам з АГП і Рухам “За Свабоду” заснавала **правацэнтрысцкую кааліцыю** – ядро для яднання ўсіх дэмакратычных сіл. Пагадненне было падпісана таксама і на найвышэйшым палітычным узроўні ЕС - прэзідэнтам Еўрапейскай Народнай Партыі Жазэ Долем, які 31 жніўня 2016-га прыехаў з візітам у Мінск. Ужо ўвосені 2016-ага правацэнтрысты вылучылі адзіны спіс прамоўцаў у “парламенцкай” кампаніі, і стварылі агульную Асамблею Народных Прадстаўнікоў (свайго роду народны парламент).

На 2017 год БХД запланавала шырокае адзначэнне **стагоддзя хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі**. Вечарыны памяці,

усталяванне крыжоў ды мемарыяльных шыльдаў, набажэнствы, якія сумяшчаюцца з навукова-практычнымі канферэнцыямі, экскурсіямі, прэзентацыямі законапраектаў БХД ды кнігаў “Беларуская хрысціянская дэмакратыя 1917-2017” і “Сто асобаў БХД”, распаўсюд партыйнай Праграмы і працяг кампаніяў – найлепшы адказ на пытанне пра жыццяздольнасць хрысціянска-дэмакратычнай ідэі ў Беларусі.

70-гадовае панаванне камунізму з рэвалюцыямі і войнамі, і дваццаціГоддзе прарасійскай дыктатуры прывялі Беларусь да страшнага маральнага правалу. У Беларусі ўкаранілася норма хлусіць, красці, піць, фальшаваць выбары. Краіна выйшла на першае месца паводле ужывання алкаголю на душу насельніцтва ў свеце, на першае месца ў Еўропе па колькасці зняволеных жанчынаў, практычна страціла беларускамоўную адукацыю.

І, як і для пасляваенных Германіі ды Італіі, стала відавочна: каб выцягнуць 10-мільённы народ з гэтай ямы, патрэбная сіла, заснаваная менавіта на ўкарэненых ва ўласнай гісторыі маральных прынцыпах. На хрысціянстве і патрыятызме. **Перспектыва хрысціянскай дэмакратыі зараз, у пачатку XXI стагоддзя – гэта перспектыва выжывання беларусаў як нацыі і Беларусі як дзяржавы**.

## Асобы



**Таісія Кабанчук** – Нар. 14.2.1954. Кіраўніца БХД Бабруйска, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БХД, стваральніца суполак БХД у Клічаве, Кіраўску, Ялізаве, Быхаве.



**Таццяна Севярынец** – Нар. 1.9.1954. Кіраўніца самай шматлікай абласной арганізацыі БХД (больш як 850 сябраў) настаўніца, арганізатарка кампаніяў хрысціянскай дэмакратыі на Віцебшчыне, стваральніца структураў БХД у Віцебску, Наваполацку, Гарадку, Мёрах, Сянне.



**Мікалай Баўсюк** – Нар. 5.3.1950. Стваральнік і шматгадовы кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД, заснавальнік суполак БХД у Лідзе, Свіслачы, Бераставіцы, Зельве, Навагрудку.



**Вольга Кавалькова** – Нар. 26.1.1984. Юрыстка, арганізатарка кампаніяў БХД “У абарону жыцця” і “Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю”, з 2014 года – кіраўніца Менскай гарадской арганізацыі БХД.



**Марына Хоміч** – Нар. 20.2.1990. Настаўніца, кіраўніца “Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў”, сябра Нацыянальнай рады БХД, арганізатарка кампаніяў “Стоп спайс!” і “Беларусь – у Балонскі працэс”.



**Максім Гацак** – Нар. 14.1.1988. З 2011 года прэс-сакратар БХД, заснавальнік Супольнасці хрысціянскіх журналістаў і блогераў, галоўны рэдактар хрысціянскага інфармацыйнага парталу “Крыніца.інфа”, сябра Управы БХД.



**Зміцер Кухлей** – Нар. 21.2.1979. Кіраўнік Мастоўскай раённай арганізацыі БХД, заснавальнік “Інстытута дэмакратыі і сацыяльнага рынку ва Ўсходняй Еўропе”, аўтар шматлікіх брашураў і законапраектаў у галіне хрысціянскай дэмакратыі.



**Павел Пракаповіч** – Нар. 2.8.1983. Кіраўнік Менскай абласной арганізацыі БХД, удзельнік шматлікіх акцыяў пратэсту, менеджар кампаніі “Урад для народа”, сябра Управы і Нацыянальнай рады БХД.



**Алесь Чаркашын** – 27.9.1982-28.8.2015. У 2010-2013 гадах – кіраўнік Берасцейскай гарадской арганізацыі БХД, з 2014 года – капелан беларускіх дабраахвотнікаў ва Ўкраіне, медык, бард. 10 жніўня 2015 года быў цяжка паранены ў баі пад Старагнатаўкай, 28 жніўня памер ад ранаў.

## Крыніцы:


1. Сайт Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі: http://bchd.info/
2. Праграма БХД “Народная партыя з хрысціянскім сэрцам”: http://bchd.info/program.html
3. Партыйны бюлетэнь БХД “Крыніца”, №№ 1-36
4. Хрысціянскі інфармацыйны партал “Крыніца.інфа”: http://krynica.info/



Святары-беларусы. Сядзяць Адам Станкевіч, Язэп Германовіч, Вінцэнт Гадлеўскі. Стаяць ксёндз Леваш, Станіслаў Глякоўскі



1927. Гурток БІГіК у Жодзішках. У цэнтры - ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі



Вільня, 1927 год. З’езд БХД

Nr. 14 (607). Wilnia, Niadziela 24 Sakawika 1935 h. Pierasyłka apłačana ryčałtam Hod XI (XIX).

# БЕЛАРУСКАЯ КРЫНІЦА | BIEŁARUSKAJA KRYNICA

Palityčnaja, hramadzkaja i litaraturnaja hazeta.

| Adras Redakcyi i Administracyi: WILNIA, ZAWALNAJA 1—1 (Wilno, Zawalna 1—1). Redakcyja adčynlena ad 9 hadz. ran. da 4-aj uwieč. | HAZETA WYCHODZIĆ RAZ U TYDZIEŃ. | Košty wydawańnia pakrywajuć składki. Składka u hod 4 zał., na paŭhoda — 2 zał., na 3 miesiacy — 1 zał. |
|---|---|---|

## Сутнасьць акту 25.III.18.

З году ў год сьвяткуем дзень 25.III, як дзень беларускага нацыянальнага сьвята. У дзень гэты, 17 гадоў таму, Беларускі Народ праз вусны сваіх лепшых сыноў выявіў свой Найвялікшы Ідэал: абвесьціў Незалежнасьць Беларусі. Маючы гэты Ідэал, народ наш рабіў магчымыя сабе захады, каб яго зьдзейсьніць, каб зрабіць яго сапраўднасьцяй. На жаль, сілы аказаліся яшчэ заслабыя і Ідэал Незалежнай Беларусі покульшто так Ідэалам і астаўся, заахвочваючы Беларускі Народ да далейшай вытрывалай працы і барацьбы за сваю Незалежнасьць у будучыні.

Сутнасьць акту 25.III у тым, што... рускаму Народу прадусім волю выбраць сабе такі палітычны лад, які яму найбольш да ўспадобы і які яму быў-бы найбольш карысны.

Сутнасьць такім чынам Ідэалу акту 25.III у тым, што ён імкнецца да таго, каб Беларусь у сваіх этнографічных межах была ад пастароньняй сілы незалежнай: грамадзка-палітычна, культурна і эканамічна. Гэта-ж бывае з якім народам тады, калі над ім ніхто не пануе, а калі ён усім сваім жыцьцём кіруе сам. Гэткія-ж Ідэалы нясе з сабой акт 25.III і беларускаму народу. У гэтым і сутнасьць гэ-

## 25 sakawik — narodnaje świata biełarusaŭ.

Prachodzili wieki. Paŭstawali i hinuli narody. Raźwiwalisia kultury i cywilizacyi.

Narody, što raźwiwali swaje ideały i nie ščadzili na heta swaich achwier, pry žyćci daŭžej wytrywali. Narody, što swaje ideały zahubili, daŭno ŭžo žyć pierastali.

Biełaruski narod, hledziačy u prošłaść, prajšoŭ słaŭnuju školu žyćcia narodaŭ u historyi. Jon wiedaje, chto takija byli Hreki, abo Rymlanie, što takoje Ehipiet, Babilonija, Eŭropa, abo Azija. Ciapier biełaruski narod žywieć najnawiejšym žyćciom i tworyć sabie swaje wysokija ideały. Za hetyja swaje ideały biełarus zdolny niaści na aŭtar swajej Baćkaŭščyny wialikija z siabie achwiary.

25 sakawik dla biełarusaŭ — heta duchowaje bahaćcie narodu, heta nacyjanalnaje biełaruskaje świata. Hety los wyniatkewy. Kali inšyja narody paśla suświetnaj wajny pryšli da swajej niezaležnaści, to jašče Biełaruś hetaha ščaścia nie asiahnuła. Biełarusy i paśla astalisia narodam niesamastojnym. Ale ciapier šlach pierad nami duža jasny, daroha nam dobra praciortaja. Zdabyli sabie swabodu inšyja narody — zdabudzim sabie i my!

Słońnia na 25 sakawika dla biełarusaŭ niama hranic, ani prastoru. U hety dzień jany ŭsie złučanyja adnej biełaruskaj dumkaj — niezaležnickimi ideałami. Usie iduć na front, baronia-čy hetaj dumki. Biełarusy ŭ hety dzień adkidajuć ad siabie ŭsio staroje, usio, što dahetul mučyła i hnuła. Ciapier dla biełarusa kančajucca wieki niawoli, bo biełarusy światkujuć 25 sakawik. A ŭ hetym świacie biełaruskaja siła i bahaćcie!

24.03.1935. Газета БХД “Беларуская крыніца”



25.03.1933, Вільня. Актыў БХД. Дзень Волі



1936, Вільня. Рада БХД – БНА



10.02.1999. Менск. З'езд Маладога Фронту, на якім хрысціянскія каштоўнасці абвешчаныя асновай руху.




Праграма і Статут Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі (БХДП). 4 снежня 1994 года



01.06.2007, Менск. Царква “Новае жыццё”, штаб кампаніі “За свабоду веравызнання”



02.07.2007, Будслаў. Сябры БХД і вернікі цэркваў збіраюць подпісы ў кампаніі “За свабоду веравызнання”



05.07.2007, Менск. Офіс БХД пасляператрусу



01.09.2007, Менск. Нацыянальная рада БХД



Бел-чырвона-белы з бэтлеемскай зоркай - партыйны сцяг БХД




27.10.2007, Курапаты. Кампанія “Пакаянне”, сябры БХД на талацэ



03.11.2007, Менск. Малітва перад сустрэчай БХД



06.12.2007. Вашынгтон. Сустаршыня БХД Павел Севярынец у Белым доме з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам



17.04.2008, Варшава. Саміт EPP. БХД падае заяўку на ўступленне ў Еўрапейскую народную партыю




25.04.2008, Хельсінкі. Дэлегацыя БХД на Саміце Еўрапейскага хрысціянскага палітычнага руху



24.05.2008, Менск. Пастар Эрнст Сабіла выступае перад сябрамі БХД



08.10.2008, Валожын. Экскурсія БХД



30.10.2008, Менск. Гістарычная канферэнцыя БХД




26.12.2008, Менск. Канцэрт "Беларускі хрысціянскі хіт" у Чырвоным касцёле



31.01.2009, Менск. Кампанія БХД "Моцная сям'я – моцная Беларусь"



Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя

Ласкава запрашаем Вас узяць удзел у Ўстаноўчым з'ездзе партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя", які адбудзецца ў Менску **28-га лютага 2009 году ў Доме Культуры МТЗ, вул. Даўгабродзкая, 24 (с.м. Трактарны завод). Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 10.00, пачатак з'езду - 10.30.**

Просім Вас захаваць гэтае запрашэньне дзеля рэгістрацыі за столікам VIP.

З павагай,

Павел Севярынец,
сустаршыня аргкамітэту Партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя"

Запрашэнне на Устаноўчы з'езд аднаўленай БХД



28.02.2009, Менск. Кіраўніцтва БХД на З'ездзе аднаўлення партыі.



28.02.2009, Менск. З'езд БХД, спявае Алеся Унукоўская



12.03.2009, Менск. Падача дакумантаў на рэгістрацыю БХД у Мін'юст




28.02.2009, Менск, Палац культуры МТЗ. З'езд аднаўленай БХД



25.03.2009, Менск. Сцягі БХД на Дні Волі



31.10.2009, Менск, Палац культуры МТЗ. Паўторны з'езд БХД.




28.01.2010, Менск. Прэзентацыя дыску "Бардаўскі хрысціянскі хіт"




2010, Менск. Мясцовая кампанія БХД. Прэзентацыя спіса больш як 200 кандыдатаў-хадэкаў




04.04.2010, Менск. Мясцовая кампанія 2010 года. Пікет Дзяніса Садоўскага ў Менску




22.05.2010, Менск. Заснаванне Маладых хрысціянскіх дэмакратаў




07.08.2010, Менск. Нацыянальная рада БХД




12.09.2010, Менск. З'езд БХД. Вылучэнне Віталя Рымашэўскага кандыдатам у прэзідэнты



2010, Менск. Прэзідэнцкая кампанія. Пікет БХД




2010, Менск. Выступ Віталя Рымашэўскага ў жывым эфіры БТ




19.12.2010, Менск. Плошча Незалежнасці, сцягі БХД



01.03.2011, Славаччына. Акцыя падтрымкі беларускіх палітвязняў




24.03.2013, Менск. Вялікі сцяг БХД на Дні Волі




2013, Менск. З'езд МХД




2014, Менск. Кампанія “Люблю Беларусь”




Праграма БХД “Народная партыя з хрысціянскім сэрцам”, прынятая 13 чэрвеня 2015 года



13.06.2015. Менск. Удзельнікі Праграмнага з'езду БХД на ганку Палаца культуры Трактарнага завода




13.06.2015, Менск. Праграмны з'езд БХД




2015, Менск. Кампанія “Урад для народа”. Абмеркаванне праекту “Закона аб культуры”



Алесь Чаркашын, сябра БХД. Загінуў на Данбасе 28.08.2015




Восень 2015, Менск, гатэль “Вікторыя”. Нацыянальная рада БХД



# КРЫНіЦА

№1 (54) ЛЮТЫ 2016 www.bchd.info

## ВІЦЕБСКАЕ БХД ДАБІЛАСЯ ЗНАЧНЫХ ПОСПЕХАЎ У РАМКАХ КАМПАНІІ «ЗА ЯКАСНУЮ МЕДЫЦЫНУ»

**У 2015 годзе Віцебскімі сябрамі БХД
было сабрана больш за 1500 подпісаў
за сканчэнне даўгабудаў і шматгадовых
рамонтаў у сферы аховы здароўя. Былі
шматлікія звароты і паходы па кабінетах
чыноўнікаў. І вось вынік – 28 студзеня ў
Віцебску адбылося ўрачыстае адкрыццё
першага корпуса абласной інфекцыйнай
бальніцы пасля 15-гадовага рамонту.**

«Гэта сапраўды вельмі добрая падзея для жыхароў
Віцебшчыны, якую чакалі доўгі час», – адзначыла каар-
дынатар аргкамітэту БХД Таццяна Севярынец.

Таксама 12 студзеня на сустрэчы з старшынём Ві-
цебскага гарадскога Савета дэпутатаў Уладзімірам
Балевічам, у прысутнасці галоўнага ўрача горада
Станіслава Цітовіча, галоўнага архітэктара Андрэя Ма-
чеева і начальніка гарадскога аддзела адукацыі Ігара
Груценкі каардынатару БХД «За якасную медыцыну ў
Віцебску» Таццяне Севярынец і актывістам Алене Ша-
буні і Валерыю Спаткаему было паведамлена пра ад-
наўленне будаўніцтва палiклінікі на Поўдні-7 (таксама
мікрараён Віцебска). Праўда, тэрміны заканчэння бу-
даўніцтва зноў павіслі ў паветры. Таксама ў грамадскі-
і біяпрыбіральнях навядуць парадак, а ў паліклініка-
размесцяць дазатары з мылам і папяровыя ручнікі. Бя-
сплатнае УЗІ ў жаночых кансультацыях будзе па пака-
заннях, а не толькі для цяжарных жанчын, і кошт будзе
суадносны, а не агульны.

Яшчэ адно з важных дасягненняў Віцебскіх сябро-
БХД – з 4 студзеня ў жаночай кансультацыі № 1 Ві-
цебска арганізаваны папярэдні запіс да доктара пры
дапамозе кампутара. Раней на прыём можна было
патрапіць толькі дзень у дзень, заняўшы чаргу за гадзі-
ну-паўтары да адкрыцця рэгістратуры, ды яшчэ перад
дзвярыма ў любое надвор'е. Па тэлефоне ж немагчы-
ма датэлефанавацца, бо пры вялікай чарзе рэгістратар
нават трубку не здымала. Цяпер пытанне вырашана.

**Далучайцеся да кампаній якія праводзяць Віцеб-
скія сябры БХД: 80295977049**

Люты 2016. Партыйны бюлетэнь БХД “Крыніца”, №54



15.03.2016, Меншчына. Мітынг у Капылі



2016, Менск. Курсы “Дыджэяў Адраджэння”




2016, Брусель. Прэзентацыя правацэнтрысцкай кааліцыі з удзелам БХД




Лета 2016, Гародня.
Пікет БХД.




Лета 2016, Віцебск.
Пікет
правацэнтрыстаў



Лета 2016, Гомель.
Пікет БХД



Лета 2016, Жыровічы. Пікет БХД




Лета 2016, Менск. Міліцыя афармляе пратаколы на пікеце БХД



2016, Менск. Кіраўнік Еўрапейскай Народнай Партыі Жазэ Доль на пікеце Марыны Хоміч



Восень 2016. Удзельнікі кампаніі-2016 ад БХД




27.09.2016, Берасце. Адкрыццё помніка Алесю Чаркашыну


2016, Магілёў. Сустрэча з актывам БХД да стагоддзя партыі


17.11.2016, Менск. Антыалкагольная кампанія БХД. Круглы стол з прадстаўнікамі дзяржавы



14.12.2016, Бабруйск. Сустрэча з сябрамі і прыхільнікамі БХД




10.01.2017, Менск. Стагоддзе БХД. Прэс-канферэнцыя кіраўніцтва

## ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ЗЛУЧНАСЬЦІ (1920)

Была надрукавана летам 1920 году ў Менску кніжыцай “Ustawa i prahrama Chryścjanskaj Demakratyčnaj Złučnaści Belarusaŭ”, большую частку якой кс. А. Станкевіч прывёў у кнізе “Беларускі Хрысьціянскі Рух” (С. 141–147). Тут прыводзяцца кавалкі праграмы, надрукаваныя ў кнізе кс. А. Станкевіча.

### I. Агульные прынцыпы:

1) ХД ёсьць грамадзянская сувязь, што хоча завесьці лад на сьвеце на аснове хрысьціянскай дэмакратычнай справядлівасьці, роўнасьці, міласьці і свабоды. З натуры сваёй ХД ёсьць эвалюцыйная, надпалітычная, міжнародная, надстановая.

2) ХД змагаецца перадусім з капіталізмам, у каторым бачыць адну з найважнейшых прычын беднасьці і нэндзы працоўных мас і хоча завесьці такі лад, каб кожнаму чалавеку магчыма было сваею працаю здабыць сабе хлеб патрэбны і карыстаць з усяго культурнага багацьця. ХД проці ўсякіх прывілеяў клясавых.

3) ХД прызнае права існаваньня, разьвіцьця, кіраваньня сабой хоцьбы найменшага народу кожнага і ўважае разумны і справядлівы патрыятызм за важную пружыну ў жыцьці людзкім. Зьезд ХД адбыты 14 – 16 лютага 1918 году ў Петраградзе заявіў, што ў адносінах да малых народаў, як Літва, Латвія, Беларусь, Украіна, трэба стаяць на грунце поўнага іх самаазначэньня.

### II. ХД і Рэлігія:

ХД будучы процiў усякіх агранічэньняў рэлігійных у гаспадарстве, але хочучы запэўніць свабоду касьцёлу каталіцкаму, жадае:

1) Каб Касьцёл            прызнаваўся за інстытуцыю сувэрэнную, каторая кіруецца сваімі ўставамі.

2) Каб Касьцёл не агранічаўся ў правах і не прыцiскаўся ўрадам.

3) Каб Касьцёл быў у праве мецъ багацьце як рухомае так і нерухомае.

4) Каб гаспадарства адшкадавала Касьцёлу ўсе крыўды, каторые зрабіла, касуючы маёмасьць касьцельную.

5) Каб Касьцёл мог адкрываць ахронкі, школы, рознымі спосабамі вясьці асьвету і кіраваць усім гэтым.

6) Каб мог адкрываць і шырыць каталіцкіе кляштары.

7) Каб былі капэляны для школ, войска, бальніц і дамоў працы.

8) Каб культ рэлігійны можно было спраўляць свабодна.

9) Каб аб падставах жыцьця каталіцкага можна было свабодна гаварыць і правадзіць іх у жыцьцё, як каждага чалавека, так і цэлага грамадзянства.

10) На Беларусі ХД “Злучнасьць” ставіць сабе спэцыяльную мэту: зблізіць усіх каталікоў і праваслаўных і аб’яднаць іх у аднэй веры з рознымі абрадамі.

### III. Сям’я і школа:

1) Каб права цывільнае не парушала сталасьці і неразлучнасьці малжонства.

2) Каб не было малжонстваў мешаных.

3) Каб права ня гвалціла перакананьняў рэлігійных і абычаяў сям’і каталіцкай.

Апроч гэтага ХД хоча:

4) Абараняць дзяўчат ад распусьнікаў праз устанаўленьне кар на іх.

5) Змагацца з публічнай распустай, закладаючы дамы працы і направы.

6) Караць тых лекараў і лекарак, каторыя робяць практыкі, згубныя для матак і дзяцей.

7) Стварыць правадаўства фабрычнае, каторае забясьпечыла-б утрыманьне сям’і.

8) Закладаць кватэры для работнікаў, кіруючыся вымаганьнямі маральнасьці і гігіены.

9) Устрайваць для работнікаў у местах сады, злучаныя з цэнтрамі фабрычнымі трамваямі.

10) Устанавіць строгія правы для шынкоў і мясцоў прызначаных на публічные гульні.

11) Увясьці праўную плату сямейным, каторай хваціла-б на ўтрыманьне ня толькі работніка, але яго сям’і. Ва ўсім тым, што датычыць навукі і адукацыі ў школах ХД

трымаецца таго пагляду, што школа ёсьць дальшы працяг сям'і, дзеля чаго бацькі разам з вучыцелямі думаюць, як вясьці адукацыю. Урад-жа, забочучыся аб пашырэньні асьветы паміж грамадзян, ёсьць толькі памочнікам бацькоў, або заступае іх там, гдзе бацькі сваіх абавязкаў выпаўніць ня могуць або ня хочуць. З гэтай прычыны ХД дабіваецца каб:

1) увясьці паўшэхнае пачатковае навучаньне ў роднай мове, не ўстанаўляючы абавязку вучыцца ў школах урадавых,

2) зраўняць школы прыватныя хрысьціянскія са школамі ўрадовымі ў правах і дапамогах грашовых,

3) увясьці навукі рэлігіі каталіцкай ва ўсе школы ўрадовыя і прыватныя ў роднай мове моладзі,

4) дамагацца, каб школьная адукацыя дзяцей вялася паводле маральнасьці хрысьціянскай.

**IV. Уласнасьць:**

ХД прызнае, што прыватная ўласнасьць ёсьць падставай цывілізацыйнага поступу грамадзянства. Не працівючысяся, каб прыватная ўласнасьць пераходзіла ў формы калектыўныя, як напр. манаполі розные і каапэрацыі, – ХД жадае, каб уласнасьць прыватная, як такая, усё такі не касавалася. Разам з гэтым ХД перакананая, што ўласнасьць прыватная даючы ня толькі правы, але і накладаючы абавязкі грамадзянскія, памагае да выпрабленьня ў людзях ініцыятывы і самадзельнасьці.

ХД рупіцца, каб найшырэйшыя слаі працаўнікоў мелі свае ўласные варштаты працы і дамагаецца:

1) каб закладаліся цэнтральныя работніцкія банкі, работніцкія каапаратывы, злучнасьці працы і другіе арганізацыі,

2) каб бедные людзі маглі здабываць сабе кватэры, варштаты і г. д. за пазычаные ў гэтых банках грошы,

3) там, дзе работнікі наймаюцца, каб гаспадар дзяліўся зь імі даходамі,

4) каб можна было свой маёнтак апісаць каму, або дараваць.

У справе зямельнай ХД жадае:

1) каб была падзелена казённая зямля паміж безьзямельнымі і малазямельнымі з мэтай стварэньня малой уласнасьці. Гэты падзел маюць зрабіць мясцовые самаўпраўленьні, маючы на ўвазе ўсіх заінтэрэсованых, а такжэ меншасьці народныя і рэлігійныя,

2) агранічыць вяліку ўласнасьць прыватну, аблажыўшы яе вялікімі падаткамі,

3) паднясьці і павышыць культуру зямельную дапамогамі ўраду, праводзячы чугункі, дарогі бітые і г. д.,

4) паднясьці культуру хлебаробаў, адкрыцьцям для іх школаў, разводзючы гаспадарствы прыкладныя, робячы выставы, зьезды.

У адносінах да капіталу ХД ставіць сабе мэтай змагацца з капіталізмам ва ўсіх яго формах і не адкідаючы капіталу, самому лучыць яго з працай у адных руках.

2) Зрэфармаваць правы аб таварыствах акцыйных, сындыкатах і трэстах,

3) змагацца з усякай спэкуляцыяй на біржы і ў гандлю.

У адносінах да падаткаў ХД радзіць:

1) Завясьці падаткі ад даходаў і капіталаў непрадукцыйных,

2) Скасаваць цяжкія падаткі на жыўнасьць і малыя складкі ў простай лініі.

Наагул навука ХД ёсьць, каб усе рэформы што да ўласнасьці прыватнай, вяліся эвалюцыйна, згодна з падставамі справядлівасьці грамадзянскай, а такжа эканоміі народнай.

Баронячы працоўны люд, ХД жадае справядлівага права, каторае:

1) устанавіла б міністэрство працы,

2) азначыла б мінімум платы сямейнай, пачынаючы ад работ публічных,

3) адзінакавую плату за такую самую працу для мужчын і кабет,

4) у нядзелю і сьвяткі адпачынак для ўсіх,

5) максымум гадзін працы,

6) каб не працавалі ўночы, апрача там, дзе гэтага ня можна скасаваць,

7) каб маткі не працавалі на фабрыках і каб праца дзяўчат была агранічана,

8) каб дзеці да 14 гадоў сусім не працавалі і агранічыць працу малалетніх ад 14 – 17 год,

9) забараніла працаваць моладзі і кабетам там, дзе гэта шкодзіла б іх здароўю,

10) плаціць у часе хваробы, а таксама цяжарным кабетам 4 тыдні перад і 6 пасьля полягу,

11) каб работнік меў запамогу тады, калі ня мае працы, або ня можа працаваць па хваробе і старасьці,

12) каб быў інспэктар фабрычны,

13) каб у школах учылі розных рамёслаў,

14) каб работнікі маглі арганізавацца свабодна.

Наогул ХД жадае ад права абароны і арганізацыі працы, каб людзі шанавалі працу і разумна працавалі.

### V. Народ і гаспадарства:

ХД бачыць у падзеле людзей на народы апеку Божую над людзьмі і прызнае, што мова ёсьць недатыкальны скарб кожнага грамадзянства, без каторага няма культуры духоўнай і матэрыяльнай людзей. Паводлуг ХД кожны мае права свабодна разьвіваць формы жыцьця свайго народнага і патрыятычнага. ХД мае пераконаньне, што не народ для гаспадарства, але гаспадарство патрэбна для пажытку і бясьпечнага жыцьця народу. Дзеля таго жадае, каб справы народныя вышэй ставіліся як палітычныя, з другой стараны аднак ХД агульнае дабро людзей ставіць вышэй, як інтарэсы якога-небудзь народу і хоча, каб палітыка кіравалася справядлівасьцю грамадзянскай і міжнароднай. У граніцах кожнага гаспадарства ХД жадае:

1) каб усе народы мелі роўныя правы і каб лучыліся з якім-небудзь гаспадарствам толькі на засадзе дабравольнай лучнасьці вольных з вольнымі і роўных з роўнымі,

2) каб было роўнае права ў адносінах да мовы ўсіх народаў ва ўсіх урадах гаспадарства,

3) каб права для ўсіх было роўнае нягледзячы на народ, рэлігію і г. д.,

4) каб было мець паўшэхнае справядлівае галасаваньне,

5) каб установлена бясплатную публічную нараду адвакацкую,

6) каб была недатыкальнасьць асобы грамадзяніна, яго кватэры, уласнасьці і карэспандэнцыі,

7) каб праведзена вольнасьць слова, друку і сувязей, але з тым, каб кожны адказваў перад судом за шкадлівую для грамадзянства ці каго-небудзь работу, агітацыю а так-жа прэсу,

8) каб усе, каторыя знаходзяцца на службе публічнай, адказвалі перад судом,

9) увядзеньнк самаўраду гміннага і правінцыяльнага,

10) што датычыць айчыны сваёй – Беларусі – Х. Дэмакратычная Злучнасьць Беларусаў жадае, каб яна была цэлай, непадзельнай і вольнай,

11) каб на Беларусі была роўнасьць і свабода грамадзянская і запэўнены правы народных меншасьцяў,

12) каб Сойм вольнай Беларусі, каторы будзе выдаваць правы, быў выбраны на аснове справядлівага, паўшэхнага галасаваньня і каб толькі ён меў права сказаць слова аб урадзе і яго форме на Беларусі.

## ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ (1926)

Праграма прынята на сходзе з нагоды 10-гадовага юбілею газэты “Kryniсa” 24 кастрычніка 1926 году

### I. Палітычныя мэты

1. БХД імкнецца да самастойнасьці Беларускага Народу на ўсіх яго землях, аб’яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку.

### II. Адносіны да суседзяў

2. БХД лічыць сваім ідэалам добрасуседзкія адносіны з усімі народамі на падставе сапраўднай вольнасьці і роўнасьці.

3. З пагляду палітычнага і гаспадарчага БХД уважае карысным, каб незалежная

Беларуская Рэспубліка ўвайшла ў саюз з суседзямі, а прадусім зь літоўскім народам і ўкраінскім, як натуральнымі сваімі саюзьнікамі.

**III. Шлях да мэтаў**

4. БХД да сваіх мэтаў ідзе дарогай арганізаваньня, усьведамленьня і ўзгадаваньня беларускага сялянства, работнікаў і інтэлігенцыі на грунце х/д ідэалаў і беларускай народнай культуры.

**IV. Самаўрады**

5. БХД уважае, што гмінныя, павятовыя і ваяводзкія самаўрады ў сваіх мясцовых справах павінны быць незалежнымі ад цэнтральных уладаў.

6. Да кампэтэнцыі самаўрадаў належаць справы адміністрацыйныя, гаспадарчыя, школьныя, зямельныя, апека над сіротамі, хворымі, калекамі, беднымі і г. д.

7. Самаўрады маюць свой бюджэт. Недахват гэтага бюджэту на вышэйазначаныя мэты (6) пакрывае дзяржава.

8. Самаўрады выбіраюць агульным, простым, тайным і прапарцыянальным галасаваньнем.

**V. Войска**

9. БХД змагаецца з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

10. Вучэньне народнай міліцыі павінна адбывацца на месцах і ў вольным ад гаспадарчых работ часе.

VI. Палітычная і грамадзянская свабода

11. Усе грамадзяне павінны быць роўныя перад правам.

12. Павінна быць поўная свабода сходаў, друку, слова, сумленьня, арганізацыі таварыстваў і прафэсійных саюзаў.

13. БХД проціў кары сьмерці.

14. Кожная нацыянальнасьць мае права карыстацца сваёй мовай у агульна-грамадзкім і палітычным жыцьці.

**VII. Суд**

15. Суд павінен быць незалежны.

16. Міравыя суды складаюцца з выбраных народам судзьдзі і таксама выбраных лаўнікаў.

17. Ува ўсіх важнейшых угалоўных і палітычных справах прыгаворы пастанаўляюць суды прысяжных.

18. Палявыя (надзвычайныя) суды павінны быць скасаваны.

**VIII. Школа**

19. Пачатковае навучаньне абавязковае для ўсіх, бясплатнае і ў роднай мове вучняў.

20. Навучаньне прыватнае карыстаецца такімі-ж правамі як і ўрадавае.

21. Аднолькавая дапамога ўрадавая як школам прыватным, так і ўрадавым.

22. Навучаньне рэлігіі кожнага вызнаньня адбываецца абавязкова як у школах урадавых, так і прыватных.

**IX. Рэлігія**

23.Касьцёл (Царква) у сваім унутраным жыцьці карыстаецца з поўнай свабоды і кіруецца кананічным правам.

24. К (Ц) у жыцьці грамадзкім карыстаецца з усіх правоў палітычных і грамадзкіх нароўні зь іншымі ўстановамі і грамадзянамі дзяржавы і спаўняе такія-ж самыя абавязкі, як і ўсе грамадзяне дзяржавы.

25. БХД прынцыпова проціў разьдзелу К (Ц) ад дзяржавы. Аднак каб урад ня мог выкарыстоўваць рэлігіі для палітычных мэтаў, або паддзержываць адну рэлігію проціў другой, БХД уважае магчымым разьдзел К (Ц) ад дзяржавы для агульнага дабра.

26. Спрэчныя справы між К(Ц) і дзяржавай вырашаюцца палюбоўна, дарогай узаемных дагавароў і ўступак.

27. БХД змагаецца за поўную беларусізацыю на беларускіх землях К (Ц) з тым, каб беларуская мова мела ў рэлігійным жыцьці поўныя правы.

28. БХД змагаецца за тое, каб жанімства і агулам справы сям'і апіраліся на асновах хрысьціянскай маральнасьці.

**X. Прыватная ўласнасьць**

29. БХД прызнае, што прыватная ўласнасьць ёсьць падставай цывілізаванага поступу грамадзтва. Аднак уважае, што ўласнасьць, зграмаджаная ў вялікай меры ў прыватных руках, ёсьць крыўднай для працоўнага народу і дзеля гэтага БХД змагаецца з абшарніцтвам і капіталізмам агулам.

30. БХД пераканана, што прыватная ўласнасьць, абапёртая на працоўнай норме, не толькі даючы правы, але і накладаючы грамадзкія абавязкі, памагае выпрабленьню ў людзях ініцыятывы, самавітасьці і грамадзкай свабоды.

31. БХД не працівіцца, каб буйная прыватная ўласнасьць, калі гэтага вымагае дабро шырокіх працоўных масаў, пераходзіла ў формы калектыўныя (грамадзкага валаданьня).

32. Пры ўсім гэтым у справе прыватнай уласнасьці, маючай у жыцьці народаў вялізарнае значэньне, БХД уважае, што ўсе рэформы прыватнай уласнасьці павінны праводзіцца згодна зь інтарэсамі беларускай народнай эканомікі.

**XI. Зямля**

33. Асновай зямельнай гаспадаркі служыць працоўная норма.

34. Усе землі (дворныя, касьцельныя (царкоўныя) і інш.), перавышаючыя працоўную норму, перадаюцца на ўласнасьць і бяз выкупу безьзямельным і малазямельным сялянам.

35. Працоўную норму азначаюць мясцовыя сялянскія зямельныя камісіі пры самаўрадах.

36. Гэтыя-ж зямельныя камісіі праводзяць падзел зямлі.

37. Працоўную норму зямлі становіць такі лік дзесяцін, які гаспадар можа абрабіць сам са сваёй сям'ёй пры помачы ня больш аднаго найміта.

38. Мясцовыя самаўрады могуць мець запас зямлі, як народную ўласнасьць, для мэтаў агульна-грамадзкіх.

**XII. Упарадкаваньне зямлі**

39. БХД за гаспадарку хутарную.

40. Пераход на хутары праводзяць сялянскія зямельныя камісіі са згоды саміх сялян.

41. На загаспадараваньне пры пераезьдзе на хутары павінна быць дадзена патрэбная помач ад ураду грашмі, інвэнтаром, дрэвам.

42. Усе работы, што да землепрадзелу павінны быць залічаны на кошт скарбовы.

43. БХД імкнецца да палепшаньня гаспадарчага палажэньня вёскі праз пашырэньне земляробскай культуры, каапэрацыі, павелічэньня абшару ўпраўнай зямлі, а прадусім асушкі балот і лугоў. Дзеля гэтага БХД рупіцца аб закладаньні земляробскіх школаў, агранамічных пробных станцыяў, інструктарскіх пунктаў і г. д.

44. Сяляне дпя палепшаньня сваёй гаспадаркі павінны карыстацца з таннага крэдыту.

45. БХД стаіць за справядлівыя цэны на прадукты сялянскія і фабрычныя, БХД праціў выкарыстываньня вёскі горадам і наадварот.

**XIII. Прыродныя багацьці**

46. Лясы, воды, падземныя багацьці і інш. праз увагу на сваю агранічанасьць і агульна-гаспадарчае значэньне, становяць уласнасьць самаўрадаў.

47. На апал і будову сялянскія зямельныя камісіі пры самаўрадах вызначаюць патрэбны лік лесу.

**XIV. Асадніцтва**

48. Чужацкае ваеннае асадніцтва і такая ж прыватная каланізацыя беларускіх зямель, як цалком несправядлівыя, павінны быць скасаваны.

**XV.Работніцкія справы**

49. БХД змагаецца за:

a) 8-гадзінны дзень працы,

b) права страйку, як абарону ад вызыскаў,

c) калектыўныя ўмовы дзеля забесьпячэньня лепшай аплаты,

d) забарону ночнай працы (вынятак там, дзе вымагаюць варункі тэхнічныя, або патрэбы грамадзянскія),

e) забарону працы дзяцей у фабрыках да 16 гадоў,

f) дзяржаўнае страхаваньне работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва, безрабоцьця і на старасьць,

g) законнае прызнаньне фабрычных работніцкіх камітэтаў з правам учасьця іх у наглядзе за прадукцыяй і даходам,

h) нядзельны адпачынак.

### XVI. Падаткі

50. Мерай падаткаў павінен быць даход грамадзян, дзеля гэтага, хто больш мае даходу, той больш і плоціць падаткаў.

51. Усе падаткі пасрэднія (ускосныя), як на соль, газу, цукер і інш., павінны быць скасаваны.

52. Павінны быць уведзены адзіны падатак, які-б вызначаўся раз у год па адным наказе з разлажэньнем на раты і з азначэньнем тэрміну.

53. Даход, патрэбны толькі на пражыцьцё, павінен быць ад падаткаў зусім звольнены.

### XVII. Каапэрацыя

54. БХД стаіць за пашырэньне спажывецкай, вытворчай і крэдытнай каапэрацыі і дамагаецца на гэта шырокіх дзяржаўных крэдытаў.

### XVIII. Дапамога пакрыўджаным вайной

55. БХД дамагаецца:

a) каб зьнішчаныя вайной гаспадаркі былі неадкладна адбудаваны на кошт дзяржавы і

b) каб неадкладна былі прызнаны інвалідныя рэнты для ўсіх ваенных інвалідаў, іхных удоў і сірот.

“Beiaruskaja Krynica”, 1926, № 23, 18. 07, с. 2–5.

## ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ (1928)

Прынята на зьезьдзе БХД 25 лістапада 1928 году

### I. Палітычныя мэты

1. БХД, стоячы на грунце самастанаўленьня народаў, імкнецца да самастойнасьці Беларускага Народу на ўсіх яго землях, аб’яднаных у незалежную дэмакратычную рэспубліку.

### II. Адносіны да суседзяў

2. БХД лічыць сваім ідэалам добрасуседзкія адносіны з усімі народамі на падставе сапраўднай вольнасьці і роўнасьці.

3. З пагляду палітычнага і гаспадарчага БХД уважае карысным, каб незалежная Беларуская Рэспубліка ўвайшла ў эканамічны і палітычны саюз з суседнімі народамі, зь якімі лучаць яе супольныя інтарэсы.

### III. Шлях да мэтаў

4. БХД да сваіх мэтаў ідзе дарогай арганізаваньня, усьведамленьня і ўзгадаваньня беларускага сялянства, работнікаў і інтэлігенцыі на грунце х/д ідэалаў і беларускай народнай культуры. Дзеля гэтага БХД руліцца закладаць беларускія школы, народныя дамы, ладзіць лекцыі і рэфэраты, зьезды, выдае газэты і інш.

БХД прыймае ўдзел у дзяржаўных і самаўрадавых выбарах, ідучы шляхам палітычнага змаганьня да незалежнасьці і самастойнасьці Беларускага Народу, да свабоды яго культурнага і эканамічнага разьвіцьця.

### IV. Самаўрады

5. БХД уважае, што гмінныя, павятовыя і ваяводзкія самаўрады ў сваіх мясцовых справах павінны быць незалежнымі ад цэнтральных і мясцовых адміністрацыйных установаў.

6. Да кампэтэнцыі самаўрадаў належаць справы самаўрадавыя: адміністрацыйныя, гаспадарчыя, школьныя, зямельныя, апека над сіротамі, хворымі, калекамі, беднымі і г. д.

7. Самаўрады маюць свой бюджэт. Недахват гэтага бюджэту на вышэйазначаныя мэты (6) пакрывае дзяржава.

8. Самаўрады выбіраюць агульным, простым, тайным і прапрацыянальным галасаваньнем.

9. Выбары ў самаўрады павінны адбывацца свабодна, без ніякага націску збоку адміністрацыйных уладаў.

V. Войска

10. БХД змагаецца з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

11. Вучэньне народнай міліцыі павінна адбывацца на месцах і ў вольным ад гаспадарчых работ часе.

VI. Палітычная і грамадзянская свабода

12. Усе грамадзяне павінны быць роўныя перад правам.

13. Павінна быць поўная свабода сходаў, друку, слова, сумленьня, арганізацыі таварыстваў і прафэсійных саюзаў.

14. БХД дамагаецца поўнай свабоды выбараў у дзяржаўныя ўстановы.

15. Кожная нацыянальнасьць мае права карыстацца сваёй мовай у агульна-грамадзкім і палітычным жыцці.

**VII. Суд**

16. Суд павінен быць незалежны ад палітычных кірункаў і ад адміністрацыі.

17. Міравыя суды складаюцца з выбраных народам судзьдзі і таксама выбраных лаўнікаў.

18. Ува ўсіх важнейшых угалоўных і палітычных справах прыгаворы пастанаўляюць суды прысяжных.

19. Палявыя (надзвычайныя) суды павінны быць скасаваны.

20. БХД проціў кары сьмерці.

**VIII. Школа**

21. Пачатковае навучаньне абавязковае для ўсіх, бясплатнае і ў роднай мове вучняў.

22. Навучаньне прыватнае карыстаецца такімі-ж правамі як і ўрадавае.

23. Аднолькавая дапамога ўрадавая як школам прыватным, так і ўрадавым.

24. Навучаньне рэлігіі кожнага вызнаньня адбываецца абавязкова як у школах урадавых, так і прыватных у роднай мове вучняў.

25. Незалежнасьць школьных уладаў і школьнага навучаньня ад уладаў адмінстрацыйных.

**IX. Рэлігія**

27. Касьцёл (Царква) у сваім унутраным жыцці карыстаецца з поўнай свабоды і кіруецца кананічным правам.

28. К (Ц) у жыцці грамадзкім карыстаецца з усіх правоў палітычных і грамадзкіх нароўні зь іншымі ўстановамі і грамадзянамі дзяржавы і спаўняе такія-ж самыя абавязкі, як і ўсе грамадзяне дзяржавы.

29. БХД прынцыпова проціў разьдзелу К (Ц) ад дзяржавы. Аднак каб урад ня мог выкарыстоўваць рэлігіі для палітычных мэтаў або паддзержываць адну рэлігію проціў другой, БХД уважае магчымым разьдзел К (Ц) ад дзяржавы для агульнага дабра.

30. Спрэчныя справы між К(Ц) і дзяржавай вырашаюцца палюбоўна, дарогай узаемных дагавароў і ўступак.

31. БХД, у межах Кананічнага права, у жыцці касьцельным (царкоўным) на беларускіх землях за поўныя правы беларускай мовы.

32. БХД змагаецца за тое, каб жанімства і агулам справы сям'і апіраліся на асновах хрысьціянскай маральнасьці.

**X. Прыватная ўласнасьць**

33. БХД прызнае, што прыватная ўласнасьць ёсьць падставай цывілізаванага поступу грамадзтва. Аднак уважае, што ўласнасьць, зграмаджаная ў вялікай меры ў прыватных руках, ёсьць крыўднай для працоўнага народу і дзеля гэтага БХД змагаецца з абшарніцтвам і

капіталізмам.

34. БХД пераканана, што прыватная ўласнасьць, абапёртая на працоўнай норме, не толькі даючы правы, але і накладаючы грамадзкія абавязкі, памагае выпрабленьню ў людзях ініцыятывы, самавітасьці і грамадзкай свабоды.

35. БХД не працівіцца, каб буйная прыватная ўласнасьць, калі гэтага вымагае дабро шырокіх працоўных масаў, пераходзіла ў формы калектыўныя (грамадзкага валаданьня).

36. БХД уважае, што ўсе рэформы прыватнай уласнасьці павінны праводзіцца згодна з інтарэсамі беларускай народнай эканомікі.

**XI. Зямля**

37. Асновай зямельнай гаспадаркі служыць працоўная норма.

38. Усе землі (дворныя, касьцельныя (царкоўныя) і інш.), перавышаючыя працоўную норму, перадаюцца на ўласнасьць і бяз выкупу безьзямельным і малазямельным сялянам.

39. Працоўную норму зямлі становіць такі лік дзесяцін, які гаспадар можа абрабіць сам са сваёй сям'ёй, або так-жа пры помачы аднаго-двух наймітаў, у тым выпадку, калі ў якой сям'і з прычыны малалецтва дзяцей, старасьці, хваробы, калецтва, удоўства з малымі дзецьмі і г. п. недахват рабочых сілаў для абрабленьня працоўнай нормы.

40. Мясцовыя самаўрады могуць мець запас зямлі як народную ўласнасьць, для мэтаў агульна-грамадзкіх.

**XII. Упарадкаваньне зямлі**

41. Змагаецца за такое ўпарадкаваньне зямлі і за такую зямельную гаспадарку, якая давала б найболей даходу грамадзянству і дзяржаве. Такой гаспадаркай БХД лічыць працу на грунтах, або на суцэльных зямельных надзелах (адрубах), якія злучылі б у вадну гаспадарчую цэласьць усе шнуры і нарэзкі.

42. Пераход на хутары або на злучаныя надзелы (адрубы) праводзяць сялянскія зямельныя камісіі пры самаўрадах са згоды саміх сялян, прычым малазямельныя гаспадаркі павінны быць дапоўнены.

43. Сяляне разам зь зямельнай камісіяй пастанаўляюць, ці перайсьці на хутары, ці аставіць вёску і будынкі на месцы, а толькі злучыць у адзін кавалак (адруб) усе шнуры, ці ізноў разьбіць вёску на некалькі пасёлкаў – залежна ад мясцовых гаспадарчых варункаў.

44. На загаспадараваньне пры пераезьдзе на хутары павінна быць дадзена патрэбная помач ад ураду грашмі, інвэнтаром, дрэвам. Наагул усе работы, што да землеўпарадкаваньня павінны праводзіцца на кошт дзяржавы.

45. БХД імкнецца да палепшаньня гаспадарчага палажэньня вёскі праз пашырэньне земляробскай культуры, каапэрацыі, павелічэньня абшару ўпраўнай зямлі, а прадусім асушкі балот і лугоў. Дзеля гэтага БХД рупіцца аб закладаньні земляробскіх школаў, агранамічных пробных станцыяў, інструктарскіх пунктаў і г. д.

46. Сяляне для палепшаньня сваёй гаспадаркі павінны карыстацца з малапрацэнтнага і доўгатэрміновага крэдыту.

47. БХД стаіць за справядлівыя цэны на прадукты сялянскія і фабрычныя, БХД праціў выкарыстываньня вёскі горадам і наадварот.

**XIII. Прыродныя багацьці**

48. Лясы, воды, падземныя багацьці і інш. праз увагу на сваю агранічанасьць і агульна-гаспадарчае значэньне, становяць уласнасьць самаўрадаў.

49. На апал і будову сялянскія зямельныя камісіі пры самаўрадах вызначаюць патрэбны лік лесу. Лясная палітыка дзяржавы павінна забясьпечыць грамадзянству таннае паліва і будаўнічы матэрыял.

**XIV. Асадніцтва**

50. Чужацке ваеннае асадніцтва і такая ж прыватная калянізацыя беларускіх зямель, як цалком несправядлівыя, павінны быць скасаваны.

**XV.Работніцкія справы**

51. БХД змагаецца за:

а) 8-гадзінны дзень працы,

b) права страйку, як абарону ад вызыскаў,

c) калектыўныя ўмовы дзеля забесьпячэньня лепшай аплаты,

d) забарону ночнай працы (вынятак там, дзе вымагаюць варункі тэхнічныя, або патрэбы грамадзянскія),

e) забарону працы шкоднай здароўю кабеты,

f) забарону працы дзяцей у фабрыках да 16 гадоў,

g) дзяржаўнае страхаваньне работнікаў гораду і вёскі ад хваробы, калецтва, безрабоцьця і на старасьць,

h) законнае прызнаньне фабрычных работніцкіх камітэтаў з правам учасьця іх у наглядзе за прадукцыяй і даходам у фабрыках, якія перайшлі ў калектыўныя формы ўладаньня,

i) нядзельны адпачынак,

j) праўную апеку над працаўнікамі па зямлі, фабрыках і над хатняй службай праз адмысловае ўстаўадаўства.

### XVI. Падаткі

52. Мерай падаткаў для промыслу і гандлю павінен быць даход. Дзеля гэтага, хто больш мае даходу, той прагрэсіўна больш плаціць і падаткаў. Сяляне плацяць залежна ад працоўнай нормы і катэгорыі зямлі, а гараджане ад сваёй маёмасьці. Катэгорыю зямлі ўстанаўляюць сялянскія Камісіі пры самаўрадах, а ацэнкі маёмасьці ў гарадох, такія-ж камісіі, складзеныя з гараджан.

53. Усе падаткі пасрэднія (ускосныя), як на соль, газу, цукер і інш., павінны быць скасаваны.

54. Павінны быць уведзены адзіны падатак, які-б вызначаўся раз у год па адным наказе з разлажэньнем на раты і з азначэньнем тэрміну.

55. Даход, патрэбны толькі на пражыцьцё, павінен быць ад падаткаў зусім звольнены.

56. Зьбіраньне падаткаў павінна адбывацца справядліва, на аснове адмысловых законаў і павінна быць уведзена строгае караньне за падатковыя надужыцьці.

### XVII. Каапэрацыя

57. БХД стаіць за пашырэньне спажывецкай, вытворчай, крэдытнай каапэрацыі (каапэрацыйныя крамы, малачарні, алеярні, ільнярні, пажычковыя-ашчадныя касы і г. д.) і дамагаецца на гэта шырокіх дзяржаўных крэдытаў.

58. БХД дамагаецца, каб дзяржаўныя крэдыты йшлі на беларускія каапэрацыйныя і гаспадарчыя арганізацыі і каб урад праводзіў краёвую эканамічную палітыку, з тым, каб капіталы заставаліся ў краі.

XVIII. Дапамога пакрыўджаным вайной

59. БХД дамагаецца:

a) каб зьнішчаныя вайной гаспадаркі былі неадкладна адбудаваны на кошт дзяржавы і

b) каб неадкладна былі прызнаны інвалідныя рэнты для ўсіх ваенных інвалідаў, іхных удоў і сірот.

“Beiaruskaja Krynica”, 1928, № 54, c. 2–3.

## ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ (2006)

Прынятая на Зьездзе БХД 28 лютага 2009 года

### УВОДЗІНЫ

Сёньня, на пачатку III тысячагодзьдзя ад Нараджэньня Хрыста, Беларусь востра патрабуе палітычнай сілы, дзейнасьць якой заснаваная на падмурку хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, дэмакратычных прынцыпаў і беларускага патрыятызму. Такой новай сілай павінна стаць партыя “Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя” (БХД).

Мэта сусьветнай хрысьціянскай-дэмакратыі – пабудова вольнага, дэмакратычнага, салідарнага грамадства, у якім ёсьць усе ўмовы для разьвіцьця высокадуховага, living рознабаковага чалавека.

Партыя “Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя” (БХД) ажыцьцяўляе дактрыну сучаснай хрысьціянскай дэмакратыі ў Беларусі. Яна адстойвае правы і свабоды чалавека, стаіць на пазыцыі негвалтоўнага вырашэньня грамадзкіх праблемаў, адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці, змагаецца за незалежнасьць Беларускай дзяржавы. Хрысьціянская дэмакратыя для нас – гэта прыўнясеньне хрысьціянскіх маральных каштоўнасьцяў у палітыку на ўсіх яе ўзроўнях.

Духовыя карані беларускай хрысьціянскай дэмакратыі – біблейскія запаведзі, хрысьціянства, грамадзка-палітычнае служэньне хрысьціянаў на працягу ўсёй гісторыі, а таксама багатыя традыцыі хрысьціянска-дэмакратычнага руху канца XIX і XX стагодзьдзяў.

Арыенцірам у нашай дзейнасьці зьяўляецца праца такіх Беларускіх дзяржаўных дзеячоў-хрысьціянаў, як Эўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, князі Астрожскія, Францішак Скарына, Мікалай Радзівіл Чорны, Астафі Валовіч, Леў Сапега, Язэп Руцкі, беларускія хрысьціянскія дэмакраты пачатку 20 стагодзьдзя.

БХД выступае за пабудову незалежнай, эўрапэйскай, заможнай і духова разьвітай Беларусі.

БХД выступае за негвалтоўныя мэтад барацьбы і кансалідацыю беларускага грамадзтва. Гэта ўдзел у выбарах органаў дзяржаўнай улады і мясцовага самакіраваньня, масавыя акцыі, распрацоўка законапраектаў, праграмаў і канцэпцыяў, культурна-асьветніцкая справа, агітацыя, экалягічныя і дабрачынныя акцыі.

БХД імкнецца зьяднаць беларускі народ вакол свабоды і дэмакратыі, дзяржаўнасьці і сувэрэнітэту, рынкавае эканомікі і правоў чалавека і нацыі на цьвёрдым грунце сутнасна хрысьціянскіх каштоўнасьцяў і нацыянальных традыцыяў.

## НАШЫ КАШТОЎНАСЬЦІ

**Бог**

Цэлае тысячагодзьдзе Беларусь зьяўляецца хрысьціянскай краінай, часткай эўрапэйскай хрысьціянскай цывілізацыі. Біблія ўжо дзьве тысячы гадоў выступае для нас мерай таго, што такое ісьціна, дабро, прыгажосьць і справядлівасьць. Гісторыя ведала шмат прыкладаў паўстаньня супраць таго, што ёсьць ісьціна, дабро, прыгажосьць і справядлівасьць па-хрысьціянску. Многія спрабавалі даць сваю меру і тлумачэньне гэтым каштоўнасьцям, многія спрабавалі палепшыць і ўдасканаліць тое, што прапаноўваецца ў Бібліі, але ўсе гэтыя спробы прыводзілі або да паўтору біблейскіх запаведзяў і прынцыпаў, або да пагаршэньня іх і да памылак. Бог даў чалавеку свабоду волі, свабоду спазнаньня дабра і зла. Карыстаючыся гэтай воляй спазнаньня дабра і зла, мы прыходзім да высновы, што прадстаўленьні пра дабро і зло трэба не зьмяняць, але спазнаваць і разумець.

Многія народы, і беларусы ў іх ліку, адмаўляліся ад хрысьціянства на карысьць атэізму. Заўсёды гэтая адмова суправаджалася стратай у праўдзе, дабры, прыгажосьці і справядлівасьці. Усе народы і кожны чалавек у асобнасьці свабодныя абіраць і веру сваю, і шлях свой. Наш выбар – дэмакратычны і хрысьціянскі. У сьвеце квітнеюць тыя краіны і народы, што не ўхіляюцца ад хрысьціянскага шляху. Свой шлях мы выбіраем самі, але правільнасьць яго зьвяраем па Божых Запаветах, так як умеем – па- хрысьціянску, так, як паступалі беларусы, якіх мы шануем, любім і паважаем.

**Чалавек**

Разуменьне аднога чалавека абмяжоўвае магчымасьць дзеяньня для іншага. Усякае чалавечае разуменьне недасканалае, таму ніхто ня можа навязваць свае погляды іншаму. Правы і свабоды кожнага чалавека на ўладкаваньне свайго ўласнага жыцьця абмяжоўваюць нашыя магчымасьці па ўладкаваньні Беларусі. Гэта адзінае абмежаваньне мы лічым праўдзівым і справядлівым. Тое, што гэта абмежаваньне адзінае, але непарушнае, мы лічым дабром.

**Бацькаўшчына**

Чалавек вольны жыць паводле свайго разуменьня так, як лічыць слушным, імкнучыся да праўды, дабра, прыгажосьці і справядлівасьці. Хрысьціянскія народы Эўропы абіраюць розныя варыянты ўладкаваньня сваіх краінаў. Як кожны чалавек вольны ўладкоўваць свой

дом, так і кожны народ вольны ўладкоўваць сваю краіну. Мы народжаныя ў Беларусі, гэта нашая краіна, і ніхто акрамя нас не ўладкуе яе так, як нам трэба. Беларусь – гэта наша свабода, свабода жыць і дзейнічаць згодна з нашым разуменьнем праўды, дабра, прыгажосьці і справядлівасьці. Справядліва, што толькі мы самі свабодныя ўладкаваць яе ў дабры і прыгажосьці; праўдзіва, што мы адказныя за адсутнасьць у ёй дабра і прыгажосьці.

## МЭТЫ БХД

БХД змагаецца за адбудову незалежнай, дэмакратычнай і прававой дзяржавы Беларусь.

БХД імкнецца да стварэньня гуманнага вольнага грамадзтва на трывалым падмурку хрысьціянскіх каштоўнасьцяў і дэмакратыі.

Хрысьціянская дэмакратыя прадугледжвае напаўненьне дэмакратычным і духовым зьместам усіх без выключэньня сфэр грамадзкага і асабістага жыцьця. Хрысьціянская дэмакратыя немагчымая без палітычнай дэмакратыі, г. зн. існаваньня прававой дзяржавы, дзе захоўваюцца правы і свободы, абвешчаныя ва Ўсеагульнай дакларацыі правоў чалавека, а таксама эканамічнай дэмакратыі, якая прадугледжвае дэмакратызацыю ўсяго гаспадарчага мэханізму, стварэньне дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту, фармаваньне сацыяльнага партнэрства.

Галоўная мэта БХД – маральна-духовае, нацыянальнае, палітычнае і эканамічнае адраджэньне Беларусі і духовае станаўленьне асобы. БХД прапануе беларускаму грамадзтву плян рэфармаваньня палітычнага ўладкаваньня беларускай дзяржавы і грамадзтва, згодна зь біблейскімі прынцыпамі і дае прыклад іншай палітычнай культуры.

## ПАЛІТЫЧНАЯ ПЛЯТФОРМА БХД

### I. Духовае адраджэньне і нацыянальная ідэя

1.1. Мы супраць бездуховасьці і спустошанасьці. Неабходнасьць поўнамаштабовага духовага абуджэньня, адраджэньня ў людзкіх душах стваральнага, жыцьцесцьвярджальнага і аптымістычнага, сутнасна хрысьціянскага і патрыятычнага сьветапогляду робіцца найпершай, найгалаўнейшай задачай БХД.

1.2. Наш вобраз Беларусі – гэта незалежная, дэмакратычная дзяржава, дзе захоўваюцца правы й свабоды чалавека, краіна хрысьціянскага Адраджэньня ў сэрцы Эўропы.

1.3. Мы грунтуемся на тым, што беларуская нацыянальная ідэя зыходзіць з падставовых прынцыпаў хрысьціянскага сьветапогляду: свабоды, веры, любові, справядлівасьці, роўнасьці, салідарнасьці, адказнасьці. Спазнаньне гэтых найвышэйшых ісьцінаў, сьледаваньне ім у паўсядзённым жыцьці і ёсьць сутнасьцю духовага Адраджэньня.

1.4. Беларуская Нацыянальная ідэя – гэта місія, перадвызначэньне, сэнс існаваньня беларускага народу. Любая нацыянальная ідэя абумоўлена адпаведнай гісторыяй, тэрыторыяй, часам, мэнталітэтам, узаемадачыненьнямі з суседзямі. Адчуваньне гэтага Богам дадзенага наканаваньня, усьведамленьне сваёй унікальнасьці й непаўторнасьці, свайго прызначэньня менавіта на гэтай зямлі, у гэты час і ёсьць нацыянальнай ідэяй. У кожнай нацыі ёсьць вялікая задума Божая. Кожнаму народу Бог дае непаўторныя дарункі – культуровыя, духовыя, сьветапоглядныя. Кожны народ мусіць несьці адказнасьць перад Богам за гэтыя дарункі і служыць ім і іншым народам і ўсяму сьвету.

З пачуцьця нацыянальнае саматоеснасьці вынікаюць і любоў да роднае краіны, і павага да іншых народаў, і разуменьне сваёй адказнасьці перад тымі, хто быў, і за тых, хто будзе пасьля.

Уся Заходняя цывілізацыя вось ужо 2000 гадоў будуецца на хрысьціянскіх падмурках – таму сапраўды эўрапэйская Беларусь можа паўстаць толькі з магутным духовым рухам, са сьветапоглядным абнаўленьнем усяго грамадзтва. Сёньня беларуская нацыянальная ідэя бачыцца нам як самарэалізацыя народу Беларусі ў найважнейшых формах – дасягненьні дабрабыту, сучаснай культуры, незалежнай дзяржаве, мове, паважных міжнародных стасунках – на падставе духовага хрысьціянскага зьместу.

1.5. Нацыянальныя сымбалі Беларусі.

Як спадкаемцы БХД пачатку 20-га ст., як падаўжальнікі і спадкаемцы традыцыі нацыянальнага і духовага адраджэньня Беларусі, мы лічым, што гістарычныя нацыянальныя

сымбалі – бел-чырвона-белы сьцяг і герб “Пагоня”, гімн “Магутны Божа” за сымбалі, якія найбольш поўна выражаюць зьмест спрадвечнага імкненьня беларускага народу да хрысьціянскай чысьціні й духовасьці, рашучасьць высілкаў нацыі для дасягненьня праўды й справядлівасьці. Мы заклікаем да павагі і шанаваньня нацыянальнай гістарычнай сымболікі Беларусі як неад’емнай часткі нашай гістарычнай і культуровай спадчыны.

Мы таксама прызнаем права на існаваньне і выкарыстаньне любой іншай сымболікі, якая прымаецца канстытуцыйным чынам беларускім грамадзствам, за выключэньнем сымболікі, зьвязанай з прапагандай фашыстоўскай ці любой іншай ідэалёгіі, не сумяшчальнай з хрысьціянствам.

1.6. У Бела усі, якая спрадвеку знаходзіцца на геапалітычным скрыжаваньні, сумежжы цывілізацыяў і культураў, нацыянальная ідэя спалучае многія этнічныя й сьветапоглядныя элемэнты. Мы падтрымліваем усе нацыянальныя мяншыні краіны ў іх праве ствараць шматстайнасьць і шматаблічнасьць беларускага грамадзтва. Беларусь усёй сваёй гісторыяй сьцьвярджае ідэал верацярпімасьці й узаемапавагі ў суіснаваньні розных народаў і рэлігіяў.

## II. Дзяржаўны лад

2.1. Беларусь павінна быць незалежнай, нацыянальнай і дэмакратычнай дзяржавай.

Мы ганарымся тым, што для дзяржаўнага і грамадзянскага жыцьця нашых продкаў быў уласьцівы дэмакратызм. Беларусы заўсёды змагаліся й будуць змагацца супраць дэспатычных рэжымаў. З XV ст. найвышэйшым органам улады Беларусі быў прадстаўнічы Сойм, а з XVI ст. выбарныя органы ажыцьцяўлялі й мясцовую ўладу. Нормаю нашага старажытнага права быў кансэнсус – юрыдычны ідэал, які сёньня недасяжны для шмат якіх дэмакратыяў сьвету. Нашая краіна мае глыбокія карані канстытуцыяналізму: Статут ВКЛ XVI ст. быў адным зь першых і самых дасканалых асноўных законаў у сьвеце.

2.2. Сёньняшнюю Беларусь мы бачым як незалежную дзяржаву, пабудаваную на падставе дэмакратыі й законнасьці. Канстытуцыйныя прынцыпы, якія закладваліся яшчэ ў Статуце ВКЛ, маюць на ўвазе забесьпячэньне асноўных правоў і свабодаў, строгі падзел галінаў улады, незалежнасьць судоў і легітымнасьць структураў кіраваньня.

2.3. У грамадзка-палітычным жыцьці БХД спавядае асноватворны прынцып разьмеркаваньня адказнасьці й паўнамоцтваў, прынцып субсыдыярнасьці. Так, рашэньні павінны прымацца на тым узроўні, на якім яны найбольш эфэктыўна выконваюцца. Мы выступаем за абмежаваньне паўнамоцтваў дзяржавы, за кампактны ўрад і моцнае мясцовае самакіраваньне.

2.4. БХД бачыць Беларусь як парлямэнцкую рэспубліку, дзе найважнейшым прадстаўнічым органам дзяржаўнай улады зьяўляецца Сойм. Сойм будзе абірацца паводле прапарцыйна-мажарытарнай сыстэмы, што дазволіць зрабіць дзейнасьць парлямэнту арганізаванай і палітычна адказнай. Менавіта Сойм фармуе Ўрад і кантралюе працу выканаўчых органаў. Зьмешаная сыстэма выбараў, калі палова дэпутатаў абіраецца на падставе прапарцыйнага прынцыпу па партыйных сьпісах, а другая – пэрсанальна па выбарчых акругах, зразумелая грамадзянам, паколькі кожны выбарнік будзе мець свайго прадстаўніка. Яна дазваляе пазьбегнуць нецывілізаваных формаў парлямэнцкай дзейнасьці, бо дэпутаты, абраныя па партыйных сьпісах, утвораць устойлівыя парлямэнцкія фракцыі.

2.5. Выканаўчую ўладу Беларусі ачольвае прэзыдэнт, які выконвае ў асноўным прадстаўнічыя функцыі, зьяўляецца гарантам Канстытуцыі і выбіраецца тэрмінам на чатыры гады. Галоўны працоўны ворган – Кабінэт міністраў, які фармуецца Соймам, на чале з прэм’ерам.

2.6. Беларускі суд мусіць быць рэальна незалежным, здольным стаць па-над інтарэсамі іншых галінаў улады ці групаў уплыву. Найвышэйшае правасудзьдзе спраўляе Вярхоўны Суд. Канстытуцыйны Суд ажыцяўляе нагляд за канстутыцыйнасьцю прыманых законаў і падзаконных актаў. Менавіта суд мусіць курыраваць сьледзтва па крымінальных, грамадзкіх ці адміністрацыйных справах і разам з усімі органамі юстыцыі забясьпечваць захаваньне законнасьці.

2.7. БХД бачыць падмурак незалежнае, дэмакратычнае дзяржавы ў моцным мясцовым самакіраваньні. Муніцыпальныя традыцыі, якія сягаюць каранямі ў веча Полацкай дзяржавы й Магдэбурскае права часоў ВКЛ, у Беларусі павінныя быць вернутыя й адроджаныя ў сучасным жыцьці. У першую чаргу гэта аднаўленьне выбарнасьці й справаздачнасьці мясцовых кіраўнікоў перад тутэйшым насельніцтвам, фінансавая самастойнасьць, спрашчэньне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу краіны на падставе гістарычных, эканамічных, традыцыйных асаблівасьцяў. БХД стаіць на палажэньнях Эўрапэйскай хартыі самакіраваньня.

2.8. БХД выступае за:

– Народаўладзьдзе. Адзінай крыніцай улады зьяўляецца народ, які ажыцьцяўляе сваю ўладу шляхам свабодных выбараў.

– Дзяржаву, арыентаваную на нацыянальныя беларускія інтарэсы. Палітыка нацыянальных інтарэсаў павінна быць стрыжнем усёй унутранай палітыкі Беларусі.

– Дэідэалягізацыю дзяржавы і ўсіх дзяржаўных інстытутаў (арміі, органаў правапарадку і бясьпекі, сыстэм адукацыі і г. д.).

## III. Асоба і супольнасьць

3.1. Зыходзячы з таго, што галоўнай мэтай БХД ёсьць вольны чалавек у адроджанай Беларусі, мы бачым спалучэньне ўзаемных правоў і абавязкаў асобы й супольнасьці ў гарманічнае роўнасьці. Кожная асоба мусіць клапаціцца пра сябе сама, але задача супольнасьці – стварэньне для гэтага адпаведных умоваў і, канечне, апекаваньне слабымі.

3.2. Паміж цывілізацыямі індывідуалістычнага Захаду й калектывісцкага Ўсходу беларуская традыцыя вось ужо тысячу гадоў фармулюе залатую, сутнасна хрысьціянскую раўнавагу пэрсаналізму. Пэрсаналізм бачыць у чалавеку не цалкам самастойную, абстрактную адзінку-індывіда і ня частку безаблічнае аднастайнае “масы”, а ўнікальную асобу, створаную паводле вобразу і падабенства Божага. Найбольш яскравыя структуры пэрсаналістычнага генэзысу – сям’я, суяцтвы ды сябрыны, цэрквы – наймагутнейшае апірышча здаровага і маральнага грамадзтва.

3.3. Сям’я – найважнейшая элемэнтарная ячэйка моцнага, здаровага, шчасьлівага грамадзтва, тая адзінка чалавечае супольнасьці, што, зьяўляючыся па сутнасьці хатняй царквой, выхоўвае асобу, забясьпечвае захаваньне й пераемнасьць традыцыяў. Таму ва ўмовах дэмаграфічнага, сацыяльнага й духовага крызысу БХД выступае за ўсебаковую падтрымку сям’і (асабліва шматдзетнай) на дзяржаўным узроўні і недапушчэньне разбурэньня сем’яў праз узаконьваньне “нетрадыцыйных шлюбаў”.

3.4. Сфэра адукацыі беспрэцэдэнтна важная для Беларусі, бо Беларусь мае патрэбу ў выхаваньні якасна новых нацыянальна сьвядомых і духовых пакаленьняў, моладзі, падрыхтаванай да жыцьця ў незалежнай, эўрапэйскай, дэмакратычнай краіне. Мы лічым, што паўсюдная дзяржаўная адукацыя мусіць заставацца бясплатнай – але ў далейшым саступаць месца больш грунтоўнай прыватнай і сямейнай. Сыстэма дзяржаўнай адукацыі бачыцца нам як пераважна беларускамоўная. З увагі на традыцыі й велізарны інтэлектуальны патэнцыял мы ставім сабе за мэту стварэньне найлепшай у Эўропе сыстэмы адукацыі, якая ўключае ў сябе як дзяржаўную, так і прыватную, нядзельную й сямейную.

3.5. Навука ў сучасным сьвеце робіцца галоўнай вытворчай сілай грамадзтва. Мы ганарымся тым, што Беларусь дала чалавецтву столькі геніяльных вынаходнікаў ды адкрыцьцяў акадэмічнай навукі. Небывалы тэхнічны прагрэс і разьвіцьцё навукаёмістае эканомікі ставяць перад беларускай дзяржавай стратэгічную задачу падтрымкі фундамэнтальнай навукі, перад буйным беларускім бізнэсам – спансаваньне фінансава тэхналягічных навацыяў, а перад беларускім грамадзтвам – разьвіцьцё навуковага й гуманітарнага сэктару. 3.6. Ахова здароўя грамадзянаў, хуткая, бясплатная й якасная мэдычная дапамога павінная заставацца клопатам дзяржавы. Разам з тым мы вітаем пашырэньне прыватных і платных клінікаў, лякарняў ды пансыянатаў. Будучыня Беларусі – за страхавой мэдыцынай.

3.7. Дзяржаўнай мовай Беларусі мусіць быць беларуская. Але адміністрацыйнае

спрыяньне беларусізацыі абавязкова павінна спалучацца з найшырэйшай кампаніяй папулярызацыі роднай мовы й культуры, падвышэньнем прэстыжу беларускамоўных дачыненьняў, установаў і асяродкаў. Беларусізацыя нацыянальнага жыцьця бачыцца нам не як бюракратычны працэс, а як творчыя й эфэктныя праграмы, у першую чаргу для дзяцей і моладзі. Руская і ангельская мовы павінны стаць мовамі міжнацыянальных альбо міждзяржаўных зносін.

## IV. Правы чалавека

4.1. Найвышэйшы набытак цывілізаванага грамадзтва – правы чалавека.

4.2. БХД выступае за пабудову Беларусі як дэмакратычнай, прававой дзяржавы на падставе прынцыпаў хрысьціянскай дэмакратыі. Вынікам дзяржаўнага будаўніцтва павінна стаць станаўленьне грамадзтва ўсеагульнага дабрабыту, заснаванага на прынцыпах самакіраваньня вольных грамадзян. Правы кожнага грамадзяніна павінны мець прыярытэт перад правамі дзяржавы.

4.3. БХД стаіць на прынцыпах, якія закладзены ва "Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека" і галоўнейшымі правамі прызнае права на дастатковае харчаваньне, жыльлё, працу, прыватную маёмасьць і адукацыю.

4.4. У грамадзтве павінны паважацца правы кожнага чалавека, дапускацца плюралізм думак.

4.5. Усе людзі роўныя перад законам і дзяржавай. Ня можа быць перавагі асобных людзей ці груп людзей перад іншымі людзьмі або групамі людзей паводле любых іх інтарэсаў.

## V. Свабода, салідарнасьць, справядлівасьць, адказнасьць

5.1. Кожны чалавек вольны ў вызначэньні свайго лёсу, ён сам выбірае сабе жыцьцёвы шлях.

5.2. Свабода дадзена чалавеку ад Бога і таму ні грамадзтва, ні дзяржаўны лад, ні якія-небудзь ідэалягічныя догмы грамадзтва ня могуць пазбавіць чалавека свабоды.

5.3. Кожны чалавек мае права свабодна разьвіваць сваю асобу і ўдзельнічаць у палітычным, эканамічным і культурным жыцьці так, як ён абярэ.

5.4. Прызнаньне разнастайнасьці інтарэсаў шматлікіх грамадзкіх груп ёсьць адзнака дэмакратычнага грамадзтва. Кожная меншасьць, кожная група мае права ствараць свае арганізацыі.

5.5. БХД лічыць, што дзяржава павінна абараняць усе асноўныя правы чалавека:

– свабоду сумленьня і свабоду перакананьняў як свабоду прытрымлівацца любой ідэалёгіі і права распаўсюджваць розныя ідэі, акрамя прапаведаваньня гвалту, парнаграфіі, міжнацыянальнай, сацыяльнай і рэлігійнай варожасьці;

– свабоду сходаў, мітынгаў, шэсьцяў і дэманстрацый. У заканадаўстве павінен быць замацаваны прынцып рэгістрацыі такіх акцый, а не дазволу на іх правядзеньне;

– свабоду слова і друку, незалежнасьць ад дзяржаўных СМІ (прэсы, радыё, тэлебачаньня);

– свабоду стварэньня палітычных партыяў, грамадзкіх і рэлігійных арганізацый. Абмежаваньню належаць толькі арганізацыі, якія распаўсюджваюць ідэі нянавісьці, гвалту і вайны;

– свабоду веравызнаньняў, місіянэрства, пропаведзі, рэлігійнага выхаваньня і адукацыі, доступу веруючых да сродкаў масавай інфармацыі;

– недатыкальнасьць асобы, яе жыльля і прыватнай уласнасьці.

5.6. Кожны мае права на атрыманьне і распаўсюджаньне інфармацыі. Дзяржава ня можа перашкаджаць свабоднаму абмену інфармацыяй.

5.7. Справядлівасьць грунтуецца на аднолькавай павазе годнасьці кожнага чалавека. Прынцып справядлівасьці патрабуе аднолькавай свабоды, роўнасьці перад законам, роўных магчымасьцей у палітычным і сацыяльным жыцьці.

5.8. Салідарнасьць – гэта гатоўнасьць кожнага чалавека падтрымліваць адзін аднаго, узаемадапамога людзей. Спагада, спачуваньне, узаемапавага – аснова салідарнасьці.

Салідарнасьць дае тое, чаго немагчыма дасягнуць прымусам. Гэта падмурак агульнага дабрабыту і дабрабыту кожнага з нас.

5.9. Адказнасьць азначае захаваньне і разьвіцьцё духовай, культуровай, матэрыяльнай спадчыны, якую мы атрымалі ад мінулых пакаленьняў. Задача сеньняшняга пакаленьня палягае ў адраджэньні нашай прыроднай, культуровай і духовай спадчыны, пераасэнсаваньні мінулага шляху Беларусі і ў нацыянальным пакаяньні.

## VI. Сацыяльная абарона

6.1. БХД вызначае сацыяльную справядлівасьць як роўныя для ўсіх магчымасьці рэалізоўваць уласны творчы патэнцыял у працы, а таксама як існаваньне сыстэмы надзейнае сацыяльнае абароны непрацаздольных групаў грамадзянаў.

6.2. Сацыяльная палітыка павінна грунтавацца на салідарнасьці як адной з найгалоўнейшых каштоўнасьцей. Сапраўдная сацыяльная палітыка заўсёды накіравана на сацыяльную абарону грамадзян. Яна павінна стварыць умовы жыцьця, годныя чалавека. Абарона здароўя, гуманізацыя працы, барацьба зь беспрацоўем, справядлівае разьмеркаваньне прыбыткаў – цэнтральная задача сацыяльнай палітыкі.

6.3. Асноўная задача сацыяльнай дзяржавы – гарантаванае законам права на сацыяльныя паслугі і прававы статус бюджэтных работнікаў.

6.4. Мы – за сацыяльныя прывілеі старым, інвалідам і тым, хто страціў працаздольнасьць. Місія дзяржавы – абараняць слабых і непрацаздольных. Трэба стварыць надзейную дзяржаўную сыстэму перакваліфікацыі і працаўладкаваньня рабочых і служачых, што згубілі працу.

6.5. Пры гэтым функцыі сацыяльнай дапамогі ў разьвітай краіне выконвае ня толькі дзяржава: у Беларусі мусяць атрымаць разьвіцьцё дабрачынныя грамадзкія ініцыятывы, праваабарончыя цэнтры, царкоўныя прытулкі й цэнтры сацыяльнай рэабілітацыі. Асноваю беларускае сацыяльнае абароны й пэнсійнага забесьпячэньня БХД бачыць сыстэму страхаваньня здароўя, жытла, нерухомасьці, аўтатранспарту і г. д.

## VII. Эканоміка

7.1. БХД – за стварэньне эфэктыўнай рынкавай эканомікі, якая дазваляла б напоўніцу разьвіваць вытворчыя сілы народу й адначасова захоўвала б сацыяльную раўнавагу ў грамадзтве. Прынцып вольнага рынку і вядучая роля ў ім прыватнае ўласнасьці не павінныя супярэчыць дзяржаўнаму рэгуляваньню стратэгічных галінаў гаспадаркі, якія фармуюць эканамічную бясьпеку краіны: энэргетыка, камунальная сыстэма, транспарт, структураўтваральныя прадпрыемствы. Беларусь, якая разьмяшчаецца ў самым цэнтры Эўропы, мае адукаванае й працавітае насельніцтва, валодае дастатковымі рэсурсамі й магчымасьцямі для пабудовы сучаснай, інтэграванай у сусьветную, эканомікі.

7.2. Беларусь III тысячагодзьдзя бачыцца нам як сэрвісны й фінансавы, тэхналягічны, навуковы інфармацыйны цэнтар сусьветнага ўзроўню на ключавым геапалітычным скрыжаваньні. Інфраструктура транзытных шляхоў, гатэляў і выстаўных комплексаў, індустрыя гасьціннага абслугоўваньня й хуткага харчаваньня, турызму й адпачынку; сфэры банкаўскага капіталу й высакаякаснае тэхналягічнае зборкі могуць стаць асноваю эканомікі Беларусі. Інфармацыйныя прадукты й кампутары, бытавая тэхніка й электроніка, найноўшыя тэхналёгіі, інавацыі і хуткія паслугі ў пэрспэктыве здольныя ператварыцца ў візытоўку нашае краіны.

7.3. Асновай новае беларускае гаспадаркі мусіць стаць сфэра абслугоўваньня, інавацыяў й інфармацыі. Працавітае, адукаванае, гасьціннае й руплівае насельніцтва Беларусі – ідэальныя ўдзельнікі эўрапэйскага рынку паслуг і інфармацыйных тэхналёгіяў. Транзытны сэрвіс, абслугоўваньне фінансавых, навукова-тэхнічных патокаў паміж Эўропай і Азіяй, Балтыйскім і Чарнаморскім рэгіёнамі, інфармацыйная індустрыя й сфэра турызму – магістральны шлях разьвіцьця беларускай эканомікі.

7.4. Беларуская індустрыя мусіць пазбаўляцца ад цяжкае спадчыны савецкае гігантаманіі й вайскова-прамысловага комплексу. Вытворчасьць III тысячагодзьдзя – гэта навукаёмістыя й працаёмістыя высокатэхналягічныя галіны, здольныя сфармаваць экспартны патэнцыял

Беларусі: машынабудаваньне й біяхімія, выраб кампутараў і бытавой тэхнікі, сродкаў тэлекамунікацыяў і экалягічных будаўнічых матэрыялаў, фармацэўтыкі й палімэраў, высакаякасных тавараў лёгкай прамысловасьці й прадуктаў харчаваньня.

7.5. Сёньняшняя энэргетыка Беларусі – неэфэктыўная, цалкам залежная ад паставак расейскага паліва, – зьяўляецца сапраўднай эканамічнай праблемай. У будучыні Беларусі неабходная яе карэнная мадэрнізацыя й экалягізацыя, пераарыентаваньне на пастаўкі энэрганосьбітаў з розных крыніцаў (напрыклад, паводле схемы Балта-Чарнаморскага калектару), разьвіцьцё альтэрнатыўнае (ветравое, сонечнае, біялягічнае) энэргетыкі. Пэрспэктыўнае інвэставаньне ў будаўніцтва ТЭС і АЭС на тэрыторыі суседніх дзяржаваў з наступным атрыманьнем долі электраэнэргіі. Разам з тым, эўрапэйскім стандартам зьяўляецца строгая эканомія энэргіі – і таму беларусы павінныя вучыцца ставіцца да цяпла й сьвятла вельмі ашчадна.

7.6. Беларусь мае цудоўную базу для вядзеньня сучаснае сельскае гаспадаркі: на кожнага жыхара краіны прыпадае па 0,7 гектару ворнае зямлі – гэта адзін з самых высокіх паказьнікаў у сьвеце. Эфэктыўна выкарыстаць гэтае велізарнае багацьце змогуць індывідуальныя фэрмэрскія гаспадаркі – пасьля ўвядзеньня прыватнай уласнасьці на зямлю й рэарганізацыі стратных калгасаў ды саўгасаў. Беларусь, традыцыйна моцная ў галіне сельскагаспадарчае вытворчасьці, мае ўсе перадумовы ня толькі для забесьпячэньня ўласных патрэбаў у харчаваньні, але і для экспарту канкурэнтаздольнае прадукцыі суседзям.

## VIII. Рэлігія й свабода сумленьня

8.1. БХДС разглядае свабоду сумленьня як свабоду трымацца тых або іншых прынцыпаў, поглядаў і перакананьняў, свабоду вызнаваць тую ці іншую рэлігію альбо не вызнаваць ніякай. Згодна з поглядамі БХДС, свабода сумленьня зьяўляецца найважнейшым правам чалавека ў дэмакратычнай дзяржаве.

8.2. Кожны чалавек мае права выбіраць форму вызнаньня тае або іншае рэлігіі публічна ці патаемна, аднаасобна ці сумесна зь іншымі. Не павінна існаваць ніякіх абмежаваньняў свабоднаму распаўсюджаньню рэлігійных поглядаў і перакананьняў, за выключэньнем тых, што неабходны для абароны правоў чалавека і яго свабод. Кожны чалавек павінен мець права на вольнае навучаньне асновам выбранай ім рэлігіі, мець права на вольныя рэлігійныя аб’яднаньні і таварыствы.

8.3. БХД лічыць, што рэлігійныя таварыствы і аб’яднаньні павінны дзейнічаць незалежна ад дзяржавы і рэгістравацца заяўным парадкам. Зьяўляецца недапушчальным любое ўмяшаньне дзяржавы ў справы рэлігійных аб’яднаньняў, за выключэньнем выпадкаў, калі маюць месца крымінальна караныя дзеяньні. Рэлігійныя арганізацыі павінны мець усе правы грамадзкіх таварыстваў, як, напрыклад, права юрыдычнай асобы, права на фінансавыя сродкі і ўласнасьць.

8.4. Сярод пазначаных правоў БХД лічыць найважнейшымі наступныя:

– права на публічныя пропаведзі і набажэнствы;

– права на выкладаньне рэлігіі ў дзяржаўных і прыватных навучальных установах на аснове роўнасьці і добраахвотнасьці;

– права на выданьне, куплю і продаж рэлігійнай літаратуры, часопісаў і газэтаў;

– права на карыстаньне сродкамі масавай інфармацыі, радыё і тэлебачаньнем;

– права на дабрачынную дзейнасьць і збор ахвяраваньняў, гэтак жа як і на іншыя формы гаспадарчай і фінансавай дзейнасьці, якія не супярэчаць закону;

– права на місіянэрскую дзейнасьць і на арганізацыю паломніцтва вернікаў да сьвятых мясьцінаў;

– права на ўтварэньне дзіцячых рэлігійных таварыстваў пры абавязковым захаваньні прынцыпу добраахвотнасьці;

– права на роўныя і справядлівыя адносіны збоку дзяржавы пры аказаньні матэрыяльнай або іншай дапамогі з абавязкам устрыманьня ад непасрэднага ўмяшаньня ў справы дзяржавы;

– права на садзейнічаньне збоку дзяржавы пры вяртаньні і аднаўленьні канфіскаваных

або разбураных сьвятыняў і пабудоваў, што належалі рэлігійным арганізацыям;

– права на рэабілітацыю бязьвінна рэпрэсаваных вернікаў, як сьвятароў, так і міранаў, з абавязковай кампэнсацыяй канфіскаванай маёмасьці і прызначэньнем адпаведнае пэнсіі й іншай дапамогі;

– права на судовую абарону законных правоў і інтарэсаў вернікаў;

– права на асабісты характар рэлігійных перакананьняў ці іх адсутнасьць з забаронаю прымусовага атрыманьня зьвестак аб рэлігійных перакананьнях грамадзянаў;

– права на вольную зьмену сваіх рэлігійных перакананьняў без ганеньняў за гэта збоку дзяржавы альбо рэлігійных арганізацыяў.

Неабходнасьць поўнамаштабовага духовага абуджэньня, адраджэньня ў людзкіх душах стваральнага, жыцьцесьцьвярджальнага й аптымістычнага, сутнасна хрысьціянскага й патрыятычнага сьветапогляду робіцца найпершай, найгалаўнейшай місіяй БХД.

Менавіта падставовыя хрысьціянскія прынцыпы свабоды выбару й законнасьці, справядлівасьці й салідарнасьці, роўнасьці й адказнасьці зьяўляюцца асноватворнымі каштоўнасьцямі для БХД і неабходнай перадумовай для стварэньня шырокага нацыянальнага руху, правядзеньня рэформаў і пабудовы незалежнай, дэмакратычнай краіны. Менавіта веры й любові, шчырасьці й праўды, нацыянальнай сьвядомасьці й пачуцьця грамадзкага абавязку, уласьцівых для духова моцных нацыяў заходняе хрысьціянскае цывілізацыі, нам сёньня так не стае.

## IX. Нацыянальныя задачы

9.1. Кансалідацыя беларускага грамадзтва. Найважнейшая задачы БХД – кансалідацыя грамадзтва вакол ідэяў духовага Адраджэньня Беларусі, незалежнасьці, дэмакратыі, гістарычнай пераемнасьці і адказнасьці за нацыянальную гісторыю і культуру, стварэньне на гэтай базэ масавага, шматаблічнага паўсюднага нацыянальнага руху. Абарона хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, сувэрэнітэту й дэмакратыі, змаганьне са спадчынай таталітарнага савецкага рэжыму, з русіфікацыяй і наступствамі Чарнобылю, заслон спробам паняволеньня, распродажу Беларусі, адпор агрэсіі крыміналу, наркотыкаў, экстрэмізму, алькагалізму, маральнае дэградацыі патрабуюць гуртаваньня ў адзіны народны рух усіх здаровых сілаў грамадзтва: палітычных партыяў і арганізацыяў, сацыяльных групаў і асобных грамадзянаў.

9.2. Аб’ядна́ўчая палітыка БХД. Зь сёньняшнім цяжкім становішчам у краіне падсілу справіцца толькі ўсяму народу, сьвядомасьць якога прасякнутая духам хрысьціянскага адраджэньня і нацыянальнай ідэяй. Пакліканьне БХД заключаецца ў тым, каб стаць ідэалягічным і арганізацыйным ядром такога ўсенароднага руху. Такім чынам, стварэньне дзейснага нацыянальнага руху, грунтаванага на хрысьціянскіх каштоўнасьцях, зьяўляецца галоўнай аб’ядна́ўчай стратэгіяй БХД, а таксама асноўным матывам міжпартыйных дачыненьняў і пагадненьняў. Пры правядзеньні агульнанацыянальных кампаніяў, выбараў ці акцыяў пратэсту мы павінныя быць упэўненыя ў тым, што нашыя саюзьнікі адстойваюць менавіта нацыянальныя інтарэсы й пэрспэктывы Адраджэньня, і што вынікі нашае супольнае працы ня будуць супярэчыць нашым адпачатным памкненьням.

9.3. Нацыянальнае лідарства й эліта. У нацыянальным руху БХД мусіць імкнуцца да найбольшае адказнасьці й ролі авангарду ў кожнае сфэры дзейнасьці. З гэтага вынікае імпэратыў ініцыятывы ды лідарства БХД у грамадзка- палітычным працэсе ў Беларусі.

Лідарскае становішча БХД у першую чаргу мусіць дасягацца праз гуртаваньне вакол партыі нацыянальнае эліты.

9.4. БХД лічыць, што неабходна разьвіваць нацыянальную сьвядомасьць кожнага чалавека. Толькі чалавек з высокай нацыянальнай сьвядомасьцю, які валодае маральна-этычнымі каштоўнасьцямі і любіць сваю Бацькаўшчыну, здольны ў большай ступені прыносіць карысьць грамдзтву, сваёй сям’і і самому сабе.

9.5. Месца і роля нацыянальных і канфэсійных меншасьцяў у Беларусі. Мы падкрэсьліваем, што ідэя стварэньня нацыянальнага руху ў нашым разуменьні ніяк не азначае дыскрымінацыі нацыянальных ці канфэсійных меншасьцяў, а наадварот, адкрывае

ўсім грамадзянам Беларусі, незалежна ад іх паходжаньня, расы, нацыянальнасьці ці веравызнаньня, магчымасьць для паўнавартаснага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. БХД павінная праявіць сваю салідарнасьць з усімі нацыянальнымі супольнасьцямі Рэспублікі Беларусь у іх правох.

9.6. БХД лічыць, што распальваньне нацыянальнай нянавісьці, дыскрымінацыя грамадзян паводле этнічных і расавых прыкметаў несумяшчальная з хрысьціянскімі прынцыпамі і павінна караццa законам.

### X. Здаровае й маральнае грамадзтва

10.1. БХД вызнае найважнейшым правам чалавека права на жыцьцё. Зыходзячы з гэтага, мы лічым адной з галоўных праблем сучаснага грамадзтва практыку адкрытага й масавага правядзеньня абортаў. Неабходна прыкласьці ўсе намаганьні дзеля спыненьня масавага забойства ненароджаных дзяцей.

10.2. БХД уважае выхаваньне дзяцей і моладзі істотным абавязкам грамадзтва і дзяржавы. Мы лічым неабходным стварэньне разгалінаванай сыстэмы агульнаадукацыйных школ, якія знаходзіліся б пад патранажам хрысьціянскіх канфэсіяў. Лічым патрэбным стварэньне міжканфэсійнага Хрысьціянскага Ўнівэрсытэту. Беларусь зь яе тысячагадовай традыцыяй талерантнасьці – ці не найлепшае ў Эўропе месца для разгортваньня сыстэмы вышэйшай хрысьціянскай адукацыі.

10.3. Беларускія падлеткі і моладзь павінны быць абароненымі ад злачыннага ўплыву крыміналу, наркаманіі, культуры гвалту, разбэшчанасьці й цынізму. Здаровае й маральнае грамадзтва мусіць мець магчымасьць праз назіральныя рады не дапускаць на TV, радыё, у СМІ, падчас сьвяточных і масавых мерапрыемстваў рэклямы, прапаганды, ухваленьня гэтых разбуральных зьяваў.

10.4. БХД адрозьнівае ад іншых палітычных плыняў і партыяў таксама і разуменьне грэшнасьці чалавечай прыроды і, як сьлед, немагчымасьці пабудовы ідэальнага, пазбаўленага зла грамадзтва. Але імкненьне да ідэалу Божага тварэньня БХД лічыць натуральным абавязкам кожнага грамадзяніна Беларусі.

### XI. Ахова прыроды

11.1. Мы лічым, што эфэктыўная рынкавая эканоміка цалкам сумяшчальная з эўрапэйскімі прынцыпамі ашчаднага выкарыстаньня рэсурсаў, безадкіднасьці тэхналёгіяў і павагі да Божага тварэньня. Для гэтага БХД прапануе стымуляваньне экалягізацыі вытворчасьці, скразную сыстэму экалягічнае адукацыі, увядзеньне платы за выкарыстаньне рэсурсаў, стварэньне сеткі незалежнага ад вытворцаў экалягічнага кантролю й інфармаваньня грамадзтва. Беларусь, якая спазнала ўвесь жах наступстваў Чарнобылю, забруджваньня глебы, вады й паветра гігантамі савецкай гаспадаркі й войска, у будучыні мусіць надаваць вялізную ўвагу сваёй экалягічнай бясьпецы.

11.2. Галоўным экалягічным болем Беларусі застаецца Чарнобыль. БХД ведае, што забруджаныя радыёнуклідамі тэрыторыі сьмяротна небясьпечныя для пражываньня людзей і непрыдатныя для вядзеньня сельскай гаспадаркі. Мы лічым чарнобыльскія землі палігонам для шырокамаштабнага маніторынгу й навуковых дасьледаваньняў на сусьветным узроўні.

### XII. Беларусь у сьвеце

12.1. Зьнешняя палітыка Беларусі перш за ўсё павінна быць скіраваная на падтрымку імкненьняў свайго народу, на абарону яго нацыянальных інтарэсаў.

12.2. БХД – за мірную беларускую дзяржаву. Аднак Беларусь павінна мець войска, здольнае бараніць краіну. Беларускае войска – гарант незалежнасьці – мы бачым прафэсійным, мабільным і сапраўды беларускім.

12.3. У галіне міжнароднага супрацоўніцтва Беларусь прытрымліваецца наступных прынцыпаў: – неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў; – вырашэньня міжнародных канфліктаў выключна мірнымі сродкамі.

12.4. Межы Беларусі недатыкальныя.

12.5. Мы за ўмацаваньне сувязяў з асяродкамі беларусаў за мяжой і абарону правоў

беларускай дыяспары ва ўсім сьвеце.

12.6. Беларусь – заснавальніца і сябра Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, удзельніца Нарады па Бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе (АБСЕ), імкнецца да ўступленьня ў Эўрапэйскі Саюз.

12.7. Адна з галоўных прадумоў выхаду Беларусі з крызысу – зьменшэньне палітычнай і эканамічнай залежнасьці ад Расіі. Мы за разьвіцьцё двухбаковых сувязяў з Расіяй і няўхільнае павелічэньне эканамічных стасункаў з заходнімі суседзямі Беларусі. Неабходна ліквідаваць вялізны дызбалянс у гандлі Беларусі з Расіяй у параўнаньні з гандлем зь іншымі дзяржавамі (у першую чаргу з Германіяй, Аўстрыяй, Італіяй, ЗША).

12.8. Мы падтрымліваем усе міратворчыя арганізацыі і ініцыятывы, накіраваныя на дасягненьне і ўмацаваньне ўсеагульнага міру і бясьпекі.

12.9. Беларусь нясе адказнасьць за стварэньне экалягічнай небясьпекі суседнімі краінамі. Аднак і яны нясуць адказнасьць за экалягічную шкоду прынесеную Беларусі. У першую чаргу гэта тычыцца Чарнобыльскага пытаньня. Да гэтага часу не вырашана пытаньньне аб кампэнсацыі Беларусі шкоды прынесенай Чарнобыльскай трагедыяй.

12.10. Беларусь мае вялікую дыяспару: шмат беларусаў былі перасеrange ці эміґравалі з краіны падчас войнаў, акупацыяў і рэвалюцыяў – у Расею, Украіну, Прыбалтыку, Казахстан, Польшчу, ЗША, Аўстралію, Аргентыну, Канаду, Ізраіль й іншыя краіны. Сёньня стратэгічна важнай задачай зьяўляецца аднаўленьне нацыянальнай цэласнасьці й еднасьці, усталяваньне самых цесных кантактаў зь беларускім замежжам, адстойваньні яго інтарэсаў і падтрымка іхніх намаганьняў да захаваньня саматоеснасьці. Такое пашырэньне беларускага ўплыву ў сусьветным маштабе адкрывае беспрэцэдэнтныя магчымасьці для правядзеньня нашае міжнароднае палітыкі.

## СТРАТЭГІЯ РЭФОРМАЎ

Сёньняшняя фактычная рэанімацыя савецкай сыстэмы ўжо прывяла да духовага заняпаду, уціску хрысьціянскіх грамадаў, паступовае здачы дзяржаўнай незалежнасьці, вынішчэньня парлямэнцкае дэмакратыі, падначаленьня судовай улады, стагнацыі беларускай эканомікі, міжнароднае ізаляцыі й падаўленьня грамадзкіх свабодаў, правоў чалавека, нацыянальнае адукацыі, мовы й культуры. Таму БХД павінна ўзяць на сябе частку адказнасьці за распрацоўку, ініцыяваньне й ажыцьцяўленьне кардынальных, усеахопных пераўтварэньняў у грамадзтве й дзяржаве.

### Галоўныя мэты рэформаў

Галоўныя мэты БХД у працэсе рэформаў – наданьне кампаніі пераўтварэньняў характар “рэвалюцыі сумленьня”, сьцьверджаньне прыярытэтаў маральнасьці і адказнасьці рэфармаваньня, адстойваньне інтарэсаў грамадзянскай супольнасьці, хрысьціянскіх грамадаў і мясцовага самакіраваньня ў фармаваньні новага палітычнага й эканамічнага ладу.

Для БХД асабліва прынцыпова, каб перамены ажыцьцяўляліся выключна маральна, у рэчышчы нацыянальных інтарэсаў і мелі сваёй мэтай духовую, незалежную, дэмакратычную, эўрапэйскую Беларусь. Сябры партыі павінныя імкнуцца да максымальнага ўплыву ў сыстэме рэфармаваньня, займаючы ключавыя пасады і кантралюючы падрыхтоўку й выкананьне пераўтварэньняў.

### Першачарговыя прыярытэты БХД

Прыярытэтам БХД ёсьць наданьне будучай палітычнай сыстэме хрысьціянскіх прынцыпаў як нясучай канструкцыі і як рухавай сілы рэформаў. Менавіта ў такім ключы мусяць ажыцьцяўляцца рэформа палітычнае сыстэмы Беларусі (прыняцьцё новае Канстытуцыі, дзяржаўнае будаўніцтва, разьвіцьцё мясцовага самакіраваньня, бясьпека і правапарадак); грамадзкае сфэры (рэлігія, навука, адукацыя, культура, СМІ); эканомікі (уключэньне рынкавых мэханізмаў, прыватызацыя, увядзеньне моцнай нацыянальнай валюты, структурная перабудова й стварэньне спрыяльнага інвэстыцыйнага клімату).

### Палітычныя (дзяржаўныя) рэформы

– Сьцьверджаньне поўнай іерархіі нацыянальнага права ад Канстытуцыі да падзаконных актаў як стрыжня новай беларускай дзяржаўнасьці.

– Рэфармаваньне праўнай сыстэмы: адмена ўсіх незаконных дэкрэтаў, распараджэньняў, указаў, дамоваў і пагадненьняў, скіраваных на ўціск грамадзкіх і рэлігійных правоў.

– Вяртаньне нацыянальнай сымболікі (бел-чырвона- белага сьцягу, герба Пагоня) і статус адзінай дзяржаўнай беларускай мове.

– У самыя кароткія тэрміны скліканьне прадстаўнічага Канстытуцыйнага сходу з мэтай прыняцьця новае дэмакратычнае Канстытуцыі.

– Стварэньне ўмоваў для правядзеньня сапраўды дэмакратычных парлямэнцкіх выбараў паводле прапарцыйна-мажарытарнае сыстэмы.

– Усталяваньне нармалёвых дачыненьняў зь міжнароднай супольнасьцю і міжнароднымі арганізацыямі: Эўразьвязам, АБСЭ, МВФ і інш.

– Увядзеньне цывілізаванага памежнага й мытнага кантролю на мяжы з Расеяй; перамовы адносна ўзаемных пазык, арэнды вайсковых базаў і транзыту.

– Стварэньне гарантыяў падзелу ўлады й фармаваньне рэальна незалежных судоў.

– Разгортваньне мясцовага самакіраваньня.

**Найпершыя дзеяньні ў грамадзкае сфэры**

– Забесьпячэньне свабоды прэсы, скасаваньне цэнзуры, мінімізацыя бюракратычных абмежаваньняў для рэгістрацыі й дзейнасьці хрысьціянскіх суполак і грамадзкіх ініцыятываў і спрыяньне ўзаемнай інфармаванасьці ў працэсе рэформаў.

– Стварэньне спрыяльных умоваў для нацыянальнага, духовага й культуровага разьвіцьця.

– Разгортваньне нацыянальнай кампаніі за адраджэньне маральнасьці, здаровае грамадзтва й сямейныя каштоўнасьці.

– Забесьпячэньне раўнапраўя канфэсіяў, рэальнага аддзяленьня царквы ад дзяржавы.

– Спрыяньне міжканфэсійнаму дыялёгу, роўнасьці й хрысьціянскай талеранцыі ў беларускім грамадзтве.

– Арганізацыя найшырэйшага фронту грамадзкіх работаў: паўсюднага й актыўнага, добраахвотнага ці аплатнага ўдзелу грамадзянаў у рэформах – ад дабраўпарадкаваньня вуліцаў да разбудовы эфэктыўнае сыстэмы біржаў працы.

– Наданьне большай увагі праблеме Чарнобыльскай катастрофы, наладжваньне сыстэмы экалягічнай і радыяцыйнай бясьпекі.

– Распачынаньне кардынальных рэформаў сыстэмаў адукацыі, навукі, аховы здароўя, спорту, сацыяльнага страхаваньня, скіраваных на пабудову маральна здаровага грамадзтва.

– Разгортваньне агульнабеларускіх маладзёвых праграмаў – менавіта новае пакаленьне паклікана стаць махавіком пераўтварэньняў.

**Галоўныя крокі эканамічнае рэформы**

– Апэратыўная распрацоўка й прыняцьцё заканадаўчае базы рэфармаваньня з выразным антыкарупцыйным акцэнтам.

– Увядзеньне асноўных мэханізмаў рынкавае эканомікі, у тым ліку прыватнае ўласнасьці на сродкі вытворчасьці й зямлю, спрыяньне малому й сярэдняму бізнэсу ды фэрмэрству.

– Стварэньне гарантыяў уласнасьці й лібэралізацыя зьнешнегандлёвае дзейнасьці, разам з адначасовай амністыяй некрымінальнага “ценевага” капіталу.

– Акцыянаваньне й прыватызацыя, пачынаючы з дробнай, у першую чаргу стратнай дзяржаўнай уласнасьці.

– Абмежаваньне падаткаў да ліку самых зьбіральных.

– Узмацненьне фінансавае сыстэмы, увядзеньне й канвэртаваньне нацыянальнай валюты.

– Прыцягненьне буйных замежных крэдытаў ды інвэстыцыяў на структурную перабудову эканомікі: ад матар’яла- й энэргаёмістае да праца- й навукаёмістае.

**Умовы рэфармаваньня**

БХД лічыць найпершай умовай правядзеньня рэформаў іх абсалютную маральнасьць, адкрытасьць, празрыстасьць і сумленнасьць. Грамадзтва мусіць атрымліваць усю

інфармацыю аб тым, для чаго й як праводзяцца зьмены, а дзяржаўныя чыноўнікі й спэцыялісты абавязаныя даваць поўную справаздачу аб хадзе й пэрспэктыве рэформаў. БХД і ягоныя адмыслоўцы павінныя рабіцца гарантам чысьціні й этычнасьці ў працэсе пераўтварэньняў.

Стратэгію рэформаў БХД мусіць увасабляць у жыцьцё паўсюдна, увесьчасна, на ўсіх магчымых узроўнях, пачынаючы зь ціску на сёньняшнія ўлады, стварэньня грамадзкіх камітэтаў па лякальных праблемах ды асобных сфэрах дзейнасьці, удзелу ў мясцовых выбарах – і завяршаючы поўным пераўтварэньнем цяперашняе палітычнае, грамадзкае й эканамічнае сыстэмы.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Як Хрысьціянскія Дэмакраты мы, сябры БХД, хочам зрабіць свой унёсак у пабудову Беларусі і сьвету, дзе старая нянавісьць і новая варожасьць паміж народамі саступяць месца супрацоўніцтву і сумеснай працы. Мы заклікаем кожнага мужчыну і кожную жанчыну – незалежна ад таго, ці зьяўляюцца яны хрысьціянамі, – далучыцца да нас, каб разам будаваць для нашых дзяцей і для сябе саміх новы, больш дасканалы сьвет.

Мы прагнем, каб беларуская канструкцыя палягала на прынцыпах Хрысьціянскай Дэмакратыі: субсыдарнасьць як галоўны прынцып у сацыяльным і палітычным аспэкце, дэцэнтралізацыя паўнамоцтваў, рынкавая эканоміка, павага да духовых і этычных здабыткаў, агульная адкрытасьць сьвету, пашана да Тварэньня.

Мы, Хрысьціянскія Дэмакраты, хочам дзейнічаць, натхняючыся тымі ж прынцыпамі і мэтамі пры супрацоўніцтве з Эўрапэйскім Саюзам і іншым сьветам.

Мы заклікаем усіх грамадзянаў Беларусі працаваць над разьвіцьцём гэтых прынцыпаў у нашай краіне.

## ПРАГРАМА ПАРТЫІ БХД (2015)
## "НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ З ХРЫСЦІЯНСКІМ СЭРЦАМ"

Прынятая на З’ездзе БХД у Менску 13 чэрвеня 2015 года

### *Прэамбула*

Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, на пачатку XXI стагоддзя, усведамляючы сваю адказнасць перад Богам і Бацькаўшчынай, стварылі новую палітычную сілу – партыю "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя", якая грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях, дэмакратычных прынцыпах і беларускім патрыятызме.

Мы з’яўляемся спадкаемцамі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі першай паловы XX стагоддзя і нашчадкамі традыцыі нацыянальнага і духоўнага адраджэння Беларусі. Арыенцірам у нашай дзейнасці з’яўляецца праца такіх беларускіх дзяржаўных дзеячоў-хрысціянаў, як Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, князі Астрожскія, Францішак Скарына, Астафій Валовіч, Леў Сапега, Язэп Руцкі, беларускія хрысціянскія дэмакраты першай паловы XX стагоддзя.

Дактрына "Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі" увабрала ў сябе вопыт і дасягненні БХД 1920-1930-х і 2000-х гадоў, Хрысціянска-Дэмакратычнага саюзу Нямеччыны і іншых хрысціянска-дэмакратычных партыяў Еўропы.

Партыя "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" з’яўляецца народнай партыяй і ажыццяўляе дактрыну сучаснай хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі. БХД аб’ядноўвае людзей шырокага ідэйнага спектра: хрысціянскіх дэмакратаў, прыхільнікаў цэнтрысцкай хрысціянска-сацыяльнай плыні, а таксама прыхільнікаў каштоўнаснага кансерватызму.

Мы бачым сваёй сацыяльнай базай вернікаў-хрысціянаў, моладзь, сем’і, прадпрымальнікаў, нацыянальна-арыентаваную інтэлігенцыю, інжынераў, кваліфікаваных рабочых і усіх, хто падзяляе палажэнні гэтай праграмы, незалежна ад рэлігійных перакананняў і сацыяльнага статуса.

На сённяшні дзень Беларусь ахоплена крызісам у эканоміцы і сацыяльнай сферы. Беларусаў пазбавілі магчымасці абіраць уладу на свабодных дэмакратычных выбарах.

Беларусаў кожны год становіцца ўсё менш. Пераследуюцца і кідаюцца за краты беларускія патрыёты, у краіне зневажаюцца палітычныя, грамадзянскія і сацыяльныя правы чалавека. Беларусь перажывае крызіс маральнасці.

У гэтых умовах БХД імкнецца прыйсці да ўлады ў краіне і рэалізаваць сваю праграму. У праграме партыі прадстаўлена яснае бачанне таго, як павінна быць уладкавана дзяржаўная ўлада, эканоміка і грамадства, якую палітыку неабходна праводзіць у Беларусі ў пераходны перыяд пасля падзення аўтарытарызму, каб пабудаваць дэмакратыю, грамадзянскую супольнасць і эфектыўную рынкавую эканоміку.

БХД вызнае негвалтоўныя метады барацьбы і спрыяе кансалідацыі беларускага грамадства.

БХД імкнецца аб’яднаць беларускі народ вакол ідэяў свабоды і дэмакратыі, незалежнай дзяржаўнасці, сацыяльнай рынкавай эканомікі, правоў чалавека на цвёрдым грунце сутнасна хрысціянскіх каштоўнасцяў і нацыянальных традыцыяў.

## НАШЫ КАШТОЎНАСЦІ

### БОГ

Мы верым, што сэнс чалавечага жыцця – імкнуцца да Бога, Які стварыў гэтую зямлю, Які любіць свет настолькі, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага Ісуса Хрыста на крыж у ахвяру за нашы грахі, і натхняе нас Духам Святым.

Ён стварыў сусвет разумна і дасканала і працягвае апекавацца ім (Провід). Яго Воляй з’яўляецца скіраванне чалавека да Дабра каб дасягнуў шчасця. Дзеля гэтага Ён дзейнічае ў гісторыі праз чалавека. Ён устанавіў прыродны і маральны законы. Таму гэтыя законы нязменыя і неадменныя. Ён удзяліў чалавеку ўладу – адказнасць згодна гэтым законам парадкаваць свет.

Больш за тысячагоддзе Беларусь з’яўляецца хрысціянскай краінай, часткай еўрапейскай хрысціянскай цывілізацыі. Біблія выступае для нас мерай таго, што такое ісціна, дабро, прыгажосць і справядлівасць. Гісторыя ведала шмат прыкладаў паўстання супраць таго, што ёсць ісціна, дабро, прыгажосць і справядлівасць па-хрысціянску. Многія спрабавалі даць сваю меру і тлумачэнне гэтым каштоўнасцям, многія спрабавалі палепшыць і ўдасканаліць тое, што прапаноўваецца ў Бібліі, але ўсе гэтыя спробы прыводзілі або да паўтору біблейскіх запаведзяў і прынцыпаў, або да пагаршэння іх і да памылак. Бог даў чалавеку свабоду волі, свабоду спазнання дабра і зла. Карыстаючыся гэтай воляй спазнання дабра і зла, мы прыходзім да высновы, што ўяўленні пра дабро і зло трэба не змяняць, але спазнаваць і разумець.

Многія народы, і беларусы ў іх ліку, адмаўляліся ад хрысціянства на карысць атэізму. Заўсёды гэтая адмова суправаджалася стратай ў праўдзе, дабры, прыгажосці і справядлівасці. Усе народы і кожны чалавек асобна свабодныя абіраць і веру сваю, і шлях свой. Наш выбар – хрысціянскі і дэмакратычны. У свеце квітнеюць тыя краіны і народы, што не ўхіляюцца ад хрысціянскага шляху. Свой шлях мы выбіраем самі, але правільнасць яго звяраем па Божых Запаветах.

### ЧАЛАВЕК

Мы вызнаем, што чалавек створаны на вобраз і падабенства Божае. Разам з тым грэх, які ўвайшоў у чалавечую прыроду, не дае магчымасці для самавыпраўлення – і, як хрысціянскія дэмакраты, мы бачым адказ на ўсе пытанні чалавечага існавання ў Богачалавеку Ісусе Хрысце.

Разуменне аднаго чалавека абмяжоўвае магчымасць дзеяння для іншага. Усякае чалавечае разуменне недасканалае, таму ніхто не можа навязваць свае погляды іншаму. Правы і свабоды кожнага чалавека на ўладкаванне свайго ўласнага жыцця абмяжоўваюць нашы магчымасці па ўладкаванні Беларусі. Гэта адзінае абмежаванне мы лічым праўдзівым і справядлівым. Тое, што гэта абмежаванне адзінае, але непарушнае, мы лічым дабром.

Хрысціянская дэмакратыя засноўваецца на ідэі персаналізму, які прызнае асобу першаснай творчай рэчаіснасцю і вышэйшай духоўнай каштоўнасцю.

Чалавек створаны як мужчына і жанчына. У першую чаргу гэта азначае, што чалавек ад стварэння мае характар грамадскі, можа рэалізавацца толькі ў лучнасці з грамадствам. Сувязі будуюцца, беручы пад увагу як індвідуальныя, так і сацыяльныя патрэбы чалавека. Грамадскія сувязі накладаюць адпаведную адказнасць на асобу згодна з прынцыпам салідарнасці ды ў свядомасці супольнага дабра.

Чалавек мае індывідуалістычную, сацыяльную і духоўную прыроду. Хрысціянская дэмакратыя разглядае чалавека як асобу, якая спалучае гэтыя тры аспекты чалавечай прыроды. Усялякая аднабаковасць і спроба абсалютызаваць адзін аспект чалавечай прыроды за кошт іншых вядзе да памылковых рашэнняў і негатыўных наступстваў. Чалавек не з'яўляецца поўнасцю аўтаномным і ізаляваным, таксама як і не з'яўляецца механічным складнікам калектыву, другасным у параўнанні з калектывам. Хрысціянская дэмакратыя ўяўляе чалавека як асобу, надзеленую годнасцю, з індывідуалістычнымі памкненнямі, якая рэалізуе сябе ў зносінах і супрацоўніцтве з іншымі людзьмі і мае патрэбу ў духоўным быцці, як неад'емнай сутнасці чалавечага жыцця.

**БЕЛАРУСЬ**

Беларусь для нас – і Радзіма, і Пакліканне. Бог даў нам нарадзіцца на гэтай зямлі таму што наш лёс непарыўна звязаны з беларусамі, беларускай гісторыяй, мовай і культурай, а таксама місіяй, укладзенай у Беларусь звыш.

Мы маем патрэбу асэнсаваць ня толькі гістарычную спадчыну Беларусі, але і актуальны стан нацыянальнага развіцця. Узяць адказнаць за мінулае і сучаснасць – значыць даць належную ацэнку як негатыўным так і пазітыўным падзеям нашай гісторыі.

Народы Еўропы абіраюць розныя варыянты ўладкавання сваіх краін. Як кожны чалавек вольны ўладкоўваць свой дом, так і кожны народ вольны ўладкоўваць сваю краіну. Мы народжаныя ў Беларусі, гэта нашая краіна, і ніхто акрамя нас не ўладкуе яе так, як нам трэба. Беларусь – гэта наша свабода, свабода жыць і дзейнічаць згодна з нашым разуменнем праўды, дабра, прыгажосці і справядлівасці. Справядліва, што толькі мы самі свабодныя ўладкаваць яе ў дабры і прыгажосці; праўдзіва, што мы адказныя за адсутнасць у ёй дабра і прыгажосці.

## 1. НАРОД І КРАІНА

### 1.1. Адраджэнне

1.1.1. Наш вобраз Беларусі – гэта незалежная, дэмакратычная дзяржава, дзе абараняюцца правы і свабоды чалавека, краіна хрысціянскага адраджэння ў сэрцы Еўропы.

1.1.2. Уся Заходняя цывілізацыя вось ужо 2000 гадоў будуецца на хрысціянскіх падмурках, таму сапраўды еўрапейская Беларусь можа паўстаць толькі з магутным духоўным рухам, са светапоглядным абнаўленнем усяго грамадства. Беларуская нацыянальная ідэя бачыцца нам як самарэалізацыя народа Беларусі ў найважнейшых формах – незалежнай дзяржаве, беларускай мове, паважных міжнародных стасунках, дасягненні дабрабыту, сучаснай культуры – на падставе хрысціянскага зместу.

1.1.3. Мы супраць бездухоўнасці, амаральнасці і спустошанасці. Беларусі неабходна поўнамаштабнае духоўнае абуджэнне, адраджэнне ў людскіх душах стваральнага, жыццясцвярджальнага і аптымістычнага, сутнасна хрысціянскага і патрыятычнага светапогляду. Гэта з'яўляецца найпершай, найгалоўнейшай задачай БХД.

1.1.4. З пачуцця нацыянальнай саматоеснасці вынікаюць і любоў да роднай краіны, і павага да іншых народаў, і разуменне сваёй адказнасці перад тымі, хто быў, і за тых, хто будзе пасля.

### 1.2. Беларуская нацыянальная ідэя

1.2.1. Мы грунтуемся на тым, што беларуская нацыянальная ідэя зыходзіць з падставовых прынцыпаў хрысціянскага светапогляду: свабоды, веры, любові, справядлівасці, роўнасці, салідарнасці і адказнасці. Спазнанне гэтых найвышэйшых ісцін, следаванне ім у паўсядзённым жыцці і ёсць сутнасцю духоўнага адраджэння.

1.2.2. Беларуская нацыянальная ідэя – гэта місія, сэнс існавання беларускага народу. Любая нацыянальная ідэя абумоўлена адпаведнай гісторыяй, тэрыторыяй, часам,

менталітэтам, узаемадачыненнямі з суседзямі. Адчуванне гэтага Богам дадзенага наканавання, усведамленне сваёй унікальнасці і непаўторнасці, свайго прызначэння менавіта на гэтай зямлі, у гэты час і ёсць нацыянальнай ідэяй. У кожнай нацыі ёсць вялікая задума Божая, кожнаму народу Бог дае непаўторныя дарункі – духоўныя, культурніцкія, светапоглядавыя. Кожны народ мусіць несці адказнасць перад Богам за гэтыя дарункі і служыць ім, і іншым народам, і ўсяму свету.

1.2.3. Мы лічым, што нашы гістарычныя нацыянальныя сімвалы – бел-чырвона-белы сцяг, як плашчаніца з крывёю ўкрыжаванага і ўваскрослага Хрыста, герб "Пагоня" з крыжам Святой Ефрасінні, гімн "Магутны Божа", якія найбольш поўна выражаюць змест спрадвечнага імкнення беларускага народу да хрысціянскай чысціні і духоўнасці, рашучасць высілкаў нацыі для дасягнення праўды і справядлівасці – павінны стаць дзяржаўнымі сімваламі Беларусі. Мы заклікаем да вяртання, павагі і шанавання нацыянальнай гістарычнай сімволікі Беларусі як неад’емнай часткі нашай гістарычнай і культурнай спадчыны.

1.2.4. Мы таксама прызнаем права на існаванне і выкарыстанне любой іншай сімволікі, якая прымаецца канстытуцыйным чынам беларускім грамадствам, за выключэннем сімволікі, звязанай з прапагандай нацысцкай, бальшавіцкай ці любой іншай ідэалогіі, не сумяшчальнай з хрысціянствам, годнасцю і свабодай чалавека.

1.2.5. Для нас нацыянальная ідэя – гэта не тое, што народ думае пра сябе ў часе, а тое, што Бог думае пра гэты народ у вечнасці. Мы пазнаем замысел Божы для Беларусі ў хрысціянскім змесце нацыянальнай ідэі, нацыянальных сімвалах, асаблівасцях менталітэту, гістарычнай місіі і культуры, асобах герояў. Для нас відавочна – нацыянальная свядомасць робіць веру ў Хрыста больш глыбокай, а вера адкрывае несвядомаму Радзіму.

### 1.3. Аб’яднанне народа

1.3.1. Мы разумеем паняцце "народ" у біблейскім сэнсе – як сукупнасць мінулых, сённяшніх і будучых пакаленняў, з’яднаных у гістарычную супольнасць месцам жыхарства, паходжаннем, свядомасцю, мовай, культурай і асаблівым духоўным кодам, пакліканнем і прызначэннем. Мы адказныя за сваю краіну найперш перад Богам і суайчыннікамі, а таксама перад продкамі і нашчадкамі.

1.3.2. Найважнейшая задача БХД – кансалідацыя грамадства вакол ідэяў духоўнага адраджэння Беларусі, незалежнасці, дэмакратыі, гістарычнай пераемнасці і адказнасці за нацыянальную гісторыю і культуру, стварэнне на гэтай базе шматаблічнага і паўсюднага нацыянальнага руху. Абарона хрысціянскіх каштоўнасцяў, суверэнітэту і дэмакратыі, змаганне са спадчынай таталітарнага савецкага рэжыму, з русіфікацыяй і наступствамі Чарнобылю, заслон спробам паняволення, распродажу Беларусі, адпор агрэсіі крыміналу патрабуюць гуртавання ў адзіны народны рух усіх здаровых сіл грамадства: палітычных партыяў і арганізацыяў, сацыяльных груп і асобных грамадзян.

1.3.3. З сённяшнім цяжкім становішчам у краіне пад сілу справіцца толькі ўсяму народу, свядомасць якога прасякнута духам хрысціянскага адраджэння і нацыянальнай ідэяй. Пакліканне БХД заключаецца ў тым, каб стаць ідэалагічным і арганізацыйным ядром такога ўсенароднага руху. Такім чынам, стварэнне дзейснага нацыянальнага руху, угрунтаванага на хрысціянскіх каштоўнасцях, з’яўляецца галоўнай аб’яднаўчай стратэгіяй БХД, а таксама асноўным матывам міжпартыйных дачыненняў і пагадненняў. Пры правядзенні агульнанацыянальных кампаніяў, выбараў ці акцыяў пратэсту мы павінны быць упэўненыя ў тым, што нашыя хаўруснікі адстойваюць менавіта маральныя каштоўнасці, нацыянальныя інтарэсы і перспектывы адраджэння, і што вынікі нашай супольнай працы не будуць супярэчыць нашым памкненням.

1.3.4. БХД лічыць, што беларускія населеныя пункты, вуліцы і плошчы не павінны насіць імёнаў тых людзей, якія выкаранялі веру, знішчалі беларусаў за іх беларускасць, забівалі невінаватых пад лозунгамі "класавай барацьбы" і "сусветнай рэвалюцыі", а таксама адпаведных падзеяў і з’яваў: Леніна, Дзяржынскага, Карла Маркса, Кірава, Свярдлова, Суворава і іншых, Кастрычніцкай рэвалюцыі, камунізму і да т. п. Як толькі зменіцца ўлада

– БХД правядзе перайменаванне адпаведных назваў пакетам, маючы на мэце найперш ушанаванне памяці выбітных землякоў і аднаўленне ў тапаніміцы гістарычнай справядлівасці.

**1.4. Лідарства БХД**

1.4.1. У нацыянальным руху БХД мусіць імкнуцца да найбольшай адказнасці і ролі авангарду ў кожнай сферы дзейнасці. З гэтага вынікае імператыў ініцыятывы і лідарства БХД у грамадска-палітычным працэсе ў Беларусі.

1.4.2. Лідзіруючае становішча БХД у першую чаргу мусіць дасягацца праз гуртаванне вакол партыі нацыянальнай эліты.

1.4.3. БХД лічыць, што неабходна развіваць нацыянальную свядомасць кожнага чалавека. Толькі чалавек з высокай нацыянальнай свядомасцю, які валодае маральна-этычнымі каштоўнасцямі і любіць сваю Бацькаўшчыну, здольны ў большай ступені прыносіць карысць грамадству, сваёй сям'і і самому сабе.

**1.5. Месца і роля нацыянальных і канфесійных меншасцяў у Беларусі**

1.5.1. У Беларусі, якая спрадвеку знаходзіцца на геапалітычным скрыжаванні, сумежжы цывілізацыяў і культур, нацыянальная ідэя спалучае многія этнічныя і светапоглядавыя элементы. Мы падтрымліваем усе нацыянальныя меншасці краіны ў іх праве ствараць шматаблічнасць беларускага грамадства. Беларусь усёй сваёй гісторыяй сцвярджае ідэал верацярпімасці і ўзаемапавагі ў суіснаванні розных народаў і рэлігіяў.

1.5.2. Мы падкрэсліваем, што ідэя стварэння нацыянальнага руху ў нашым разуменні ніяк не азначае дыскрымінацыі нацыянальных ці канфесійных меншасцяў, а наадварот, адкрывае ўсім грамадзянам Беларусі, незалежна ад іх паходжання, нацыянальнасці ці веравызнання, магчымасць для паўнавартаснага ўдзелу ў грамадскім жыцці. БХД павінна праявіць сваю салідарнасць з усімі нацыянальнымі супольнасцямі Рэспублікі Беларусь у іх правах.

1.5.3. БХД лічыць, што распальванне нацыянальнай нянавісці, дыскрымінацыя грамадзян паводле этнічных і расавых прыкмет несумяшчальная з хрысціянскімі прынцыпамі і павінна карацца законам.

**1.6. У сферы нацыянальнай палітыкі БХД выступае за:**

1.6.1. – духоўнае абуджэнне на падставе хрысціянскіх прынцыпаў і светапогляду, у аснове якіх палягаюць свабода, вера, любоў, справядлівасць, роўнасць, салідарнасць і адказнасць;

1.6.2. – незалежную, дэмакратычную Беларусь, дзе абараняюцца правы і свабоды чалавека;

1.6.3. – вяртанне нашых нацыянальных сімвалаў – бел-чырвона-белага сцяга, герба "Пагоня", гімна "Магутны Божа";

1.6.4. – вяртанне гістарычных назваў населеных пунктаў, вуліц і плошчаў, увекавечанне памяці беларускіх нацыянальных дзеячаў і герояў веры;

1.6.5. – належную абарону, аднаўленне і рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры, гісторыі і культуры;

1.6.6. – кансалідацыю грамадства вакол ідэяў духоўнага адраджэння Беларусі, незалежнасці, дэмакратыі, гістрычнай пераемнасці і адказнасці за нацыянальную гісторыю і культуру;

1.6.7. – згуртаванне ўсіх здаровых сіл грамадства ў барацьбе з наступствамі Чарнобыльскай трагедыі, выміраннем беларускай нацыі, алкагалізмам, наркаманіяй і маральнай дэградацыяй;

1.6.8. – павагу да іншых народаў і культур, свабоднае развіццё нацыянальных меншасцяў, іх моў і культур Беларусі;

1.6.9. – лідарства партыі хрысціянскай дэмакратыі ва ўсіх сферах грамадскага жыцця як партыі народнай большасці.

## 2. ЦАРКВА

### 2.1. Царква – сэрца грамадства

2.1.1. Хрысціянства – нацыятворчая сіла беларускай гісторыі і аснова беларускай нацыянальнай ідэі. Без веры ў Бога, без Бібліі, без Царквы немагчыма ані ўявіць сабе Беларусь, ані зразумець яе.

Хрысціянства стала падмуркам беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай палітыкі і культуры. Часы найвялікшага росквіту Беларусі былі неадрыўна звязаныя з развіццём хрысціянства на беларускіх землях.

Таму ацаленне грамадства і адбудова Беларусі як дзяржавы немагчыма без умацавання Царквы і хрысціянскага адраджэння краіны.

2.1.2. Мы вызнаем, што Царква – эпіцэнтр гісторыі, якую творыць Бог. Менавіта стан хрысціянскіх цэркваў тысячу гадоў вызначаў аблічча і змест Беларусі, характар пакаленняў, маральнае здароўе грамадства і моц дзяржавы. Таму эфектыўнае і ўстойлівае развіццё беларускага грамадства ў сацыяльных, эканамічных, культурных і палітычных галінах магчыма толькі на падмурку хрысціянскіх каштоўнасцей.

2.1.3. БХД прызнае роўныя правы за трыма братэрскімі канфесіямі – праваслаўем, каталіцтвам і пратэстантызмам. Беларускае хрысціянскае трыадзінства – падмурак для яднання нацыі і зарука адкрытасці Беларусі ўсяму свету.

2.1.4. У сваёй міжканфесійнай працы, палітыцы і ўзаемадачыненнях, якія патрабуюць удзелу вернікаў розных вызнанняў, мы зыходзім з прынцыпу святога Аўгустына: у галоўным – адзінства, у малазначным – свабода, але ва ўсім – любоў.

2.1.5. У сваёй грамадскай і палітычнай працы мы арыентуемся на сацыяльныя канцэпцыі хрысціянскіх канфесіяў як на крыніцу глыбокіх сутнасных адказаў на выклікі і праблемы сучаснасці.

2.1.6. Мы разумеем: замяніць дзясяткі тысячаў карумпаваных чыноўнікаў і кіраўнікоў у выніку змены ўлады павінны сумленныя і адказныя людзі – без гэтага рэформы асуджаныя на правал. Патэнцыял усеахопнага, ачышчальнага кадравага абнаўлення мы бачым найперш ва ўцаркоўленых верніках. Толькі праз асабісты прыклад актыўнага удзелу хрысціянаў-прафесіяналаў у палітычным і грамадскім жыцці краіны, нормы біблейскай этыкі могуць быць распаўсюджаны і прыняты ўсім грамадствам. Адпаведна, ядром партыі БХД мы бачым уцаркоўленых вернікаў і сумленных прафесіяналаў у сваіх сферах дзейнасці. Евангельская мараль з'яўляецца асновай для пабудовы ўнутрыпартыйных стасункаў і працы нашай партыі ў грамадстве.

2.1.7. У палітычнай дзейнасці мы лічым мэтазгодным спрыяць суверэнітэту Царквы. Гэты суверэнітэт стварае ўмовы, каб аўтарытэтны голас царкоўных супольнасцяў гучаў ясна ды дзейсна ў грамадстве.

### 2.2. Царкоўныя арганізацыі і свабода сумлення

2.2.1. БХД разглядае свабоду сумлення як свабоду трымацца тых або іншых прынцыпаў, поглядаў і перакананняў, свабоду вызнаваць тую ці іншую рэлігію альбо не вызнаваць ніякай. Згодна з поглядамі БХД, свабода сумлення з'яўляецца найважнейшым правам чалавека ў дэмакратычнай дзяржаве. Свабода веравызнання палягае ў тым, што кожная канфесія мае права свабодна існаваць і развівацца ў Беларусі, калі яна не парушае законы Рэспублікі Беларусь.

2.2.2. Кожны чалавек мае права выбіраць форму вызнання той або іншай рэлігіі публічна ці патаемна, аднаасобна ці сумесна з іншымі людзьмі. Не павінна існаваць ніякіх абмежаванняў свабоднаму распаўсюду рэлігійных поглядаў і перакананняў. Кожны чалавек павінен мець права на вольнае навучанне асновам выбранай ім рэлігіі, мець права на вольныя рэлігійныя аб'яднанні і царкоўныя суполкі.

2.2.3. Царкоўныя арганізацыі таксама як і грамадскія арганізацыі павінны мець магчымасць свабодна ўзнікаць і дзейнічаць. БХД выступае за рэгістрацыю царкоўных суполак заяўным прынцыпам. Рэгістрацыя рэлігійнай арганізацыі з'яўляецца яе правам, а не абавязкам. Гэта значыць, што дзяржаўная рэгістрацыя царкоўных суполак не павінна быць абавязковай, калі самі суполкі не лічаць яе патрэбнай. Недапушчальна любое ўмяшальніцтва дзяржавы ў справы царкоўных арганізацыяў, за выключэннем выпадкаў, калі маюць месца парушэнні закона.

### 2.3. Правы цэркваў

2.3.1. Царкоўныя арганізацыі акрамя ўласна рэлігійнай дзейнасці могуць ажыццяўляць і царкоўна-сацыяльную актыўнасць – дабрачынныя акцыі і мерапрыемствы, нядзельныя школы і царкоўныя пачатковыя школы, удзельнічаць у ажыццяўленні сацыяльнай палітыкі ў якасці суб’екта нароўні з грамадскімі арганізацыямі.

2.3.2. БХД лічыць неабходным забяспечыць наступныя правы царкоўных супольнасцяў:

-права на публічныя пропаведзі і набажэнствы;

-права на выкладанне рэлігіі ў дзяржаўных і прыватных навучальных установах;

-права на выданне, куплю і продаж рэлігійнай літаратуры, часопісаў і газет;

-права на карыстанне сродкамі масавай інфармацыі, радыё і тэлебачаннем;

-права на дабрачынную дзейнасць і збор ахвяраванняў, гэтак жа як і на іншыя формы гаспадарчай і фінансавай дзейнасці, якія не супярэчаць закону;

-права на місіянерскую дзейнасць і на арганізацыю паломніцтва вернікаў да святых мясцін;

-права на ўтварэнне дзіцячых рэлігійных таварыстваў пры абавязковым захаванні прынцыпу добраахвотнасці;

-права на роўныя і справядлівыя адносіны з боку дзяржавы пры аказанні матэрыяльнай або іншай дапамогі;

-права на садзейнічанне з боку дзяржавы пры вяртанні і аднаўленні канфіскаваных або разбураных святыняў і пабудоў, што належалі рэлігійным арганізацыям;

-права на рэабілітацыю бязвінна рэпрэсаваных вернікаў, як святароў, так і міранаў, з абавязковай кампенсацыяй канфіскаванай маёмасці і прызначэннем адпаведнай пенсіі і іншай дапамогі;

-права на асабісты характар рэлігійных перакананняў ці іх адсутнасць з забаронай прымусовага атрымання звестак аб рэлігійных перакананнях грамадзян.

**2.4. Актыўныя цэрквы – адраджэнне краіны**

2.4.1. Відавочна, што дзяржава не ў стане спраўляцца з усімі сацыяльнымі праблемамі – і БХД выступае за дэлегаванне як мага большага ўдзелу ў іх вырашэнні цэрквам. Цэрквы могуць цёпла і годна рупіцца пра сіротаў, непаўнаспраўных, пажылых, аказваць дапамогу ў рэабілітацыі нарка- і алказалежных. Адначасова дзяржава мусіць аказваць бюджэтную падтрымку тым арганізацыям і ініцыятывам, якія актыўна займаюцца дабрачыннасцю. БХД – за перадачу ва ўласнасць такіх цэркваў і грамадскіх арганізацыяў пустуючых будынкаў, зямлі для пабудовы рэабілітацыйных цэнтраў, хоспісаў і дзіцячых летнікаў.

2.4.2. БХД будзе дамагацца фармавання дзяржаўнага заказу ў галіне сацыяльнай абароны з парытэтным фінансаваннем дабрачынных праграмаў уладай, цэрквамі і грамадскімі арганізацыяі праз сістэму тэндараў.

2.4.3. БХД за тое, каб грамадзяне і юрыдычныя асобы, якія фінансуюць дабрачынную дзейнасць, ільгатаваліся.

2.4.4. БХД выступае за тое, каб надаць магчымасць царкоўным і грамадскім дабрачынным арганізацыям атрымліваць у арэнду аб’екты рэспубліканскай і камунальнай уласнасці без праходжання конкурсных працэдураў (аўкцыёнаў).

2.4.5. БХД за вызваленне рэлігійных арганізацыяў ад выплаты падатку на дабаўленую вартасць пры ўвозе ў краіну багаслужбовай літаратуры і прадметаў, неабходных для рэлігійнай дзейнасці.

2.4.6. БХД патрабуе вяртання адабраных савецкай уладай храмаў і капліцаў ва ўласнасць цэркваў. Землі, якімі валодалі цэрквы (да 1917 года) у большасці выпадкаў вярнуць немагчыма – але з улікам прымусовай і гвалтоўнай канфіскацыі ў часы камузнізму ўлада мусіць прапанаваць участкі пад дапаможныя пабудовы ды царкоўную гаспадарку.

2.4.7. БХД будзе дамагацца таго, каб надаць рэлігійным арганізацыям права на стварэнне ўстановаў духоўнай адукацыі, і ўвядзенне іх у пералік установаў адукацыі, нароўні з іншымі, замацаванымі заканадаўча, а таксама за ўраўнаванне ў правах студэнтаў і

выкладчыкаў духоўных навучальных установаў са студэнтамі і выкладчыкамі іншых установаў адукацыі.

2.4.8. БХД выступае за тое, каб замацаваць за царкоўнымі арганізацыям права на стварэнне прыватных школаў і агульнаадукацыйных навучальных установаў.

2.4.9. БХД выступае за стварэнне ўплывовых назіральных радаў з удзелам прадстаўнікоў цэркваў на асноўных дзяржаўных і грамадскіх тэлеканалах.

## 3. АСОБА І СУПОЛЬНАСЦЬ

БХД выступае за пабудову Беларусі як дэмакратычнай, прававой дзяржавы ў еўрапейскай супольнасці народаў. Вынікам дзяржаўнага будаўніцтва мы бачым грамадства, заснаванае на прынцыпах самакіравання вольных грамадзян. Правы кожнага грамадзяніна павінны знаходзіцца ў гарманічнай раўнавазе з правамі дзяржавы і сям'і.

### 3.1. Свабода, салідарнасць і адказнасць

3.1.1. Кожны чалавек вольны ў вызначэнні свайго лёсу, ён сам выбірае сабе жыццёвы шлях. Свабода дадзена чалавеку ад Бога і таму ні грамадства, ні дзяржаўны лад, ні якія-небудзь ідэалагічныя догмы не могуць пазбавіць чалавека свабоды.

3.1.2. Кожны чалавек мае права свабодна развіваць сваю асобу і ўдзельнічаць у палітычным, эканамічным і культурным жыцці так, як ён абярэ.

3.1.3. БХД лічыць, што дзяржава павінна абараняць і гарантаваць усе асноўныя правы чалавека:

-свабоду сумлення і свабоду перакананняў як свабоду прытрымлівацца любой ідэалогіі і права распаўсюджваць розныя ідэі, акрамя прапаганды гвалту, парнаграфіі, міжнацыянальнай, сацыяльнай і рэлігійнай варожасці.

-свабоду слова;

-свабоду стварэння палітычных партыяў, грамадскіх і рэлігійных арганізацыяў (абмежаванню належаць толькі арганізацыі, якія распаўсюджваюць ідэі нянавісці, гвалту і вайны);

-свабоду веравызнанняў, місіянерства, пропаведзі, рэлігійнага выхавання і адукацыі, доступу веруючых да сродкаў масавай інфармацыі;

-недатыкальнасць асобы, яе жылля і прыватнай уласнасці.

3.1.4. Справядлівасць грунтуецца на аднолькавай павазе годнасці кожнага чалавека. Прынцып справядлівасці патрабуе аднолькавай роўнасці перад законам, роўных умоў у палітычным, эканамічным і сацыяльным жыцці.

3.1.5. Салідарнасць – гэта гатоўнасць кожнага чалавека падтрымліваць адзін аднаго, узаемадапамога людзей. Спагада, спачуванне, узаемапавага – аснова салідарнасці. Салідарнасць дае тое, чаго немагчыма дасягнуць прымусам. Гэта падмурак агульнага дабрабыту і дабрабыту кожнага з нас.

3.1.6. Адказнасць азначае захаванне і развіццё духоўнай, культурнай, матэрыяльнай спадчыны, якую мы атрымалі ад мінулых пакаленняў. Задача сённяшняга пакалення палягае ў адраджэнні нашай прыроднай, гістарычнай, культурнай і духоўнай спадчыны, пераасэнсаванні мінулага шляху Беларусі – і ў нацыянальным пакаянні.

3.1.7. БХД выступае за:

-прававую дзяржаву, у якой усе роўныя перад законам;

-грамадства, заснаванае на прынцыпе самакіравання вольных грамадзян;

-недапушчэнне прыгнёту і дыскрымінацыі ні паводле рэлігійных, палітычных перакананняў, ні паводле сацыяльнай, этнічнай, нацыянальнай, прафесійнай прыналежнасці, ні паводле полавага ці ўзроставага падзелу альбо на якой-небудзь іншай падставе;

-свабоду асобы развівацца, абіраць свой жыццёвы шлях, мець перакананні і дзейнічаць адпаведна з імі;

-абарону палітычных, грамадзянскіх і сацыяльных правоў.

### 3.2. Актыўныя грамадзяне ў вырашэнні грамадскіх праблем

3.2.1. БХД зыходзіць з таго, што развітая грамадзянская супольнасць з'яўляецца гарантыяй паспяховага вырашэння сацыяльных праблем, дае магчымасць паменшыць дзяржаўную прысутнасць у розных сферах грамадскага жыцця за кошт самаарганізацыі грамадзян і іх актыўнага ўдзелу ў жыцці супольнасцяў і грамадства ў цэлым.

3.2.2. У нашым разуменні грамадзянская супольнасць – гэта сукупнасць форм актывізму ў прасторы сацыяльных адносін, куды не ўваходзіць барацьба за палітычную ўладу, дзяржаўнае кіраванне і бізнэс. Такімі формамі актывізму з'яўляюцца адносіны паміж людзьмі, іх дзеянні, дамоўленасці, формы ўзаемадачыненняў, якія маюць не прыватны, а сацыяльны характар. Такі актывізм часта набывае арганізаванасць у выглядзе фармальных і нефармальных грамадскіх арганізацыяў, ініцыятыў, рухаў і асацыяцыяў грамадзян. Яны існуюць дзеля прадстаўніцтва і прасоўвання інтарэсаў шматлікіх сацыяльных груп, дзеля садзеяння вырашэнню грамадскіх праблем, дзеля спрыяння самаарганізацыі грамадзян, укаранення ў грамадстве каштоўнасцяў плюралізму і дэмакратыі, дзеля вынаходніцтва новых ведаў, удзелу ў сацыялізацыі грамадзян, пашырэнні сацыяльнага капіталу ў грамадстве, аказання грамадска значных паслуг.

3.2.3. БХД бачыць некалькі асноўных праблем, якія мы мусім вырашаць у грамадзянскай супольнасці. Гэтыя праблемы з'яўляюцца асноватворнымі з гледзішча якаснага развіцця грамадзянскай супольнасці і дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі.

3.2.4. Па-першае, перад беларускімі грамадскімі арганізацыямі стаіць неабходнасць дасягнення кансэнсусу па базавых каштоўнасцях як, напрыклад, дэмакратычны лад у дзяржаве, адраджэнне беларускай мовы, незалежнасць беларускай дзяржавы.

3.2.5. Па-другое, нізкая ступень грамадзянскай і палітычнай мабілізацыі насельніцтва, што звязана, у тым ліку, з моцнай унутранай ізаляванасцю, калі людзі самаадхіляюцца ад удзелу ў грамадскім жыцці, замкнёныя на самастойнае вырашэнне прыватных праблем, якія маюць сацыяльныя карані. Што тычыцца нізкай мабілізацыі насельніцтва, то гэта з'яўляецца галоўнай пагрозай развіцця дэмакратыі знізу. Мы разумеем, што пасля ўсталявання дэмакратычнага ладу ў Беларусі паспяховаць і хуткасць станаўлення дэмакратычных працэдур будзе залежаць ад палітычнай і грамадзянскай актыўнасці людзей і іх даверу да новых уладаў як на рэспубліканскім узроўні, так і на месцах.

3.2.6. Мы бачым неабходнасць фармавання мадэлі трохбаковага партнёрства паміж грамадзянскай супольнасцю, дзяржавай і бізнэсам дзеля ўстойлівага развіцця і вырашэння грамадскіх праблем. Прычым такое партнёрства не азначае, што грамадзянская супольнасць стане праваднікам дзяржаўнай палітыкі, палітычных інтарэсаў ці інтарэсаў бізнэса. Грамадзянская супольнасць у дачыненнях з дзяржавай і бізнэсам будзе раўнапраўным партнёрам. Наша бачанне такога партнёрства грунтуецца на ўяўленні пра няздатнасць дзяржавы вырашаць усе грамадскія праблемы самастойна і абмежаванасць рынкавых адносін для сацыяльнай сферы грамадства. З гэтага вынікае зацікаўленасць абмежаванай дзяржавы і сацыяльна адказнага бізнэсу ў сумеснай працы з грамадзянскай супольнасцю дзеля агульнага дабра.

3.2.7. У дзяржаўнай палітыцы ў розных галінах, у тым ліку ў сацыяльнай і моладзевай палітыцы, урад будзе фармуляваць асноўныя кірункі, мэты і прыярытэты палітыкі, але ў яе рэалізацыі значная роля належыць паветам, мясцоваму самакіраванню, а таксама грамадскім арганізацыям. Частка сродкаў будзе размяркоўвацца ў паветах і на месцах сярод грамадскіх арганізацыяў, якія працуюць у сацыяльным сектары.

3.2.8. БХД выступае за свабоднае ўтварэнне грамадскіх арганізацыяў і іх рэгістрацыю заяўным прынцыпам. Кантролем над дзейнасцю грамадскіх арганізацыяў займаецца Міністэрства юстыцыі. Грамадская арганізацыя можа быць ліквідавана толькі па рашэнні суда ў выпадку грубага і сістэматычнага парушэння заканадаўства.

3.2.9. БХД лічыць неабходным спрыяць дзяржаўнай падтрымцы тых грамадскіх арганізацый, якія аказваюць дапамогу дзецям-сіротам, пацярпелым, непаўнаспраўным, выхоўваць падлеткаў і моладзь на грунце хрысціянскай маралі, патрыятызму: хоспісам,

дабрачынным установам, асветніцкім і рэабілітацыйным цэнтрам, арганізацыям, таварыствам ананімных алкаголікаў, ахвярам палітычных рэпрэсій і г.д.

### 3.3. Свабода слова і інфармацыі. Сродкі масавай інфармацыі

3.3.1. БХД разглядае свабоду слова як адну з асноўных дэмакратычных свабод, без якой немагчыма існаванне дэмакратычнай дзяржавы. У грамадстве маюць права агучвацца самыя разнастайныя ідэі і погляды, калі яны не з'яўляюцца злачыннымі. БХД лічыць неабходным свабоднае асвячэнне дзейнасці дзяржаўных органаў, палітыкаў, чыноўнікаў, калі гэта не парушае дзяржаўныя сакрэты. Свабоднае асвятленне дзейнасці дзяржаўных органаў мусіць ажыццяўляцца на падставе прынцыпу свабоды інфармацыі, што патрабуе спецыяльнага закона. БХД будзе дамагацца прыняцця адпаведнага закона, згодна з якім усе палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, СМІ і любы грамадзянін могуць атрымаць поўны доступ да інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў.

3.3.2. Свабода інфармацыі будзе з'яўляцца інструментам рэалізацыі грамадскага кантролю над дзяржаўнымі органамі, барацьбой з карупцыяй і злоўжываннямі ўладай. У тых выпадках, калі закон "Аб свабодзе інфармацыі" не будзе распаўсюджвацца на дзяржаўныя сакрэты, але гэтая інфармацыя звязана з расследаваннем злачынстваў, то пры наяўнасці абгрунтаваных падстаў да яе можна будзе атрымаць доступ па рашэнні суда.

3.3.3. БХД таксама выступае за свабоднае асвятленне дзейнасці прыватных прадпрыемстваў і асоб, калі гэта дзейнасць мае грамадскае значэнне. Пры гэтым не павінна парушацца камерцыйная таямніца, патэнтнае заканадаўства або права на недатыкальнасць і таямніцу прыватнага жыцця. Выключэнні могуць складаць толькі сітуацыі, звязаныя з захаваннем жыцця, бяспекі і здароўя людзей. Любое парушэнне таямніцы прыватнага жыцця, калі гэта не звязана з расследаваннем злачынстваў, павінна карацца паводле закону. Грамадства і кожны персанальна чалавек мае права доступу да любой грамадска значнай інфармацыі. Дзеля гэтага мусяць свабодна існаваць і працаваць у роўных умовах самыя разнастайныя сродкі масавай інфармацыі. Свабодныя і незалежныя СМІ з'яўляюцца неабходнай умовай для добрага грамадскага абмеркавання.

3.3.4. Уступленне чалавецтва ў інфармацыйную эру, шырокі распаўсюд інтэрнэту і новых тэхналогіяў дазваляюць забяспечваць дзяржаўныя паслугі насельніцтву на якасна іншым ўзроўні. Паколькі БХД бачыць дзяржаву як інстытут, які закліканы да эфектыўнага задавальнення надзённых патрэбаў грамадства, то мы будзем рэалізоўваць і развіваць у Беларусі праграму "Інтэрнэт-урад" – сістэму мер па абслугоўванні грамадзян і павышэнні эфектыўнасці функцыянавання органаў улады і дзяржаўных устаноў праз выкарыстанне віртуальнай прасторы і інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў.

3.3.5. Рэалізацыя праграмы "Інтэрнэт-урада" будзе ажыццяўляцца з удзелам бізнэсу як на рэспубліканскім узроўні, так і на рэгіянальным і мясцовым узроўнях, што будзе спрыяць павышэнню якасці бюракратычных і грамадскіх паслуг. Мэтазгодна паступова пашыраць гэтую практыку (выкарыстанне інтэрнэту і новых тэхналогіяў) на самыя розныя сферы жыцця грамадства.

3.3.6. БХД выступае за стварэнне ў Беларусі Нацыянальнага тэлебачання і радыё. Новая тэлерадыёкампанія будзе знаходзіцца ва ўласнасці грамадства, кіраванне якой будзе ажыццяўляць Рада з прадстаўнікоў вядучых палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, прафсаюзаў, цэркваў, вядомых грамадскіх і культурных дзеячаў. Гэта дазволіць выпрацоўваць збалансаваную і незалежную эфірную палітыку, не падпарадкаваную інтарэсам асобных груп. Фінансаванне грамадскай тэлерадыёкампаніі будзе ажыццяўляцца за кошт адмысловага абаненцкага збору, які будуць сплочваць усе ўладальнікі тэле- і радыёпрымачоў. Нацыянальная тэлерадыёкампанія будзе мець цэнтральны офіс і рэгіянальныя аддзяленні, што дазволіць ствараць агульнанацыянальную частку эфіру, а таксама інфармацыйны прадукт спецыяльна для кожнага з рэгіёнаў.

3.3.7. Стварэнне Нацыянальнага тэлебачання накіравана на фармаванне і развіццё грамадзянскай супольнасці, нацыянальнай самасвядомасці і маралі. Яно мусіць спрыяць пазітыўнаму грамадзянскаму і сацыяльнаму выхаванню, транслываць у грамадства

станоўчыя мадэлі паводзін, прапагандаваць здаровы лад жыцця, хрысціянскія маральныя прынцыпы і нацыянальную культуру. Нацыянальная тэлерадыёкампанія мусіць стаць вядучым сродкам масавай інфармацыі па крытэрыі якасці эфіра, прафесіяналізму журналістаў і ахопу аўдыторыі. Нацыянальная тэлерадыёкампанія мусіць ствараць інфармацыйны прадукт, накіраваны на ўсе ўзроставыя катэгорыі, разнастайны па сваіх жанрах: духоўны, аналітычны, навінны, навукова-пазнавальны, развіццёвы, забаўляльны, мастацкі і г.д., то бок мусіць арыентавацца на інтарэсы ўсяго грамадства.

3.3.8. Асаблівае значэнне займае глабальная інфармацыйная сетка інтэрнэт, якая стала на сённяшні дзень галоўнай крыніцай распаўсюду інфармацыі. Інтэрнэт дае вялікія магчымасці для СМІ і кожнага чалавека ў атрыманні і распаўсюдзе інфармацыі, выказванні сваіх думак. БХД разумее важнасць максімальна шырокага распаўсюду інтэрнэту, канкурэнцыі на рынку правайдараў, павелічэння якасці інтэрнэт-паслуг і памяншэння іх кошту. Наша мэта заключаецца ў тым, каб забяспечыць бясплатны інтэрнэт у навуковых установах і ва ўстановах адукацыі: у школах, сярэдніх спецыяльных установах і вышэйшых навучальных установах. БХД лічыць, што інтэрнэт мусіць заставацца свабодным асяроддзем і выступае супраць палітычнай цэнзуры ў інтэрнэце. Разам з тым, неабходна вялікую ўвагу надаваць барацьбе са злачыннасцю у інтэрнэт-прасторы.

3.3.9. Дзяржава мусіць мець выразную медыйную палітыку, накіраваную на абарону грамадства ад разбуральнай інфармацыі. Да такой інфармацыі адносяцца парнаграфічныя матэрыялы, прапаганда гвалту, дыскрымінацыі, знявагі чалавека, амаральнай мадэлі паводзін у выглядзе відэа, аўдыё-матэрыялаў, літаратурных твораў, любых візуальных выяў і тэатральных пастановак. Недапушчальная дэманстрацыя такіх інфармацыйных матэрыялаў у дзяржаўных і грамадскіх СМІ, а таксама любым іншым чынам у ранішні, дзённы і ранні вячэрні час, у грамадскіх месцах, дзе магчымая прысутнасць дзяцей і падлеткаў.

3.3.10. БХД выступае за прыняцце Кодэксу журналісцкай этыкі, які будзе прызнаны ўсёй журналісцкай супольнасцю Беларусі незалежна ад віду медыйнага рэсурса і формы ўласнасці. У гэтым Кодэксе будуць замацаваныя асноватворныя прынцыпы адказнасці журналіста перад грамадствам, законам і журналісцкай супольнасцю.

**3.4. У галіне СМІ БХД выступае за:**

3.4.1. свабоду слова як фундаментальнае права і адну з асноўных умоў функцыянавання дэмакратыі;

3.4.2. прыняцце закона "Аб свабодзе інфармацыі”;

3.4.3. гарантаванне і захаванне камерцыйнай таямніцы і таямніцы прыватнага жыцця;

3.4.4. развіццё сістэмы мер па абслугоўванні насельніцтва пад назвай "Інтэрнэт-урад” і шырокае прымяненне ва ўсіх сферах жыцця грамадства інтэрнэту і новых тэхналогіяў;

3.4.5. свабоду інтэрнэту і недапушчэнне палітычнай цэнзуры і іншых абмежаванняў, калі гэта не парушае закон;

3.4.6. канкурэнцыю ў сферы прадастаўлення паслуг доступу да інтэрнэту, павелічэнне якасці паслуг і зніжэнне коштаў на інтэрнэт-паслугі;

3.4.7. рынкавыя адносіны ў медыйнай прасторы;

3.4.8. разнастайнасць сродкаў масавай інфармацыі, іх роўнасць і гарантыю журналістам свабоднага ажыццяўлення сваёй прафесійнай дзейнасці;

3.4.9. стварэнне Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі;

3.4.10. абарону дзяцей і падлеткаў ад разбуральнай інфармацыі (парнаграфіі, прапаганды гвалту, дыскрымінацыі, знявагі да чалавека, амаральнай мадэлі паводзін);

3.4.11. прыняцце кодэксу журналісцкай этыкі.

**3.5. Развіццё навукі як нацыянальны прыярытэт**

3.5.1. Навука для нас – гэта спосаб даследавання і спазнання свету, створанага Богам. Мэтай гэтага спосабу ёсць не столькі выяўленне матэрыяльных магчымасцей і не змяненне закладзеных Творцам у чалавека законаў жыцця – а найперш агульнае дабро.

3.5.2. Мы памятаем, што Беларусь дала свету геніяльных навукоўцаў – даследчыкаў Азіі і Амерыкі: Мікалая Пржавальскага, Яна Чэрскага, Ігната Дамейку, Язэпа Гашкевіча; палеагеографа Гаўрыла Гарэцкага, заснавальніка глебазнаўства Васіля Дакучаева, вынаходніка ракетаў Казіміра Семяновіча і стваральніка звышгукавых рэактыўных самалетаў Паўла Сухога, вядучых канструктараў амерыканскай астранаўтыкі Барыса Кіта і савецкай касманаўтыкі Сямёна Косбэрга, прабацьку радыё Якуба Наркевіча-Ёдку і патрыярха кібернэтыкі Аляксандра Маліноўскага, нобелеўскіх лаўрэатаў у галіне хіміі Ільлю Прыгожына і фізікі Жарэса Алфёрава, заснавальніка сучаснай медыяіндустрыі Давіда Сарнова, многіх іншых – і згадваем, што большасць з іх сумяшчала адданасць навуцы з верай у Бога.

3.5.3. Навука ў сучасным свеце робіцца галоўнай вытворчай сілай грамадства. Мы ганарымся тым, што Беларусь дала чалавецтву столькі вынаходнікаў і навуковых адкрыццяў. Беларусь імкнецца заняць месца сярод навукаёмістых і тэхналагічных эканомік свету, таму развіццё навуковых даследаванняў, выкарыстанне навуковых распрацовак у вытворчасці з'яўляецца для нас важнай задачай. Гэта патрабуе перагледзець сістэму фінансавання навукі. БХД выступае за стварэнне дзяржаўных фондаў для фінансавання навуковых даследаванняў, якія будуць размяркоўваць бюджэтныя сродкі і вылучаць гранты на правядзенне навуковых даследаванняў. Дзяржава мусіць звяртаць увагу і аказваць падтрымку ўсім навукам – і прыродазнаўчым, і тэхнічным, і сацыяльным, і гуманітарным.

3.5.4. Неабходна аднавіць самакіраванне Нацыянальнай Акадэміі навук. БХД лічыць неабходным стварыць асобнае Міністэрства навукі і тэхналогіяў, якое будзе займацца выпрацоўкай і ажыццяўленнем дзяржаўнай палітыкі ў галіне падтрымкі і развіцця навукі, садзеяннем развіццю навукі і навуковага патэнцыялу, інфраструктуры і чалавечага рэсурса навукі, паглыбленнем сувязяў з сусветнымі ўстановамі навукі. Навуковыя даследаванні мэтазгодна перавесці з НДІ ва ўніверсітэты.

3.5.5. У кантэксце сацыяльнай адказнасці бізнэсу будзе вітацца актыўны ўдзел у падтрымцы навукі прыватнага капіталу, стварэнне прыватных фондаў і мецэнацтва. БХД з'яўляецца прыхільніцай глыбокай міжнароднай кааперацыі ў навуцы і даследаваннях.

3.5.6. Для паўнавартаснага развіцця навукі неабходна вярнуць навуковай працы прэстыж і павагу ў беларускім грамадстве, забяспечыць высокія заробкі навуковым супрацоўнікам на ўзроўні сярэднееўрапейскіх.

# 4. ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД

## 4.1. Дзяржаўны лад і выбарчае заканадаўства

4.1.1. Беларусь павінна быць незалежнай нацыянальнай і дэмакратычнай дзяржавай.

4.1.2. У грамадска-палітычным жыцці БХД спавядае асноватворны прынцып размеркавання адказнасці і паўнамоцтваў – прынцып субсідыярнасці. Так, рашэнні павінны прымацца на тым узроўні, на якім яны найбольш эфэктыўна выконваюцца. Мы выступаем за абмежаванне паўнамоцтваў дзяржавы, за кампактны ўрад і моцнае мясцовае самакіраванне.

4.1.3. Паводле дзяржаўнага ўладкавання Беларусь мусіць заставацца ўнітарнай дзяржавай.

4.1.4. Мы выступаем за рэальнае існаванне і адасабленне двух тыпаў улады ў Беларусі: дзяржаўнай і муніцыпальнай.

4.1.5. БХД лічыць неабходным правесці адміністрацыйна-тэрытарыяльную рэформу і скасаваць існуючы сёння ў Беларусі адміністрацыйны падзел на 118 раёнаў і 6 абласцей. З пункту погляду аптымізацыі дзяржаўнага кіравання мэтазгодна ўвесці адміністрацыйны падзел на 21 павет і сталічны горад Менск як асобную адміністрацыйную адзінку. Рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі скароціць колькасць бюракратычных узроўняў. Такім шляхам мы знізім выдаткі на ўтрыманне чыноўнікаў, якіх стане значна менш, і павысім якасць кіравання дзяржавай з перадачай істотных паўнамоцтваў у рэгіёны і на месцы – у паветы, муніцыпалітэты і воласці.

## 4.2. Арганізацыя рэспубліканскай улады

4.2.1. Галоўным прынцыпам у вызначэнні кіруючых асоб усіх узроўняў будзе выбарнасць.

4.2.2. Найбольш прымальнай формай дзяржаўнага ладу для Беларусі з'яўляецца змешаная прэзідэнцка-парламенцкая рэспубліка. Уладныя паўнамоцтвы павінны быць размеркаваны паміж галінамі ўлады такім чынам, каб адна галіна кантралявала іншую і паміж імі быў баланс. У Беларусі павінна паўстаць такая сістэма, каб было немагчыма ўзнікненне дыктатуры. Уся паўната дзяржаўнай улады не можа быць засяроджана ў адных руках, але адначасна нельга дапусціць анархіі і безадказнасці.

4.2.3. Прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, абіраецца ўсенародным галасаваннем тэрмінам на 4 гады і не больш чым на 2 тэрміны. Прэзідэнт вызначае знешнюю палітыку, валодае пытаннямі нацыянальнай бяспекі і абароны, з'яўляецца гарантам Канстытуцыі. Прэзідэнту належаць прадстаўнічыя функцыі, а менавіта прадстаўніцтва Беларусі на міжнароднай арэне і акрэдытацыя дыпламатычных місіяў. Прэзідэнт можа накласці вета на законапраект, але Сойм і Сенат могуць пераадолець вета Прэзідэнта 2/3 галасоў. Прэзідэнт валодае правам заканадаўчай ініцыятывы. Прэзідэнт уносіць кандыдатуры суддзяў вышэйшых судовых інстанцыяў, вышэйшых вайсковых камандзіраў і іншых вышэйшых дзяржаўных службоўцаў для зацвярджэння іх Сенатам Рэспублікі. Прэзідэнт можа распусціць Сойм у выпадку працяглага парламенцкага крызісу, немагчымасці фармавання ўрада і прызначыць новыя выбары.

4.2.4. Канцлер узначальвае Ўрад. Канцлер вызначае са згоды Сойма палітыку па сацыяльна-эканамічных і ўнутрыпалітычных пытаннях. Кандыдатуру Канцлера прапаноўвае на зацвярджэнне Сойму Прэзідэнт. Вызначэнне Канцлера і фармаванне Ўрада залежыць ад растаноўкі палітычных сіл у Сойме. Канцлер прызначае міністраў. Урад у сваёй дзейнасці падсправаздачны Сойму і Прэзідэнту.

4.2.5. Мы лічым мэтазгодным, каб ПарламентБеларусі складаўся з дзвюх палат: ніжняй палаты – Сойма і верхняй палаты – Сената.

4.2.6. Сойм абіраецца на ўсеагульных выбарах тэрмінам на 4 гады па прапарцыйнай выбарчай сістэме. Для праходжання ў Сойм будзе ўведзены 4-працэнтны электаральны бар'ер, каб забяспечыць стабільнасць палітычнага прадстаўніцтва. Колькасць дэпутатаў Сойма павінна складаць 135 дэпутатаў. Найважнейшымі функцыямі Сойма павінны стаць прыняцце законаў, вызначэнне Канцлера і фарміраванне Ўрада, зыходзячы з палітычнай расстаноўкі сіл у Сойме, кантроль за Ўрадам. Сойм узначальвае Маршалак соймавы, які абіраецца дэпутатамі Сойма з іх ліку.

4.2.7. Сенат складаецца з 45 дэпутатаў: па 2 сенатары ад кожнага павета і 3 ад горада Менска, якія будуць абірацца на прамых выбарах насельніцтвам павета на 5 гадоў. Гэты інстытут палітычнай сістэмы дазволіць паветам прымаць удзел у вызначэнні дзяржаўнай палітыкі і ажыццяўленні дзяржаўнай улады на рэспубліканскім узроўні. Усе рэспубліканскія законапраекты павінны прайсці адабрэнне ў Сенаце, каб стаць законамі. Тым самым, будуць забяспечаны інтарэсы паветаў. Сенат будзе зацвярджаць на пасадах суддзяў вышэйшых судовых інстанцыяў, вышэйшых вайсковых камандзіраў і кандыдатуры на іншыя дзяржаўныя пасады. Сенат узначальвае Маршалак вялікі.

4.2.8. Парламент можа адхіліць Прэзідэнта ад улады ў выпадку здзяйснення ім злачынства або стварэння пагрозы незалежнасці. Для гэтага Сойм можа вынесці абвінавачанне, якое разглядае Сенат. Для прыняцця рашэння неабходна кваліфікаваная большасць галасоў (2/3) у Сенаце.

### 4.3. Арганізацыя дзяржаўнай улады на павятовым узроўні

4.3.1. БХД лічыць неабходным перадаць у паветы істотныя ўладныя паўнамоцтвы, якія будуць падзелены паміж выканаўчай і прадстаўнічай уладамі павета.

4.3.2. Выканаўчая ўлада ў павеце належыць Павятоваму Старасце, які абіраецца непасрэдна насельніцтвам павета тэрмінам на 4 гады. Павятовы Стараста ажыццяўляе непасрэднае кіраўніцтва паветам, ён падсправаздачны зямельнаму органу прадстаўнічай улады – Сойму павятоваму.

4.3.3. Выканаўчая ўлада павета павінна забяспечыць ажыццяўленне палітыкі на сваіх тэрыторыях па такіх кірунках, як ахова грамадскага парадку і барацьба са злачыннасцю, адукацыя, ахова навакольнага асяроддзя, ахова здароўя, рэгіянальнае эканамічнае развіццё, сямейная, моладзевая палітыка, паслугі ў сферы культуры, спорту, турызму і вольнага часу, грамадзянская абарона, будаўніцтва і эксплуатацыя дарог рэгіянальнага значэння.

4.3.4. Сойм павятовы – орган прадстаўнічай улады павета, які абіраецца насельніцтвам павета на прамых выбарах па мажарытарнай сістэме простай большасці тэрмінам на 4 гады. З ліку дэпутатаў абіраецца Маршалак павятовы.

4.3.5. Колькасць дэпутатаў Сойма павятовага вызначаецца ў залежнасці ад колькасці жыхароў павета, якія валодаюць выбарчым правам, і павінна складаць не менш за:

21 – у павеце з колькасцю жыхароў да 250 000;

31 – у павеце з колькасцю жыхароў ад 250 000 да 400 000;

41 – у павеце з колькасцю жыхароў болей за 400 000

4.3.6. Сойм павятовы, надзелены заканадаўчай ініцыятывай, кантралюе дзейнасць адміністрацыі Павятовага Старасты, уводзіць рэгіянальныя падаткі і зборы і выконвае іншыя функцыі, аднесеныя ў кампетэнцыю рэгіянальнага ўзроўню. Рашэнні Павятовай Асамблеі па пытаннях, якія знаходзяцца ў яе выключнай кампетэнцыі, не падлягаюць адмысловаму кантролю з боку рэспубліканскіх улад. Аднак гэтыя рашэнні могуць быць разгледжаны адміністрацыйным судом у парадку абскарджання жыхарамі павета або адменены Канстытуцыйным судом у выпадку парушэння Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**4.4. Выбары**

4.4.1. Свабодныя дэмакратычныя частыя выбары з’яўляюцца асноўнай формай функцыянавання дэмакратыі. БХД выступае за палітыку, якая засноўваецца на свабодным волевыяўленні грамадзян. Па выніках выбараў мусяць фармавацца ўладныя органы рэспубліканскага, павятовага і мясцовага ўзроўняў. БХД выступае за прамое абранне Прэзідэнта, Сойма, Сената, Павятовага Старасты, Павятовага Сойма, муніцыпальных Радаў і мэраў адміністрацыйных адзінак. Акрамя таго, некаторыя службовыя асобы на пявятовым і мясцовым узроўнях мусяць абірацца насельніцтвам, як, напрыклад, кіраўнік павятовай паліцыі, акружныя і міравыя суддзі.

4.4.2. БХД выступае за ўсталяванне правілаў, па якіх выбарчы працэс будзе празрыстым, дэмакратычным і канкурэнтным. Дзеля гэтага неабходна пазбавіць выканаўчую уладу кантроля за падлікам галасоў – участковыя камісіі мусяць камплектавацца з сяброў ці прыхільнікаў тых палітычных сіл ці кандыдатаў, якія ўдзельнічаюць у выбарчым працэсе. Менавіта ім павінна аддавацца перавага пры фармаванні выбарчых камісіяў. Акрамя ўласна зацікаўленых прадстаўнікоў палітычных сіл браць удзел у працы выбарчых камісіяў могуць і прадстаўнікі грамадскіх аб’яднанняў і самавылучэнцы.

4.4.3. Мы лічым неабходным замацаванне даверу да інстытуту выбараў і да дэмакратычна абраных органаў улады. Таму працэс падліку галасоў будзе галосным і адкрытым – усе назіральнікі змогуць свабодна сачыць за працэсам падліку галасоў і запаўненнем пратаколаў. БХД выступае за выкарыстанне інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў у выбарчым працэсе, якія дазволяць весці маніторынг на выбарчых участках і анлайн сачыць за выбарчым працэсам у краіне.

4.4.4. Волевыяўленне грамадзян мусіць быць свабодным. БХД выступае за адмену датэрміновага галасавання. Замест яго прапануецца ўвесці магчымасць галасавання на іншым выбарчым участку на аснове адмацавальнага бюлетэню. Любы ціск на выбарцаў з мэтай прымусіць галасаваць насуперак іх уласнай волі будзе праследавацца і карацца паводле закону.

4.4.5. Тэхнічным арганізатарам выбараў будзе Цэнтральная выбарчая камісія, склад якой зацвярждаецца Сенатам.

4.4.6. У выпадку непрызнання выбараў міжнароднай супольнасці БХД выступае за поўную замену асабовага складу выбарчых камісій усіх узроўняў.

**4.5. У сферы дзяржаўнага кіравання БХД выступае за:**

4.5.1. – выбарнасць кіруючых асоб і ўладных органаў усіх узроўняў;

4.5.2. – частыя, рэгулярныя, свабодныя і дэмакратычныя выбары як базавую ўмову функцыянавання дэмакратыі;

4.5.3. – размеркаванне адказнасці і паўнамоцтваў, прынцып субсідыярнасці, згодна з якім рашэнні павінны прымацца на тым узроўні, на якім яны найбольш эфэктыўна выконваюцца;

4.5.4. – рэальнае існаванне і адасабленне двух тыпаў улады ў Беларусі: дзяржаўнай і муніцыпальнай;

4.5.5. – прэзідэнцка-парламенцкую рэспубліку, у якой уладныя паўнамоцтвы павінны быць размеркаваны паміж галінамі ўлады такім чынам, каб адна галіна кантралявала другую і паміж імі быў баланс;

4.5.6. – моцны Парламент, які фармуе Ўрад і ўраўнаважвае прэзідэнцкую ўладу;

4.5.7. – стабільныя моцныя палітычныя партыі, якія прадстаўляюць інтарэсы розных груп беларускага грамадства і здольныя несці адказнасць за краіну, бараніць незалежнасць і дэмакратыю ў Беларусі;

4.5.8. – перадачу ў паветы істотных уладных паўнамоцтваў, падзеленых паміж выканаўчай і прадстаўнічай уладамі павета.

## 5. Сістэма мясцовага і рэгіянальнага кіравання і самакіравання

БХД лічыць неабходным давяраць мясцовым супольнасцям і рэгёнам як мага болей кіраўнічых задач. Умяшальніцтва Ўрада ў справы муніцыпалітэтаў і рэгёнаў патрабуецца толькі там, дзе без яго нельга абысціся. Паміж мясцовымі і рэгіянальнымі ўзроўнямі самакіравання і кіравання мусіць быць забяспечаны сапраўдны падзел улады, паўнамоцтваў і рэсурсаў для выканання лакальных і рэгіянальных задач. БХД лічыць неабходным паэтапнае рэфармаванне існуючай сістэмы адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу з мэтай паляпшэння эканамічнай асновы мясцовых самакіраванняў і рэгёнаў для самастойнага вырашэння задач мясцовага і рэгіянальнага значэння.

### 5.1. Рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу (АТП) Беларусі

5.1.1. Мэтай рэформы АТП з'яўляецца стымуляванне развіцця рэгёнаў і мясцовых супольнасцяў за кошт стварэння ўмоў для пераразмеркавання да іх рэсурсаў ад сталічнага горада Менска і абласных цэнтраў, спрашчэння працэдур выканання мясцовымі ўладамі сваіх задач, павелічэння іх самакіравання і падсправаздачнасці мясцовым супольнасцям, а таксама забеспячэння мэт устойлівага і збалансаванага развіцця Рэспублікі Беларусь агулам.

5.1.2. З улікам такіх асаблівасцяў Рэспублікі Беларусь, як памер тэрыторыі, колькасць насельніцтва і фінансавыя магчымасці мясцовых самакіраванняў, найбольш рацыянальнай формай тэрытарыяльнай арганізацыі дзяржавы з'яўляецца двухузроўневая сістэма адміністрацыйнага ўладкавання.

5.1.3. БХД лічыць неабходным стварыць з улікам меркавання мясцовых супольнасцяў ад 350 да 390 адміністрацыйных адзінак ніжняга муніцыпальнага ўзроўню (валасцей) і 22 адміністрацыйныя адзінкі рэгіянальнага ўзроўню (паветаў).

5.1.4. З мэтай забеспячэння ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця адміністрацыйных адзінак прадугледжваецца фармаванне валасцей (адзінкі самакіравання ў сельскай мясцовасці) у межах тэрыторыяў з колькасцю насельніцтва не менш за 10 тыс. чалавек. Гэта ўмова забяспечыць моцную фінансавую базу для развіцця мясцовых самакіраванняў і значную частку прыбыткаў бюджэту самакіраванняў за кошт падаходнага падатка.

5.1.5. БХД лічыць мэтазгодным фармаванне 21 павета згодна з наступнымі крытэрамі: час транспартнай даступнасці да адміністрацыйнага цэнтра на працягу максімум гадзіны, радыюс зоны прыцягнення 80-100 км, плошча 7-15 тысяч кв. км, колькасць насельніцтва ў межах 200-600 тысяч чалавек. Сталічны горад Менск вылучыцца у асобную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку, якая паводле статусу сумяшчае павятовы і муніцыпальны ўзровень. Адміністрацыйнымі цэнтрамі паветаў стануць: Бабруйск,

Баранавічы, Барысаў, Брэст, Віцебск, Ворша, Гомель, Глыбокае, Гродна, Кобрын, Крычаў, Ліда, Магілёў, Мазыр, Маладэчна, Менск, Смаргонь, Пінск, Полацк, Рэчыца, Слонім, Слуцк.

5.1.6. БХД лічыць неабходным забяспечыць муніцыпальныя Рады правам дзяліць гарады з насельніцтвам больш за 300 тыс. чалавек на больш дробныя ўтварэнні. Гэтыя тэрыторыі не маюць статуса адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, якімі валодаюць муніцыпалітэты. Іх кіраванне павінна забяспечвацца прадстаўніком муніцыпальнай Рады, які прызначаецца мэрам горада.

5.1.7. Мясцовае самакіраванне паводле БХД. Назвы.

| Населены пункт | Заканадаўчы орган | Выканаўчы орган | Глава выканаўчай улады |
|---|---|---|---|
| Вёска | Рада | Управа | Стараста |
| Воласць | Валасны Соймік | Валасная Управа | Войт |
| Павет | Павятовы Сойм | Павятовая Управа | Стараста Павятовы |
| Горад | Магістрат | Гарадская Управа | Бургамістр (каштлалян) |
| Раён | Раённая Рада | Раённая Управа | Стараста раённы |

**5.2. Вынікам рэалізацыі рэформы АТП хрысціянскія дэмакраты бачаць:**

-павелічэнне статуса і прывабнасці новых рэгіянальных і муніцыпальных цэнтраў;

-забеспячэнне збалансаванасці эканамічнага развіцця гарадоў рознага ўзроўню, а не толькі сталічнага горада Менска і абласных цэнтраў за кошт іншых рэгіёнаў;

-вырашэнне праблемы перагружанасці сталіцы насельніцтвам;

-дэмаграфічнае адраджэнне рэгіёнаў, сярэдніх і невялікіх гарадоў, сельскіх населеных пунктаў;

-паляпшэнне эфектыўнасці кіравання рэгіёнамі за кошт змяншэння плошчы рэгіёнаў;

-забеспячэнне гнуткасці і эфектыўнасці пры рашэнні мясцовых задач за кошт набліжэння мясцовых і рэгіянальных улад да грамадзян;

-улік існуючага прамысловага, транспартнага, рынкавага, экалагічнага патэнцыялу і гістарычнай асновы ў новай сістэме АТП;

-паэтапны пераход да новай сістэмы АТП (з улікам існуючага АТП – падзелу краіны на раёны);

-паступовае пераразмеркаванне функцыяў раёнаў на ўзровень муніцыпалітэтаў/ валасцей і паветаў;

-дэбюракратызацыю і змяншэнне колькасці чыноўнікаў за кошт скарачэння колькасці звёнаў АТП: замест існуючых трох звёнаў "вобласць-раён-сельсавет" будзе створана два звяна "павет-муніцыпалітэт/воласць";

-шчыльную сувязь рэформы АТП краіны з падаткавай рэформай і развіццём мясцовага і рэгіянальнага самакіравання.

**5.3. Рэгіянальнае і мясцовае кіраванне і самакіраванне**

5.3.1. БХД падтрымлівае выразнае размеркаванне сфер кампетэнцыі паміж павятовым і муніцыпальным/валасным узроўнем, самастойнасць крыніц фінансавання і сродкаў для выканання іх задач. Паміж узроўнямі кіравання не павінна быць сумяшчэння кампетэнцыяў і адпаведна заканадаўчых падстаў для ўмяшання вышэйшага павятовага ўзроўню ў справы ніжэйшага муніцыпальнага ўзроўню. Дзяржаўная адміністрацыя на месцах павінна займацца ў асноўным наглядам і кантролем за дзейнасцю мясцовых і рэгіянальных органаў улады.

5.3.2. Хрысціянскія дэмакраты падтрымліваюць рэальнае пашырэнне паўнамоцтваў мясцовых і рэгіянальных органаў самакіравання і кіравання з адначасовым кантролем з боку вярхоўнай улады за законнасцю іх дзейнасці.

5.3.3. Муніцыпалітэты і паветы з'яўляюцца найбольш набліжанымі да грамадзян і бізнэсоўцаў у прадастаўленні паслуг, што патрабуе адпаведнага пашырэння фінансавай базы мясцовых і рэгіянальных органаў улады для забеспячэння іх кампетэнцыяў і абавязкаў.

## 5.4. Арганізацыя мясцовага самакіравання

5.4.1. БХД, кіруючыся прынцыпамі і духам Еўрапейскай хартыі мясцовага самакіравання і прынцыпам субсідыярнасці, лічыць неабходным забеспячэнне самастойнасці мясцовага самакіравання ў межах сваіх паўнамоцтваў ад дзяржаўнага кіравання. Органы мясцовага самакіравання павінны разглядацца як асобныя органы мясцовай улады, якія не ўваходзяць у сістэму дзяржаўных органаў улады.

5.4.2. Муніцыпальная/валасная Рада з'яўляецца прадстаўнічым, кантрольным і распарадчым органам гарадскога муніцыпалітэта або сельскай воласці, якую абралі на падставе прамога галасавання па мажарытарнай сістэме простай большасці тэрмінам на 4 гады. Колькасць чальцоў муніцыпальнай/валасной Рады вызначаецца ў залежнасці ад колькасці жыхароў самакіравання, якія валодаюць выбарчым правам і павінна складаць не меней за:

11 – у самакіраванні з колькасцю жыхароў да 20000;

21 – у самакіраванні з колькасцю жыхароў ад 20000 да 35000;

31 – у самакіраванні з колькасцю жыхароў ад 35000 да 75000;

41 – у самакіраванні з колькасцю жыхароў ад 75000 да 125000;

51 – у самакіраванні з колькасцю жыхароў болей за 125000.

5.4.3 Муніцыпальная/валасная Рада, надзеленая заканадаўчай ініцыятывай, кантралюе дзейнасць адміністрацыі, кіраўніка мясцовага выканаўчага органа, ўводзіць мясцовыя падаткі і зборы, зацвярджае бюджэт і выконвае іншыя задачы мясцовага значэння. Рашэнні муніцыпальнай Рады па пытаннях, якія знаходзяцца ў яе выключнай кампетэнцыі, не падлягаюць адмысловаму кантролю з боку дзяржавы. Аднак гэтыя рашэнні могуць быць разгледжаны адміністрацыйным судом у парадку абскарджання іх жыхарамі муніцыпалітэта/воласці.

5.4.4. Выканаўчым органам у муніцыпалітэце/воласці з'яўляецца Управа, у склад якой ўваходзіць Стараста ў воласці або Бургамістр (Кашталян) у горадзе, якія абіраюцца на прамых выбарах жыхарамі мясцовага самакіравання і выконваюць ролю старшыні праўлення. Іх намеснікі і астатнія чальцы праўлення абіраюцца муніцыпальнай/валасной Радай або з ліку дэпутатаў, або шляхам прызначэння чыноўнікаў, і дзейнічаюць у межах паўнамоцтваў, якія прадастаўлены Радай паводле Статуту муніцыпалітэта/воласці. Праўленне выконвае пастановы муніцыпальнай/валасной Рады і прадпісаныя заканадаўствам задачы муніцыпалітэта/воласці. Пры выкананні асабістых задач самакіравання праўленне падпарадкоўваецца выключна муніцыпальнай/валасной Радзе.

5.4.5. Кампетэнцыя ўлад муніцыпалітэтаў і валасцей павінна ў асноўным канцэнтравацца на выкананні такіх задач мясцовага характару, як дашкольная, пачатковая, сярэдняя і пазашкольная адукацыя; тэхнічная і сярэдняя спецыяльная адукацыя; абслугоўванне маламаёмасных і састарэлых жыхароў; жыллёвае будаўніцтва; гандлёвае і бытавое абслугоўванне ў сельскай мясцовасці; водазабеспячэнне і каналізацыя; збор і вываз бытавых адыходаў; асвятленне вуліц; грамадскі транспарт; добраўпарадкаванне вуліц гарадоў і эксплуатацыя дарог мясцовага значэння; электра- газазабеспячэнне і ацяпленне; грамадская бяспека; пажарная служба; мясцовая гаспадарка і эканамічнае развіццё; паслугі і аб'екты ў сферы культуры, спорту, турызму і вольнага часу.

## 5.5. Аб'яднаная адміністрацыя мясцовых самакіраванняў і паветаў

5.5.1. На муніцыпальным/валасным, як і на павятовым, узроўнях БХД бачыць неабходным стварэнне адміністрацыі, якая складаецца з кіраўнікоў служб, інспекцыяў і органаў правапарадку і персаналу гэтых служб, якія разам складаюць аб'яднаную

адміністрацыю муніцыпалітэтаў/валасцей і паветаў. Паняцце адміністрацыя ў дадзеным выпадку азначае не асобную структуру прамежкавага ўзроўню, а прынцып надзялення і размеркавання паўнамоцтваў паміж паветамі і муніцыпалітэтамі/валасцямі.

5.5.2. Праз асобных кіраўнікоў муніцыпальных/валасных або павятовых служб (кіраўнік паліцыі, кіраўнік пажарнай службы, санітарны інспектар, ветэрынарны інспектар, інспектар па будаўніцтву, інспектар па экалогіі) ажыццяўляецца ўрадавае кіраванне.

5.5.3. Агульныя задачы ўсіх служб рэгулююць на павятовым узроўні – Павятовы Стараста, на узроўні мясцовага самакіравання – Бургамістр або Валасны Стараста. Кіраўнікі адмысловых служб падпарадкоўваюцца на ўзроўні павета – Павятоваму Старасце, на ўзроўні мясцовага самакіравання – Бургамістру або Валасному старасце, а па службовай дзейнасці – адпаведным структурам павятовай і ўрадавай адміністрацыі. Размеркаванне функцыяў гэтых служб паміж павятовым і муніцыпальным/валасным узроўнем залежыць ад памера і колькасці жыхароў муніцыпальнай/валасной адзінкі.

5.5.4. Кіраўнікі спецыяльных служб на ўзроўні мясцовых самакіраванняў прызначаюцца Валасным Старастам або Бургамістрам па ўзгадненню з павятовай або ўрадавай службай ці прызначаюцца вышэйстаячымі органамі па ўзгадненню з Валасным Старастам або Бургамістрам. Кіраўнікі спецыяльных служб на ўзроўні паветаў прызначаюцца Павятовым Старастам па ўзгадненню з урадавай службай ці прызначаюцца вышэйстаячымі органамі па ўзгадненню з Павятовым Старастам.

### 5.6. У сферы самакіравання БХД выступае за:

5.6.1. – пашырэнне кампетэнцыі рэгіянальных і мясцовых органаў улады ў адпаведнасці з прынцыпам субсідыярнасці, што дазволіць ім выконваць больш эфектыўна лакальныя задачы;

5.6.2. – падпарадкаванне выканаўчых органаў рэгіянальнага і муніцыпальнага ўзроўню прадстаўнічым органам улады;

5.6.3. – скасаванне іерархічнай падпарадкаванасці органаў самакіравання і кіравання;

5.6.4. – выразнае размеркаванне функцыяў паміж мясцовымі, рэгіянальнымі і нацыянальнымі органамі ўлады, што зменшыць адміністрацыйныя і фінансавыя выдаткі;

5.6.5. – упарадкаванне заканадаўчай базы дэлегаваных урадам паўнамоцтваў мясцовым і рэгіянальным органам улады;

5.6.6. – удасканаленне сістэмы дзяржаўнага кіравання і мясцовага самакіравання і кіравання, што палепшыць якасць паслуг, якія яны прадастаўляюць жыхарам сваіх тэрыторыяў;

5.6.7. – скарачэнне выдаткаў на ўтрыманне дзяржаўнага апарата і мясцовых адміністрацыяў;

5.6.8. – абранне кіраўніцтва выканаўчых органаў на мясцовым і рэгіянальным узроўнях насельніцтвам, што павялічвае адказнасць і эфектыўнасць кіравання;

5.6.9. – змяншэнне ўзроўню карупцыі дзякуючы дэцэнтралізацыі, падсправаздачнасці рэгіянальных і муніцыпальных органаў улады мясцоваму насельніцтву, атрыманне імі максімальнай колькасці юрыдычных і фінансавых паўнамоцтваў.

5.6.10. – паглыбленне міжнароднага супрацоўніцтва мясцовых і рэгіянальных улад у межах агульнаеўрапейскіх асацыяцыяў мясцовых улад, што дазволіць палепшыць інвестыцыйныя, знешнеэканамічныя магчымасці рэгёнаў і самакіраванняў;

5.6.11. – інтэнсіфікацыю памежнага супрацоўніцтва ў межах еўрарэгіёнаў, што дазволіць павялічыць эканамічны патэнцыял перыферыйных тэрыторыяў.

### 5.7. Фінансава-эканамічная аснова самакіравання

5.7.1. Аснова эффектыўнасці мясцовага самакіравання – забяспечанасць сродкамі. БХД выступае за тое, каб падаткі, што збіраюцца на тэрыторыі пэўнай воласці/муніцыпалітэту размяркоўваліся на тры роўныя часткі: на фінансаванне воласці/муніцыпалітэту, на патрэбы павета і на нацыянальныя патрэбы.

5.7.2. Рэальная ўлада мясцовых і рэгіянальных органаў самакіравання і кіравання залежыць ад іх фінансавай самастойнасці і адказнасці. БХД лічыць неабходным

павелічэнне фінансавай дэцэнтралізацыі і самастойнасці мясцовых і рэгіянальных бюджэтаў. Мясцовым і рэгіянальным ўладам павінна быць гарантавана большая ступень падатковай ўлады.

5.7.3. Камунальная гаспадарка, інфраструктура, маёмасць і фінансы выступаюць асновай мясцовай улады. Паветы і муніцыпалітэты/воласці з'яўляюцца інвестарам, вытворцам і спажыўцом шматлікіх відаў тавараў і паслуг. Камунальная гаспадарка і мясцовыя фінансы на лакальным і рэгіянальным узроўнях павінны самастойна забяспечваць мінімальна даступны комплекс публічных сацыяльна неабходных паслуг незалежнай якасці.

**5.8. У галіне фінансавання самаўрадаў БХД выступае за:**

5.8.1. – устойлівыя ў фінансавым плане рэгіёны і самакіраванні, якія прадастаўляюць сваім грамадзянам высокі ўзровень сучасных паслуг;

5.8.2. – павелічэнне асабістых прыбыткаў мясцовых і рэгіянальных бюджэтаў і забеспячэнне іх неабходнымі рэсурсамі, што вядзе да ўзмацнення іх фінанасавай самастойнасці і змяншэння датацыйнасці;

5.8.3. – выдзяленне мясцовых фінансаў з агульнадзяржаўнай сістэмы фінансаў і наданне ім самастойнага характару функцыянавання;

5.8.4. – падзел паступленняў ад падаткаў на: 1/3 – у мясцовы бюджэт, 1/3 – на павятовы і 1/3– у нацыянальны;

5.8.5. – вывядзенне сістэмы мясцовых фінансаў са сферы дзейнасці "Закона аб бюджэце" і рэгуляванне сістэмы муніцыпальных фінансаў шляхам "Бюджэтнага кодэкса", "Закона аб мясцовых фінансах і мясцовых бюджэтах", "Закона аб муніцыпальным крэдыце";

5.8.6. – замацаванне за мясцовымі і рэгіянальнымі органамі ўлады на пастаяннай аснове падаткавых і непадаткавых крыніц фармавання мясцовых бюджэтаў;

5.8.7. – перадачу паўнамоцтваў прадастаўлення грамадскіх паслуг на ўзровень бюджэтнай сістэмы, якая ажыццяўляе іх фінансаванне;

5.8.8. – прывядзенне ў адпаведнасць колькасці персаналу з аб'ёмам і колькасцю спажыўцоў грамадскіх паслуг, якія прадастаўляюцца мясцовымі і рэгіянальнымі службамі;

5.8.9. – прыцягненне арганізацыяў розных арганізацыйна-прававых формаў да прадастаўлення паслуг, якія аплачваюцца за кошт бюджэтных сродкаў;

5.8.10. – пераход да метадаў фармавання бюджэта, якія арыентуюцца на вынік;

5.8.11. – павелічэнне долі ў прыбытковай частцы мясцовых бюджэтаў падаткаў, плацяжоў і збораў, звязаных з нерухомасцю, уласнасцю і зямлёй, што дазволіць паменшыць залежнасць ад падаходнага падатку, асабліва ў муніцыпалітэтах/валасцях – спадарожніках буйных гарадоў;

5.8.12. – фармаванне стабільнай нарматыўнай базы раздзялення падаткаў паміж мясцовым, рэгіянальным і рэспубліканскім бюджэтамі, што вядзе да зацікаўленасці паветаў і муніцыпалітэтаў да павелічэня асабістай падаткавай базы;

5.8.13. – адкрыццё ў муніцыпалітэтах агульных рахункаў рэспубліканскага бюджэту, што дазволіць пазбегнуць сустрэчных бюджэтных плыняў у працэсе фармавання мясцовых бюджэтаў і выдаткаў кіравання міжбюджэтнымі адносінамі;

5.8.14. – пераход да прыбыткова-расходнай мадэлі фінансавага выраўноўвання, якая ўлічвае разам з расходнымі патрэбамі і прыбытковыя (падатковыя) здольнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак;

5.8.15. – выразную залежнасць аб'ёма датацыяў (трансфертаў), субсідыяў, субвенцыяў ад падатковых намаганняў мясцовага органа ўлады;

5.8.16. – пазбяганне ператварэння датацыяў (трансфертаў), субсідыяў, субвенцыяў у інструменты палітычнага і эканамічнага ўплыву вышэйшай улады;

5.8.17. – развіццё механізма муніцыпальных пазык як важнага інструмента мясцовага фінансавага кіравання.

## 6. ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА

## 6.1. Знешняя палітыка

6.1.1. Галоўнай мэтай знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь мусіць быць забеспячэнне ўласных палітычных, эканамічных, культурных і духоўных нацыянальных інтарэсаў на міжнароднай арэне, у міжнародных арганізацыях і ў адносінах з іншымі дзяржавамі.

6.1.2. Межы Беларусі з'яўляюцца недатыкальнымі. Беларусь не мае тэрытарыяльных прэтэнзіяў ні да адной краіны, мы лічым неабходным развіваць толькі добрасуседскія і партнёрскія адносіны з усімі краінамі.

6.1.3. Беларусь прытрымліваецца прынцыпаў неўмяшання ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў і вырашэння канфліктаў мірным шляхам.

6.1.4. БХД выступае за пазаблокавы статус Беларусі. Гэта азначае, что Беларусь павінна выйсці з Арганізацыі дагавору аб калектыўнай бяспецы. Далучэнне Беларусі да Арганізацыі паўночна-атлантычнай дамовы (NATO) можа быць здзейснена толькі ў выніку усенароднага рэферэндуму.

6.1.5. БХД бачыць Беларусь як актыўнага ўдзельніка міжнароднай і рэгіянальнай інтэграцыі, якая накіравана на ўмацаванне міру, міждзяржаўнага партнёрства і эканамічнага супрацоўніцтва.

6.1.6. БХД выступае за свабоднае перамяшчэнне людзей і будзе дамагацца спрашчэння ці адмены візавых бар'ераў для беларусаў з развітымі краінамі свету.

## 6.2. Міжнароднае супрацоўніцтва

6.2.1. Беларусь з'яўляецца краінай – заснавальніцай Арганізацыі аб'яднаных нацыяў і прымала самы актыўны ўдзел у яе працы з моманту заснавання ў 1945 годзе. Мы ганарымся нашым удзелам у станаўленні і дзейнасці ААН. Глабальныя праблемы патрабуюць адпаведных рашэнняў праз супрацоўніцтва і дыялог усіх краін свету. ААН з'яўляецца адзіным глабальным форумам і займае асаблівае месца ў міжнародным супрацоўніцтве. Паспяховасць міжнароднай кааперацыі для вырашэння глабальных праблем залежыць ад умацавання і рэформы ААН. Мы лічым, што старая канфігурацыя сілы і размеркаванне ўплыву ў ААН, якая сягае ў часы "халоднай вайны", страціла актуальнасць і не адпавядае сённяшняму дню. Беларусь будзе ў саюзе з іншымі дзяржавамі спрыяць рэформе ААН, каб пашырыць колькасць чальцоў Рады Бяспекі і абмежаваць "права вета" пастаянных чальцоў Рады Бяспекі. Беларусь павінна прымаць актыўны ўдзел у працы ААН і прасоўваць ідэалы хрысціянскай дэмакратыі. БХД бачыць важным пашырэнне барацьбы з галечай на прынцыпе развіццёвага салідарызму. Беларусь мусіць спрыяць умацаванню міру і негвалтоўнага вырашэння канфліктаў ва ўсім свеце.

6.2.2. БХД бачыць вялікі патэнцыял ад развіцця ідэі кааперацыі краін ЕС з краінамі Ўсходняга партнерства. Гэтая форма рэгіянальнага супрацоўніцтва накіравана на ўцягванне ў арбіту еўрапейскага ўплыву дзяржаў Усходняй Еўропы і Закаўказзя. Актыўны ўдзел і развіццё ідэі Ўсходняга партнёрства можа даць адчувальныя вынікі ў міжрэгіянальным развіцці ў палітычным, грамадзянскім і эканамічным вымярэннях.

## 6.3. Еўрапейскі выбар Беларусі

6.3.1. БХД разглядае Беларусь як неад'емную частку еўрапейскай цывілізацыі, грунтаванай на хрысціянскіх каштоўнасцях. Гістарычна Беларусь заўсёды была ў арэале агульнаеўрапейскіх працэсаў і мае багатую еўрапейскую гісторыю часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Таму мы бачым месца Беларусі ў сям'і еўрапейскіх народаў.

6.3.2. Беларусь будуе свае адносіны з Эўрапейскім Зьвязям у залежнасці ад таго, наколькі Эўразьвяз захоўвае хрысціянскія каштоўнасці.

6.3.3. Еўрапейскі Саюз на сённяшні дзень з'яўляецца адным з галоўных нашых гандлёвых партнёраў. Далучэнне Беларусі да еўрапейскага рынку дасць нашай прадукцыі дадатковыя магчымасці для паспяховай канкурэнцыі на еўрапейскім вельмі ёмістым рынку. Еўрапейская прамысловасць арыентуецца на высокія тэхналогіі і навукаёмістасць, што надае ёй вялізны прыярытэт у сусветным падзеле працы, таму далучэнне Беларусі да еўрапейскага рынку будзе садзейнічаць сучаснаму развіццю нашай эканомікі.

6.3.4. Разам з тым БХД разумее, што паўнавартаснае ўступленне Беларусі ў Еўрапейскі Саюз з'яўляецца аддаленай перспектывай, якая дасягаецца толькі паступовым рухам і сур'ёзнымі рэформамі. Беларусь павінна стаць на шлях еўрапейскай інтэграцыі, але БХД не разглядае ўступленне Беларусі ў Еўрапейскі Саюз як першачарговую мэту і блізкую перспектыву. Найбольш актуальным для нас з'яўляецца далучэнне да Еўрапейскай эканамічнай прасторы, якая дазволіць нам інтэгравацца ў агульны еўрапейскі рынак, але захаваць свабоду ў фіскальнай, манетарнай, бюджэтнай палітыцы і ў іншых галінах, якія рэгулююцца дырэктывамі Брусэля для краін – чальцоў ЕС. БХД разглядае ўдзел Беларусі ў Еўрапейскай эканамічнай прасторы як форму асацыяцыі з Еўрапейскім Саюзам з найбольш поўным захаваннем уласнага суверэнітэту.

6.3.5. Беларусь прыязна ставіцца да многіх ініцыятыў еўрапейскай палітыкі і зможа прымаць удзел у іх ажыццяўленні, з'яўляючыся асацыяваным сябрам Еўрапейскага Саюза.

**6.4. Адносіны з Расійскай Федэрацыяй**

6.4.1. Расійская Федэрацыя з'яўляецца для Беларусі найбуйнейшым суседам. Беларусь хоча будаваць адносіны з Расійскай Федэрацыяй на ўзаемавыгаднай парнёрскай аснове, прытрымліваючыся прынцыпаў роўнасці і добрасуседства. Мы лічым, што такі інтэграцыйны праект, як Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі супярэчыць беларускім нацыянальным інтарэсам і не мае будучыні. БХД выступае за ліквідацыю гэтага інтэграцыйнага праекта. Але мы павінны захаваць усе сацыяльныя здабыткі, якія тычацца свабоднага перамяшчэння людзей, адукацыі, аказання медыцынскіх паслуг і г.д. Гэтыя магчымасці рэгулююцца адпаведнай заканадаўчай базай на аснове двухбаковых дамоў.

6.4.2. Агрэсія Расіі супраць Украіны і анэксія Крыму, міжнародныя санкцыі ствараюць новую геапалітычную сітуацыю, якая патрабуе выразнага вызначэння. БХД не прымае перагляду межаў і збройнага гвалту, асуджае імперскую, захопніцкую палітыку Крамля на постсавецкай прасторы і лічыць неабходным рыхтавацца да абароны беларускай незалежнасці.

6.4.3. Расійская Федэрацыя з'яўляецца натуральным гандлёвым партнёрам Беларусі, таму мы зацікаўленыя ва ўсталяванні тавараабмену без "гандлёвых войнаў". Разам з гэтым мы лічым неабходным паменшыць эканамічную залежнасць Беларусі ад Расіі, зменшыць вялізны дысбаланс у знешнім гандлі, які прыходзіцца на Расію.

6.4.4. Пазаблокавы статус Беларусі і агрэсіўная палітыка Крамля вымушаюць нас спыніць удзел у Арганізацыі дагавору аб калектыўнай бяспецы (АДКБ). Ваеннае супрацоўніцтва Беларусі і Расійскай Федэрацыі мусіць ажыццяўляцца з улікам нашага пазаблокавага статуса. Беларусь не будзе размяшчаць на сваёй тэрыторыі ваенныя базы іншых дзяржаў. БХД выступае за вывад з тэрыторыі Беларусі расійскіх ваенных баз. Тэрміны і ўмовы вываду будуць вырашацца шляхам двухбаковых перамоў.

6.4.5. БХД будзе спрыяць развіццю добрасуседскіх сувязяў паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй для агульнага дабра нашых народаў.

**6.5. Балта-Чарнаморскае партнёрства**

6.5.1. Для нас Балта-Чарнаморская супольнасць за яе пакутнай гісторыяй, творчай сілай і глыбокімі хрысціянскімі традыцыямі – сапраўднае сэрца Эўропы.

6.5.2. БХД лічыць неабходным і абумоўленным з эканамічных і палітычных прычын развіццё інтэграцыі дзяржаў, якія ўваходзяць у Балта-Чарнаморскі рэгіён: Беларусі, Літвы, Украіны, Малдовы, Латвіі і Эстоніі. Гэтыя краіны маюць цесныя гістарычныя сувязі перадусім часоў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, прыналежнасць да аднаго геаграфічнага рэгіёну робіць гэтыя краіны натуральнымі хаўруснікамі і партнёрамі ў сучасных палітычных і эканамічных адносінах.

6.5.3. Балта-Чарнаморскі рэгіён знаходзіцца паміж высокатэхналагічным еўрапейскім рынкам і сыравіннымі рынкамі Расіі і Азіі, паміж заможнымі паўночнымі дзяржавамі і дынамічнымі краінамі арабскага ўсходу і Турцыяй. Гэтая асаблівасць надае перадусім актуальнасць развіццю супрацоўніцтва ў галіне шляхоў камунікацыі (дарожнай, чыгуначнай, воднай і трубаправоднай) і энэргетычных сістэм. Беларусь знаходзіцца ў

цэнтры гэтага рэгіёну паміж партамі прыбалтыйскіх дзяржаў і Ўкраіны, што забяспечвае нам найбольш удалае месца ў працэсе развіцця кааперацыі ў Балта-Чарнаморскім рэгіёне.

### 6.6. Нашы суайчыннікі ў замежжы

6.6.1. XX стагоддзе было для беларускага народа трагічным часам войнаў і таталітарызму. Так склалася, што па-за межамі Беларусі засталося шмат этнічных беларусаў, якія цяпер жывуць у суседніх краінах – у Польшчы, Літве, Латвіі, Расіі і Украіне. Акрамя беларусаў у суседніх дзяржавах вялікая колькасць нашых суайчыннікаў жыве ў краінах далёкага замежжа. Вялікія дыяспары беларусаў ёсць у ЗША, Велікабрытаніі, Канадзе, Аўстраліі, Ізраілі, Аргентыне і ў іншых краінах.

6.6.2. Сёння стратэгічна важнай задачай з'яўляецца аднаўленне нацыянальнай цэласнасці і еднасці, усталяванне самых цесных кантактаў з беларускім замежжам, адстойванні яго інтарэсаў і падтрымка іхных намаганняў да захавання самастоеснасці. Такое пашырэнне беларускага ўплыву ў сусветным маштабе адкрывае беспрэцэнтныя магчымасці для правядзення нашае міжнароднае палітыкі.

6.6.3. Наяўнасць вялікай колькасці нашых суайчыннікаў у замежжы дае дадатковую магчымасць для знешняй беларускай палітыкі, у якой беларусы замежжа могуць стаць сродкам "народнай дыпламаты" і садзейнічаць росту цікавасці да Беларусі. БХД лічыць неабходным забяспечыць беларусам замежжа права на адукацыю і працу ў Беларусі, а таксама права на спрошчанае атрыманне беларускага грамадзянства.

### 6.7. У сферы міжнароднай палітыкі БХД выступае за:

6.7.1. – добрасуседскія партнерскія адносіны на ўзаемавыгаднай аснове з усімі краінамі;

6.7.2. – актыўны ўдзел Беларусі ў працы Арганізацыі аб'яднаных нацыяў, яе структурных падраздзяленняў і іншых міжнародных і рэгіянальных арганізацыях;

6.7.3. – пазаблокавы ваенны статус Беларусі;

6.7.4. – вывад з тэрыторыі Беларусі расійскіх ваенных баз;

6.7.5. – наладжванне шчыльных інтэнсіўных палітычных і эканамічных адносін з Еўрапейскім Саюзам, ЗША, Канадай і іншымі перадавымі краінамі свету;

6.7.6. – уступленне у Еўрапейскую эканамічную прастору, удзел у еўрапейскай энэргетычнай палітыцы і ў іншых фарматах узаемадзеяння з ЕС, у тым ліку ў межах еўрапейскай палітыкі суседства і праекта Ўсходняга партнёрства;

6.7.7. – ліквідацыю Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі;

6.7.8. – развіццё адносін з Расійскай Федэрацыяй як адным з асноўных нашых партнераў на аснове роўнасці і незалежнасці Беларусі. Максімальна магчымае захаванне ўсіх здабыткаў двухбаковых адносін у галіне перамяшчэння людзей і сацыяльных гарантыяў нашым грамадзянам на тэрыторыі Беларусі і Расіі;

6.7.9. – актыўны ўдзел Беларусі ў працэсах інтэграцыі ў Балта-Чарнаморскім рэгіёне. Развіццё камунікацыяў, у тым ліку дарожнай, чыгуначнай, воднай і трубаправоднай і энэргетычных сістэм;

6.7.10. – паглыбленне гандлёвых і эканамічных сувязяў з краінамі Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёну, Лацінскай Амерыкі і Персідскай Затокі;

6.7.11. – развіццё сувязяў з беларусамі замежжа, падтрымку беларускай культуры і мовы ў беларускіх супольнасцях за мяжой.

## 7. БЯСПЕКА І ПРАВААХОВА

### 7.1. Нацыянальная бяспека

7.1.1. Ваенная пагроза на працягу гісторыі з'яўлялася галоўным выклікам існавання дзяржавы і дабрабыту яе народу. Пагроза ваенных канфліктаў і сёння застаецца актуальным пытаннем, але акрамя яе ў сучасным свеце набылі распаўсюд і іншыя выклікі, якія пагражаюць дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнай бяспецы і грамадскай стабільнасці.

7.1.2. БХД ставіць сваёй першачарговай мэтай дэсаветызацыю, беларусізацыю і гуманізацыю ўсей сістэмы бяспекі і праваахоўы. На месца колішніх сталінскіх "карных ворганаў" мусіць прыйсці традыцыя правасвядомасці, адказнасці і справядлівасці, запачаткаваная Статутамі Вялікага Княства Літоўскага.

7.1.3. Мы разумеем наш дзяржаўны суверэнітэт як вяршэнства беларускіх законаў і дзяржаўнай волі, якую рэалізуюць палітыкі, абраныя беларускім народам, на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Таму законы і дзяржаўная воля мусяць быць накіраваныя на абарону дзяржаўнага суверэнітэту ад знешняга ўмяшальніцтва і навязвання чужых інтарэсаў. Мы лічым, што для беларускага народа нацыянальная дзяржаўнасць і незалежнасць з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю, таму БХД будзе заўсёды выступаць у абарону дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

7.1.4. З'яўляючыся ўдзельнікам інтэграцыйных працэсаў, Беларусь натуральна дэлегуе частку свайго суверэнітэту наднацыянальным органам. Гэта неад'емная з'ява сучасных міжнародных адносін і ўзамен на гэта дзяржавы атрымоўваюць карысць ад удзелу ў розных інтэграцыйных працэсах. Аднак БХД выступае супраць тых інтэграцыйных праектаў, якія стратэгічна небяспечныя для існавання дзяржаўнасці і суверэнітэту Беларусі.

7.1.5. Складовай часткай пагрозы незалежнасці з'яўляецца пагроза эканамічнага суверэнітэту, якая заключаецца ў паступовым усталяванні замежнымі эканамічнымі суб'ектамі свайго кантролю над стратэгічнымі прадпрыемствамі і галінамі прамысловасці Беларусі. Удзел замежнага капіталу ў беларускай эканоміцы з'яўляецца безумоўнай карысцю: БХД будзе забяспечваць усе ўмовы для замежных інвестараў і будзе вітаць прыход у Беларусь буйнога замежнага капіталу. Аднак намі разглядаюцца як непрымальныя спробы замежных дзяржаў або замежных эканамічных суб'ектаў праз эканамічны ціск здабыць у Беларусі для сябе асаблівыя прэферэнцыі ці дамагчыся мэтаў, якія супярэчаць інтарэсам беларускай дзяржавы. Такая дзейнасць з'яўляецца парушэннем прынцыпу свабоднай канкурэнцыі, разглядаецца намі як варожая і патрабуе спынення і адэкватнага рэагавання.

7.1.6. БХД лічыць неабходным распрацоўкі Закона аб назвычайным становішчы – акту, які арганізуе працу дзяржавы ў выпадку пагрозы незалежнасці, цэласнасці і канстытуцыйнаму ладу Беларусі.

7.1.7. Тэрарыстычная пагроза ахапіла ўсе часткі свету і ў многіх краінах рэгулярна адбываюцца тэракты, якія забіваюць і калечаць мірных жыхароў, сеюць хаос і наносяць эканамічныя страты. На вялікі жаль тэрарыстычная пагроза не абмінула і Беларусь. Небяспека, якая сыходзіць ад тэрарызму, заключаецца ў вялікім дэстабілізуючым патэнцыяле гэтай з'явы, а таксама прымяненні новых сродкаў для масавых атак, у тым ліку і зброі масавага знішчэння. Усведамляючы ўсю небяспеку ад тэрарыстычнай пагрозы, БХД выступае за сістэмныя рашэнні для прадухілення тэрактаў у Беларусі. Яны звязаны з увядзеннем сучасных тэхналогіяў для барацьбы з тэрарызмам, развіццём аналітычнай складаючай у працы органаў нацыянальнай бяспекі, павышэннем кваліфікацыі супрацоўнікаў праваахоўных органаў, усталяваннем шчыльнага міжнароднага партнёрства для каардынацыі дзеянняў з іншымі краінамі.

7.1.8. Акрамя дзейнасці для прадухілення тэрактаў у Беларусі неабходна супрацьдзейнічаць выкарыстанню тэрыторыі Беларусі для перамяшчэння людзей, рэчываў і матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца ў тэрарыстычнай дзейнасці. Беларусь павінна абмежаваць партнёрскія і дзяржаўныя кантакты з тымі палітычнымі рэжымамі, якія падтрымліваюць тэрарыстычныя групоўкі.

**7.2. Інфармацыйная бяспека і кіберзлачыннасць**

7.2.1. На сённяшні дзень інфармацыя паміж людзьмі, краінамі і кантынентамі перамяшчаецца за секунды. Усё чалавецтва аб'яднана агульнай інфармацыйнай прасторай інтэрнэту. Гэта абсалютна новая з'ява, якая існуе толькі некалькі дзесяцігоддзяў, але развіццё інтэрнэту і інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў адбываецца настолькі імкліва, што ўсё новыя сферы грамадскага і асабістага жыцця чалавека прымаюць гэтую з'яву. Інтэрнэт і сучасныя інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі даюць каласальныя магчымасці для развіцця асобы, атрымання адукацыі, зносін паміж людзмі, працы, арганізацыі адпачынку і г.д. БХД выступае за свабоднае функцыянаванне інтэрнэту і свабодную канкурэнцыю ў галіне прадастаўлення інтэрнэт-паслуг.

7.2.2. Аднак намі ўсур'ёз успрымаецца небяспека, якая сыходзіць ад злачыннасці ў інтэрнэт-прасторы. Гандаль забароненымі матэрыяламі, наркотыкамі, людзьмі, парушэнні правоў чалавека, кібератакі, парнаграфія, махлярствы і фінансавыя злачынствы ў інтэрнэт-прасторы – гэта праблемы, якія патрабуюць кампетэнтнага адказу. БХД прапаноўвае стварыць у структуры Мінстэрства ўнутраных спраў на базе існуючага Ўпраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогіяў адмысловую кіберпаліцыю, у кампетэнцыю якой будзе ўваходзіць прадухіленне і барацьба са злачынствамі ў інтэрнэт-прасторы і з выкарыстаннем інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў.

**7.3.Незаконная міграцыя**

7.3.1. БХД бачыць Беларусь адкрытай краінай, якая добразычліва і з павагай ставіцца да замежных грамадзян, якія наведваюць нашу краіну. Але нестабільнасць, войны, сацыяльныя праблемы, палітычны пераслед прымушаюць тысячы людзей з праблемных краін шукаць іншыя месцы для жыцця. Мы са спачуваннем і разуменнем ставімся да праблем імігрантаў і гатовыя аказаць пасільную дапамогу на міжнародным узроўні ў вырашэнні праблем вымушаных перасяленцаў. Мы таксама гатовыя забяспечваць прытулак для некаторых катэгорыяў замежных грамадзян, але ў абмежаваным аб'ёме і строга ў адпаведнасці з будучым міграцыйным заканадаўствам. БХД выступае катэгарычна супраць незаконнай іміграцыі ў Беларусь і будзе прымаць усе захады на нацыянальным і міжнародным узроўнях, каб прадухіліць незаконнае перасяленне ў Беларусь замежных грамадзян.

7.3.2. Некантралюемая іміграцыя пагражае стабільнасці сацыяльнай сістэмы – накладае цяжар на ўстановы медыцыны і адукацыі, пагражае распаўсюдам злачыннасці і цяжкіх захворванняў. Дзяржава мусіць прымаць меры па сацыяльнай адаптацыі і інтэграцыі імігрантаў у беларускае грамадства, што магчыма рабіць толькі ва ўмовах кантралюемага і законнага перасялення замежных грамадзян у Беларусь. БХД лічыць неабходным процідзейнічаць стварэнню моцных этнічных супольнасцяў на аснове кампактнага пражывання з ліку імігрантаў – гэта становіцца перашкодай да інтэграцыі імігрантаў у беларускае грамадства, пераймання культурных традыцыяў, грамадскіх норм і мовы беларускага народу.

7.3.3. Атрыманне беларускага грамадзянства перасяленцамі мусіць быць абумоўлена працяглым пражываннем на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (5-7 гадоў), плённай працай, сацыяльнай бяспечнасцю, веданнем беларускай мовы і гісторыі.

**7.4. Канфігурацыя органаў нацыянальнай бяспекі і сілавых структур**

7.4.1. Да органаў нацыянальнай бяспекі адносяцца: Рада нацыянальнай бяспекі, Служба нацыянальнай варты і іншыя спецыяльныя службы.

7.4.2. Рада нацыянальнай бяспекі дзейнічае пры Прэзідэнце і займаецца пытаннямі ваеннага, палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага характару, звязанымі з нацыянальнай бяспекай. У Раду нацыянальнай бяспекі ўваходзяць Прэзідэнт, Памочнік Прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы, кіраўнік Соймавага камітэта па бяспецы, Канцлер, Міністр замежных спраў, Міністр абароны, Старшыня Службы нацыянальнай варты, Міністр унутраных спраў, Спікер Сойма, Старшыня Сената і іншыя дзяржаўныя службоўцы, удзел якіх абумоўлены павесткай дня Рады нацыянальнай бяспекі. Рада нацыянальнай бяспекі мае свой апарат, у які ўваходзяць спецыялісты і аналітыкі з адпаведных галін. Рада нацыянальнай бяспекі з'яўляецца адным з органаў, які займаецца выпрацоўкай замежнай палітыкі. Акрамя таго, Рада нацыянальнай бяспекі займаецца аналітычнай дзейнасцю, накіраванай на дапамогу прыняцця Прэзідэнтам і ўрадам ключавых рашэнняў па пытаннях знешняй палітыкі, нацыянальнай стратэгіі і ваеннай дактрыны.

7.4.3. Служба нацыянальнай варты з'яўляецца спецыяльным органам, які займаецца практычнай дзейнасцю ў абароне нацыянальнай бяспекі ў розных галінах, барацьбой з тэрарызмам, экстрэмізмам, супрацьдзейнічае выведвальнай дзейнасці іншых дзяржаў на тэрыторыі Беларусі. Кандыдатуру Старшыні Службы нацыянальнай варты ўносіць Прэзідэнт на зацвярджэнне Сенатам і Соймам. Служба нацыянальнай варты знаходзіцца па-за межамі палітычнай барацьбы і не павінна выконваць функцыі палітычнай паліцыі. У

структуры Службы нацыянальнай варты будзе ўтвораны Аналітычны цэнтр, які стане інтэлектуальнай складовай практычнага забеспячэння нацыянальнай бяспекі.

7.4.4. Дзеля прадухілення засяроджання ў адной структуры самых розных кірункаў дзейнасці і празмерных паўнамоцтваў неабходна стварыць асобныя службы:

-Служба бяспекі дзяржаўнай інфармацыі;

-Служба дзяржаўнай аховы, якая займаецца мерапрыемствамі па ахове органаў улады, кіраўнікоў краіны і лідараў парламенцкай апазіцыі.

На дзейнасць спецыяльных служб мусіць распаўсюджвацца парламенцкі кантроль.

## 7.5. Міністэрства ўнутраных спраў

7.5.1. Міністэрства ўнутраных спраў узначальвае Міністр унутраных спраў, які з'яўляецца палітычнай фігурай. Міністр унутраных спраў вызначаецца кіруючай партыяй альбо кіруючай кааліцыяй, якая мае большасць у Сойме. Міністэрства ўнутраных спраў павінна забяспечваць надзейную ахову правоў і свабод грамадзян, дзяржаўных і грамадскіх інтарэсаў ад злачынных замахаў, своечасовае выяўленне злачынстваў і прыцягненне вінаватых да адказнасці, ахову грамадскага парадку.

7.5.2. У структуру МУС уваходзяць наступныя органы:

-Крымінальная паліцыя – займаецца прадухіленнем, барацьбой і дазнаннем па цяжкіх злачынствах, карупцыі, эканамічных злачынствах і г.д.

-Дарожная паліцыя – займаецца бяспекай дарожнага руху, дзяржаўным рэгуляваннем і кіраваннем, а таксама дзяржаўным кантролем у галіне дарожнага руху.

-Упраўленне па барацьбе з незаконным зваротам наркотыкаў.

-Кіберпаліцыя – займаецца расследаваннем злачынстваў у інтэрнэт-прасторы і з выкарыстаннем інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў.

-Экалагічная паліцыя – займаецца расследаваннем злачынстваў у галіне прыродаахоўнага і экалагічнага заканадаўства.

-Паліцэйскія сілы хуткага рэагавання, паліцэйскі спецназ і групы антытэрору;

-Іншыя органы і падраздзяленні.

7.5.3. Міністэрства ўнутраных спраў павінна забяспечыць надзейную ахову правоў і свабод грамадзян, дзяржаўных і грамадскіх інтарэсаў ад злачынных замахаў, своечасовае выяўленне злачынстваў і прыцягненне вінаватых да адказнасці, ахову грамадскага парадку. Для эфектыўнай барацьбы са злачыннасцю Міністэрства ўнутраных спраў неабходна вызваліць ад неўласцівых яму функцыяў: выпраўлення і перавыхавання асуджаных; нагляду за асобамі, якія асуджаны да пакарання без пазбаўлення волі; пашпартызацыі насельніцтва; рэгістрацыі ўезду і выезду грамадзян.

7.5.4. На рэгіянальным узроўні павятовая паліцыя займаецца забеспячэннем грамадскага парадку, недапушчэннем і прафілактыкай крымінальных злачынстваў, расследаваннем менш значных злачынстваў, аховай грамадскай і прыватнай маёмасці, рэгуляваннем дарожнага руху і разбіральніцтвам дарожна-транспартных здарэнняў. Кіраўнікі павятовай паліцыі ўваходзяць у склад адміністрацыі Павятовага Старасты.

## 7.6. Беларускае войска

7.6.1. Беларусь з'яўляецца мірнай дзяржавай, нікому не пагражае і будуе свае адносіны з суседзямі і ўсімі краінамі на партнёрскай аснове. Беларусь не мае тэрытарыяльных прэтэнзіяў ні да адной краіны.

7.6.2. Мы зыходзім з таго, што канфлікты і супярэчнасці павінны вырашацца дыпламатычнымі мірнымі захадамі. Але дзеля гарантыі ўласнага суверэнітэту і незалежнасці, Беларусь павінна мець баяздольнае і добра ўзброенае войска. Сучасныя войны вядуцца невялікімі мабільнымі арміямі з прымяненнем высокатэхналагічных узбраенняў. Таму беларуская армія мусіць адпавядаць сучасным патрабаванням ваеннай стратэгіі і тактыкі.

7.6.3. БХД прапаноўвае усталяваць колькасць беларускай арміі на ўзроўні 50 тыс. чалавек. Фармаванне арміі будзе адбывацца як на прафесійнай аснове, так і за кошт прызыву тэрмінам на 6 месяцаў. Падчас праходжання тэрміновай ваеннай службы будзе

зроблены ухіл менавіта на ваеннай падрыхтоўцы: навучанне ваеннай справе, рэгулярныя і частыя стрэльбы, правядзенне часткі службы ў палявых умовах. Усе аспекты тэрміновай службы, якія не тычацца прафесійнай падрыхтоўкі ваенных, будуць ліквідаваны. Беларускае войска мусіць быць забяспечана сучаснай тэхнікай , афіцэры і салдаты павінны несці службу ў незалежных умовах і мець годнае забеспячэнне. Дзеля гэтага мы лічым неабходным фінансаваць выдаткі на абарону ў памеры 3 % ад валавога ўнутранага прадукту.

7.6.4. Вызваленне ад прызыву будзе магчыма толькі праз медычныя паказанні. Разам з тым будзе дадзена магчымасць у поўнай меры рэалізаваць канстытуцыйнае права на альтэрнатыўную службу. Грамадзяне, якія з-за рэлігійных, пацыфісцкіх ці іншых абгрунтаваных перакананняў не могуць прайсці 6-месячную ваенную падрыхтоўку, будуць мець права на альтэрнатыўную службу ў сістэме аховы здароўя або дабрачынных установаў.

7.6.5. Праблема "дзедаўшчыны” або нестатутных адносін будзе вырашана кардынальна – кароткі 6-месячны тэрмін праходжання тэрміновай службы ў сукупнасці з паасобнай службай кожнага набору прызыўнікоў і адказнасцю афіцэраў за нестатутныя адносіны.

7.6.6. Унутраныя войскі як асобная структурная адзінка вайскавога тыпу ў складзе Міністэрства ўнутраных спраў – будуць ліквідаваны. Сілы спецыяльнага прызначэння і хуткага рэагавання застануцца ў складзе МУС. Часткова функцыі, якія сёння выконваюць унутраныя войскі па падтрыманню канстытуцыйнага парадку і тэрытарыяльнай абароне, будуць перададзены новаму ваеннаму ўтварэнню – Беларускаму Нацыянальнаму Легіёну.

7.6.7. Беларускі Нацыянальны Легіён – элітны касцяк беларускай арміі. Будзе фармавацца на прафесійнай аснове і яго колькасць будзе складаць каля 20 тыс. чалавек. Беларускі нацыянальны Легіён будзе грунтавацца на беларускім патрыятызме і нацыянальным духу, як надзейная гарантыя незалежнасці Беларусі. Беларускі Нацыянальны Легіён будзе забяспечаны самымі лепшымі ўзорамі сусветнага ўзбраення, у ім будзе падтрымлівацца высокі баявы дух і прафесійны ўзровень. Мэтазгодна, каб менавіта сілы Легіёну выкарыстоўваліся ў міратворчых аперацыях пад эгідай ААН.

7.6.8. У структуры Беларускага Нацыянальнага Легіёну будуць пяхотныя, бранетанкавыя, ваенна-дэсантныя, ваенна-паветраныя, тылавыя, медычныя адзінкі, а таксама ваенны спецназ. Размяшчэнне пяхотных батальёнаў будзе грунтавана на тэрытарыяльным прынцыпе.

7.6.9. Беларускім вайскоўцам будзе забяспечаны высокі заробак і ўсе сацыяльныя гарантыі, у тым ліку бясплатнае службовае жыллё з правам атрымання яго ва ўласнасць.

**7.7. У галіне бяспекі БХД выступае за:**

7.7.1. – прыняцце Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі, у якой будуць адлюстраваны сучасныя выклікі і праблемы, прагнозы іх развіцця і меры рэагавання;

7.7.2. – фармаванне органаў нацыянальнай бяспекі ў складзе, Рады нацыянальнай бяспекі, Службы нацыянальнай варты, Службы бяспекі дзяржаўнай інфармацыі, Службы дзяржаўнай аховы;

7.7.3. – узмацненне інфармацыйнай і планава-аналітычнай дзейнасці ў органах нацыянальнай бяспекі дзеля прадухілення негатыўных для Беларусі з’яў, адэкватнага і своечасовага рэагавання на праблемы нацыянальнай бяспекі;

7.7.4. – арганізацыйную рэформу Міністрэрства ўнутраных спраў, усталяванне аптымальнай колькасці супрацоўнікаў на ўзроўні прыблізна 400 – 500 чалавек на 100000 насельніцтва;

7.7.5. – вызваленне праваахоўных органаў ад неўласцівых ім функцыяў і канцэнтрацыі на выкананні іх непасрэдных задач;

7.7.6. – ліквідацыю Ўнутраных войск як адзінкі ў складзе Міністэрства ўнутраных спраў;

7.7.7. – усталяванне колькасці беларускай арміі на ўзроўні 50 тыс. чалавек;

7.7.8. – ліквідацыю ўсіх аспектаў тэрміновай службы, якія не тычацца прафесійнай падрыхтоўкі ваенных;

7.7.9. – права на альтэрнатыўную службу;

7.7.10. – стварэнне Беларускага Нацыянальнага Легіёну – элітнага касцяка беларускай арміі, які будзе фармавацца на прафесійнай аснове і грунтавацца на беларускім патрыятызме і нацыянальным духу.

## 8. ПРАВАСУДДЗЕ

### 8.1. Судова-прававая сістэма

8.1.1. Хрысціянскія дэмакраты лічаць неабходным стварэнне ў Беларусі судова-прававой сістэмы, якая ў стане забяспечыць функцыянаванне прававой дзяржавы. Гэта прадугледжвае замацаванне самастойнасці і незалежнасці судовай улады як асноўнага гаранта правоў і свабод грамадзян. У беларускім заканадаўстве ў адпаведнасці з каштоўнасцямі хрысціянскай дэмакратыі павінны быць зацверджаны дэмакратычныя прынцыпы дзейнасці, арганізацыі і самаарганізацыі праваахоўных органаў, якія адпавядаюць агульнапрызнаным нормам міжнароднага права.

8.1.2. Аднаўленчае правасуддзе. Замест карнага характару правасуддзя, уласцівага Царскай Расеі і Савецкаму Саюзу, БХД мае збудаваць у Беларусі сістэму аднаўленчага правасуддзя. Галоўнай мэтай дзяржавы мусіць стаць не пакаранне злачынцы, а аднаўленне справядлівасці і ладу – кампенсацыя ўрону, пакаянне зламысніка і прымірэнне бакоў. Галоўнай асобай у працэсе аднаўленчага правасуддзя мусіць стаць не злачынца, а пацярпелы (зараз – асоба бяспраўная і другасная).

8.1.3. Судова-прававая рэформа павінна прадугледжваць комплекс мер па заканадаўчаму забеспячэнню і арганізацыйнаму пераўтварэнню дзейнасці ўсёй сістэмы юстыцыі Беларусі, якую неабходна разумець як сукупнасць усіх праваахоўных органаў ад паліцыі да ўстаноў натарыята і судоў.

### 8.2. Судовая ўлада

8.2.1. БХД лічыць неабходным зрабіць суд галоўным органам у сістэме праваахоўных органаў. Гэта патрабуе змены статуса суда, пераўтварэння яго ў самастойны і незалежны орган улады з удакладненнем яго прызначэння як арбітра ў спрэчках бакоў і як абаронцу правоў грамадзяніна. Суд павінен знаходзіцца па-за межамі ўплыву прыватных інтарэсаў і быць па-за палітычнай барацьбой. Спроба падкупіць суд або спроба суддзі вырашыць справу праз хабар будзе прыраўнаваная да цяжкага злачынства.

8.2.2. Судовая рэформа павінна карэнным чынам змяніць прававы статус суддзяў, замацаваць іх незалежнасць, забяспечыць незмяняльнасць і недатыкальнасць, прыстойнае матэрыяльна-бытавое і сацыяльнае становішча. Гарантыі судзейскай незалежнасці ад выканаўчай улады, мясцовых, палітычных і іншых уплываў забяспечваюцца праз новы парадак фармавання судзейскага корпуса.

### 8.3. Суды агульнай юрысдыкцыі

8.3.1. БХД лічыць неабходным стварыць чатырохузроўневую сістэму агульных судоў. Гэта забяспечыць неабходную дэцэнтралізацыю і незалежнасць судовай сістэмы ад выканаўчых органаў, мясцовых самакіраванняў, прыватных і іншых уплываў.

8.3.2. Першым звяном сістэмы агульных судоў павінен стаць міравы суддзя, у кампетэнцыі якога знаходзіцца разгляд малазначных грамадзянскіх спраў, асобных катэгорыяў крымінальных спраў і спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях. Міравы суддзя абіраецца насельніцтвам адпаведнай муніцыпальнай/валасной адзінкі тэрмінам на 5 гадоў.

8.3.3. Асноўным звяном судовай сістэмы з’яўляецца акружны суд, у кампетэнцыі якога – разгляд крымінальных і грамадзянскіх спраў. Акружны суд дзейнічае на міжмуніцыпальным узроўні. Суддзі акружнога суда абіраюцца насельніцтвам адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак тэрмінам на 10 гадоў.

8.3.4. Праверачнай інстанцыяй і судом першай інстанцыі па асабліва цяжкіх злачынствах з’яўляецца павятовы (Мінскі акружны) суд.

8.3.5. На ўзроўні акружных і павятовых судоў мэтазгодна ўвядзенне інстытуту прысяжных для разгляду складаных крымінальных спраў.

8.3.6. Ваенныя суды ўваходзяць у сістэму судоў агульнай юрысдыкцыі і дзейнічаюць ва Ўзброеных Сілах.

8.3.7. Вышэйшай судовай інстанцыяй з’яўляецца Вярхоўны Суд. Ён правярае судовыя пастановы ў парадку нагляду. Суддзі Вярхоўнага Суда абіраюцца на бестэрміновай аснове Сенатам па прапанове Прэзідэнта.

8.3.8. Пры вылучэнні суддзяў на кіруючыя пасады або ў суды больш высокай інстанцыі неабходна ўлічваць рэкамендацыі судовай супольнасці.

## 8.4. Канстытуцыйны Суд

8.4.1. Канстытуцыйны суд ажыццяўляе нагляд за адпаведнасцю законаў і іншых нарматыўных актаў Канстытуцыі і міжнародна-прававым абавязальніцтвам Рэспублікі Беларусь. Прыняцце Канстытуцыйным Судом заключэння аб неадпаведнасці закона, міжнароднай дамовы або іншага абавязальніцтва, указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – Канстытуцыі або міжнародна-прававым пактам, якія ратыфікаваны Рэспублікай Беларусь, прыпыняе іх дзеянне, а праз два месяцы, ў выпадку іх неперагляду Парламентам або Прэзідэнтам, спыняе іх дзеянне на тэрыторыі краіны.

8.4.2. Суддзі Канстытуцыйнага Суда прызначаюцца на пасаду Сенатам тэрмінам на 12 гадоў для забеспячэння незалежнасці іх працы ад палітычных зменаў у краіне. Старшыня Канстытуцыйнага Суда абіраецца таемным галасаваннем суддзяў Канстытуцыйнага Суда.

8.4.3. Правам звароту ў Канстытуцыйны Суд надзяляюцца суб’екты, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы, а таксама іншыя суды Рэспублікі Беларусь.

8.4.4. Месцам пастаяннага знаходжання Канстытуцыйнага Суда з’яўляецца горад Наваградак.

## 8.5. Гаспадарчыя суды

8.5.1. Гаспадарчыя суды вырашаюць усе спрэчкі ў галіне эканамічных адносін паміж усімі ўдзельнікамі гаспадарчай дзейнасці ў незалежнасці ад форм уласнасці. У аснове юрысдыкцыі гэтых судоў знаходзіцца прынцып абароны правоў і законных інтарэсаў усіх суб’ектаў гаспадарання.

8.5.2. Вышэйшы Гаспадарчы Суд з’яўляецца вышэйшым органам судовай улады ў сферы эканамічных адносін. Ён ажыццяўляе кіраўніцтва і арганізуе працу ўсёй сістэмы гаспадарчых судоў.

8.5.3. БХД выступае за ўмацаванне самастойнасці і незалежнасці Вышэйшага Гаспадарчага Суда і ніжэйстаячых гаспадарчых судоў ад органаў дзяржаўнага кіравання і іншых удзельнікаў эканамічных адносін, што грунтуецца на павелічэнні ролі судовай улады ў краіне.

## 8.6. Спецыялізаваныя суды

8.6.1. БХД лічыць неабходным стварыць у краіне адміністрацыйныя суды, а ў перспектыве і іншыя спецыялізаваныя суды – сямейныя, падаткавыя, ліцэнзійна-патэнтавыя і інш.

8.6.2. Сістэма адміністрацыйных судоў складаецца з Вышэйшага Адміністрацыйнага Суда і акружных адміністрацыйных судоў, якія дзейнічаюць на міжпавятовым узроўні. Адміністрацыйныя суды разглядаюць скаргі грамадзян на рашэнні, дзеянне (бяздзеянне) органаў кіравання і самакіравання, адміністрацыі і чыноўнікаў.

8.6.3. Стварэнне судоў для непаўнагадовых запатрабавана з-за неабходнасці асаблівай увагі да асобы непаўнагадовага, высвятлення чыннікаў, якія сталі падставай для здзяйснення правапарушэння, а таксама вызначэння асаблівых мер пакарання.

## 8.7. Судовае самакіраванне

8.7.1. Для забеспячэння незалежнасці і самастойнасці судовай улады БХД лічыць неабходным умацаванне судовага самакіравання і яго максімальнай незалежнасці ад адміністрацыі. Гэта магчыма праз стварэнне судзейскай карпарацыі.

8.7.2. Судзейская карпарацыя павінна валодаць шэрагам кампетэнцыяў: прымаць удзел у прызначэнні кваліфікацыйных класаў суддзям, абараняць інтарэсы суддзяў, пазбаўляць судовых паўнамоцтваў і даваць заключэнні аб вызваленні суддзі з пасады, прадстаўляць

кандыдатуры на пасады старшыняў судоў і іх намеснікаў, а таксама прадстаўляць суддзяў да прызначэння ганаровых званняў і ўзнагарод.

8.7.3. Кандыдаты ў кваліфікацыйныя калегіі павінны падбірацца за кошт чальцоў, якія не звязаны паміж сабой адносінамі падпарадкавання.

**8.8. У справе судовай рэформы БХД выступае за:**

8.8.1. – сістэму аднаўленчага правасуддзя як замену карнага савецкага;

8.8.2. – дэцэнтралізацыю судовай сістэмы за кошт функцыянальнага падзелу форм судовай улады;

8.8.3. – максімальнае набліжэнне суда да грамадзяніна, экстэрытарыяльнага характару асноўнага звяна судовай сістэмы;

8.8.4. – сумяшчэнне адзінаасабовага і калегіяльнага разгляду спраў;

8.8.5. – удзел народа ў здзяйсненні правасуддзя ў якасці прысяжных;

8.8.6. – стварэнне спецыялізаваных адміністрацыйных судоў;

8.8.7. – абранне насельніцтвам міравога суддзі як ніжэйшага звяна сістэмы судоў агульнай юрысдыкцыі, а таксама суддзяў акружнога ўзроўню;

8.8.8. – вызваленне судоў ад неўласцівых ім функцыяў;

8.8.9. – памяншэнне памеру дзяржаўнай мыты да ўзроўню, калі яна не з'яўляецца перашкодай для звароту ў суды;

8.8.10.– забеспячэнне роўных умоў для развіцця ўсіх форм уласнасці і гарантыі іх роўнай прававой абароны.

**8.9. Праваахоўныя органы і юрыдычная дапамога**

8.9.1. Праваахоўныя органы Рэспублікі Беларусь павінны пазбавіцца ад неўласцівых ім функцыяў, у тым ліку палітычнага вышуку. Паўнамоцтвы праваахоўных органаў абмяжоўваюцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і іншымі нарматыўна-прававымі актамі.

8.9.2. БХД лічыць неабходным перагледзець і дакладна акрэсліць ролю Міністэрства юстыцыі ў судова-прававой сістэме.

8.9.3. Пракуратураз'яўляецца органам, які забяспечвае ад імя дзяржавы нагляд за дакладным і аднолькавым выкананнем законаў на тэрыторыі рэспублікі. Функцыі і аб'ём паўнамоцтваў пракуратуры павінны адпавядаць прыродзе пракурорскага нагляду. Праз пракурорскі нагляд рэалізуюцца прынцыпы стрыманняў і супрацьваг у сістэме юстыцыі. Варта вызваліць пракуратуру ад неўласцівых ёй функцыяў у галіне нагляду за судом.

8.9.4. Вышэйшым органам фінансава-эканамічнага кантролю Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Кантрольная палатаРэспублікі Беларусь. Кантрольная палата ўтвараецца Парламентам Рэспублікі Беларусь і падсправаздачная яму. Сойм абірае старшыню і палову аўдытараў, Сенат абірае двух намеснікаў старшыні і другую палову аўдытараў тэрмінам на 4 гады. Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь складаецца з калегіі і апарату.

8.9.5. Следчы камітэт павінен стаць адзіным органам папярэдняга следства ў краіне. Хрысціянскія дэмакраты выступаюць за ўмацаванне незалежнасці і самастойнасці Следчага камітэту, які павінен падпарадкоўвацца Міністэрству юстыцыі. Старшыня Следчага камітэту пры пракуратуры прызначаецца і вызваляецца з пасады Сенатам па прапанове Прэзідэнта.

8.9.6. Цэнтральным органам крымінальна-выканаўчай сістэмы з'яўляецца Пенітэнцыярная служба Беларусі. Дзейнасць Пенітэнцыярнай службы павінна накіроўвацца і каардынавацца Міністэрствам юстыцыі. Мы выступаем за павелічэнне выкарыстання альтэрнатыўных мер пакарання замест зняволення ў турмах і калоніях. Незалежныя назіральнікі павінны мець магчымасць кантролю за ўтрыманнем асуджаных ва ўстановах зачыненага тыпу. Неабходным з'яўляецца працяглая праграма адукацыі і павышэння кваліфікацыі супрацоўнікаў турмаў і калоніяў.

8.9.7. БХД лічыць: пазбаўленыя волі могуць быць толькі тыя, хто небяспечны для грамадства або здзейснілі цяжкае злачынства. Савецкая сістэма турм і "зонаў" арыентаваная на падаўленне, прыніжэнне і ламанне чалавека. Галоўнай задачай службы стане рэальнае перавыхаванне асуджаных.

8.9.8. У прававой дзяржаве адвакатура бачыцца хрысціянскімі дэмакратамі як незалежная, прафесійная, самакіраваная і грамадская арганізацыя. Разам з калегіямі адвакатаў прафесійнай праваабарончай дзейнасцю могуць займацца іншыя аб'яднанні і асобы.

8.9.9. Карпаратыўнасць юрыстаў варта разглядаць як важкі фактар у рэалізацыі прынцыпаў прававой дзяржавы і правядзенні судова-прававой рэформы. Грамадскія аб'яднанні юрыстаў, якія маюць функцыі органаў самакіравання, павінны ўдзельнічаць у вырашэнні пытанняў дысцыплінарнай вытворчасці ў дачыненні да юрыстаў, выдачы ліцэнзіяў на занятак прафесійнай юрыдычнай дзейнасцю, прысваення кваліфікацыйных класаў, чыноў, званняў, прадстаўлення да ўзнагарод і ў іншых выпадках, калі неабходна адзнака маральных якасцяў юрыстаў.

8.9.10 Асновай самакіравання юрыстаў з'яўляецца захаванне дэмакратычных працэдур абрання, дзейнасці і справаздачнасці кіруючых і рабочых органаў, іх скіраванасць на падтрымку высокага прэстыжу і сацыяльнага статусу юрыдычных прафесіяў.

**8.10. У галіне юрыспрудэнцыі БХД выступае за:**

8.10.1. – развіццё прыватнай адвакацкай дзейнасці і прыватнага натарыяту;

8.10.2.– забеспячэнне незалежнасці Следчага камітэта ад Прэзідэнта і яго падпарадкаванне Міністэрству юстыцыі;

8.10.3. – дэкрымiналiзацыю шэрагу злачынстваў, якія тычацца ў першую чаргу эканамічных правапарушэнняў;

8.10.4. – перадачу органам Мінюста ўсіх паўнамоцтваў па арганізацыі выканання судовых рашэнняў, у тым ліку стварэнне судовай паліцыі (прыставаў) пры Мінюсце, якая займалася б прымусовым выкананнем судовых рашэнняў і іншых выканаўчых дакументаў, наглядам за асобамі, якія асуджаны да пакарання без пазбаўлення волі, аховай судоў, судовых работнікаў і ўдзельнікаў працэсу падчас яго правядзення;

8.10.5. – перадачу Мінюсту кіраўніцтва выканаўча-папраўчымі ўстановамі (акрамя іх аховы), падрыхтоўку кадраў для гэтых установ, распрацоўку і рэалізацыю мер па рэсацыялізацыі асуджаных;

8.10.6. – аб'яднанне пад кіраўніцтвам Мінюста экспертна-крыміналістычных падраздзяленняў, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні розных праваахоўных ведамстваў;

8.10.7. – перадачу ў юрысдыкцыю Мінюста служб пашпартызацыі, рэгістрацыі, выдачу ліцэнзіяў на права заняцця прафесійнай юрыдычнай дзейнасцю;

8.10.8.–карэнную рэформу пенітэнцыярных установ і забеспячэнне асуджаным нармальных умоў адбывання пакарання, якія дазволяць захоўваць годнасць асобы.

**8.11. Знішчэнне карупцыі**

8.11.1. Карупцыя – надзвычай разбуральны вынік гаспадарання каммуністычнай сістэмы і рэжыму Лукашэнка. Практычна ўсе сілай чынавенства паражаныя крадзяжом як нормай. БХД дасць 3 месяцы для прылюднага пакаяння, вяртання скрадзеных сродкаў і кампенсацыі урону, нанесенага дзяржаве карумпнаванымі чыноўнікамі. Тыя, хто зробіць гэта добраахвотна, будуць амніставаныя. У дачыненні да астатніх падазраваных на працягу 6 месяцаў будзе прадпрынятае следства, і пры доказах віны такім чыноўнікам адначасова з канфіскацыяй маёмасці будзе пажыццёва забаронена займаць дзяржаўныя пасады. Грошы, вернутыя ў бюджэт пасля хуткага і рашучага разбору карупцыі, будуць забеспячэннем для праграмы празрыстых і сумленных рэформаў.

8.11.2. Дзеля змагання з карупцыяй БХД ініцыюе распрацоўку так званага "Закона Лінкальна", аналагі якога дзейнічаюць ва ўсіх развітых краінах: грамадзяне, якія праявілі судовую ініцыятыву і даказалі факт крадзяжу ў дзяржавы, маюць права на 25% ад вернутай ў бюджэт сумы. Сусветны досвед паказвае выключную эфектыўнасць гэтага заканадаўства.

8.11.3. БХД – за ўвядзенне ў Беларусі інстытута прыватнага сыску.

## 9. ЭКАНОМІКА, БІЗНЭС І ПРАЦА

### 9.1. Сацыяльная рынкавая эканоміка і субсідыярнасць

9.1.1. БХД з’яўляецца партыяй, якая прапануе беларускаму народу эканамічную мадэль сацыяльнай рынкавай эканомікі. Мы лічым, што яна з’яўляецца найбольш эфектыўнай мадэллю, паспяхова рэалізаванай у пасляваеннай ФРГ і посткамуністычнай Польшчы. Мадэль эфектыўна працуе як у пераходны перыяд, так і на наступным этапе эканамічнага развіцця. БХД адхіляе камандную эканоміку, у якой дзяржава выконвае функцыі прыватнага бізнэсу, як неэфектыўную і прыгнятаючую свабоду і годнасць чалавека.

9.1.2. У той жа час, БХД не з’яўляецца прыхільніцай поўнага лібералізму ў эканоміцы, стыхійнага рынку, у якім дзяржава абмяжоўваецца роляй заканадаўца і збіральніка падаткаў, паколькі гэта прыводзіць да відавочнай няроўнасці і іншых сацыяльных праблем.

9.1.3. Сацыяльная рынкавая эканоміка зыходзіць з таго, што асобны чалавек з’яўляецца тварэннем Божым і яго годнасць з’яўляецца недатыкальнай. Сацыяльная рынкавая эканоміка з’яўляецца ладам, пры якім свабода, салідарнасць і справядлівасць дапаўняюць адна адну.

9.1.4. Кіруючым прынцыпам ў грамадстве ў цэлым і ў эканоміцы, у прыватнасці, павінен быць прынцып субсідыярнасці. У дачыненні да грамадства субсідыярнасць азначае дапаўняючае актыўнае ўмяшальніцтва ў мэтах дапамогі з боку вялікіх сацыяльных утварэнняў, такіх як дзяржава і іншых грамадскіх інстытутаў на карысць асобных людзей і меншых жыццёвых сфер. Падобна да таго, як індывіда нельга пазбаўляць ініцыятывы і даваць грамадству рабіць тое, што ён можа рабіць па ўласнай ініцыятыве і сваімі сіламі, гэтак жа парушаецца справядлівасць, калі тое, што могуць зрабіць больш дробныя супольнасці, бяруць на сябе вялікія супольнасці. Да таго ж гэта надзвычай нявыгадна і заблытвае ўвесь грамадскі лад. Чым лепш вытрымліваецца паслядоўнасць розных грамадскіх працэсаў шляхам строгага выканання прынцыпа субсідыярнасці, тым мацнейшая грамадская ўлада і сіла ўздзеяння грамадства, і тым больш паспяхова ідуць справы ў грамадстве. Дзейнасць грамадства ў гэтым выпадку дапаўняе дзейнасць індывіда, сям’і, прафесійнай групы.

9.1.5. Сацыяльная рынкавая эканоміка чэрпае сваю сілу з таго, што свабода і адказнасць, канкурэнцыя і салідарнасць ўтвараюць адзінства і падтрымліваюць адзін аднаго. Яна з’яўляецца непадзельным спалучэннем вольнага эканамічнага і салідарнага сацыяльнага ладу. Сацыяльная рынкавая эканоміка з’яўляецца сацыяльнай, таму што яна дае людзям магчымасць жыць у адпаведнасці са сваім прызначэннем да самастойнасці і самому клапаціцца пра сябе і пра сваіх блізкіх. Яна з’яўляецца сацыяльнай, таму што вядзе сілы індывіда да грамадскага ўзаемадзеяння. Яна з’яўляецца сацыяльнай, таму што робіць эканамічна магчымай салідарнасць, на якой грунтуюцца арганізаваныя дзяржавай сістэмы сацыяльнай абароны. Сацыяльная рынкавая эканоміка робіць магчымым для ўсіх дабрабыт і бяспеку. Сацыяльная рынкавая эканоміка азначае саўдзел таксама для тых, хто не можа ўласнымі сіламі дасягнуць адпаведнага жыццёвага ўзроўню. Так яна ажыццяўляе сацыяльную справядлівасць.

### 9.2. Канкурэнтны эканамічны парадак

9.2.1. Сацыяльная рынкавая эканоміка з’яўляецца ладам канкурэнтнага парадку. Гэты парадак закліканы забяспечыць канкурэнцыю ўсюды, дзе яна магчыма, ажыццяўляючы рэгуляванне там, дзе гэта неабходна. Дзяржава мусіць забяспечыць рэалізацыю прынцыпаў канкурэнтнага эканамічнага парадку, канстытуючымі прынцыпамі якога з’яўляюцца:

-цэнавы механізм, які спраўна працуе на ўсіх шматлікіх рынках у нацыянальнай эканоміцы;

-стабільнасць пакупной здольнасці грошай;

-адкрытыя рынкі, прыватная ўласнасць як дамінуючая форма ўласнасці ў эканоміцы, эканамічная адказнасць гаспадарчых суб’ектаў за вынікі сваёй дзейнасці;

-нязменнасць эканамічнай палітыкі, якая стварае спрыяльныя магчымасці для інвестыцыяў у эканоміку і прытоку капіталу, адзінства і комплекснае прымяненне вышэйназваных прынцыпаў.

9.2.2. Рэгулюючымі прынцыпамі канкурэнтнага эканамічнага парадку з’яўляюцца кантроль за дзейнасцю натуральных манаполіяў і антыманапольная палітыка ў іншых галінах, барацьба з нядобрасумленнай канкурэнцыяй, палітыка ў галіне даходаў, мэтай якой з’яўляецца памяншэнне няроўнасці матэрыяльных шанцаў грамадзян Беларусі.

9.2.3. Канкурэнцыя з’яўляецца важнай умовай для надзейнай абароны спажыўца, паколькі любая манапалізацыя, якая абмяжоўвае канкурэнцыю, абмяжоўвае разнастайнасць і свабоду выбару спажыўцоў. Правы спажыўцоў з’яўляюцца грамадзянскімі правамі, таму абарона спажыўца з’яўляецца надзённай палітычнай задачай. Яна павінна быць часткай шырокай спажывецкай палітыкі, якая шукае раўнавагу паміж інтарэсамі спажыўцоў і эканомікі для таго, каб забяспечыць у Беларусі высокую ступень якасці жыцця.

9.2.4. Надзейная, шырокая і дзелавая інфармацыя аб прадуктах і іх якасці робіць магчымым адказныя спажывецкія паводзіны. Абарона спажыўца – гэта справа не толькі дзяржавы, яна залежыць таксама ад удзелу і адказнасці вытворцаў, перапрацоўшчыкаў, гандлюючых прадпрыемстваў і спажыўцоў. БХД не вітае аніякага кіравання спажываннем з боку дзяржавы.

### 9.3. Аснова новай эканомікі Беларусі

9.3.1. Беларусь ІІІ тысячагоддзя бачыцца нам як сэрвісны , фінансавы, тэхналагічны, навуковы інфармацыйны цэнтр рэгіянальнага ўзроўню на ключавым геапалітычным скрыжаванні. Інфраструктура транзытных шляхоў, лагістычных цэнтраў, індустрыя гасціннага абслугоўвання, турызму і адпачынку; сфера банкаўскага капіталу і высакаякаснай тэхналагічнай зборкі мусяць стаць асновай эканомікі Беларусі. Інфармацыйныя тэхналогіі, электроніка і бытавая эхніка, інавацыі, легкая прамысловасць і харчаванне у перспектыве здольныя ператварыцца ў візытоўку нашай краіны.

9.3.2. Працавітае, адукаванае, гасціннае і руплівае насельніцтва Беларусі – ідэальныя удзельнікі еўрапейскага рынку паслуг і інфармацыйных тэхналогіяў. Транзытны сэрвіс, абслугоўванне фінансавых, навукова-тэхнічных патокаў паміж Еўропай і Азіяй, Балтыйскім і Чарнаморскім рэгіёнамі, інфармацыйная індустрыя і сфера турызму – магістральны шлях развіцця беларускай эканомікі.

9.3.3. БХД – за стварэнне эфэктыўнай рынкавай эканомікі, якая б дазваляла напоўніцу, развіваць вытворчыя сілы народу і адначасова захоўвала б сацыяльную раўнавагу у грамадстве. Прынцып вольнага рынку і вядучая роля ў ім прыватнае уласнасці не павінныя супярэчыць дзяржаўнаму рэгуляванню стратэгічных галінаў гаспадаркі, якія фармуюць эканамічную бяспеку краіны: энэргетыка, камунальная сыстэма, транспарт, структураўтваральныя прадпрыемствы.

9.3.4. Эканамічная мадэль БХД абапіраецца на развіццё ўнутранага попыту як галоўнага фактару дыверсіфікавання і мадэрнізацыі эканомікі, росту айчыннай вытворчасці. Галоўным стымулам росту нашай эканомікі павінны стаць не нізкі кошт працы, а высокія прыбыткі грамадзян. Па прынцыпе: "Заможныя людзі – высокі спажывецкі і прамысловы попыт – развітая айчынная вытворчасць – моцная эканоміка – заможныя людзі”.

9.3.5. Зыходным пунктам будаўніцтва канкурэнтнага рынкавага парадку, і гэта асабліва важна для Беларусі, з’яўляецца забеспячэнне стабільнасці пакупной здольнасці грошай. У Беларусі павінна быць уведзена нацыянальная валюта (талер), якая ў поўнай меры будзе выконваць функцыі меры кошту, сродка звароту і сродка назапашвання. Нестабільнасць нацыянальнай валюты, якая існуе ў Беларусі ўжо больш за 20 гадоў, не дазваляе ёй эфектыўна выконваць функцыю меры кошту, якую па-ранейшаму выконвае даляр ЗША. Пасля ўвядзення новай валюты Нацыянальны банк павінен праводзіць грашова-крэдытную палітыку, накіраваную на ўтрыманне тэмпу інфляцыі ў межах 3% у год. Гэта створыць неабходныя спрыяльныя ўмовы для працы рынкаў і ўсіх суб’ектаў гаспадарання.

### 9.4. Прыватная ўласнасць

9.4.1. Прыватная ўласнасць павінна стаць дамінуючай формай уласнасці ў эканоміцы. Гэта павінна адбыцца ў ходзе транспарэнтнай і справядлівай прыватызацыі часткі дзяржаўных прадпрыемстваў (за выключэннем тых, якія вырабляюць прадукцыю

абароннага прызначэння, прадпрыемстваў чыгуначнага транспарту, трубаправодаў, газасховішчаў, прадпрыемстваў, якія здабываюць стратэгічна важную для Беларусі калійную соль, іншых вытворчасцяў, якія маюць асаблівую важнасць для краіны, прадпрыемстваў, якія вырабляюць алкагольныя напоі і тытунёвую прадукцыю).

9.4.2. БХД зыходзіць з таго, што прыватная ўласнасць з'яўляецца элементам, які забяспечвае ў рынкавай эканоміцы прыняцце гнуткіх дэцэнтралізаваных рашэнняў, асабліва ў галіне інвестыцыяў. Больш за тое, прыватная ўласнасць з'яўляецца умовай рэалізацыі свабоды індывіда. Калі ў грамадстве пануе калектыўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, тады усталёўваецца панаванне над індывідам эканамічнай улады, якая, карыстаючыся сваёй магутнасцю, абмяжоўвае яго свабоду. У выніку індывід ў межах сацыяльнага парадку мае слабую і несамастойную пазіцыю.

9.4.3. Прыватная ўласнасць гарантуе чалавеку незалежнасць, свабоду і самастойнасць. Прыватная ўласнасць знаходзіцца, такім чынам, у цеснай сувязі з асабістай годнасцю і асабістымі правамі чалавека. Прыватная ўласнасць служыць выразнаму вылучэнню і размежаванню кампетэнцыяў і сфер адказнасці ў эканоміцы. Яна адпавядае патрэбнасці чалавека ў бяспецы і клопаце, што перадусім мае значэнне для сям'і.

9.4.4. Для ладу, заснаванага на прыватнай уласнасці, характэрны актыўны эканамічны абмен, які злучае адну з адной галіны эканомікі і народы на мірнай і добраахвотнай аснове, а не афіцыйна праз службовых асоб. Прыватная ўласнасць дае магчымасць людзям рабіць дабро іншым, самааддана дапамагаючы ім. Дзяржаўная апека дзейнічае халодна і абыякава. У той час як прыватная ўласнасць служыць выразнай дыферэнцыяцыі кампетэнцыяў і сфер адказнасці ў эканоміцы, агульнасць маёмасці вядзе да беспарадку і няяснасці. Пры магутным апараце кіравання вытворчасцю сучаснай эканомікі агульнасць маёмасці азначае перадусім велізарную канцэнтрацыю ўлады, якая можа выклікаць непераадольныя спакусы злоўжывання уладай.

**9.5. Свабоднае прадпрымальніцтва як умова сацыяльнай рынкавай эканомікі**

9.5.1. Прадпрымальнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў са сваёй крэатыўнасцю і гатоўнасцю да дасягненняў уяўляюць сабой апору сацыяльнай рынкавай эканомікі. Для поспеху Беларусі важна, каб яе мужчыны і жанчыны былі гатовыя засноўваць прадпрыемствы і браць на сябе рызыкі. Усё грамадства мае выгаду ад прадпрыемстваў, якія працуюць прадуктыўна і дамагаюцца прыбытку. Імкненне да прыбытку служыць забеспячэнню і працягу развіцця прадпрыемства і, тым самым, выкананню грамадскіх задач.

9.5.2. БХД прызнае сябе прыхільніцай свабоднага прадпрымальніцтва, якое нясе сацыяльную адказнасць. Прадпрымальнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў ствараюць надзейныя ў будучым працоўныя месцы і сваёй рэпутацыяй і сваёй культурнай ідэнтычнасцю фармуюць таксама імідж Беларусі ў свеце. Прадпрымальнікам для паспяховай дзейнасці патрэбна вольная прастора, а таксама прыдатныя рамачныя ўмовы і стымулы. Пры гэтым развіццё прадпрыемства павінна адбівацца на яго фінансавай сітуацыі або на кіраўніку прадпрыемства.

9.5.3. Хто дзейнічае як прадпрымальнік, той бярэ на сябе адказнасць. Гэта датычыцца дзелавых і грамадскіх адносін, навакольнага асяроддзя і будучых пакаленняў і зусім непасрэдна да супрацоўнікаў і іх сем'яў. Гэта прадугледжвае таксама падтрыманне роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі (прынцып роўнай аплаты за роўную працу). Дальнабачныя прадпрыемствы ведаюць, што гэта ў іх жа ўласных інтарэсах. Узорам сацыяльнай рынкавай эканомікі з'яўляецца адказны ўласнік-прадпрымальнік.

**9.6. Наёмныя работнікі**

9.6.1. Для наёмных менеджараў ў Беларусі павінна быць ўзмоцнена асабістая адказнасць. Наёмныя работнікі, таксама як і прадпрымальнікі, сваёй працай, працаздольнасцю і гатоўнасцю працаваць значна спрыяюць поспеху прадпрыемстваў, народнай гаспадаркі ў цэлым і, тым самым, дабрабыту і развіццю нашай краіны. Такім чынам, яны ўносяць адначасова значны ўклад у забеспячэнне свайго існавання і існавання

сваіх родных. Прадпрыемствам патрэбны добра адукаваныя, крэатыўныя і матываваныя супрацоўнікі, каб здолець дамагчыся поспеху.

9.6.2. Наёмным работнікам патрэбны магчымасці для ўдзелу, адказнасць і свабода дзеянняў, каб здолець шырока і паспяхова раскрыць свае здольнасці. Адукацыя і павышэнне кваліфікацыі гарантуюць ім большыя магчымасці для занятасці і працаздольнасці. Адначасова наёмныя работнікі маюць патрэбу для планавання свайго уласнага жыцця ва ўмовах удалай страхавой сістэмы. Яны маюць права на суразмерны ўдзел у грамадскім дабрабыце.

9.6.3. БХД выступае за тое, каб асобны наёмны работнік больш актыўна, чым да гэтага часу, удзельнічаў у поспеху і капітале прадпрыемстваў. Гэта адкрывае для працоўных дадатковыя крыніцы даходаў, дадатковае забеспячэнне па старасці, стварае больш справядлівасці і павышае ідэнтыфікацыю супрацоўнікаў са сваім прадпрыемствам. Страхаванне неплацежаздольнасці павінна быць максімальна карпаратыўным і ўлічваць асаблівыя ўмовы пэўнага прадпрыемства.

9.6.4. БХД выступае за ўсеагульную занятасць. Праблемы беспрацоўя мы прапануем вырашаць за кошт сістэмы грамадзкіх працаў (аплатнае упарадкаванне, уладкаванне, азеляненне, упрыгожванне гарадоў і мястэчак, весак, дарогаў; служэнне ў дабрачынных установах; удзел у сацыяльных праектах, якія замаўляюць муніцыпалітэты і паветы). Шырокае укараненне сістэмы грамадзкіх працаў здольна надаць працэсу пераменаў наглядны і ўсеахопны характар.

## 9.7. Прамысловасць

9.7.1. Беларуская індустрыя мусіць пазбаўляцца ад цяжкай спадчыны савецкай гігантаманіі і вайскова-прамысловага комплексу. Вытворчасць ІІІ тысячагодздзя– гэта навукаёмістыя і працаёмістыя высокатэхналагічныя галіны, здольныя сфармаваць экспартны патэнцыял Беларусі: машынабудаванне і біяхімія,радыёэлектроніка і электратэхніка, выраб сродкаў тэлекамунікацый і экалагічных будаўнічых матэрыялаў, фармацэўтыкі і палімераў, высокаякасных тавараў лёгкай прамысловасці і прадуктаў харчавання.

9.7.2. Важнай задачай у справе перабудовы прамысловасці будзе карэнная змена яе структуры: праца – і навукаёмістыя вытворчасці атрымаюць ільготы, матэрыяла- і-энэргаёмістыя – новыя падаткі; экалагічна шкодная прамысловасць саступіць месца альтэрнатыўным ды інавацыйным праектам; прыярытэт будзе нададзены экспартным галінам і вырабу канкурэнтаздольнай на сусветным рынку прадукцыі.

## 9.8. Сельская гаспадарка

9.8.1. Беларусь мае цудоўную базу для вядзення сучаснай сельскай гаспадаркі: на кожнага жыхара краіны прыпадае па 0,7 гектары ворнай зямлі (гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у свеце). Эфэктыўна выкарыстаць гэтае велізарнае багацце змогуць як буйнатаварныя, так і індывідуальныя фермерскія гаспадаркі Своеасаблівы імпульс аграрным адносінам павінная прыдаць прыватная ўласнасць на зямлю. Беларусь, традыцыйна моцная у галіне сельскагаспадарчай вытворчасці, мае ўсе перадумовы не толькі для забеспячэння уласных патрэбаў у харчаванні, але і для экспарту канкурэнтаздольнай прадукцыі суседзям.

9.8.2. У сельскай гаспадарцы БХД выступае за перадачу зямлі тым, хто на ёй працуе. Наш прыярытэт – развіццё фермерскіх гаспадарак. Аграрная рэформа мусіць ісці паслядоўна, але хутка. На першым этапе паспяховыя (даходныя) сельскагаспадарчыя прадпрыемствы атрымаюць права арэнды зямлі і пэўныя льготы на 5 гадоў, а ворная зямля, што знаходзіцца ў карыстанні стратных ААТ, былых калгасаў, саўгасаў, стане асноваю зямельнага рынку Беларусі. Ворыва можна будзе выкупіць або арандаваць, атрымаўшы крэдыт на набыццё тэхнікі, угнаенняў, насення праз адмысловы Зямельны банк. Купляць зямлю будуць мець права толькі грамадзяне Беларусі. Права распараджэння і размеркавання зямлі будзе нададзена органам мясцовага самакіравання.

9.8.3. На другім этапе рэформы рынак зямлі будзе створаны вакол гарадоў, з улікам патрэбы пад забудову – там распараджацца наданнем зямлі ў валоданне ці арэнду будуць павятовыя улады.

9.8.4. Трэці этап рэформы – прыватызацыя буйных і даходных вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

9.8.5. Нарэшце на апошнім этапе ўмовы і падаткі для ўсіх , хто працуе на зямлі, будуць ураўнаваныя. У выніку рэформы кожны кавалак ворыва атрымае гаспадара, а кожны гектар дзяржаўнай зямлі – эфектыўнага карыстальніка ці распарадчыка.

9.9. Народная падтрымка эканамічнай палітыкі і макраэканамічныя мэты

9.9.1. Дзяржаўная эканамічная палітыка павінна быць зразумелай грамадзянам, паслядоўнай, адкрытай і сумленнай. Палітыкі павінны пераканаць людзей у яе правільнасці. Яна павінна быць тактычна правільна выбудавана, гэта значыцца арыентавацца не толькі на доўгатэрміновы, канчатковы вынік, але і дэманстраваць сваю пераканаўчасць і эфектыўнасць у разумныя, з пункту гледжання чакання насельніцтва, тэрміны.

9.9.2. У макраэканамічнай палітыцы БХД бачыць дасягненне чатырох узаемазвязаных мэт без абсалютызацыі якой-небудзь з іх:

-Устойлівыя тэмпы эканамічнага росту. Высокія тэмпы росту рэальнага ВУП на душу насельніцтва не павінны станавіцца дамінуючай мэтай, а быць натуральным вынікам працы экономікі і эканамічнай палітыкі.

-Дасягненне высокай занятасці: беспрацоўе не павінна перавышаць натуральнага ўзроўню. Пры гэтым павінна быць зведзена да мінімуму схаванае беспрацоўе і забяспечана годная сацыяльная абарона беспрацоўных.

-Стабільная пакупная здольнасць грошай. Гадавая інфляцыя не павінна перавышаць ўзроўню ў 3%. Гэта асабліва важна для Беларусі, якая больш за дваццаць гадоў пакутуе ад высокай інфляцыі.

-Раўнавага знешняга гандлю. Дасягненне дадатнага сальда гандлёвага баланса ў памеры 1-2%.

9.9.3. Нашай галоўнай мэтай з’яўляецца фармаванне ўстойлівага даверу да экономікі Беларусі. Дзяржава павінна гарантаваць абарону інтарэсаў прыватных і карпаратыўных інвестараў, перш за ўсё ад свавольства кантралюючых органаў, бюракратыі і карупцыі.

9.9.4. Фіскальная палітыка дзяржавы павінна грунтавацца на павазе да падаткаплацельшчыкаў, што павінна выяўляцца ў простых, празрыстых і зразумелых формах выплат падаткаў і збораў. Колькасць падаткаў павінна быць зведзена да мінімуму пры максімальнай прастаце і празрыстасці. Істотныя змены ў падатковым заканадаўстве павінны ўступаць у сілу не раней, чым праз каляндарны год пасля іх заканадаўчага прыняцця.

**9.10. Прыватызацыя**

9.10.1. БХД выступае за адкрытую, паслядоўную і прадуманую прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці ад дробнага да буйнага пры захаванні прынцыпа прывілеяванага ўдзелу ў ёй грамадзян Беларусі. Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці заклікана засцерагчы грамадзян Рэспублікі Беларусь ад эканамічнай неабароненасці і беднасці. Працэдура прыватызацыі і далейшае кіраванне актывамі павінна насіць абсалютна празрысты характар. Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці павінна ажыццяўляцца на прынцыпах справядлівасці і роўнай даступнасці для грамадзян Беларусі.

9.10.2. БХД выступае за паступовае ўцягванне ў абарот часткі зямельных рэсурсаў. Правы валодання зямельнымі надзеламі павінны быць дадзеныя бязвыплатна ўсім грамадзянам Рэспублікі Беларусь, пры гэтым памер надзела павінен залежаць ад месцазнаходжання ўчастка. За плату грамадзяне Беларусі павінны мець магчымасць купляць зямлю на свабодных аўкцыёнах. Грамадзяне замежных дзяржаў павінны мець права атрымліваць зямлю ў арэнду на спецыяльных аўкцыёнах.

9.10.3. БХД прапануе адкрыты, паслядоўны і абдуманы пераход сельскай гаспадаркі ў рукі эфектыўных уласнікаў. У бліжэйшай будучыні павінна захавацца існуючая практычна

ва ўсіх развітых краінах датацыйнасць сельскай гаспадаркі, якая, аднак, не павінна заахвочваць неэфектыўных сельскагаспадарчых вытворцаў.

9.10.4. У эканамічнай сферы дзяржава павінна канцэнтраваць свой удзел на развіцці важнейшых сектараў эканомікі, якія маюць стратэгічнае значэнне. Гэта, у першую чаргу, навука, інавацыі, высокія тэхналогіі, развіццё інфраструктуры, траспартныя і транзітныя магчымасці.

9.10.5. БХД выступае за больш хуткае ўступленне Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА). Гэта ў найбольшай меры дасць магчымасць атрымаць адкрытай эканоміцы Беларусі выгады ад міжнароднага гандлю і міжнароднага падзелу працы.

9.10.6. Найлепшай асновай сацыяльнай палітыкі дзяржавы з'яўляецца эфектыўна працуючая эканоміка. У сучасным свеце краіны з такімі эканомікамі маюць і найбольш развітыя сістэмы сацыяльнай абароны.

**9.11. У сферы гаспадаркі БХД выступае за:**

9.11.1. – сацыяльна арыентаваную рынкавую эканоміку, якая дае магчымасць самому клапаціцца пра сябе і пра сваіх блізкіх, робіць эканамічна магчымай салідарнасць, дабрабыт і бяспеку для ўсіх, саўдзел для тых, хто не можа ўласнымі сіламі дасягнуць прымальнага жыццёвага ўзроўню;

9.11.2. – канкурэнтны эканамічны парадак заклікаены забяспечыць канкурэнцыю ўсюды, дзе яна магчыма, ажыццяўляючы рэгуляванне там, дзе гэта неабходна;

9.11.3. – кантроль за дзейнасцю натуральных манаполіяў і антыманапольную палітыку ў іншых галінах;

9.11.4. – абарону правоў спажыўца і прадастаўленне надзейнай праўдзівай інфармацыі пра прадукцыю;

9.11.5. – уведзенне новай нацыянальнай валюты – талера, які ў поўнай меры будзе выконваць функцыі меры кошту, сродка звароту і сродка назапашвання;

9.11.6. – утрыманне тэмпа інфляцыі ў межах 3% у год;

9.11.7. – дасягненне дадатнага сальда гандлёвага баланса ў памеры 1-2%;

9.11.8. – свабоднае развіццё прадпрымальніцтва ў Беларусі;

9.11.9. – дамінаванне прыватнай ўласнасці ў эканоміцы;

9.11.10. – транспарэнтную і справядлівую прыватызацыю часткі дзяржаўных прадпрыемстваў (за выключэннем прадпрыемстваў абароннага комплекса, чыгуначнага транспарта, трубаправодаў, газасховішчаў, алкагольнай і тытунёвай прадукцыі, "Беларуськалія");

9.11.11. – прывілеяваны ўдзел ў прыватызацыі грамадзян Беларусі;

9.11.12. – перадачу ва ўласнасць зямельных надзелаў для ўсіх грамадзян Беларусі;

9.11.13. – права прыватнай ўласнасці на зямлю для грамадзян Беларусі;

9.11.14. – простыя, празрыстыя і зразумелыя формы выплат падаткаў і збораў, колькасць якіх павінна быць зведзена да мінімуму пры максімальнай прастаце і празрыстасці;

9.11.15. –стабільнасць падаткавага заканаўства: істотныя змены павінны ўступаць у сілу не раней чым праз каляндарны год пасля іх заканадаўчага прыняцця;

9.11.16. – інфармаванасць народа пра мэты эканамічнай палітыкі для дасягнення разумення ў працэсе ажыццяўлення рынкавых рэформ, якія абавязкова мусяць быць абмежаваныя разумнымі тэрмінамі;

9.11.17. – уступленне Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

**9.12. Энэргетыка**

9.12.1. БХД бачыць энэргетычную бяспеку Рэспублікі Беларусь у некалькіх вымярэннях: эканамічным, палітычным і экалагічным. Сённяшняя энэргетыка Беларуа – неэфэктыўная, цалкам залежная ад паставак расейскага паліва – з'яўляецца сапраўднай эканамічнай праблемай. У будучыні Беларусі неабходна яе карэнная мадэрнізацыя і экалагізацыя, пераарыентаванне на пастаўкі энэрганосьбітаў з розных крыніцаў (напрыклад, паводле схемы Балта-Чарнаморскага калектару), развіццё альтэрнатыўнай (ветравой,

сонечнай, біялагічнай) энэргетыкі. Перспектыўнае інвеставанне ў будаўніцтва ЦЭС і АЭС на тэрыторыі суседніх дзяржаў з наступным атрыманнем долі электраэнэргіі. Разам з тым, еўрапейскім стандартам з'яўляецца строгая эканомія энэргіі – і таму беларусы павінныя вучыцца ставіцца да цяпла і святла вельмі ашчадна.

9.12.2. Пры залежнасці Беларусі ад імпарту паліўна-энэргетычнай сыравіны надзейнае, экалагічна нейтральнае і эканамічна мэтазгоднае энэргазабеспячэнне з'яўляецца палітычным пытаннем першачарговай важнасці.

9.12.3. Энэргетычная бяспека краіны ў значнай ступені залежыць ад вырашэння пытання паставак энэрганосьбітаў. БХД лічыць неабходным зменшыць рызыкі залежнасці нашай краіны ад імпарта энэргарэсурсаў.

9.12.4. Дыверсіфікацыя маршрутаў дастаўкі і транзіту энэргетычных рэсурсаў зменшыць залежнасць Беларусі ад аднаго пастаўшчыка і, адпаведна, звядзе да мінімуму звязаныя з гэтым патэнцыйныя рызыкі. Крыніцы атрымання і шляхі паставак паліўна-энэргетычнай сыравіны павінны быць пашыраны.

9.12.5. Бяспека паставак энэрганосьбітаў спрыяльна паўплывае на лібералізацыю ўнутранага энэргетычнага рынку краіны і ўнутраныя цэны на энэргію.

9.12.6. БХД лічыць неабходным павялічваць супрацоўніцтва з ЕС і суседнімі краінамі ў шматбаковых супольных ініцыятывах у сферы энэргетыкі.

9.12.7. Энэргетычнае партнёрства з дзяржавамі-пастаўшчыкамі і дзяржавамі-транзіцёрамі павінна быць інтэнсіфікавана праз далучэнне нашай краіны да агульнай энэргетычнай палітыкі ЕС. Рэалізацыя ў Беларусі канцэпцыі энэргетычнай бяспекі "Усходняга партнёрства" дазволіць вырашыць шэраг экалагічных і эканамічных праблем краіны.

9.12.8. Пашырэнне інфраструктуры для транспамежнага гандлю электраэнэргіяй, газам і нафтай станоўча паўплывае на развіццё энэргетычнага рынку і коштаў.

## 9.13. Мясцовыя крыніцы энэргіі і энэргаэфектыўнасць

9.13.1 Асновай энэргетычнай бяспекі нашай краіны з'яўляецца выкарыстанне шырокага і сбалансаванага спектру розных крыніц энэргіі. Павелічэнне ў энэргабалансе краіны долі мясцовых відаў паліва і альтэрнатыўных крыніц энэргіі дазволіць зменшыць залежнасць ад паставак энэрганосьбітаў з іншых краін.

9.13.2. Узнаўляльныя крыніцы энэргіі – такія як мясцовыя віды энэрганосьбітаў – могуць зрабіць істотны ўнёсак у павелічэнне энэргетычнай бяспекі і захаванне экалагічнай раўнавагі. Яны ствараюць шанцы для эканамічнага росту, развіцця інавацыйных тэхналогіяў і новых працоўных месцаў.

9.13.3. Ва ўмовах абмежаванага рэсурснага патэнцыялу Беларусі БХД бачыць неабходным павышэнне эфектыўнасці выкарыстання паліўна-энэргетычных рэсурсаў на аснове навукова-тэхнічных дасягненняў. Для павелічэння канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі і забеспячэння высокага ўзроўню жыцця грамадзян энэргаёмістасць нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі неабходна знізіць як мінімум у два разы.

9.13.4. У адпаведнасці з прынцыпам субсідыярнасці хатнія гаспадаркі, прадпрыемствы і мясцовыя супольнасці павінны граць большую ролю ў фармаванні контураў сістэмы энэргазабеспячэння краіны.

## 9.14. Атамная энэргетыка

9.14.1. У бліжэйшы час немагчыма адмовіцца ад выкарыстання атамнай энэргетыкі ў вытворчасці электраэнэргіі ў Беларусі. На сённяшні дзень Беларусь імпартуе электраэнэргію, выробленую на атамных станцыях за мяжой. Рэалізацыя ўласнага атамнага праекту дазволіць павысіць энэргетычную дыверсіфікацыю і зменшыць залежнасць краіны ад імпарту вуглевадародных энэргарэсурсаў. Разам з тым БХД выступае супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС, бо лічыць гэты праект палітычна абумоўленым энэргетычнай стратэгіяй Расіі і не адпаведным нацыянальным інтарэсам.

9.14.2. Пры рэалізацыі атамнага праекту неабходна ўлічваць, што з яго дапамогай немагчыма цалкам вырашыць праблему энэргазабеспячэння і энэргетычнай незалежнасці.

Для працы атамнай станцыі неабходна закупаць ядзернае паліва, якога Беларусь не мае, а краін –прадаўцоў ядзернага паліва значна менш, чым краін – прадаўцоў вуглевадароднай сыравіны. Таксама існуе пытанне вычарпальнасці сыравіны для ядзернага паліва пры тых тэхналогіях, якія цяпер прымяняюцца ў атамнай энергетыцы. Актуальным пытаннем застаецца надзейнае захоўванне і ўтылізацыя радыёактыўных адыходаў. Дзяржава мусіць максімальна сур'ёзна падыходзіць да пытання бяспекі АЭС, пралічваць усе магчымыя негатыўныя наступствы і мець план на выпадак надзвычайных сітуацыяў на АЭС.

9.14.3. Развіццё навукі і тэхналогіяў падводзіць чалавецтва да сапраўды надзейнай, экалагічна бяспечнай і невычарпальнай энергетыкі на аснове тэрмаядзернага сінтэзу, што літаральна з'яўляецца энергіяй Сонца на Зямлі. Але вытворчаць у прамысловых маштабах тэрмаядзернай энергіі з'яўляецца далёкатэрміновай перспектывай.

9.14.4. Улічваючы трагічны досвед катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, падчас якой найбольш за ўсіх пацярпела Беларусь, і тыя жудасныя наступствы ад катастрофы, БХД лічыць магчымым рэалізацыю атамнага праекта ў Беларусі толькі па выніках шырокага экспертнага абмеркавання і усенароднага рэферэндуму.

### 9.15. Адказнае энергетычнае гаспадаранне

9.15.1. Энергаэфектыўнасць, эканомія і выкарыстанне ўзнаўляльных альтэрнатыўных крыніц энергіі з'яўляюцца асноўнымі задачамі нашай палітыкі ў сферы аховы навакольнага асяроддзя.

Каб зменшыць пагрозы энергетычнай бяспекі Беларусі, БХД выступае за:

9.15.2. – развіццё энергазберагальных тэхналогіяў і прыцягненне еўрапейскіх інвестыцыяў у энергетычны сектар краіны;

9.15.3. – структурную перабудову эканомікі краіны разам са зніжэннем у ёй долі энергаёмістых галін;

9.15.4. – стварэнне справядлівых ўмоў для энергетычнага бізнэсу, стабільнага і законнага інвеставання ў энергетыку краіны;

9.15.5. – змяншэнне долі прыроднага газу ў вытворчасці цеплавой і электрычнай энергіі да 40-45% да 2020 года;

9.15.6. – павелічэнне аб'ёму стратэгічных запасаў асноўных паліўна-энергетычных рэсурсаў, у тым ліку за кошт пашырэння аб'ёму захоўвання газа ў падземных сховішчах газа краіны;

9.15.7. – паскарэнне мадэрнізацыі вытворчых фондаў у цеплаэнергетычным комплексе за кошт прыватызацыі і прыцягнення інвестараў, у тым ліку замежных;

9.15.8. – павелічэнне колькасці ветравых установак і давядзенне іх выкарыстання да максімальна магчымай магутнасці да 2020 года;

9.15.9. – удасканаленне арганізацыйных і эканамічных механізмаў стымулявання энергазберажэння;

9.15.10. – змяншэнне спажывання цеплавой энергіі за кошт рэформы ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

9.15.11. – распрацоўку праграмы па ўстойліваму будаўніцтву і павелічэнню энергаэфектыўнасці існуючых будынкаў;

9.15.12. – правядзенне шырокай публічнай дыскусіі ў беларускім грамадстве і ўсенароднага рэферэндуму наконт развіцця атамнай энергетыкі ў Беларусі;

9.15.13. – далучэнне Беларусі да агульнаеўрапейскай сістэмы энергетычнай бяспекі праз ратыфікацыю і паўнавартаснае выкананне палажэнняў Энергетычнай хартыі;

9.15.14. – развіццё рэгіянальнага супрацоўніцтва ў галіне энергетыкі з удзелам Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы;

9.15.15. – рэалізацыю праекту транзіта электраэнергіі паміжБеларуссю, Украінай, Польшчай і Літвой і стварэнне паўнавартаснага энергетычнага рынку, інтэграванага ў энергетычны рынак ЕС;

9.15.16. – пашырэнне кааперацыі з краінамі Паўночнай Еўропы, Персідскай Затокі, Цэнтральнай Азіі як асноўных рэгіёнаў – пастаўшчыкоў энергетычных рэсурсаў;

9.15.17. – перамовы з Польшчай і Украінай у галіне распрацоўкі залежаў сланцавага газа;

9.15.18. – распрацоўку праграм эксплуатацыі вугальнага метана ў кансорцыюме з Украінай.

# 10. САЦЫЯЛЬНАЯ АБАРОНА

## 10.1. Сацыяльная палітыка БХД

10.1.1. Сацыяльная палітыка БХД накіравана на паляпшэнне жыццёвых шанцаў людзей і ўзмацненне салідарнасці, справядлівасці, адказнасці і спагады ў грамадстве. Спалучэнне асабістай адказнасці, дзяржаўных паслуг і грамадзянскай актыўнасці з'яўляецца неабходным для гарантавання сацыяльнай бяспекі.

10.1.2. Падчас фармавання сістэм сацыяльнай абароны мы павінны арыентавацца на тры прынцыпы: яны павінны замацоўваць прынцып асабістай адказнасці, адпавядаць прынцыпу салідарнасці пакаленняў і не парушаць прынцып справядлівасці паслуг. Сістэмы сацыяльнага страхавання павінны ўлічваць розныя патрэбы, жыццёвыя сітуацыі і этапы жыцця чалавека.

10.1.3. Мы выступаем за ўзмацненне празрыстасці, эфектыўнасці, канкурэнцыі, дэцэнтралізацыі і прынцыпу субсідыярнасці ва ўсіх сістэмах сацыяльнага страхавання.

10.1.4. Фінансавай базай сацыяльнай абароны БХД бачыць адмысловыя пазабюджэтныя дзяржаўныя фонды – Пенсійны фонд, Фонд сацыяльнага страхавання на выпадак часовай непрацаздольнасці, мацярынства і няшчасных выпадкаў, Дзяржаўны фонд медыцынскага страхавання і рэгіянальныя фонды абавязковага медыцынскага страхавання.

10.1.5. Рашэнне задач сацыяльнага забеспячэння і медыцынскага абслугоўвання павінна быць максімальна набліжана да жыхароў краіны. БХД лічыць неабходным павялічыць ролю мясцовых самакіраванняў і прафсаюзаў у пытаннях сацыяльнага забеспячэння, а ў пытаннях аховы здароўя – рэгіянальнай адміністрацыі і самакіравання.

## 10.2. Пенсійная сістэма

10.2.1. Існуючая ў Беларусі пенсійная сістэма вычарпала сябе і ўжо зараз не можа забяспечваць годнага існавання грамадзян пенсійнага ўзросту. Дэмаграфічны крызіс і старэнне насельніцтва, якія няўхільна прагрэсуюць у Беларусі, абумоўліваюць адыход ад аднаўзроўневай размеркавальнай пенсійнай сістэмы.

10.2.2. БХД бачыць паляпшэнне ўзроўню жыцця грамадзян пенсійнага ўзросту і непрацаздольных грамадзян за кошт спалучэння абавязковага і дадатковага добраахвотнага пенсійнага страхавання, размеркавальных і накапляльных механізмаў фінансавання.

10.2.3. Найлепшым для Беларусі шляхам па ўдасканаленню пенсійнай сістэмы з'яўляецца ўвядзенне трохузроўневай сістэмы. Яна спалучае, з аднаго боку, салідарнасць пакаленняў, а з другога – асабістую зацікаўленасць кожнага чалавека ў забеспячэнні сваёй будучыні.

10.2.4. Першы ўзровень пенсійнай сістэмы складаюць сацыяльныя пенсіі, другі – працоўныя (страхавыя) і трэці – дадатковыя недзяржаўныя пенсіі.

10.2.5. Сацыяльныя пенсіі гарантуюцца дзяржавай. Сродкі на першую ступень паступаюць у выглядзе адмысловых унёскаў наймальнікаў і прадпрымальнікаў у дзяржаўны Пенсійны фонд. Памер гэтай часткі пенсіі адпавядае пражытковаму мінімуму альбо пэўнай частцы ад сярэдняга заробку па краіне.

10.2.6. Другая ступень уяўляе накапляльную сістэму, якая прадугледжвае персанальныя рахункі ў Накапляльным фондзе як частцы дзяржаўнага Пенсійнага фонду. Выплаты ў Накапляльны фонд паступаюць як ад дзяржавы, так і прыватных асоб. Накапляльны фонд скіроўвае свае сродкі ў каштоўныя паперы і іншыя фінансавыя інструменты для атрымання прыбытку. Прыбыткі Фонда накіроўваюцца на выплату другой накапляльнай часткі пенсіі. Пасля смерці пенсіянера рэшту яго назапашванняў у Накапляльным фондзе атрымліваюць яго спадкаемцы. Накапляльны фонд уключае ў сябе таксама прафесійнае пенсійнае страхаванне асобных катэгорыяў работнікаў.

10.2.7. Трэці ўзровень уяўляе сабой дадатковую і дабраахвотную частку пенсійнай сістэмы. Грамадзяне могуць ствараць дадатковыя накапленні для сваёй будучай пенсіі, робячы ўнёскі ў прыватныя пенсійныя фонды. Грашовыя сумы, сплочваемыя ў прыватныя фонды, інвестуюцца ў каштоўныя паперы, акцыі і іншыя інвестыцыйныя праекты. У выніку, заробленыя дывідэнты могуць павялічваць выплочваемыя сумы пенсійнага фонду.

10.2.8. Сацыяльныя віды пенсіяў па інваліднасці, па дагляду, па адсутнасці карміцеля павінны адпавядаць памеру пражытковага мінімуму па краіне.

10.2.9. Пенсійная рэформа праводзіцца адначасова з рэформамі ў іншых сферах эканомікі. Неабходным з'яўляецца забеспячэнне стабільнасці нацыянальнай валюты і нізкага ўзроўню інфляцыі, стварэнне развітага ўнутранага фінансавага рынку і фармаванне інстытуцыйнай базы сістэмы назапашвання, а менавіта кіруючых кампаніяў, дэпазітарыяў, кантралюючых і наглядных органаў.

10.2.10. Сённяшнія пенсіянеры зрабілі вялікі ўнёсак у стварэнне нацыянальнага багацця нашай краіны. Яны не могуць быць пазбаўлены магчымасці атрымання сваёй долі ў размеркаванні прыбыткаў ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці.

10.3. У галіне сацыяльнай абароны БХД выступае за:

10.3.1. – стварэнне Накапляльнага пенсійнага фонду і персанальных накапляльных рахункаў, на якія работнікі адлічваюць да 6,5% свайго заробку;

10.3.2. – перадачу ў Накапляльны пенсійны фонд не менш за 25% акцыяў буйных дзяржаўных прадпрыемстваў або 25% сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці;

10.3.3. – паступовае пераразмеркаванне абавязковай страхавой нагрузкі паміж працадаўцам і работнікам;

10.3.4. – удасканаленне механізма стымулявання больш позняга выхаду на пенсію;

10.3.5. – спрыянне прысутнасці сталых людзей на рынку працы;

10.3.6. – выраўноўванне ўзросту выхаду на пенсію для мужчын і жанчын – да 60 гадоў з 2020 года і да 2025-2028 гадоў – да 63 гадоў;

10.3.7. – фінансаванне датэрміновых пенсіяў за кошт мэтавых унёскаў працадаўцы;

10.3.8. – развіццё прыватных пенсійных інвестыцыйных фондаў;

10.3.9. – аднясенне страхавых унёскаў па страхаванню дадатковых пенсіяў на сабекошт пры адлічэнні як у дзяржаўныя, так і недзяржаўныя пенсійныя фонды;

10.3.10.– сістэму надбавак да пенсіі асобам, якія маюць не менш за двух дзяцей;

10.3.11. – заканадаўчае рэгуляванне сістэмы пажыццёвай рэнты.

**10.4. Сістэма аховы здароўя і медыцынскае страхаванне**

10.4.1. БХД імкнецца, каб у Беларусі, незалежна ад даходаў, узросту і рызыкі, кожны чалавек атрымліваў якаснае, набліжанае да месца пражывання медыцынскае забеспячэнне. З увагі на дэмаграфічныя змены, медыцынскі і медыка-тэхнічны прагрэс павінны развівацца структура, арганізацыя і фінансаванне беларускай медыцыны.

10.4.2. Для паляпшэння фінансавання нашай медыцыны мы лічым неабходным паступовы пераход ад бюджэтнага фінансавання медыцыны да сістэмы абавязковага і добраахвотнага медыцынскага страхавання, стварэння роўных умоў для дзяржаўных і прыватных медыцынскіх установаў.

10.4.3. Фонд абавязковага медыцынскага страхаванняпавінен быць перададзены дзяржаўным страхавым кампаніям. Сродкамі добраахвотнага медыцынскага страхавання могуць кіраваць як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя страхавыя кампаніі.

10.4.4. Мы бачым неабходнасць правядзення рэформы першаснай тэрапеўтычнай дапамогі з увядзеннем такіх інстытутаў, як сямейныя лекары *(больш падрабязна пра сямейных лекараў гл. у раздзеле "Моцная сям'я – моцная Беларусь")* і прыватныя медыцынскія кабінеты першага (нізавога) ўзроўню медыцынскай дапамогі.

10.4.5. Кожны чалавек нясе адказнасць і зацікаўлены ў захаванні свайго здароўя і папярэджанні захворванняў. Важным крокам да ўзмацнення асабістай адказнасці, прафілактыкі і падтрымання здароўя грамадзян з'яўляецца пашырэнне механізму

суплацяжоў за медыцынскія паслугі. Узровень суплацяжоў чалавека за медыцынскія паслугі павінен залежаць ад ўзроўня яго даходаў.

10.4.6. Рэфармаванне на макраўзроўні павінна пачынацца з рэформ кіравання сістэмай аховы здароўя, абароны навакольнага асяроддзя і сацыяльнай абароны насельніцтва. БХД лічыць неабходным інтэграцыю службаў аховы здароўя і сацыяльнай абароны шляхам стварэння Міністэрства аховы здароўя і сацыяльнага развіцця. Беларуская сістэма аховы здароўя павінна імкнуцца да дэцэнтралізацыі сваіх структур і асноўвацца на прынцыпах плюралізма і самакіравання.

**10.5. У галіне аховы здароўя БХД выступае за:**

10.5.1. – вызначэнне дакладных дзяржаўных абавязальніцтваў у дачыненні да відаў і аб'ёмаў медыцынскай дапамогі насельніцтву. Гэта прадугледжвае ўвядзенне базавага набору медыцынскай дапамогі за кошт абавязковага медыцынскага страхавання;

10.5.2. – прырост выдаткаў на ахову здароўя на 1,5% ад ВУП кожныя 2-3 гады і давядзенне гэтага паказніка да 10-12% ад ВУП;

10.5.3. – адлічэнне ў фонд абавязковага медыцынскага страхавання сродкаў ад абароту спіртных напояў, табачных вырабаў, гульнявога бізнесу, штрафаў за экалагічныя парушэнні;

10.5.4. – падатковыя ільготы для сацыяльна адказных кампаніяў;

10.5.5. – увядзенне празрыстага механізму суплацяжоў насельніцтва пры аказанні медыцынскай дапамогі: набыццё хворымі лекаў, харчаванне за свой кошт, выкарыстанне асабістай пасцельнай бялізны і посуду ў стацыянары. Суплацяжы, якія ўносіць грамадзянін за год, не павінны перавышаць сумы мінімальнага месячнага заробку па краіне.

10.5.6. – вызначэнне ўрадам ліміту росту выдаткаў на стацыянарную дапамогу;

10.5.7. – увядзенне інстытуту сямейных лекараў;

10.5.8. – папраўкі ў дзеючае падатковае заканадаўства, якія прадугледжваюць вылік асабістых выдаткаў на медыцынскую дапамогу з базы падаткаабкладання пры вылічэнні падаходнага падатку;

10.5.9. – інфармацыйную сістэму маніторынгу дзяржаўных гарантыяў у галіне аховы здароўя разам са стварэннем для гэтых мэт адмысловага центра – Цэнтральнага НДІ арганізацыі і інфарматызацыі аховы здароўя;

10.5.10. – забарону практыкі "платных кабінетаў" пры бюджэтных паліклініках;

10.5.11. – адкрыццё медыцынскіх прадпрыемстваў гаспадарча-разліковай формы;

10.5.12. – увядзенне свабоднага цэнаўтварэння для арганізацыяў, якія не фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту;

10.5.13. – маніторынг коштаў на платныя медыцынскія паслугі дзяржавай шляхам паведамляльнага характару рэгістрацыі прэйскурантаў коштаў;

10.5.14. – замацаванне "падатковага выліку" як у выпадку набыцця поліса добраахвотнага страхавання па кампенсацыі медыцынскіх выдаткаў, так і пры непасрэднай аплаце за лячэнне ў касу медыцынскай арганізацыі;

10.5.15. – льготы арганізацыям і асобам, якія займаюцца медыцынскай дабрачыннасцю;

10.5.16. – стварэнне "пазітыўных" і "негатыўных" спісаў лекаў, выдаткі на набыццё якіх пакрываюцца ці не пакрываюцца дзяржавай за кошт медыцынскай страхоўкі, выкарыстанне лекаў-джэнэрыкаў;

10.5.17. – стварэнне фармулярнай сістэмы лекавых сродкаў;

10.5.18. – ажыццяўленне механізму дэцэнтралізацыі сістэмы забеспячэння лекамі;

10.5.19. – гарманізацыю заканадаўства ў сферы лекавага звароту і фармацэўтычнай дзейнасці з міжнароднымі дакументамі;

10.5.20. – узмацненне дзяржаўнай падтрымкі айчыннай медыцынскай і фармацэўтычнай прамысловасці з мэтай зніжэння дэфіцыту айчынных і высокіх коштаў імпартных лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння;

10.5.21. – удасканаленне структуры санітарна-эпідэміялагічнай службы шляхам узбуйнення установ, стварэння міжмуніцыпальных і міжрэгіянальных лабараторных цэнтраў і цэнтраў Дзяржэпіднагляду;

10.5.22. – павелічэнне грамадскага ўдзелу ў фармаванні прыярытэтнасці здаровага ладу жыцця і прапагандзе медыцынскіх ведаў як асновы санітарна-эпідэміялагічнага дабрабыту насельніцтва;

10.5.23. – накіраванне эканоміі сродкаў на развіццё аховы здароўя і матэрыяльнае стымуляванне працы медыцынскіх работнікаў.

### 10.6. Страхаванне па часовай непрацаздольнасці, мацярынству і няшчасных выпадках

10.6.1. Сродкі на страхаванне па часовай непрацаздольнасці, мацярынству і няшчасных выпадках павінны акумулявацца ў пазабюджэтным Фондзе сацыяльнага страхавання Рэспублікі Беларусь (ФСС). ФСС бачыцца як самастойная дзяржаўная фінансава-крэдытная установа. Каардынацыя дзейнасці ФСС павінна ажыццяўляцца Міністэрствам аховы здароўя і сацыяльнага развіцця Рэспублікі Беларусь з ўдзелам агульнабеларускіх аб’яднанняў прафсаюзаў і мясцовых самакіраванняў.

10.6.2. У разглядзе спраў і размеркаванні сацыяльнай дапамогі на нізавым узроўні павінны актыўна ўдзельнічаць муніцыпальныя камісіі з прадстаўнікоў мясцовых самакіраванняў і грамадскіх арганізацыяў. Прафесійныя саюзы павінны кантраляваць выдаткі і ўдзельнічаць у фармаванні сацыяльнай палітыкі па санаторна-курортнаму лячэнню і аздараўленню дарослага насельніцтва і дзяцей.

10.6.3. БХД лічыць неабходным узмацненне высілкаў дзяржавы па падтрымцы сям’і ў межах адмысловай дзяржаўнай праграмы "Сямейны капітал" *(больш падрабязна пра сямейны капітал гл. у раздзеле "Моцная сям’я – моцная Беларусь")*.

10.6.4. Дапамога па даглядзе за дзецьмі павінна даваць магчымасць і жанчынам, і мужчынам сумяшчаць працоўнае жыццё з сямейным. Тэрмін выплаты дапамогі можа дзяліцца паміж абодвума бацькамі пароўну.

10.6.5. Страхаванне па беспрацоўі з’яўляецца салідарным страхаваннем. Дапамога па беспрацоўі павінна забяспечваць годнае існаванне грамадзяніна на тэрмін, які неабходны для пошуку працы. Працягласць атрымання дапамогі па беспрацоўю павінна залежыць ад працягласці выплаты ўнёскаў работніка і ў працэнтных суадносінах гарантаваць атрыманне дастаткова высокай часткі яго прыбыткаў ад папярэдняй занятасці.

10.6.6. Палітыка дзяржавы ў адносінах да страхавання ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці павінна стымуляваць працадаўцаў да паляпшэння ўмоў працы і прафілактыкі траўматызму.

### 10.7. У галіне страхавання БХД выступае за:

10.7.1. – перадачу ў ФСС не менш за 15% акцыяў буйных дзяржаўных прадпрыемстваў або 15% сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці;

10.7.2. – распрацоўку і прыняцце дзяржаўнай праграмы "Сямейны капітал", якая накіравана на павелічэнне сацыяльнай абароны і дзяржаўнай дапамогі сем’ям з двума і болей дзецьмі;

10.7.3. – прадастаўленне бацькам нованароджаных права на 14 дзён адпачынку з 100% аплатай у сувязі з нараджэннем дзіцяці;

10.7.4. – шырокае выкарыстанне рынкавых механізмаў і надбавак для страхавацеляў у залежнасці ад ўзроўню траўматызму і прафесійных захворванняў на канкрэтным прадпрыемстве;

10.7.5. – стварэнне комплексу мер па павелічэнні зацікаўленасці працадаўцаў у змяншэнні ўзроўню траўматызму, прафілактыцы няшчасных выпадкаў і прафесійных захворванняў;

10.7.6. – павелічэнне памераў падатковых вылікаў на дзяцей да 18 гадоў і ўтрыманцаў да 50% памеру бюджэта пражытковага мінімума на кожнае дзіця, а для асоб, якія маюць права на атрыманне такога выліку ў павялічаным памеры (удовы, ўдаўцы, адзінокія бацькі,

апекуны, папячыцелі і інш), – 100% памеру бюджэта пражытковага мінімума на кожнае дзіця;

10.7.7. – павелічэнне дапамогі па беспрацоўю да 65% прыбыткаў ад папярэдняй занятасці на працягу першых трох месяцаў, 50% – падчас наступных трох месяцаў і 35% – падчас наступных 6 месяцаў, але не менш за бюджэт пражытковага мінімума.

### 10.8. Прафсаюзны рух

10.8.1. БХД выступае за гарантыі правоў усіх працоўных на годную працу і асабістае жыццё. Работнікі павінны валодаць правам на арганізацыю прафесійных саюзаў на ўсіх прадпрыемствах, ва ўсіх арганізацыях і ўстановах пры любых формах уласнасці.

10.8.2. Вольныя і незалежныя арганізацыі работнікаў і працадаўцаў з'яўляюцца незаменнымі і раўнапраўнымі партнёрамі дзяржавы ў дасягненні сацыяльнай справядлівасці і эканамічнага развіцця краіны на агульнанацыянальным, рэгіянальным і лакальным узроўнях.

10.8.3. БХД, кіруючыся прынцыпам субсідыярнасці, лічыць неабходным перадаць прафсаюзам асобныя функцыі ў сацыяльным страхаванні, забеспячэнні матэрыяльных умоў жыцця работнікаў і кантролі бяспекі працы. Паўсюднае заключэнне калектыўных працоўных дамоваў павінна стаць гарантыяй абароны правоў работнікаў на прадпрыемствах усіх форм уласнасці. БХД выступае за больш шчыльнае супрацоўніцтва з прафсаюзным рухам Беларусі дзеля забеспячэння правоў наёмных работнікаў. Гэта будзе спрыяць выкананню агульных для БХД і прафсаюзаў задач па паляпшэнню эканамічнага і сацыяльнага становішча працоўных.

10.8.4. Паглыбленне супрацоўніцтва паміж БХД і прафсаюзамі дазволіць замацаваць прынцыпы хрысціянскай дэмакратыі ў працоўным асяроддзі краіны.

### 10.9. У сферы прафсаюзнай дзейнасці БХД выступае за:

10.9.1. – права на стварэнне незалежных прафесійных саюзаў у паведамляльным парадку без атрымання папярэдняга дазволу дзяржаўных органаў;

10.9.2. – ліквідацыюперашкодаў, якія могуць быць выкліканы патрабаваннем аб юрыдычным адрасе і 10-працэнтнай мінімальнай колькасцю сяброў прафсаюза ад агульнай колькасці работнікаў прадпрыемства;

10.9.3. – забеспячэнне празрыстасці палажэнняў, якія рэгулююць парадак утварэння прафсаюза;

10.9.4. – стварэнне эфектыўнага механізму абароны ад антыпрафсаюзнай дыскрымінацыі і іншых рэпрэсіўных мер у дачыненні да актывістаў працоўнага руху;

10.9.5. – узмацненне адказнасці чыноўнікаў дзяржаўных органаў і кіраўніцтва прадпрыемстваў за ўмяшанне ў дзейнасць прафсаюзаў;

10.9.6. – адмову ад тэрміновых працоўных кантрактаў, за выключэннем абмежаванай колькасці катэгорыяў працоўных;

10.9.7. – прывядзенне норм закона "Аб правядзенні масавых мерапрыемстваў" у адпаведнасць з правам прафесійных саюзаў і арганізацыяў працадаўцаў адстойваць правы працоўных;

10.9.8. – распрацоўку і ўкараненне сістэмы падаткавых ільгот для сацыяльна адказных кампаніяў.

## 11. ПРЫРОДА І ЭКАЛОГІЯ

### 11.1. Ахова навакольнага асяроддзя і экалагічныя праблемы Беларусі

11.1.1. Мы лічым, што эфэктыўная рынкавая эканоміка цалкам сумяшчальная з еўрапейскімі прынцыпамі ашчаднага выкарыстання рэсурсаў, безадкіднасці тэхналогіяў і павагі да Божага тварэння. Грамадзяне Беларусі валодаюць правам на спрыяльнае навакольнае асяроддзе як неад'емны паказчык якасці жыцця чалавека. Таму дзяржава мусіць прыкладаць усе намаганні для захавання прыроднага патэнцыялу Беларусі і развіцця экалагічнай бяспекі ў нашай краіне.

11.1.2. БХД зыходзіць з таго, што пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Беларусь стала зонай экалагічнага бедства. Забруджаныя радыёнуклідамі тэрыторыі сталі

небяспечнымі для пражывання людзей і мала прыдатныя для вядзення сельскай гаспадаркі. БХД лічыць заніжанымі ацэнкі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС як па колькасці чалавечых ахвяр, так і па наступствах ад трагедыі у сярэднетэрміновай і доўгатэрміновай перспектыве.

11.1.3. Назіраецца шматразовае перавышэнне нарматыўнага ўзроўню забруджвання паветранага басейна ў гарадах з высокім узроўнем канцэнтрацыі экалагічна небяспечных вытворчасцяў і вялікай плынню аўтатранспарту.

11.1.4. Працягваецца небяспечнае забруджванне прамысловымі, камунальнымі і павярхоўнымі сцёкавымі водамі акваторыяў унікальных водных аб'ектаў як, напрыклад, азёр Нарач, Свіцязь, Блакітных, Браслаўскіх і іншых водных аб'ектаў.

11.1.5. Інтэнсіўная трансфармацыя вадазборных басейнаў і воднага рэжыму рачной сеткі ў выніку буйнамаштабнага асушэння забалочаных зямель прывяла да знікнення мноства малых рэк і ручаёў.

11.1.6. Праблемная экалагічная сітуацыя ў сельскай мясцовасці звязана са шматгадовым уздзеяннем на навакольнае асяроддзе адыходаў буйных жывёлагадоўчых комплексаў, з хімізацыяй сельскай гаспадаркі, выманнем урадлівых зямель для нясельскагаспадарчых мэт, эрозіяй глеб антрапагеннага паходжання, ўсыханнем лясоў і трансфармацыяй глеб у выніку непрадуманай буйнамаштабнай меліярацыі і г.д.

11.1.7. Акрамя ўласных крыніц забруджвання тэрыторыя Беларусі падвяргаецца забруджванню шкоднымі прымешкамі, якія выкідаюцца ў паветра ў суседніх краінах, а потым трапляюць да нас.

11.1.8. Актуальным пытаннем з'яўляецца захаванне відавой разнастайнасці жывёльнага і расліннага свету.

### 11.2. Арганізацыйная аснова экалагічнай палітыкі

11.2.1. На сённяшні дзень у Беларусі існуе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. БХД лічыць неабходным захаванне гэтай адзінкі ў структуры выканаўчай улады. Міністэрства выпрацоўвае і праводзіць дзяржаўную палітыку ў галіне выкарыстання, захавання і аховы прыродных рэсурсаў, экалагічнай бяспекі. Міністэрства займаецца маніторынгам экалагічнай сітуацыі і стану прыродных рэсурсаў, праводзіць даследаванні ў гэтай галіне. Зыходзячы з прынцыпу партнёрства дзяржавы і грамадзянскай супольнасці, Міністэрства мусіць займацца каардынацыяй дзейнасці дзяржаўных органаў улады і неўрадавых арганізацыяў па пытаннях экалогіі і прыродакарыстання, а таксама займацца распрацоўкай спецыяльных праграм і праектаў па экалагічнай палітыцы і размяркоўваць гранты сярод неўрадавых арганізацыяў на выкананне праграм і праектаў.

11.2.2. Міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя будзе палітычнай фігурай, якую займае прадстаўнік, вызначаны правячай партыяй ці кааліцыяй. Ён нясе палітычную адказнасць за выкананне дзяржаўнай экалагічнай палітыкі перад Урадам і Соймам.

11.2.3. БХД лічыць неабходным прыцягваць да выканання дзяржаўных праграм і праектаў па экалагічнай палітыцы на нацыянальным, рэгіянальным і мясцовым узроўнях няўрадавыя арганізацыі.

11.2.4. Замест цяперашняй Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь будзе створана экалагічная паліцыя, якая будзе ўваходзіць у структуру Міністэрства ўнутраных спраў. Асноўнымі задачамі экалагічнай паліцыі будуць:

-выяўленне, спыненне і папярэджанне правапарушэнняў у галіне аховы навакольнага прыроднага асяроддзя;

-ўсталяванне фізічных, юрыдычных і службовых асоб, вінаватых у іх здзяйсненні;

-забеспячэнне кантролю за экалагічнай бяспекай;

-узаемадзеянне з дзяржаўнымі прыродаахоўнымі, санітарна-эпідэміялагічнымі і іншымі ўстановамі аховы здароўя і кантралюючымі органамі.

### 11.3. Падыходы да экалагічнай палітыкі

11.3.1. Прырода не ведае нацыянальных межаў, таму высілкі ўсіх дзяржаў, перадусім Балта-Чарнаморскага рэгіёну і Еўропы ў цэлым мусяць грунтавацца на разуменні супольнай адказнасці за наваколле. БХД будзе весці актыўную працу і браць абавязкі па ахове навакольнага асяроддзя як на міжнародным узроўні, так і на нацыянальным. Галоўнай мэтай дзяржаўнай экалагічнай палітыкі з'яўляецца захаванне і аднаўленне навакольнага прыроднага асяроддзя Беларусі. Акрамя гэтай агульнай мэты дзяржаўная экалагічная палітыка мусіць быць накіравана на:

-ахову і паляпшэнне якасці навакольнага асяроддзя;

-ахову здароўя чалавека;

-разумнае і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў;

-міжнароднае супрацоўніцтва па выпрацоўцы мер, накіраваных на вырашэнне як рэгіянальных, так і сусветных экалагічных праблем.

11.3.2. Асабліва важнай экалагічнай праблемай, па якой неабходна актывізаваць міжнародную кааперацыю, з'яўляецца радыяцыйнае забруджванне пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Актуальнай міжнароднай праблемай з'яўляецца забеспячэнне бяспекі ахоўных збудаванняў над чацвёртым энэргаблокам ЧАЭС і недапушчэнне магчымага дадатковага радыяцыйнага забруджвання. На нацыянальным узроўні будзе спынена цяперашняя палітыка асваення тых тэрыторыяў, дзе досыць небяспечна пражыванне чалавека і шкодным з'яўляецца вядзенне гаспадарчай дзейнасці. Асаблівая ўвага па чарнобыльскай праблеме будзе нададзена навукова-даследчай дзейнасці, медыцынскаму абслугоўванню і прафілактыцы насельніцтва на забруджанных тэрыторыях, што патрабуе адпаведнага паўнавартаснага дзяржаўнага фінансавання.

11.3.3. БХД падзяляе прынцыпы экалагічнай дзейнасці ЕС, замацаваныя ў Амстэрдамскай дамове 1996 года, рэалізацыя якіх у Беларусі патрабуе дасканалення і змен у нарматыўна-прававой базе:

11.3.4. Прынцып папераджальнага дзеяння, згодна з якім дзеянні дзяржавы накіраваны на папярэджанне, прафілактыку забруджвання або іншай шкоды навакольнаму асяроддзю, пагроза нанясення якой мусіць быць улічана загадзя да прыняцця рашэння.

11.3.5. Прынцып засцярогі, у адпаведнасці з якім недахоп вынікаў навуковых даследаванняў па канкрэтнай праблеме не можа з'яўляцца прычынай адмены або адтэрміноўкі мерапрыемстваў па прафілактыцы забруджвання навакольнага асяроддзя. У некаторых выпадках немагчыма дакладна прадказаць негатыўны ўплыў на навакольнае асяроддзе, але нават і ў такіх выпадках пры наяўнасці гіпатэтычнай магчымасці экалагічнага парушэння неабходна прымяняць прыродаахоўныя меры.

11.3.6. Прынцып ліквідацыі наступстваў і пакрыццё шкоды навакольнаму асяроддзю, які абавязвае, у выпадках немагчымасці пазбегнуць шкоды, мінімізаваць яе, абмежаваць маштаб яе распаўсюджвання і пасля ліквідаваць яе ў самыя кароткія тэрміны.

11.3.7. Прнцып, згодна з якім вінаваты ў шкодзе аплочвае яе пакрыццё, то бок выдаткі на прэвентыўныя меры, ачыстку і кампенсацыю за забруджванне кладуцца на вінаватых у ёй. Гэты пранцып адлюстроўвае тэндэнцыю перавагі метадаў фінансавага стымулявання, распрацаваных на рынкавай аснове, якія з'яўляюцца больш эфектыўнымі, чым метады адміністрацыйнага характару, абавязальніцтвы альбо забароны.

11.3.8. БХД выступае за далучэнне Беларусі да спецыяльнага органа ЕС, які займаецца пытаннямі навакольнага асяроддзя, – Еўрапейскага агенцтва па навакольнаму асяроддзю, што будзе азначаць удзел Беларусі ў агульнаеўрапейскай экалагічнай палітыцы.

11.3.9. Мы з'яўляемся прыхільнікамі больш гнуткіх рынкавых метадаў у экалагічнай палітыцы, у тым ліку прынцыпу "падзеленай адказнасці" паміж усімі ўдзельнікамі – дзяржавай, бізнэсам, грамадскасцю, спажыўцамі. Акрамя таго асобныя грамадзяне таксама павінны быць уключаны ў прыродаахоўную дзейнасць, задзейнічаны ў працэсах падрыхтоўкі, маніторынгу і кантролю за парушэннямі экалагічных норм. Грамадзяне маюць права на інфармацыю, удзел у падрыхтоўцы прававых актаў, права звяртацца ў суд па пытаннях абароны навакольнага асяроддзя.

11.3.10. Рынкавыя механізмы ў экалагічнай палітыцы стымулююць вытворцаў і спажыўцоў да змены паводзін на карысць экалагічна эфектыўнага выкарыстання прыродных рэсурсаў, а таксама да развіцця і распрацоўкі інавацыйных прыродазберагальных тэхналогіяў.

11.3.11. Да рынкавых механізмаў належаць:

-гандлёвыя дазволы (квоты) для зніжэння выкідаў або эканоміі прыродных рэсурсаў;

-экалагічныя падаткі, якія ўводзяцца для зменаў коштаў і, такім чынам, уплываюць на паводзіны вытворцаў і спажыўцоў;

-экалагічныя субсідыі і ільготы, якія ўводзяцца для стымулявання развіцця новых тэхналогіяў, стварэння новых рынкаў экалагічных тавараў, а таксама для падтрымкі высокіх узроўняў абароны навакольнага асяроддзя кампаніямі;

-схемы адказнасці і кампенсацыі для адэкватнага пакрыцця наступстваў небяспечных для навакольнага асяроддзя дзеянняў, а таксама для прадухілення шкоды.

11.3.12. БХД прытрымліваецца пераканання, што неабходна паступова памяншаць цяжар на навакольнае асяроддзе, які ўтвараецца з-за дзейнасці чалавека. Немалаважную ролю ў дасягненні гэтай мэты адыгрывае якасць аўтамабільнага транспарту, які з'яўляецца адным з самых распаўсюджаных фактараў забруджвання навакольнага асяроддзя. Беларусь не мае ўласнай легкавой аўтамабільнай вытворчасці, але цяперашнія мыты на імпартныя аўтамабілі з'яўляюцца непрымальна высокімі. БХД лічыць неабходным для аўтамабіляў, старэйшых за 5 гадоў, скараціць мыты як мінімум у 2 разы і поўнасцю адмяніць мыты для новых аўтамабіляў і аўтамабіляў да 5 гадоў. Гэтая мера будзе спрыяць большай экалагічнай бяспецы аўтамабільнага парку краіны і стымуляваць грамадзян набываць новыя аўтамабілі.

### 11.4. Экасістэмы, біялагічная разнастайнасць і рэкрэацыя

11.4.1. Вялікай памылкай была неабдуманая маштабная меліярацыя за савецкім часам. У выніку яе ажыццяўлення многія асушаныя землі сталі непрыдатнымі для сельскай гаспадаркі, а такія з'явы як апустыньванне, усыханне лясоў, знікненне малых рэчак, сталі характэрнай асаблівасцю гэтых земляў. БХД лічыць неабходным па магчымасці аднавіць многія балотныя экасістэмы, дзе гэта найбольш апраўдана і не прывядзе да негатыўных эканамічных наступстваў ад вынятку гэтых земляў з сельскагаспадарчага абароту. Таксама трэба адмовіцца ад планаў па далейшай меліярацыі і торфараспрацовак прыродных балот, якія захаваліся да сённяшняга дня.

11.4.2. Нягледзячы на тое, што Беларусь захавала дастаткова вялікую біялагічную разнастайнасць жывёльнага і раслінная свету, неабходна прымаць дадатковыя меры па ахове прыроднай разнастайнасці. Асабліва гэта тычыцца тых відаў, якія занесены ў Чырвоную кнігу і знаходзяцца на мяжы знікнення. Мы выступаем за ўмацаванне міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы абароны выміраючых відаў жывёльнага і раслінная свету.

11.4.3. Павага да Божага тварэння абавязвае нас да адказных паводзін у адносінах да жывёл. Абарона жывёл з'яўляецца для нас важнай задачай.

11.4.4. Беларусь мае вялізныя запасы пітной вады, вялікія лясныя масівы, у нас маюцца выдатныя мясціны для адпачынку. БХД будзе вялікую ўвагу надаваць развіццю зон рэкрэацыі і экалагічнага турызму, ствараючы максімальна прывабныя ўмовы для інвестыцыяў у гэтую галіну. Экалагічны турызм павінен стаць істотнай крыніцай папаўнення бюджэту, але разам з тым арганізаваны такім чынам, каб не аказваць негатыўнага эфекту на прыроду. Акрамя зон адпачынку ў сельскай мясцовасці і экалагічнага турызму, неабходна надаць шмат увагі развіццю зялёных зон у гарадах. На сённяшні дзень беларускія гарады маюць вельмі мала зялёных зон, таму неабходна ствараць паркі, скверы і захоўваць ужо існуючыя зоны адпачынку і зялёныя насаджэнні. Трэба адмовіцца ад планаў па забудове такіх паркаў, як, напрыклад, Севастопальскі парк і парк Дружбы народаў у Менску.

### 11.5. У сферы аховы прыроды і экалогіі БХД выступае за:

11.5.1. – мінімізацыю уплываў на здароўе людзей катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, спыненне практыкі асваення небяспечных для жыцця тэрыторыяў, неабходнасць даследаванняў уплыву малых доз радыяцыі на чалавека, павышэнне якасці медыцынскага абслугоўвання на забруджаных тэрыторыях;

11.5.2. – міжнародную кааперацыю па праблеме пераадолення наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

11.5.3. – адмову ад рэалізацыі праекту Астравецкай АЭС;

11.5.4. – шырокае экспертнае і грамадскае абмеркаванне перспектыў развіцця атамнай энэргетыкі ў Беларусі, правядзенне ўсенароднага рэферэндуму па пытанні будаўніцтва атамнай станцыі;

11.5.5. – стварэнне экалагічнай паліцыі ў структуры Міністэрства ўнутраных спраў;

11.5.6. – партнёрства дзяржавы і грамадзянскай супольнасці у сферы аховы навакольнага асяроддзя;

11.5.7. – далучэнне Беларусі да еўрапейскай экалагічнай палітыкі і ўступленне ў Еўрапейскае агенцтва навакольнага асяроддзя;

11.5.8. – выкарыстанне рынкавых метадаў у экалагічнай палітыцы, а менавіта гандлёвых дазволаў (квот), экалагічных падаткаў, экалагічных субсідыяў і ільгот, схем адказнасці і кампенсацыі, прынцыпа "падзеленай адказнасці";

11.5.9. – зніжэнне мытаў на аўтамабілі мінімум у 2 разы ад цяперашняга ўзроўню і адмену мыт на новыя аўтамабілі і аўтамабілі не старэйшыя за 5 гадоў;

11.5.10. – захаванне і абарону існуючых балотных экасістэмаў і аднаўленне асушаных балотаў там, дзе гэта магчыма і мэтазгодна;

11.5.11. – падтрымку біялагічнай разнастайнасці жывёльнага і расліннага свету;

11.5.12. – узмацненне адказнасці як за жорсткае абыходжанне з жывёламі, так і за утрыманне небяспечных жывёлаў;

11.5.13. – стварэнне прыдатных пляцовак ў гарадах для выгула сабакаў, прытулкаў і могілак для хатніх жывёлаў;

11.5.14. – забарону ўтрымання ў гарадскіх кватэрах сабакаў небяспечных пародаў;

11.5.15. – развіццё экалагічнага турызму і развіццё зон адпачынку;

11.5.16. – захаванне ў беларускіх гарадах існуючых зялёных зонаў, недапушчэнне іх вырубкі пад будоўлі, а таксама павелічэнне колькасці паркаў і сквераў.

## 12. МОЛАДЗЬ, СЯМ'Я І АДУКАЦЫЯ

### 12.1. Моцная сям'я – моцная Беларусь

12.1.1. За апошнія 18 гадоў насельніцтва Беларусі значна паменшылася і значна састарэла. Па дадзеных на 1 верасня 2014 года колькасць насельніцтва Беларусі склала 9464 тыс. чалавек, што на 718 тыс. чалавек менш, чым у 1996 годзе. Кожны год колькасць памерлых перавышае колькасць народжаных. Дэмаграфічная піраміда ў нашай краіне ўсе больш пераварочваецца дагары нагамі, таму што яе аснова (людзі актыўнага ўзросту, моладзь, дзеці) памяншаецца. Гэты працэс мае месца таксама і ў развітых краінах Заходняй Еўропы, але ў Беларусі ён ускладняецца моцным жаданнем моладзі з'ехаць за мяжу і рэалізоўваць свой патэнцыял у іншых краінах. Адна з галоўных прычын адтоку маладых людзей – адсутнасць перспектыў, умоў для развіцця і рэалізацыі ў Беларусі. Антыканстытуцыйная практыка прымусовага размеркавання маладых спецыялістаў і жабрацкая аплата працы штурхае маладых беларусаў да пошуку лепшага жыцця за мяжой.

12.1.2. Нізкая нараджальнасць з'яўляецца характэрнай праблемай для многіх еўрапейскіх краін і для многіх развітых краін свету. Аднак для Беларусі важнай абставінай гэтай праблемы з'яўляецца ўстрыманне ад нараджэння дзіцяці з-за фінансавых цяжкасцяў, бо большасць маладых сем'яў у Беларусі жывуць амаль на мяжы беднасці. Вялікая праблема і бяда для Беларусі – гэта вялізная колькасць абортаў, у выніку чаго кожны год на свет так і не нараджаюцца дзесяткі тысяч дзяцей. Дэмаграфічны крызіс і яго паглыбленне, што адбываецца сёння ў нашай краіне, уяўляе сабой вялізную небяспеку. Ён можа прывесці да

разбурэння краіны. БХД лічыць, што вырашэнне гэтай праблемы жыццёва важна для будучыні Беларусі як незалежнай і моцнай дзяржавы.

12.1.3. Калі нізкая нараджальнасць – з'ява знаёмая для Заходняй Еўропы, то разрыў пакаленняў падаецца характэрнай з'явай для Беларусі. Сёння улада імкнецца кантраляваць усе аспекты жыцця кожнага беларуса, і таму спрабуе забяспечыць грамадзяніна пэўным мінімумам у абмен на яго пасіўную ролю ў палітычных, сацыяльных і эканамічных працэсах. Выхаванне патэрналісцкіх настояў у маладых людзей прыводзіць да надзеяў і чаканняў чалавека ад дзяржавы, а не ад пасьпяховасці сваёй рэалізацыі, у тым ліку праз стварэнне сям'і. Такім чынам, ад сям'і залежыць усё менш, што спрыяе парыванню сямейных сувязяў.

12.1.4. Аўтарытарны рэжым імкнуцца стварыць уражанне, што гісторыя нашай краіны пачалася не раней, чым 90 гадоў таму (дастаткова паглядзець на помнікі і назвы вуліц у беларускіх гарадах ці афіцыйныя святы). Сама дзяржаўная эліта сімвалічна і ментальна звязвае сябе з савецкім мінулым. Навязванне так званай "ідэалогіі беларускай дзяржавы", якая з'яўляецца па сутнасці апраўданнем антынацыянальнай палітыкі, адсутнасць сапраўднага нацыянальнага патрыятычнага выхавання прыводзяць да таго, што большасць маладых людзей не ведаюць сваей гісторыі і культуры, помнікаў, славутых імён Беларусі. Медыйная палітыка цяперашніх улад фактычна прасоўвае нізкаякасныя з'явы перыферыйнай масавай культуры.

12.1.5. Савецкі час – гэта далёка не адзінае і не галоўнае, што прывяло да існавання беларускай дзяржавы, і што вызначае яе будучыню. Гэта важны гістарычны перыяд для сучаснай Беларусі, аднак праблема ў тым, што цяпер ён прэзентуецца як адзіны складнік беларускай гісторыі, і ў той жа час замоўчваецца наша славутая мінуўшчына, нышы хрысціянскія карані, еўрапейскія цывілізацыйныя сувязі і элементы ментальнасці. Моладзь свядома ці падсвядома адчувае гэты падман, але ў асноўным не мае пазітыўнай замены яму, што вядзе да нацыянальнага нігілізму. Дадзеная палітыка спрыяе адрыванню беларускай моладзі ад сваіх каранёў, ад гісторыі сваёй Радзімы, ад культурнай традыцыі і гісторыі сваёй сям'і. Такім чынам, рвуцца культурныя і гістарычныя сувязі з папярэднімі пакаленнямі.

12.1.6. Сям'я ўяўляе сабой асноўную ячэйку грамадства. У межах сям'і дзеці атрымоўваюць самы першы сацыяльны вопыт, пераймаюць галоўныя сацыякультурныя традыцыі і веды, успрымаюць мадэлі паводзінаў мужчыны і жанчыны. Сям'я – гэта самая важная сфера ідэнтычнасці чалавека, адчування блізкасці і супольнасці. Жыццёвы вопыт, які чалавек у дзяцінстве пераняў у сям'і сваіх бацькоў, адбіваецца на будаванні і адносінах унутры сваёй уласнай сям'і. Гэта азначае, што выхаванне асобы ў моцнай абароненай, маральна здаровай і стабільнай сям'і з'яўляецца прыярытэтам для грамадства. Таму дзяржаўная палітыка, асабліва ва ўмовах дэмаграфічнага, сацыяльнага і духоўнага крызісу, павінна быць накіраванна на ўсебаковую падтрымку сям'і і асабліва шматдзетнай сям'і. Дзяржава абавязана бараніць сям'ю і ўспрымаць яе як галоўнага аб'екта для сацыяльнай і моладзевай палітыкі, праз прызму сямейных каштоўнасцяў дзяржава мусіць глядзець на эканамічную палітыку.

12.1.7. У апошні час ў Беларусі пашыраецца такая з'ява, як сужыццё мужчыны і жанчыны і нараджэнне дзяцей без афіцыйнага афармлення адносінаў. Гэтая тэндэнцыя ўяўляе вялікую небяспеку і размывае інстытут шлюбу. Разумеючы гэта, БХД выступае за распаўсюд сямейных сацыяльных гарантыяў, якія мы будзем рабіць істотнымі і адчувальнымі, толькі на афіцыйна зарэгістраваныя сем'і. Такая мера будзе ўяўляць эканамічны стымул для афармлення фактычных сямейных адносінаў у паўнавартасны шлюб.

12.1.8. Шлюб уяўляе сабой грамадскі інстытут, які надзяляе сям'ю юрыдычнай дадзенасцю, то бок накладае пэўныя абавязкі і забяспечвае правы, якія гарантуюцца законам. Ад моманту заключэння шлюбу сям'я карыстаецца ўсімі сацыяльнымі гарантыямі і становіцца аб'ектам дзяржаўнай сямейнай палітыкі.

12.1.9. Шлюб узнік як найважнейшая частка чалавечага жыцця для фармалізацыі адносінаў менавіта мужчыны і жанчыны. Шлюб ніколі ў чалавечай гісторыі не быў уласцівы сексуальным меншасцям, шлюб – гэта сацыякультурны феномен, уласцівы выключна гетэрасэксуальным адносінам. Таму БХД выступае катэгарычна супраць надзялення правам абірацца шлюбам прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў. БХД прызнае асабістую свабоду чалавека, а значыцца і права самастойна вызначаць свой лад жыцця. Існуе практыка сумеснага сужыхарства прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў і многія маёмасныя, побытавыя пытанні можна рэгуляваць для такіх людзей на падставе існуючага заканадаўства без абрання шлюбам. Права абірацца шлюбам не з'яўляецца фундаментальным правам чалавека, а з'яўляецца біблейскім запаветам, здабыткам гэтерасэксуальнай культуры, значыцца, прадстаўнікі сэксуальных меншасцяў проста не маюць права прэтэндаваць на абранне шлюбам.

12.1.10. БХД таксама катэгарычна выступае супраць магчымасці выхавання дзяцей у гомасэксуальных і лесбійскіх фактычных саюзах, бо ў межах дадзеных адносінаў немагчыма перадача традыцыйных каштоўнасцяў, мадэляў паводзін у сям'і (успрымання мужчынскіх і жаночых роляў) і паўнавартаснага выхавання. Мы лічым, што сам факт выхавання дзіцяці у гомасэксуальным ці лесбійскім саюзе будзе фактарам дыскрымінацыі дзіцяці і парушэннем яго правоў. Гэтыя асаблівасці цягнуць за сабой небяспечныя наступствы як для асобы, так і для грамадскага развіцця ў цэлым.

12.1.11. БХД выступае супраць сурагатнага мацярыства: яно з'яўляецца відам таварна-грашовых адносін, аб'ектам якіх выступаюць народжаныя дзеці. Гэта з'яўляецца парушэннем этыкі і разрывае тую духоўную сувязь, якая ўзнікае паміж жанчынай і яе дзіцём.

**12.2. Абарона жыцця**

12.2.1. Права на жыццё ёсць фундаментальнае права кожнага чалавека. Жыццё пачынаецца з моманту апладнення, таму немагчыма разглядаць права жанчын распараджацца "сваім целам" як безумоўнае права. Людзі маюць права выбіраць, уступаць ці не ўступаць у палавыя зносіны, аднак пасля моманту апладнення жанчына не павінна мець права свабодна распараджацца плодам, які яна мае ва ўлонні.

12.2.2. БХД выступае ў абарону жыцця ад пачатку яго зараджэння і лічыць гвалтоўнае перарыванне цяжарнасці недапушчальным (за выняткам пагрозы жыццю маці).

12.2.3. БХД прапаноўвае прыняць наступныя абмежавальныя меры, звязаныя з абортамі:

12.2.4. Медыцынскімі паказчыкамі да аборту могуць быць толькі паказчыкі, звязаныя з пагрозай жыцця жанчыны (пры ўмове яе згоды).

12.2.5. Выключыць усе сацыяльныя паказчыкі для правядзення аборту за выпадкам, калі цяжарнасць наступіла ў выніку згвалтавання.

12.2.6. Неабходна гарантаваць права лекара і медычнага персаналу адмовіцца ад правядзення аборту па сваіх этычных і рэлігійных перакананнях.

12.2.7. У Беларусі будуць забаронены клінічныя выпрабаванні і вопыты над чалавечымі эмбрыёнамі і выкарыстанне іх у медыцынскіх, касметычных і вытворчых мэтах, а таксама будуць забаронены вопыты па кланіраванню эмбрыёна чалавека.

12.2.8. Здараюцца выпадкі, калі жанчыны вырашаюць пазбавіцца ад сваіх народжаных немаўлят і пакідаюць іх абы дзе. Дзяржава мусіць стварыць спецыяльныя пункты пры медыцынскіх установах і магчыма пры цэрквах для прымання такіх дзяцей. Гэты прынцып называецца "акно жыцця": жанчына можа апусціць немаўля ў спецыяльнае акно і бесперашкодна пакінуць месца, у той час як сігналізацыя апавесціць супрацоўнікаў пра пакладзенае немаўля. БХД будзе рэалізоўваць гэты праект па ўсёй краіне, каб выратаваць многія дзіцячыя жыцці.

**12.3. Рэпрадуктыўнае здароўе**

12.3.1. У Беларусі прыблізна кожная пятая сямейная пара сутыкаеццаз праблемай бясплоддзя, прычым, у кожнай другой з іх гэта звязана з мужчынскім фактарам. БХД лічыць неабходным прыняцце дзяржаўнай праграмы па захаванню і паляпшэнню рэпрадуктыўнагаздароўя насельніцтва. Дадзеная праграма мусіць уключаць у сябе распрацоўку і ўкараненне ў практыку эфектыўных медыцынскіх тэхналогіяўдыягностыкі, ранняе выяўленне і лячэнне парушэнняў рэпрадуктыўнай функцыі, сістэматычнае лячэнне бясплоддзя ў жанчыні мужчын.

12.3.2. Для паляпшэння рэпрадуктыўнага здароўя неабходна змагацца з тымі фактарамі, якія прыводзяць да праблем і захворванняў палавой сістэмы і парушэнняў рэпрадуктыўнай функцыі. Такімі фактарамі з'яўляюцца курэнне, ужыванне алкагольных напояў, наркотыкаў падлеткамі. Масавая культура адкрыта прапагандуе сэксуальную разбэшчанасць як норму паводзін. Між тым у Беларусі колькасць захворванняў інфекцыямі, што перадаюцца палавым шляхам, мае ўстойлівую тэндэнцыю да росту, а гэта можа стаць прычынай бясплоддзя. Таксама павялічваецца колькасць ВІЧ-інфікаваных і хворых на СНІД. Прычым на палавы шлях інфікавання прыходзіцца абсалютная большасць выяўленых выпадкаў – прыблізна 75%.

12.3.3. Для пераадолення фактараў, якія пагаршаюць рэпрадуктыўнае здароўе моладзі і насельніцтва ў цэлым, неабходна:

-Забяспечыць доступ да высакаякаснага медыцынскага абслугоўвання і выпрацаваць сістэму ранняй прафілактыкі захворванняў палавой сістэмы і парушэнняў рэпрадуктыўнай функцыіі ў мужчын і жанчын.

-Садзейнічаць распаўсюду інфармацыі па захаванню рэпрадуктыўнага здароўя.

-Прапагандаваць здаровы лад жыцця, духоўную культуру, сямейныя каштоўнасці і палавую стрыманасць.

-Узмацніць барацьбу з курэннем, алкагалізмам і наркаманіяй, асабліва сярод моладзі.

-Пашыраць праграмы, накіраваныя на барацьбу з распаўсюдам ВІЧ/СНІД.

-Забяспечыць дастатковае фінансаванне мер па захаванню рэпрадуктыўнага здароўя насельніцтва.

-Актыўна заахвочваць да ажыццяўлення ўзгаданных мер неўрадавыя арганізацыі і цэрквы.

### 12.4. Праграмы па падтрымцы сем'яў

12.4.1. Сямейная медыцына. БХД лічыць неабходным увесці інстытут сямейнага лекара. Ён павінен мець высокую кваліфікацыю, валодаць ведамі і навыкамі не толькі ў галіне тэрапіі, але і ў галіне сумежных вузкіх спецыяльнасцяў, такіх як афтальмалогія, аталарынгалогія, неўралогія, дэрматалогія, гастраэнтэралогія і кардыялогія. Сямейны лекар ўмее ставіць дыягназ і лячыць не толькі прастуды, але і простыя формы вузкаспецыялізаваных захворванняў, праводзіць розныя дыягнастычныя даследаванні.

12.4.2. Сямейны лекар вядзе пастаяннае назіранне ўсіх чальцоў сям'і, з'ўляецца асабістым лекарам. У яго задачы ўваходзяць: поўнае першаснае абследаванне, штогадовая дыягностыка, правядзенне медычных працэдур і лячэнне. Сямейны лекар заўсёды накіроўвае пацыента да вузкага спецыяліста, калі пытанне патрабуе больш стараннага і дэталёвага вывучэння.

12.4.3. Сямейная медыцына дае магчымасць у некалькі разоў скараціць час пацыента на абследаванне і дыягностыку. За кошт таго, што сямейны лекар забяспечвае бесперапыннае назіранне за здароўем пацыента, захворванне фіксуецца на ранняй стадыі, а гэта заклад эфектыўнага лячэння.

12.4.4. Сямейны капітал арыентаваны на стымуляванне нараджэння другіх і наступных дзяцей, а таксама на інвестыцыі ў чалавечы капітал краіны. Простыя арыфметычныя падлікі гавораць, што для павелічэння колькасці насельніцтва неабходна, каб сем'і нараджалі трох і болей дзяцей. Па дадзеных перапісу насельніцтва 2009 года, сярод сем'яў з дзецьмі больш за 66% мелі адно дзіця, 28% – два дзіцяці і толькі каля 5% былі шматдзетнымі. Між тым, дэмаграфічныя ўстаноўкі насельніцтва сведчаць пра жаданне мець другое дзіця, і

стрымліваючым фактарам у гэтым пытанні з’яўляюцца эканамічныя меркаванні. Стварэнне сямейнага капіталу дазволіць узмацніць планы сямей па нараджэнні другіх і наступных дзяцей. Сямейны капітал можа быць выкарыстаны на санаторна-курортнае аздараўленне, медыцынскае абслугоўванне, паляпшэнне жыллёвых умоў сям’і, адукацыю.

12.4.5. На гэты момант складана вызначыць тэрмін, на які будзе распаўсюджвацца магчымасць асваення сямейнага капіталу і яго памер на дзіця. Гэтае пытанні патрабуюць дэталёвага вывучэння і прапрацоўкі з улікам крыніц фінансавання. Сродкі на фінансаванне сямейнага капіталу павінны прадастаўляцца з рэспубліканскага бюджэту ў форме безнаяўных грашовых сродкаў. Памер сямейнага капіталу мусіць індэксавацца з улікам інфляцыі. Распараджэнне сямейным капіталам павінна належаць абодвум бацькам у роўнай ступені. У тых выпадках, калі адзін з бацькоў раней ажыццявіў злачынства ў дачыненні да свайго дзіцяці, то ён пазбаўляецца права распараджацца расходаваннем сямейнага капіталу.

12.4.6. Жыллёз’яўляецца самым надзённым пытаннем сямейнага жыцця. Для вырашэння жыллёвага пытання БХД прапануе сем’ям з двума дзецьмі выдаваць ільготныя крэдыты на будаўніцтва жылля, сем’ям з трыма дзецьмі, акрамя ільготнага крэдыту – пагашаць за кошт дзяржаўнага бюджэту 50% кошту жылля, а сем’ям з чатырма і болей дзецьмі –поўнасцю пагашаць кошт жылля. Акрамя таго, на паляпшэнне жыллёвых умоў можна будзе выкарыстаць сямейны капітал, што асабліва актуальна для маладых сем’яў.

12.4.7. БХД прапаноўвае дыферэнцаваны падыход да надзялення сям’і жыллём. Напрыклад, для сельскай мясцовасці і малых гарадоў апраўдана ўвесці больш лагодныя ўмовы набыцця жылля сем’ямі. Зыходзячы з неабходнасці замацавання насельніцтва, прыцягнення спецыялістаў, а таксама з улікам больш нізкіх коштаў на жыллё у сельскай мясцовасці і малых гарадах, мэтазгодна сем’ям з двума дзецьмі прадастаўляць беспрацэнтныя займы на жыллё, а сем’ям з трыма і болей дзецьмі – прадастаўляць ва ўласнасць жыллё за дзяржаўны кошт. Гэтыя дадатковыя палёгкі ў атрыманні жылля ў сельскай мясцовасці і малых гарадах будуць садзейнічаць прыцягненню сем’яў з горада. Пры чым на павятовым узроўні, а таксама ў муніцыпалітэтах і валасцях могуць існаваць дадатковыя магчымасці для вырашэння жыллёвага пытання для сем’яў.

12.4.8.Сямейнае прадпрымальніцтваз’яўляецца механізмам, які будзе спрыяць умацаванню сям’і і адраджэнню ў нашым грамадстве сямейных каштоўнасцяў. Сямейнае прадпрымальніцтва – гэта тое сацыяльнае асяроддзе, якое дазволіць фармавацца больш цывілізаванаму прадпрымальніку. Сямейнае прадпрымальніцтва з’яўляецца спосабам самазанятасці – індывідуальнай працоўнай дзейнасці і мяжуе з найдрабнейшым бізнэсам. Найбольш распаўсюджаныя сферы такога роду дзейнасці – бытавое абслугоўванне, дробны гандаль, саматужная вытворчасць, фермерская гаспадарка і іншыя віды дзейнасці.

12.4.9. Ва ўмовах сямейнай справы магчыма гнуткасць працоўнага дня і падзел працы. Гэта дазваляе часткова ўцягваць у вытворчасць і тыя катэгорыі насельніцтва, якія інакш былі б "за бортам”: жанчын з дзецьмі, навучэнцаў і іншыя катэгорыі асоб, неканкурэнтаздольных на звычайных рынках працоўнай сілы. Для дзяцей і падлеткаў пасільны ўдзел у сямейнай справе – найбольш мяккі і сацыяльна прымальны спосаб ўключэння ў працоўную дзейнасць і прадпрымальніцтва. БХД будзе спрыяць развіццю сямейнага прадпрымальніцтва, будзе прыняты закон "Аб сямейным прадпрымальніцтве”, у якім будуць замацаваны самыя лагодныя падатковыя ўмовы і вызваленне ад падатку на прыбытак, будзе прадугледжана сістэма ільготнага крэдытавання і мікракрэдытавання для такіх сямейных прадпрыемстваў.

### 12.5. Роўнасць і рознасць мужчынаў і жанчынаў

12.5.1. Мужчына і жанчына створаныя Богам роўнымі ў сваім чалавецтве і рознымі паводле свайго паклікання. Мы абавязаныя шанаваць і ахоўваць як адпачатную рознасць, так і падставовую роўнасць мужчыны і жанчыны. Неабходна з вялікай асцярожнасцю і развагай падыходзіць да пытання роўнасці або рознасці правоў і абавязкаў асобаў абодвух полаў, абараняючы каштоўнасць як асобы, так і сям’і, і ўсяго грамадства ў цэлым. Мы адмаўляемся дасягаць абсалютнай палавой роўнасці любым коштам (бо гэта немагчыма з

натуральных прычынаў) – і прапаноўваем паважаць асаблівасці і ўнікальнасць як мужчынскага, так і жаночага паклікання.

12.5.2. У сацыяльнай ролі ў грамадстве і прафесійнай дзейнасці важна зразумець, што ўмовы жыцця мужчын і жанчын значна адрозніваюцца паміж сабой у пэўнай ступені з-за рэпрадуктыўнай функцыі жанчын. Жанчыны выношваюць і нараджаюць дзіця, займаюцца яго кармленнем і даглядам. Таксама абмежаваныя магчымасці прымяненне жаночай працы ў цяжкай вытворчасці і ў вайсковай справе. Сам Бог заклаў паміж мужчынай і жанчынай адрозненне, і гэта з'яўляецца натуральным нязменным станам рэчаў.

12.5.3. Пытанне не ў наяўнасці гэтых адрозненняў, а ў тым, што яны не павінны негатыўна адбівацца на ўмовах жыцця мужчын і жанчын, весці да дыскрымінацыі, а, наадварот, адпаведным чынам ўлічвацца.

12.5.4. БХД разглядае пытанне роўнасці полаў у непарыўнай сувязі з сямейнай палітыкай. Жанчыны, якія выношваюць дзіця або знаходзяцца ў адпачынку па догляду за дзіцём (роўна як і мужчыны), мусяць мець магчымасць дыстанцыйнага навучання з дапамогай інтэрнэту і інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў у вышэйшых навучальных установах, курсах і г. д., у тым ліку і за кошт дзяржаўнага бюджэту.

12.5.5. БХД будзе ствараць гнуткую сістэму перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі для жанчын, якія займаюцца даглядам дзіцяці. Стварэнне сям'і і нараджэнне дзяцей не павінна станавіцца перашкодай да павышэння або набыцця адукацыі і прафесійных навыкаў жанчын. БХД будзе садзейнічаць стварэнню працоўных месцаў "удома" з вольным графікам працы, а таксама пашыраць гнуткія формы занятасці. Неабходна стварыць умовы для спалучэння асабістага і прафесійнага развіцця з хатнімі абавязкамі і выхаваннем дзяцей, стварыць механізмы прыцягнення мужчын да догляду за дзецьмі.

12.5.6. Дзеля большага ўцягвання жанчын у эканамічную сферу і барацьбы з жаночым беспрацоўем неабходна спрыяць развіццю жаночага прадпрымальніцтва. Дзяржава мусіць надаць істотную ўвагу бізнэс-навучанню жанчын, падтрымцы ініцыятыў па кансультаванню жаночага прадпрымальніцтва і адкрыцці банкамі праграм мікракрэдытавання.

**12.6. Сацыяльная небяспека хатняга гвалту**

12.6.1. Актуальнай праблемай Беларусі з'яўляецца хатні гвалт, які падрывае цэласнасць сям'і, здароўе, годнасць, бяспеку і незалежнасць асобы. Гвалт у сям'і можа быць фізічным, псіхалагічным, сэксуальным, а таксама эканамічным. Сёння ў Беларусі ў органы ўнутраных спраў штодзень паступае каля 500 паведамленняў аб фактах сямейна-бытавых канфліктаў, з якіх больш за 70% складаюць выпадкі хатняга гвалту ў адносінах да жанчын і дзяцей. У той жа час значная колькасць выпадкаў гвалту не фіксуецца, паколькі многія жанчыны альбо схільныя мірыцца з яго праявамі, альбо баяцца звяртацца з заявамі ў афіцыйныя органы.

12.6.2. Назіраецца моцная сувязь паміж распаўсюджанасцю хатняга гвалту і сацыяльна-эканамічным становішчам сям'і: калі ў малазабяспечаных сем'ях ад пабояў пацярпела кожная трэцяя з апытаных жанчын, то ў сем'ях з добрым дастаткам такія факты сустракаюцца ў 5% выпадкаў. БХД выступае за прыняцце закона "Аб супрацьдзеянні хатняму гвалту", які будзе змяшчаць тлумачэнні ўсіх відаў гвалту, санкцыі за ўчыненыя дзеянні і сістэму экстраных мер па прадухіленню і абароне ахвяр хатняга гвалту. У гэтым законе мусіць быць прадстаўлены комплекс мер па прафілактыцы выпадкаў хатняга гвалту і роля ў прафілактыцы ўсіх органаў і арганізацыяў: паліцыі, сацыяльных служб, мясцовага самакіравання, цэркваў і неўрадавых арганізацыяў.

12.6.3. Дзеля вырашэння сітуацыі з хатнім гвалтам дзяржава мусіць праводзіць комплексную бестэрміновую інфармацыйную кампанію, накіраваную як на прадухіленне хатняга гвалту, так і на выпраўленне яго наступстваў. Трэба распаўсюджваць інфармацыю пра небяспечнасць для цэласнасці сям'і і цяжкіх наступстваў ад хатняга гвалту. Неабходна стварыць гарачыя тэлефонныя лініі для хуткага рэагавання на небяспеку хатняга гвалту і на вострую сітуацыю.

12.6.4. Усе дзяржаўныя ведамствы і органы ўлады, якія маюць дачыненне да вырашэння праблемы хатняга гвалту (паліцыя, пракуратура, сацыяльныя службы, медыцынскія ўстановы, суды, органы мясцовага самакіравання), мусяць быць праінфармаваныя пра дадзеную праблему, яе цяжкія сацыяльныя наступствы і стратэгіі вырашэння праблемы. Патрабуецца вывучэнне замежнага вопыту барацьбы з хатнім гвалтам, правядзенне адукацыйных мерапрыемстваў і абмен вопытам з замежнымі партнёрамі.

12.6.5. Неабходна выпрацаваць механізм рэабілітацыі ахвяр хатняга гвалту з аказаннем медыцынскай і псіхалагічнай дапамогі, забяспечыць ахвяр хатнага гвалту кароткатэрміновым і доўгатэрміновым прытулкам у тых выпадках, калі гэтага патрабуе сітуацыя. Дзеля гэтага дзяржава мусіць распрацаваць праграму па фінансаванні агучаных мер у дастатковай ступені па ўсёй краіне.

**12.7. У сферы сямейнай палітыкі БХД:**

12.7.1. – разглядае сям'ю як асноўны аб'ект дзяржаўнай увагі ў сацыяльнай палітыцы і разглядае палітыку ў іншых галінах праз патрэбы сям'і як асноўнай ячэйкі грамадства;

12.7.2. – праводзіць палітыку, накіраваную на адраджэнне сямейных каштоўнасцяў, маральнасці і духоўнасці сямейных адносін, выхаванне ў маладога пакалення імкнення ствараць устойлівыя і шчаслівыя сем'і;

12.7.3. – выступае ў падтрымку традыцыйных шлюбаў, у тым ліку праз выкарыстанне эканамічных стымулаў;

12.7.4. – выступае катэгарычна супраць узаконьвання гомасэксуальных і лесбійскіх партнёрстваў як шлюбаў, а таксама супраць выхавання дзяцей у такіх фактычных саюзах;

12.7.5. – выступае супраць абортаў. Аднак не бачыць у заканадаўчай забароне абортаў эфектыўнай меры па барацьбе з гэтай ганебнай і злачыннай практыкай. Замест гэтага БХД прапануе комплекс абмежавальных мер і практык, накіраваных на няўхільнае скарачэнне абортаў з мэтай іх выкаранення;

12.7.6. – удасканальваць прафілактыку і ствараць сістэму ранняга выяўлення захворванняў рэпрадуктыўнай сістэмы, паляпшаць якасць медыцынскага абслугоўвання;

12.7.7. – павялічыць аднамомантную выплату пры нараджэнні дзіцяці да 2000 еўра, пры нараджэнні другога і наступных дзяцей – да 3000 еўра ў эквіваленце. Штомесячную дапамогу на дзіця да 3-х гадоў усталяваць у памеры не меншым за пражытковы мінімум. Будзе перагледжана метадалогія разліку пражытковага мінімуму, што прывядзе да яго павышэння. Адпаведна павялічацца іншыя выплаты на дзяцей, прадугледжаныя цяперашнім заканадаўствам;

12.7.8. – уключаць у працоўны стаж жанчыны час яе знаходжання ў адпачынку па догляду за дзецьмі;

12.7.9. – аддаваць прыярытэт дзіцячым дамам сямейнага тыпу, умацоўваць эканамічныя стымулы сем'ям браць дзяцей на выхаванне;

12.7.10. – прыняць нацыянальную праграму "Сямейная медыцына", якая прадугледжвае ўвядзенне сямейных лекараў – тэрапеўтаў з ведамі ў сумежных вузкаспецыяльных галінах медыцыны;

12.7.11. – прыняць нацыянальную праграму "Сямейны капітал", якая стане крыніцай для паляпшэння жыллёвых умоў маладых сем'яў, медыцынскага і санаторна-курортнага абслугоўвання, адукацыі;

12.7.12. – садзейнічаць на нацыянальным узроўні вырашэнню жыллёвага пытання для шматдзетных сем'яў, пачынаючы з ільготных крэдытаў для сем'яў з двума дзецьмі і да поўнай аплаты кошту жылля для сямей з чатырма і болей дзецьмі;

12.7.13. – спрыяць павелічэнню дапамогі шматдзетным сем'ям на мясцовым узроўні;

12.7.14. – прыняць закон "Аб сямейным прадпрымальніцтве";

12.7.15. – развіваць бяспечную даступную інфраструктуру для сям'яў: дзіцячыя садкі (дзяржаўныя, прыватныя і муніцыпальныя), школы, дзіцячыя пляцоўкі і месцы для адпачынку сем'яў і г.д.;

12.7.16. – магчымасць атрымання адукацыі, павышэння кваліфікацыі і працы на даму па гнуткаму графіку для тых жанчын, якія даглядаюць дзіця. Такімі ж правамі мусяць карыстацца і мужчыны, якія знаходзяцца ў адпачынку па дагляду за дзецьмі;

12.7.17. – спрыянне развіццю жаночага прадпрымальніцтва;

12.7.18. – прыняцце нацыянальнай праграмы і закона "Аб супрацьдзеянні хатняму гвалту".

## 12.8. Моладзевая палітыка і адукацыя

12.8.1. Моладзевая палітыка БХД зыходзіць з таго, што гэта ёсць жыццёва неабходная частка дзяржаўнай палітыкі ў цэлым. Яна павінна будавацца на хрысціянскіх маральных каштоўнасцях, і асноўным аб'ектам гэтай палітыкі павінна з'яўляцца традыцыйная сям'я. Моладзевая палітыка будуецца на прынцыпе субсідыярнасці і непарыўна звязана з палітыкай ў галіне адукацыі, а таксама ў іншых сферах, як напрыклад, у дзяржаўным будаўніцтве, эканоміцы, сацыяльнай сферы, ахове здароўя і іншых сферах. Адукацыйная палітыка мусіць быць накіравана на выхаванне грамадзяніна, свядомай, адказнай за сябе і сваю краіну асобы, арыентавана на сучасныя веды і самастойнае мысленне.

12.8.2. Апатыя большай часткі моладзі. Аўтарытарны рэжым робіць усё магчымае, каб моладзь не прымала актыўнага ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Студэнты мусяць выбіраць паміж грамадска-палітычнай актыўнасцю і навучаннем/працай. Перспектыва прымусовага размеркавання, жабрацкай заработнай платы, нізкія перспектывы забяспечыць годнае існаванне новай маладой сям'і і дзяцей ствараюць атмасферу безнадзейнасці і апатыі. Але адна з самых галоўных прычын гэтаму – абмежаваныя магчымасці для рэалізацыі сваіх ідэяў і ініцыятывы. Гэта абумоўлівае тое, што большая частка моладзі не можа і не хоча ўдзельнічаць ў жыцці краіны.Адсюль узнікае жаданне моладзі рэалізоўваць свой патэнцыял у іншай краіне, бо любы нармальны чалавек жадае самарэалізацыі і дасягненняў. Таму шмат маладых людзей не бачаць перспектывы тут і хочуць з'ехаць ці надоўга, ці назаўжды. Такое жаданне прысутнічае ў вялізнай частцы маладых грамадзян Беларусі.

12.8.3. Шляхі развіцця моладзевай палітыкі ў Беларусі. Зыходзячы з Праграмы БХД і нашага ўяўлення пра грамадскія справы, мы бачым наступныя два галоўныя накірункі дзяржаўнай моладзевай палітыкі:

-Развіццё і падтрымка сям'і як асноўнай ячэйкі грамадства.

-Развіццё і падтрымка эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай актыўнасці ў моладзевым асяроддзі.

12.8.4. Паўнавартаснае выхаванне шчаслівых дзяцей і падлеткаў магчыма ў нармальнай традыцыйнай сям'і. Дзяржава павінна заахвочваць маладых людзей ствараць трывалыя сем'і і мець дзяцей, заахвочваць сталых людзей захоўваць свае сем'і і павышаць іх дэмаграфічную перспектыўнасць. Грамадская вартасць сям'і значна большая, чым простая сума вартасцяў мужа, жонкі і дзяцей як асобных грамадзян. Таму менавіта сям'я з'яўляецца асноўным атрымальнікам дзяржаўнай падтрымкі для моладзі.

12.8.5. Дзяржаўная падтрымка мусіць быць карыснай для сям'і ў цэлым. Маладыя людзі карыстаюцца падтрымкай дзяржавы пераважна ў кантэксце сям'і, спачатку як дзеці і падлеткі ў сям'і бацькоў (да 18 гадоў), а затым як стваральнікі маладой сям'і (да 31 года), ці як ўдзельнікі ў выхаванні сірот.

12.8.6. Неабходна распрацаваць стратэгію развіцця дэмаграфічнага патэнцыялу ў Беларусі. Асобным кірункам у працэсе павышэння дэмаграфічнага патэнцыялу з'яўляецца заахвочванне грамадзян удзельнічаць у выхаванні сірот. БХД лічыць, што выхаванне прыёмных дзяцей мусіць ажыццяўляцца перадусім у сем'ях і дамах сямейнага тыпу. БХД распрацуе адмысловую дзяржаўную праграму для выхавання сірот у сямейных інтэрнатах, а сем'і, якія бяруць на выхаванне прыёмнае дзіця, будуць карыстацца дзяржаўнай грашовай дапамогай у памеры, неабходным для выхавання дзіцяці.

12.8.7. Пры ажыццяўленні моладзевай палітыкі ўрад будзе фармуляваць асноўныя кірункі, мэты і прыярытэты моладзевай палітыкі, але ў яе рэалізацыі галоўная роля

належыць рэгіёнам і асабліва мясцоваму самакіраванню,а таксама грамадскім арганізацыям. Цэнтральны ўрад будзе вызначаць толькі агульную суму выдаткаў і яе размеркаванне паміж рэгіёнамі, а ўжо ў межах рэгіёнаў і муніцыпалітэтаў вызначаюцца прыярытэты з улікам лакальных асаблівасцяў. Таксама частка сродкаў будзе размяркоўвацца ў рэгіёнах сярод неўрадавых арганізацыяў, якія працуюць з моладзю і маладымі сем'ямі.

### 12.9. Актыўны ўдзел моладзі ў жыцці грамадства

12.9.1. Наша задача – стварыць для беларускай моладзі вобраз краіны 1000-гадовай высокай цывілізацыі, грунтаванай на хрысціянскіх падмурках, духоўнага і творчага сэрца Еўропы, дзяржавы з агромністым патэнцыялам магчымасцяў, інфармацыйнай і інавацыйнай сталіцы свету, крыніцы празрыстага і адкрытага ўсяму чалавецтву багацця веры, любові, справядлівасці, міласэрнасці, салідарнасці.

12.9.2. Заахвоціць моладзь працаваць на карысць сваей краіны можна толькі тады, калі маладыя людзі змогуць бачыць магчымасці самарэалізацыі ў Беларусі. Такая рэалізацыя можа быць у сферах эканомікі, палітыкі, грамадскай працы, навукі, адукацыі, культуры і іншых сферах. Неабходна развіваць і падтрымліваць эканамічную актыўнасць ў моладзевым асяроддзі, у прыватнасці, шляхам падтрымкі прадпрымальніцтва як стварэння працоўных месцаў (як мінімум для самога прадпрымальніка). БХД лічыць неабходным развіваць бізнэс інкубатары для моладзі з магчымасцю атрымання істотных падатковых ільгот дзеля запачаткоўвання ўласнай справы.

12.9.3. Моцным падмуркам для ўсебаковага развіцця моладзі ёсць разуменне хрысціянскіх каштоўнасцяў як светапогляднай сістэмы, як прынцыпаў, якімі людзі мусяць карыстацца ў паўсядзённым жыцці для новага пакалення, здольнага адбудаваць новую Беларусь, дзе узаемадапамога, салідарнасць, спагада, вера і любоў куды важней за моду, "круцізну" або выгаду.

12.9.4. Вобраз маладога чалавека, сучаснага і творчага , які валодае беларускай мова і актыўна карыстаецца ёй, ведае гісторыю ды культуру сваёй краіны, мусіць быць у цэнтры дзяржаўнай маладзёвай палітыкі і выхавання патрыятызму.

### 12.10. Праблемы сістэмы адукцыі

12.10.1. Перманентная рэформа сістэмы адукацыі, якая ажыццяўляецца ў Беларусі ўжо дзесяцігоддзе, не прывяла да станоўчых зрухаў. Наадварот, мы назіраем паглыбленне крызісных з'яў.

12.10.2. Адна з праблем у адукацыі – нізкія заробкі настаўнікаў сярэдніх навучальных установаў і прафесарска-выкладчыцкага складу вышэйшых навучальных установаў. Асабліва востра стаіць пытанне аплаты працы выкладчыкаў сярэдніх навучальных установаў, сярод якіх пераважаюць жанчыны менавіта з-за нізкай зарплаты і непрэстыжнасці працы ў школе.

12.10.3. Сярэдняя адукацыя не арыентавана на развіццё асобы згодна з індывідуальнымі прыярытэтамі асобы – уніфікаваныя навучальныя планы і праграмы, адсутнасць прафесійнай дыферэнцыяцыі ў старэйшых класах ускладняюць вучням выбар будучай прафесіі адпаведна сваім схільнасцям. На сённяшні дзень у Беларусі сярэдняя адукацыя страціла выхаваўчую функцыю. Замест гэтага робіцца ўхіл на дасягненне нейкіх абстрактных фармальных паказчыкаў, хаця галоўнай функцыяй сярэдняй адукацыі мусіць быць выхаванне годнай асобы, перадача гэтай асобе пазітыўных мадэляў сацыяльных паводзін і арыентацыя на будучую прафесію. Сёння ў Беларусі поўнасцю ліквідавана патрыятычнае і нацыянальна арыентаванае выхаванне – у школьнай праграме скажоныя вельмі важныя акцэнты нацыянальнай гісторыі, колькасць беларускамоўных школ і класаў проста мізэрная. Праводзіцца мэтанакіраваная палітыка па вынішчэнні нацыянальнай самасвядомасці і замена яе на ідэалагічны сурагат фальшывых ідэяў.

12.10.4. Беларуская вышэйшая адукацыя на сённяшні дзень з'яўляецца адной з самых адсталых у Еўропе. Выключэнне складаюць толькі асобныя прыродазнаўчыя і тэхнічныя дысцыпліны, але і яны ў сваёй большасці працягваюць развівацца па інэрцыі, закладзенай яшчэ за савецкім часам. У большасці астатніх галін якасць адукацыі вельмі нізкая, што выражаецца ў:

-фармалізме навучальнага працэсу;
-закасцянеласці падыходаў да навучання;
-адсутнасці нацыянальнага грунта і хрысціянскага светапогляду ў гуманітарных дысцыплінах;
-слабай тэхналагічнай базе навучальнага працэсу;
-поўнай ізаляванасці беларускай адукацыі ад еўрапейскіх адукацыйных працэсаў;
-адсутнасці студэнцкай мабільнасці, аўтаноміі ўніверсітэтаў і поўнай залежнасці вышэйшых навучальных устаноў ад дзяржавы;
-палітычнымі рэпрэсіямі супраць іншадумства;
-табуяванні асобных тэм па гуманітарных і сацыяльных навуках і навязванні псеўданавуковай і антынацыянальнай "ідэалогіі дзяржавы".

12.10.5. У Беларусі было ўведзена па сутнасці прыгоннае права для моладзі, якая навучалася на бюджэтнай аснове – размеркаванне маладых спецыялістаў, што ва ўмовах прымусовай працы і жабрацкай аплаты працы з'яўляецца відам рабства.

## 12.11. Рэформа сістэмы адукацыі

12.11.1. Сфера адукацыі беспрэцэдэнтна важная для Беларусі, бо Беларусь мае патрэбу ў выхаванні нацыянальна свядомых і духоўнамоцных пакаленняў моладзі, падрыхтаванай да жыцця ў незалежнай, еўрапейскай, дэмакратычнай краіне. Галоўнай мэтай рэформы сістэмы адукацыі БХД бачыць пераадоленне цяперашніх крызісных з'яў.

12.11.2. Прыярытэтам пачатковай і сярэдняй адукацыі стане выхаванне асобы, якая будзе годнай часткай грамадства. Настаўнікі не павінны займацца акрамя сваіх непасрэдных абавязкаў яшчэ іншымі відамі дзейнасці, якія навешваюцца сёння чыноўнікамі ад адукацыі. Высокі ўзровень заработнай платы настаўнікаў, які пастуупова павінен быць павялічаны да сярэднееўрапейскага ўзроўню, і высокі сацыяльны статус прафесіі гарантуюць павышэнне якасці адукацыі. Неабходна вярнуць павагу ў грамадстве да прафесіі настаўніка, як гэта было раней у Беларусі.

12.11.3. БХД прапануе развіваць дыферэнцыяцыю сярэдняй адукацыі: профільныя сярэднія навучальныя ўстановы з паглыбленым вывучэннем пэўных прадметаў, куды мусяць ісці вучні з адпаведнымі схільнасцямі, а таксама профільныя кірункі ў старэйшых класах агульнаадукацыйных навучальных устаноў (напрыклад, спартыўны, прыродазнаўчы, гуманітарны, інфарматыкі і інш.). Падзел старэйшых класаў на профілі дазволіць больш эфектыўна выкарыстоўваць час навучання у плане развіцця індывідуальных схільнасцяў вучняў, пазбягаць іх хранічнага адставання і заахвочваць да засваення новых ведаў адпаведна іх цікавасцям. Гэты этап навучання з'яўляецца падрыхтоўкай да ўласна прафесійнай дзейнасці і паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

12.11.4. Асаблівы ўхіл у выхаваўчым і навучальным працэсах у сярэдняй школе трэба надаць патрыятычнаму выхаванню, вывучэнню нацыянальнай беларускай мовы, гісторыі і літаратуры. Колькасць гадзін па гэтых прадметах мусіць быць істотна павялічана, асабліва да пачатку падзелу навучання паводле профіляў.

12.11.5. БХД выступае за абавязковае вывучэнне ў сярэднеадукацыйных навучальных установах асноў хрысціянскай культуры і этыкі. Дзеля гэтага неабходна адкрыць у педагагічных установах адпаведную спецыяльнасць для падрыхтоўкі кваліфікаваных педагогаў. Таксама можна звяртацца да практыкі запрашэння на урокі прадстаўнікоў духавенства ўсіх традыцыйных канфесіяў Беларусі. Школьны курс па асновах хрысціянскай культуры і этыкі будзе накіраваны на вывучэнне базавых прынцыпаў хрысціянскіх канфесіяў у Беларусі, іх развіцця, гісторыі, а таксама на іх мірнае суіснаванне з нехрысціянскімі традыцыямі ў Беларусі – юдаізмам і ісламам. Гэты курс будзе накіраваны на выхаванне павагі да ўсіх рэлігійных канфесіяў, на павышэнне ўзаемнага даверу ў грамадстве паміж прадстаўнікамі розных канфесіяў.

12.11.6. БХД лічыць неабходным аптымізаваць навучальныя планы. Напрыклад, прадмет фізкультура будзе пераведзены ў шэраг абавязковых факультатываў без выстаўлення адзнак і здачы нарматываў. Замест гэтага падчас заняткаў па фізкультуры

будуць праводзіцца камандныя і развіццёвыя гульні, заняткі па фізічнаму дасканаленню вучняў. Недапушчальна цяперашняя практыка, калі непасрэдна перад дыктоўкай па мове вучняў ганяюць на фізкультуры – усе заняткі па фізкультуры мусяць быць перанесеныя на канец раскладу і ва ўстановах адукацыі мусяць быць забяспечаныя ўмовы для заняткаў (душ, спартыўны інвентар, нармальныя распранальні і інш.). Падчас навучальнага працэсу трэба больш увагі надаваць эксперыментальным формам правядзення заняткаў, выкарыстанню высокіх тэхналогіяў у працэсе навучання (кампутараў падчас заняткаў у класе, інтэрнэту).

12.11.7. БХД будзе развіваць беларускамоўную адукацыю праз стварэнне беларускамоўных дзіцячых садкоў, школ і класаў. Такі працэс мы бачым як паступовы, без гвалтоўных захадаў, ён павінен ажыццяўляцца на аснове свабоднага выбару дзяцей і бацькоў. Пры гэтым намі будуць забяспечаны ўсе магчымасці для набыцця пачатковай і сярэдняй адукацыі на мове нацыянальных меншасцяў.

12.11.8. Улічваючы патрэбы беларускай эканомікі ў кадрах працоўных спецыяльнасцяў, БХД надае асаблівую увагу развіццю сярэдне-тэхнічных і сярэдне-спецыяльных навучальных установаў. Неабходна пазбавіцца стэрэатыпу, што паступленне ва ўніверсітэт ёсць гарантыя працаўладкавання і неабходнасць для паспяховай кар'еры. Трэба вярнуць павагу і цікавасць маладых людзей да працоўных спецыяльнасцяў. Для гэтых установаў будзе забяспечана неабходная тэхналагічная база, каб навучэнцы маглі на практыцы засвоіць перадавыя тэхналогіі і метады працы.

12.11.9. БХД створыць умовы для развіцця і паўсюднага ўкаранення прыватнай адукацыі, у тым ліку дамашніх настаўнікаў, прыватных школаў, каледжаў і ўніверсітэтаў. Мы перакананыя, што выхаванне і навучэнне дома або ў прыватнай установе, больш глыбокае і якаснае, можа стварыць альтэрнатыву сістэме агульнай пачатковай, сярэдней і вышэйшэй адукацыі і даць чалавеку выбар.

12.11.10. БХД будзе спрыяць пашырэнню хрысціянскай адукацыі – ад вывучэння Закона Божага ў школах і ідэалогіі ва універсітэтах, да спрыяння адкрыццю канфесійных ды міжканфесійных навучальных установаў.

12.11.11. Асноўнай задачай у галіне адукацыі стане павышэнне яе якасці і канкурэнтаздольнасці. Для нас важна пераадолець ізаляванасць беларускай адукацыі ад еўрапейскіх і сусветных працэсаў, неабходна далучыцца да Балонскага працэсу, ажыццявіць узаемнае прызнанне дыпломаў з развітымі краінамі свету. Трэба пазбавіць вышэйшую адукацыю ад застарэлых схем і падыходаў. Беларускія студэнты мусяць мець магчымасць праходзіць частку свайго навучання ў іншых установах Беларусі і за мяжой. Вышэйшыя навучальныя ўстановы павінны карыстацца аўтаноміяй, то бок самастойна выбіраць свае органы кіравання і займацца падборам кадраў, ажыццяўляць навучальную, навуковую і гаспадарча-фінансавую дзейнасць, мець статут і г.д. У вышэйшых навучальных установах набходна існаванне студэнцкага самакіравання.

12.11.12. Для вышэйшай адукацыі і навукі мусіць быць уласцівая акадэмічная свабода. Як унутры, так і за межамі навучальнай установы або навукова-даследчай арганізацыі дапускаецца поўная свабода ставіць любыя пытанні і імкнуцца да ісціны, у тым ліку з нагоды супярэчлівых і непапулярных поглядаў, незалежна ад таго, кранае ці не каго-небудзь той ці іншы пункт гледжання.

12.11.13. БХД выступае за пашырэнне ў сферы вышэйшай адукацыі беларускай мовы. У гэтым працэсе мэтазгодна прытрымлівацца эканамічных стымулаў, а менавіта вярнуць практыку надбавак да заробку тых выкладчыкаў, якія чытаюць свае лекцыі па-беларуску. Але ў якасці пілотнага праекту беларусізацыі вышэйшай адукацыі БХД лічыць неабходным стварэнне Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту на базе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту. У новым Нацыянальным універсітэце мэтазгодна ўсё выкладанне паступова перавесці на беларускую мову. Пры гэтым БХД выступае за захаванне магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі і на іншых мовах, напрыклад, на расейскай і ангельскай мовах.

12.11.14. Мы лічым, што ў Беларусі могуць існаваць навучальныя установы розных форм уласнасці, як дзяржаўныя, так і прыватныя. Дзяржаўная пачатковая і сярэдняя адукацыя мусяць заставацца бясплатнымі, таксама бясплатнай мусіць быць часткова і вышэйшая адукацыя. Паколькі адукацыя з'яўляецца важнай умовай паспяховай прафесійнай рэалізацыі, то яна мусіць быць у роўнай ступені дасяжная як заможным грамадзянам, так і тым грамадзянам, якія не могуць сабе дазволіць аплочваць навучанне. Акрамя таго, што БХД выступае за наяўнасць бясплатнай вышэйшай адукацыі. Мы лічым неабходным стварыць адпаведныя ўмовы для існавання развітай сістэмы грантаў на навучанне і спецыяльных стыпендыяў для адораных і паспяховых студэнтаў. У гэтым працэсе пажаданы самы актыўны ўдзел прыватнага бізнэсу ў кантэксце яго сацыяльнай адказнасці.

12.11.15. Будзе адменена антыканстытуцыйнае абавязковае размеркаванне, якое парушае правы чалавека і з'яўляецца эканамічна неэфектыўным інстументам замацавання спецыялістаў на месцах. Для вырашэння кадравага пытання будуць дзейнічаць матэрыяльныя стымулы і выключныя сацыяльныя гарантыі.

12.11.16. БХД разглядае сістэму адукацыі праз прызму патрэбаў сям'і і неабходнасць павышэння патэнцыялу сям'і. Гэта з'яўляецца ўмовай як квітнеючай і бяспечнай краіны ў цэлым, так і гарманічнага развіцця кожнага грамадзяніна, у прыватнасці моладзі. Неабходна даць магчымасць маладым сем'ям атрымліваць прафесійную падрыхтоўку і перападрыхтоўку, і сярэдне-спецыяльную і вышэйшую адукацыю. Гэта прадугледжвае перапрацоўку вучэбных планаў, вучэбнага асяроддзя і іншых кампанентаў адукацыі такім чынам, каб цяжарным жанчынам і людзям з малымі дзецьмі можна было ў поўнай меры ўдзельнічаць у навучальным працэсе.

**12.12. У галіне адукацыі БХД выступае за:**

12.12.1. – распрацоўку стратэгіі дэмаграфічнага патэнцыялу для Беларусі;

12.12.2. – сацыяльную падтрымку моладзі пераважна ў кантэксце сямейнай палітыкі, то бок спачатку як удзельнікаў сям'і сваіх бацькоў, а пасля як стваральнікаў сваёй уласнай сям'і;

12.12.3. – увядзенне ільгот на праезд у грамадскім гарадскім і міжгародні транспарце: для школьнікаў бясплатны праезд, для навучэнцаў і студэнтаў – 50 % ад кошту праезду;

12.12.4. – арыентацыю сярэдняй адукацыі на выхаванне годных грамадзян з патрыятычным светапоглядам і стваральнымі памкненнямі;

12.12.5. – павелічэнне колькасці заняткаў па беларускай мове, літаратуры і гісторыі Беларусі;

12.12.6. – увядзенне ў сярэдніх школах прадмета "Асновы хрысціянскай культуры і этыкі";

12.12.7. – існаванне хатняй адукацыі пры належным кантролі з боку дзяржавы;

12.12.8. – увядзенне профільнага навучання ў старэйшых класах сярэдніх школ, развіццё гімназіяў і ліцэяў;

12.12.9. – павелічэнне колькасці беларускамоўных школ і беларускамоўных класаў;

12.12.10. – далучэнне Беларусі да Балонскага працэсу;

12.12.11. – акадэмічную свабоду, аўтаномію вышэйшых навучальных установ і студэнцкае самакіраванне;

12.12.12. – арыентацыю беларускай адукацыі на сучасныя падыходы і методыкі навучання, выкарыстанне ў навучальным працэсе інтэрнэту і інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў, забеспячэнне навучальных установ неабходным тэхнічным абсталяваннем;

12.12.13. – існаванне розных форм уласнасці (дзяржаўных, прыватных) адукацыйных установ усіх узроўняў;

12.12.14. – захаванне магчымасці бясплатнай вышэйшай адукацыі;

12.12.15. – адмену абавязковага размеркавання маладых спецыялістаў;

12.12.16. – увядзенне сістэмы спецыяльных грантаў і стыпендыяў, якія могуць цалкам пакрыць патрэбы ў пражыванні і харчаванні для таленавітых і паспяховых студэнтаў;

12.12.17. – стварэнне на базе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту цалкам беларускамоўнай навучальнай установы – Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту;

12.12.18. – вяртанне надбавак да заработнай платы выкладчыкаў у выпадку чытання курса на беларускай мове;

12.12.19. – паступовае павышэнне заробкаў выкладчыкаў школ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установаў да ўзроўню сярэднееўрапейскіх заробкаў;

12.12.20. –стварэнне міжканфесійнага Хрысціянскага універсітэту, здольнага стаць пляцоўкай сусветнага дыялогу паміж праваслаўнымі, каталікамі і пратэстантамі і цэнтрам кшталтавання маладой хрысціянскай эліты ў сэрцы Еўропы.

Самвыдат. Наклад: 299 асобнікаў.